

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 10—11

XV




ГОД

МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
1935

«Чырвоную армію будавала наша партыя. Толькі яна, партыя, і рабочы клас, які ішоў безагаворачна за партыяй, маглі бясстрашна ўзяцца за гэту складанейшую задачу. Толькі дзякуючы напружанасці сіл усёй партыі пад непасрэдным кіраўніцтвам Леніна — гэтага гіганта волі і настойлівасці, толькі дзякуючы самаадданай рабоце такіх арганізатараў, як Сталін, які стаў у кароткі тэрмін сапраўдным нашым бальшэвіцкім ваенным спецыялістам, нам удалося арганізаваць Чырвоную армію і перамагаць на шматлікіх франтах».

К. ВАРАШЫЛАЎ.

★

«Тав. Ленін з самых першых крокаў сваёй дзейнасці лічыў, што мы павінны рыхтаваць армію загартаваных барацьбітоў, армію, якая будзе чужда ўсякага сумнення, страху, армію, якая будзе спаяна самай суровай і жорсткай дысцыплінай».

М. ФРУНЗЕ.

★



*В. І. ЛЕНІН на пляцы Свердлова трымае прамову да войск, якія накіроўваюцца на польскі фронт 5-га мая 1920 г.*
*(з мал. Кругера—Музей рэвалюцыі БССР)*

«У перыяд 1918-20 гг. тав. Сталін з'яўляўся, бадай, адзіным чалавекам, якога Цэнтральны Камітэт кідаў з аднаго баявога фронту на другі, выбіраючы найбольш небяспечныя, найбольш страшныя для рэволюцыі месцы. Там, дзе было адносна спакойна і большменш добра, дзе мы мелі поспехі, там не было відаць Сталіна. Але там, дзе ў звязку з цэлым радам прычын трашчалі чырвоныя арміі, дзе контррэволюцыйныя сілы, развіваючы свае поспехі, пагражалі самому існаванню совецкай улады, дзе замяшанне і паніка маглі ў любую мінуту ператварыцца ў бездапаможнасць, катастрофу, там з'яўляўся т. Сталін. Ён не спаў начамі, ён арганізоўваў, ён браў у свае цвёрдыя рукі кіраўніцтва, ён ламаў, быў бязлітасны і,—ствараў перелом, аздараўляў абстаноўку. Так т. Сталін пісаў аб гэтым у адным з лістоў у ЦК у 1919 г., кажучы, што «яго ператвараюць на спецыяліста для ачысткі стайняў ваеннага ведамства».

К. ВАРАШЫЛАЎ.

★

«У час белапольскай кампаніі тав. Сталін з'яўляецца членам РВС паўднёва-заходняга фронту. Зруйнаванне польскіх армій, вызваленне Кіева і правабярэжнай Украіны, глыбокі паход у Галіцыю, арганізацыя славутага рэйду 1 Коннай арміі — дзіцяці Сталіна — у значнай ступені з'яўляецца вынікам яго ўдалага і майстэрскага кіраўніцтва.

Зруйнаванне ўсяго польскага фронту на Украіне і амаль поўнае знішчэнне III польскай арміі пад Кіевам, смяротныя ўдары па Бярдзічаву і Жытоміру і рух 1 Коннай арміі ў ровенскім кірунку стварылі абстаноўку, дазволіўшую і нашаму заходняму фронту пачаць агульны наступ».

К. ВАРАШЫЛАЎ.

★



*І. В. СТАЛІН у перыяд грамадзянскай вайны 1919—20 гг.*
*(з мал. Цвірко—Музей рэволюцыі БССР)*

«Клім Варашылаў—луганскі слесар—быў адным з самых выдатных арганізатараў нашай рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, з тых, хто будаваў яе не ў цішы габінетаў, а ў парахавым дыме, пад градам куль ворагаў».

Газ. «ПРАВДА».

★

«Тав. Варашылаў — марксіст-большэвік, паслядоўны ленінец у самым глыбокім, лепшым сэнсе слова. Ён умее ў сваёй практычнай рабоце прымяняць дыялектыку Маркса. Гэтая якасць давала яму магчымасць у паражэннях бачыць уперадзе перамогу, гэтая якасць дае яму магчымасць кіраваць Чырвонай арміяй, удасканальваючы яе баявую магутнасць, і самому разам з ёй удасканальвацца ў ваенным майстэрстве».

М. КАЛІНІН.

★



*К. Е. ВАРАШЫЛАЎ—нарком абароны СССР (з мал. Герасімава)*

І. СТАЛІН

# Новы паход Антанты на Расію

*(Гэты артыкул быў надрукаваны ў „Правде“ 26 мая 1920 г.)*

Не падлягае сумненню, што паход панскай Польшчы супроць рабоча-сялянскай Расіі ёсць, па сутнасці, паход Антанты. Справа не толькі ў тым, што Ліга нацый, кіраўніком якой з'яўляецца Антанта і членам якой састаіць Польшча, ухваліла, відавочна, паход Польшчы на Расію. Справа, перш за ўсё, у тым, што без падтрымання Антанты Польшча не магла-б арганізаваць свайго нападу на Расію, што Францыя, перш за ўсё, а потым і Англія з Амерыкай усяляк падтрымліваюць наступленне Польшчы зброяй, абмундзіраваннем, грашыма, інструктарамі. Разнагалоссі ўнутры Антанты па польскаму пытанню не мяняюць справы, бо яны датычаць толькі форм падтрымання Польшчы, а не самога падтрымання наогул. Не мяняюць справы таксама дыпламатычная перапіска Керзона з таварышом Чычэрыным і шыракавяшчальныя артыкулы англійскай прэсы супроць інтэрвенцыі, бо ўся гэтая шуміха праследуе толькі адну мэту: засмеціць вочы наіўным палітыкам і прыкрыць фразай аб міры з Расіяй чорную справу сапраўднай інтэрвенцыі, арганізаванай Антантай.

## 1. Агульная абстаноўка

Цяперашні паход Антанты з'яўляецца па ліку трэцім.

**Першы паход** быў прадпрыняты ўвесну 1919 года. Паход гэты быў камбінаваны, бо ён меў на ўвазе сумесны напад Калчака, Дзенікіна, Польшчы, Юдзеніча і змешаных англа-рускіх атрадаў у Туркестане і ў Архангельску, прычым цэнтр цяжару паходу ляжаў у раёне Калчака.

У гэты перыяд Антанта, адзіная і згуртаваная, стаіць на пункце погляду адкрытай інтэрвенцыі: слабасць рабочага руху на Захадзе, шматлікасць ворагаў Совецкай Расіі і поўная ўпэўненасць у перамозе над Расіяй дазвалялі заправілам Антанты практыкаваць наглую палітыку непрыкрытай інтэрвенцыі.

У гэты перыяд Расія перажывала крытычную мінуту, бо яна, адрэзаная ад хлебных раёнаў (Сібір, Украіна, Паўночны Каўказ) і ад апалу (Данецкі басейн, Грозны, Баку), вымушана была змагацца на шасці фронтах. Антанта бачыць гэта і смакуе перамогу. «Таймс» б'е ў літаўры.

Тым не менш, Расія прашла гэты крызіс благапалучна, і самы моцны вораг, Калчак, быў выведзен са строю. Справа ў тым, што тыл Расіі, а, значыць, і армія Расіі аказаліся больш устойлівы і гібкі, чым тыл і арміі яе праціўнікаў.

**Другі паход** Антанты быў прадпрынят увосень 1919 года. Паход гэты быў таксама камбінаваны, бо ён меў на ўвазе сумесны напад Дзенікіна, Польшчы, Юдзеніча (Калчак быў скінут з рахунку). Цэнтр цяжару паходу ляжыць на гэты раз на поўдні, у раёне Дзенікіна.

У гэты перыяд Антанта ўпершыню пачынае перажываць унутраныя разнагалоссі, яна ўпершыню пачынае ўмяраць свой наглы тон, прабуе выказацца супроць адкрытай інтэрвенцыі, аглашае дапушчальнасць перагавораў з Расіяй, прыступае да ўводу сваіх войск з поўначы: быстры рост рэволюцыйнага руху на Захадзе і паражэнне Калчака, відаць, зрабілі для Антанты небезапаснай ранейшую палітыку адкрытай інтэрвенцыі. Антанта ўжо не адважваецца адкрыта гаварыць аб непрыкрытай інтэрвенцыі.

Расія ў гэты перыяд зноў перажывае крытычную мінуту, не гледзячы на перамогу над Калчаком і зварот аднаго з хлебных раёнаў (Сібіры), бо галоўны вораг, Дзенікін, стаіць ля варот Тулы, галоўнай крыніцы снабжэння нашай арміі патронамі, вінтоўкамі, кулямётамі.

Тым не менш, Расія зноў выходзіць з крызіса непашкоджанай. Прычына тая-ж: большая ўстойлівасць і большая гібкасць нашага тылу, а, значыць, і нашай арміі.

**Трэці паход** Антанты адкрываецца пры зусім новай абстаноўцы. Пачаць з таго, што, у адрозненне ад папярэдніх паходаў, гэты паход не можа быць назван камбінаваным, бо не толькі адпалі старыя саюзнікі (Калчак, Дзенікін, Юдзеніч), але і новыя саюзнікі (калі ёсць гэткія) яшчэ не прымкнулі, калі не лічыць смехатворнага Петлюру з «яго» смехатворнымі «войскамі». Польшча стаіць супроць Расіі пакуль што адна, без сур'ёзных баявых саюзнікаў.

Далей славутая блакада прарвана не толькі маральна і практычна, але і фармальна. Антанта вымушана мірыцца з неабходнасцю дыпламатычных зносін з Расіяй і цярпець афіцыяльных прадстаўнікоў апошняй на Захадзе. Масавы рэвалюцыйны рух у дзяржавах Еўропы, усвойваючы лозунгі III Інтэрнацыянала, і новыя поспехі совецкіх войск на ўсходзе ўзмацняюць раскол унутры Антанты, узмацняюць прэстыж Расіі ў нейтральных і акраінных дзяржавах, робяць антантаўскую палітыку ізаляцыі Расіі утапічнай. Эстляндыя, «прыроджаная» саюзніца Польшчы, нейтралізавана. Латвія і Літва, учарайшыя баявыя саюзніцы Польшчы, сёння вядуць з Расіяй мірныя перагаворы. Тое-ж самае можна сказаць аб Фінляндыі.

Нарэшце, унутранае становішча Расіі к моманту трэцяга паходу Антанты трэба лічыць у корані змяніўшымся к лепшаму. Расія не толькі адкрыла дарогу к хлебным і апалавым раёнам (Сібір, Украіна, Паўночны Каўказ, Данецкі басейн, Грозны, Баку), але і скараціла колькасць фронтаў з шасці да двух, атрымаўшы тым самым магчымасць сканцэнтраваць войскі на Захадзе.

Да сказанага трэба дадаць той вялікай важнасці факт, што Польшча з'яўляецца нападаючай стараной, адхіліўшай мірныя прапановы Расіі, а Расія—абараняючайся, што ставарае агромны неацанімы маральны плюс на старане Расіі.

Усе гэтыя акалічнасці ствараюць новую абстаноўку, новыя шансы на перамогу Расіі, не меўшыя месца ў папярэднія перыяды першага і другога паходаў Антанты на Расію.

Гэтым, галоўным чынам, і трэба вытлумачыць уныла-скептычны тон імперыялістычнай прэсы на Захадзе ў справе ацэнкі поспехаў польскіх войск.

## 2. Тыл. Раён удару

Ні адна армія ў свеце не можа перамагчы (справа ідзе, вядома, аб працяглай і трывалай перамозе) без устойлівага тылу. Тыл для фронту--першая справа, бо ён, і толькі ён, жывіць фронт не толькі ўсімі відамі давольства, але і людзьмі—байцамі, настроямі і ідэямі. Няўстойлівы, а яшчэ больш варожы тыл абавязкова ператварае ў няўстойлівую і рыхлую масу самую лепшую, самую згуртаваную армію. Слабасць Калчака і Дзенікіна тлумачылася тым, што ў іх не было «свайго» тылу, што яны, прасякнутыя ісціна рускімі, вялікадзяржаўнымі імкненнямі, вымушаны былі будаваць фронт, снабжаць і папаўняць яго ў значнай ступені за кошт нярускіх элементаў, варожых к такім імкненням, вымушаны былі дзейнічаць у раёнах, заведама чуждых для іх войск. Натуральна, што войскі, пазбаўленыя

ўнутранай, нацыянальнай і, тым больш, класавай спайкі, акружаныя варожай атмасферай, развальваліся пры першым моцным удары з боку совецкіх войск.

Тыл польскіх войск у гэтых адносінах значна адрозніваецца ад тылу Калчака і Дзенікіна к большай выгадзе для Польшчы. У адзнаку ад тылу Калчака і Дзенікіна, тыл польскіх войск з'яўляецца аднародным і нацыянальна спаяным. Адсюль яго адзінства і стойкасць. Яго пераважны настрой—«пачуцце айчыны»—перадаецца па шматлікіх ніцях польскаму фронту, ствараючы ў часцях нацыянальную спайку і цвёрдасць. Адсюль стойкасць польскіх войск. Вядома, тыл Польшчы не аднародны (і не можа быць аднародным!) у класавых адносінах, але класавыя канфлікты, яшчэ не дасягнулі такой сілы, каб прарваць пачуцце нацыянальнага адзінства і заразіць супярэчнасцямі разнародны ў класавых адносінах фронт. Калі-б польскія войскі дзейнічалі ў раёне ўласна Польшчы, з імі, без сумнення, цяжка было-б змагацца.

Але Польшча не хоча абмежавацца сваім уласным раёнам, яна рухае войскі далей, пакараючы Літву і Беларусь, урываючыся ў глыб Расіі і Украіны. Гэта акалічнасць мяняе становішча ў корані к большай нявыгадзе для ўстойлівасці польскіх войск.

Высоўваючыся за межы Польшчы і паглыбляючыся ў прылягаючыя да Польшчы раёны, польскія войскі аддаляюцца ад свайго нацыянальнага тылу, аслабляюць сувязь з ім, пападаюць у чужое ім і большай часткай варожае нацыянальнае асяроддзе. Горш таго, варожасць гэта паглыбляецца той акалічнасцю, што велізарная большасць насельніцтва прылягаючых к Польшчы раёнаў (Беларусь, Літва, Расія, Украіна) складаецца з няпольскіх сялян, якія церпяць гнёт польскіх памешчыкаў, што сяляне гэтыя разглядаюць наступленне польскіх войск, як вайну за ўладу польскіх паноў, як вайну супроць прыгнечаных няпольскіх сялян. Гэтым уласна і тлумачыцца, што лозунг совецкіх войск: «Далоў польскіх паноў!» знаходзіць магутны водгук сярод большасці насельніцтва адзначаных раёнаў, што сяляне гэтых раёнаў сустракаюць совецкія войскі, як вызваліцеляў ад памешчыцкага ярма, што яны ў чаканні совецкіх войск паўстаюць пры першым зручным выпадку, наносячы польскім войскам удар з тылу. Гэтым-жа трэба вытлумачыць беспрыкладны ўздым духу ў совецкіх войсках, канстатуемы ўсімі нашымі ваеннымі і палітычнымі работнікамі.

Усё гэта не можа не ствараць унутры польскіх войск атмасферы няўпэўненасці і незабяспечанасці, не можа не разрушаць у іх стойкасць духу, веру ў правату сваёй справы, веру ў перамогу, не можа не ператварыць нацыянальную спайку польскіх войск з фактара станоўчага ў фактар адмоўны.

І чым далей яны будуць прасоўвацца (калі наогул яны будуць прасоўвацца), тым мацней скажуцца гэтыя адмоўныя бакі польскага паходу.

Ці можа Польшча развіць пры такіх умовах моцнае, магутнае, абяцаючае працяглыя поспехі наступленне? Ці не пападуць войскі Польшчы пры такіх умовах у абстаноўку, аналагічную той, у якую папалі адарваныя ад свайго тылу германскія войскі на Украіне ў 1918 г.?

Тут мы падыходзім к пытанню аб раёне ўдару. У вайне наогул, у грамадзянскай вайне ў асаблівасці, поспех, рашучая перамога залежаць нярэдка ад удалага выбару раёна ўдару, ад удалага выбару таго раёна, адкуль вы намераны нанесці праціўніку і развіць далей галоўны ўдар. Адна з буйных памылак Дзенікіна заключалася ў тым,

што ён выбраў раёнам галоўнага ўдару паласу Данецкі басейн—Харкаў—Варонеж—Курск, г. зн. раён, заведама неблаганадзейны для Дзенікіна, раён, варожы Дзенікіну, раён, дзе Дзенікін не мог стварыць ні моцнага тылу ні спрыяючай абстаноўкі для прасоўвання войск. Поспехі совецкіх войск на дзенікінскім фронце тлумачацца, між іншым, тым, што совецкае камандванне своечасова перанесла свой асноўны ўдар з раёна Царыцына (раён неспрыяючы) у раён Данецкага басейна (раён высока спрыяючы), дзе насельніцтва сустракала совецкія войскі з энтузіязмам і адкуль лягчэй за ўсё можна было прабіць дзенікінскі фронт, раскалоць яго на дзве часткі і прасоўвацца далей, аж да Растова.

Гэты момант, нярэдка ўпускаемы з-пад увагі старымі ваеннымі, мае часта ў грамадзянскай вайне рашаючае значэнне.

Трэба адзначыць, што справы Польшчы ў гэтых адносінах, у адносінах раёна галоўнага ўдару, абстаяць з рук вон дрэнна. Справа ў тым, што па прычынах, паданых вышэй, ні адзін з прылягаючых да Польшчы раёнаў не можа быць прызнан для польскіх войск спрыяючым ні ў сэнсе раёна ўдару, ні ў сэнсе далейшага развіцця гэтага ўдару: куды-б ні рушылі ўперад польскія войскі, яны ўсюды будуць сустракаць процідзеянне з боку ўкраінскага, рускага, беларускага мужыка, які чакае вызвалення ад польскіх памешчыкаў з боку совецкіх войск.

І, наадварот, становішча совецкіх войск у гэтых адносінах зусім спрыяючае: для іх усе раёны, так сказаць, «падыходзячыя», бо совецкія войскі, рушачыся ўперад, не ўмацоўваюць, а звяргаюць уладу польскіх паноў, вызваляюць сялян ад кабалы.

### 3. Перспектывы

Польшча ваюе з Расіяй пакуль што адна. Але было-б наіўна думаць, што яна астаецца адзінокай. Мы маем тут на ўвазе не толькі ўсебаковае падтрыманне, якое, бясспрэчна, аказвае Польшчы Антанта, але і тых баявых саюзнікаў Польшчы, якія часткова ўжо знойдзены Антантай (напрыклад, астаткі дзенікінскіх войск), часткова-ж будуць, як відаць, знойдзены ва славу еўрапейскай «цывілізацыі». Гэта не выпадковасць, што польскае наступленне пачалося ў час канферэнцыі ў Сан-Рэмо, куды не былі дапушчаны прадстаўнікі Расіі. Не выпадковасць і тое, што Румынія замяла пытанне аб мірных перагаворах з Расіяй... Пры гэтым зусім магчыма, што польскае наступленне, якое здаецца на першы погляд авантурай, мае на ўвазе на самай справе шырока задуманы план камбінаванага паходу, ажыццяўляемага спадвольль.

І ўсё-такі трэба сказаць, што калі Антанта, арганізуючы трэці паход на Расію, разлічвала перамагчы апошнюю, то яна пралічылася, бо шансаў на паражэнне Расіі ў 1920 г. менш, значна менш, чым у 1919 годзе.

Вышэй мы гаварылі аб шансах на перамогу Расіі, аб тым, што шансы гэтыя растуць і будуць расці, але гэта не значыць, вядома, што мы тым самым ужо маем перамогу ў кішэні. Выстаўленыя вышэй шансы на перамогу могуць мець рэальнае значэнне **толькі** пры іншых роўных умовах, г. зн. **пры ўмове, што мы цяпер так сама напружым свае сілы, як і раней, пры наступленні Дзенікіна, што нашы войскі будуць снабжацца і папаўняцца акуратна і рэгулярна, што нашы агітатары будуць асвечваць чырвонаармейцаў і акружаючае іх насельніцтва з патроенай энергіяй, што наш тыл будзе ачышчацца ад скверны і ўмацоўвацца ўсімі сіламі, усімі сродкамі.**

Толькі пры гэтых умовах можна лічыць перамогу забяспечанай.

# Гутарка з таварышом Сталіным,

## апублікаваная ў газеце „Коммунист“ 24 чэрвеня 1920 г.

Трэцяга дня ў Харкаў звярнуўся член Рэвваенсовета Рэспублікі таварыш І. В. Сталін.

Тав. Сталін прабыў на фронце каля трох тыдняў; пры ім пачалася і паступова развілася наступальная аперацыя чырвоных войск, якая адкрылася знамянітым прарывам польскага фронту чырвонай конніцай.

У гутарцы з супрацоўнікам «УКРРОСТА» таварыш Сталін паведаміў наступнае:

### Прарыў

— Гаворачы аб аперацыі нашай Чырвонай коннай арміі на польскім фронце ў пачатку чэрвеня, многія параўноўваюць яе—гэты прарыў фронту праціўніка—з рэйдам конніцы Мамантава ў мінулым годзе.

Але гэта зусім няправільна.

Мамантаўская аперацыя мела эпізадычны, так сказаць, партызанскі характар, не звязаны з агульнымі наступальнымі аперацыямі арміі Дзенікіна.

Прарыў-жа Чырвонай коннай арміі з'яўляецца звяном у агульным ланцугу наступальных аперацый Чырвонай арміі.

Рэйд нашай чырвонай конніцы пачаўся пятага чэрвеня. Раніцою гэтага дня, згорнутая ў кулак, чырвоная конніца ўдарыла па другой польскай арміі, прарвала непрыяцельскі фронт, рэйдам прашла раён Бердзічава і раніцай сёмага чэрвеня заняла Жытомір.

Аб падрабязнасцях заняцця Жытоміра і захопленых трафеях ужо паведамлялася ў друку, гаварыць аб гэтым не буду, адзначу толькі сёе-тое характэрнае. Рэвваенсовет Коннай арміі данасіў штабу фронту: «Польская армія з абсалютнай пагардаю адносіцца да нашай конніцы; мы лічым сваім абавязкам даказаць палякам, што конніцу трэба паважаць».

Пасля-ж прарыву тав. Будзённы піша нам: «Паны навучыліся паважаць конніцу; бягуць, ачышчаючы перад намі дарогу, апракідваючы адзін другога».

### Рэзультаты прарыву

Рэзультатам прарыву з'явілася наступнае:

Другая польская армія, праз якую прашла наша Конная армія, аказалася выведзенай са строю; яна страціла звыш адной тысячы чалавек палоннымі і каля васьмі тысяч чалавек зарубленымі.

Апошняя лічба мною правяралася з некалькіх крыніц і блізка да ісціны, тым больш, што першы час палякі рашуча адмаўляліся здавацца, і нашай конніцы прыходзілася літаральна прабіваць сабе дарогу. Гэта першы рэзультат.

Другі рэзультат: трэцяя польская армія (раён Кіева) аказалася адрэзанай ад свайго тылу і апынулася перад небяспекай быць абкружанай; з прычыны гэтага пачалося яе агульнае адступленне ў напрамку Кіеў—Карасцень.

Трэці рэзультат: шостая польская армія (раён Н.-Падольска), страціўшы апору на сваім левым флангу, з баязні быць прыпёртай да Днястра, пачала свой агульны адыход.

Чацверты рэзультат: з моманту прарыву пачалося наша агульнае імклівае наступленне па ўсяму фронту.

## Лёс трэцяй польскай арміі

Паколькі пытанне аб лёсе трэцяй польскай арміі для большасці няясна, то на гэтым я спынюся больш падрабязна.

Адарваная ад сваёй базы і страціўшая сувязь, трэцяя польская армія апынулася перад небяспекай папасці ў палон цалкам. З прычыны гэтага яна пачала паліць абозы, узрываць склады, псаваць гарматы.

Пасля першых няўдалых спроб к адступленню ў парадку яна вымушана была кінуцца на ўцекі (пагалоўнае бегства).

Трэць арміі (усяго ў трэцяй польскай арміі налічвалася каля дваццаці тысяч байцоў) папала ў палон або была зарублена; другая трэць яе, калі не больш, пакідаўшы зброю, разбеглася па балотах, лясах,—рассеялася.

Толькі астатняя трэць, і нават менш, паспела праскочыць да сваіх праз Карасцень. Пры гэтым, бясспрэчна, калі-б палякі не паспелі своечасова падаць дапамогу свежымі часцямі праз Шэпетоўку—Сарны, і гэта частка трэцяй польскай арміі была-б у палоне або рассеялася па лясах.

У кожным разе трэба лічыць, што трэцяй польскай арміі не існуе; тыя-ж рэшткі яе, якія дабраліся к сваім, маюць патрэбу ў вялікім рамонце.

Для характарыстыкі разгрому трэцяй польскай арміі павінен сказаць, што ўсё житомірскае шасэ завалена поўспаленымі абозамі і аўтамабілямі ўсіх радоў, пры чым колькасць апошніх, паводле данясення начальніка сувязі, даходзіць да чатырох тысяч. Намі ўзята каля 70 гармат, не менш 250 кулямётаў, агромная колькасць вінтовак і патронаў, яшчэ не падлічаная.

Такавы нашы трафеі.

## Становішча на фронце

Сучаснае становішча на фронце можна абрысаваць наступным чынам: шостая польская армія адыходзіць, другая адводзіцца на перафармаванне, трэцяя фактычна не існуе, яе замяняюць новыя польскія часці, узятыя з заходняга фронту і з далёкага тылу.

Чырвоная армія наступае па ўсяму фронту, перашоўшы за лінію: Овруч—Карасцень—Жытомір — Бердзічаў—Казацін — Калінаўка—Вінніца—Жмерынка.

## Вывады

Але было-б памылкаю думаць, што з палякамі на нашым фронце ўжо пакончана.

Мы-ж ваюем не толькі з палякамі, але з усёй Антантай, якая мабілізавала ўсе чорныя сілы Германіі, Аўстрыі, Венгрыі, Румыніі, снабжае палякаў усімі відамі ўтрымання.

Акрамя таго, не трэба забываць, што ў палякаў ёсць рэзервы, якія ўжо падцягнуты к Новаград-Валынску і дзеянні якіх, бясспрэчна, скажуцца гэтымі днямі.

Належыць таксама памятаць, што разлажэнне ў масавым маштабе яшчэ не закранула польскай арміі. Няма сумнення, што ўперадзе яшчэ будуць баі, і баі жорсткія.

Таму я лічу недарэчным тое бахвальства і шкодную для справы самаздаволенасць, якая аказваецца ў некаторых таварышоў: адны з іх не здавальняюцца поспехамі на фронце і крычаць «аб маршы на Варшаву», другія, не здавальняючыся абаронай нашай рэспублікі ад варожага нападу, пагардна заяўляюць, што яны могуць памірыцца толькі на «чырвонай совецкай Варшаве».

Я не буду даказваць, што гэта бахвальства і гэта самаздаволенасць зусім не адпавядаюць ні палітыцы совецкага ўрада, ні стану сіл працiўніка на фронце.

У самай катэгарычнай форме я павінен заявіць, што без напружання ўсіх сіл у тыле і на фронце мы не зможам выйсці пераможцамі. Без гэтага нам не адолець ворагаў з Захаду.

Гэта асабліва падкрэсліваецца наступленнем Врангеля, які з'явіўся, як «гром з яснага неба», і набыў пагражаючыя размеры.

## Крымскі фронт

Не падлягае ніякаму сумненню, што наступленне Врангеля прадыктавана Антантай у мэтах палегчання цяжкага становішча палякаў. Толькі наіўныя палітыкі могуць верыць, што перапіска Керзона з тав. Чычэрыным магла мець які-небудзь іншы сэнс, акрамя таго, каб фразай аб міры прыкрыць падрыхтоўчыя работы Врангеля і Антанты к наступленню.

Врангель не быў яшчэ гатовы, і таму (толькі таму) «чалавекалюбівы» Керзон прасіў Совецкую Расію злітавацца над врангелеўскімі часцямі і захаваць ім жыццё.

Антанта, відавочна, разлічвала, што ў момант, калі Чырвоная армія саб'е палякаў і рушыць наперад,—у гэты момант Врангель выйдзе ў тыл нашым войскам і разбурыць усе планы Совецкай Расіі.

Няма сумнення, што наступленне Врангеля значна палегчыла становішча палякаў, але наўрад ці ёсць падстава думаць, што Врангелю ўдасца прарвацца ў тыл нашым заходнім арміям.

У кожным разе бліжэйшае будучае пакажа сілу і вагу врангелеўскага наступлення.



*Тав. ГІКАЛО*
*Сакратар ЦК КП(б)Б*

# 15 год барацьбы пад сцягам Леніна—Сталіна

11 ліпеня працоўныя Совецкай Беларусі святкуюць пятнаццатую гадавіну вызвалення ад белапольскай акупацыі, а разам з тым—урачыстасць узнагароджання сваёй рэспублікі ордэнам Леніна.

11 ліпеня—гэту радасную дату ў гісторыі нашай Рэспублікі—рабочыя, сяляне і ўсе працоўныя БССР з года ў год адзначаюць як вялікае свята. А сёлета 15-годдзе вызвалення Беларусі ад белапалякаў супадае з выключна агромнаю падзеяй у жыцці нашай Рэспублікі—уручэннем БССР за выдатнейшыя поспехі, дасягнутыя ёю на працягу раду год у галіне сельскай гаспадаркі, а роўна і ў галіне прамысловасці, ордэна Леніна.

Совецкая Беларусь стала ордэнаноснай рэспублікай. БССР стала ў рады самых перадавых рэспублік і абласцей вялікага Совецкага саюза.

Узнагароджанне БССР і яе кіраўнікоў—таварышоў Гікало і Галадзеда—ордэнам Леніна з'яўляецца знамянальнаю вехай на гістарычным шляху, пройдзеным нашай Рэспублікай ад адсталай, жабрацкай, аграрнай, цёмнай і забітай калоніі царскай Расіі да перадавой, квітнеючай індустрыяльна-аграрнай соцыялістычнай рэспублікі. Узнагароджанне ордэнам Леніна БССР і раду іншых краёў і абласцей ёсць выражэнне сусветна-гістарычных перамог, атрыманых Совецкім саюзам пад кіраўніцтвам нашай партыі і мудрага, правадыра ўсіх працоўных тав. Сталіна.

Гэта знамянуе сабою росквіт, сілу і магутнасць нашага вялікага Совецкага саюза, неразрыўнай і неад'емнаю часткай якога з'яўляецца БССР.

Мы пабудавалі моцны несакрушымы фундамент соцыялістычнага грамадства ў СССР. Мы дабіліся гіганцкага ўздыму народнай гаспадаркі. Сялянства Совецкага саюза цвёрда стала на шлях соцыялізма—калгасны лад перамог канчаткова і беспаваротна.

> «Соцыялістычны ўклад з'яўляецца непадзельна пануючай і адзіна камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы» **(Сталін).**

Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай.

Перамогі пролетарыята Совецкага саюза ў справе будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне, атрыманне БССР ордэна Леніна ёсць перамога генеральнай лініі партыі, перамога сталінскага ЦК, перамога марксізма-ленінізма.

БССР, адна з рэспублік вялікага Совецкага саюза, дабілася велізарнейшых перамог на фронце соцыялістычнага будаўніцтва ў выніку таго, што КП(б)Б, як неад'емная частка ВКП(б), праводзіла пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і асабіста тав. Сталіна генеральную лінію партыі, змагалася за справу соцыялізма пад сцягам Леніна—Сталіна,

бязлітасна громячы ўсіх апартуністаў, контррэвалюцыйных трацкістаў, зіноўеўцаў і буржуазных нацыяналістаў усіх масцей.

БССР дабілася гэтых велізарнейшых поспехаў у выніку правільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі, у выніку сістэматычнай дапамогі пролетарыята ўсяго Савецкага саюза, у выніку гераічнай работы працоўных мас БССР, якія штодзенна змагаліся за справу соцыялізма пад кіраўніцтвам большэвікоў Беларусі на чале з т. Гікало.

Усенароднае свята 11 ліпеня 1935 года з'яўляецца святам трыумфа генеральнай лініі партыі, яе ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, святам соцыяльнага і нацыянальнага вызвалення беларускага народу, днём падвядзення вынікаў нашых перамог у справе соцыялістычнага будаўніцтва і мабілізацыі мас на барацьбу за выкананне яшчэ нявырашаных задач.

* * *

Грамадзянская вайна 1918-20 гг. з'яўлялася гіганцкаю сутычкай двух светаў: свету ўзыходзячага соцыялізма і свету загніваючага капіталізма.

Барацьба на шматлікіх фронтах грамадзянскай вайны патрабавала агромнага напружання сіл рабочага класа. Совецкая Расія апынулася ў агністым кальцы. На поўначы—англічане, амерыканцы і белагвардзейскія войскі расійскай контррэволюцыі, на захадзе і поўдні—немцы, на ўсходзе—чэхі і белагвардзейцы.

Увесну 1919 года Антанта прадпрымае першы паход супроць совецкай Расіі.

> «Паход гэты быў камбінаваны, бо ён меў на ўвазе сумеснае нападзенне Калчака, Дзенікіна, Польшчы, Юдзеніча і змешаных англа-рускіх атрадаў у Туркестане і ў Архангельску, пры чым цэнтр цяжару паходу ляжаў у раёне Калчака» **(Сталін).**
>
> «У гэты перыяд,—пісаў далей тав. Сталін,—Расія перажывала крытычную мінуту, бо яна, адрэзаная ад хлебных раёнаў (Сібір, Украіна, Паўночны Каўказ) і ад паліва (Данецкі басейн, Грозны, Баку), вымушана была змагацца на шасці фронтах».

Выключны гераізм і самаадданасць рабочага класа і шырокіх мас працоўнага сялянства, згуртаваўшыхся вакол комуністычнай партыі, правільнае ваенна-стратэгічнае і палітычнае кіраўніцтва штаба ленінскай партыі, адкінуўшага капітулянцкі план Троцкага, забяспечылі перелом на ўсходнім фронце ў карысць чырвоных войск. Чырвоная армія пад камандай тав. Фрунзе нанесла Калчаку пад Бугурусланам сур'ёзнае паражэнне, пасля чаго калчакаўская армія хутка прымушана была пачаць агульнае адступленне па ўсяму фронту.

Адным з шасці фронтаў у перыяд першага паходу Антанты быў фронт з белапалякамі, якія акупавалі Беларусь і 6 жніўня 1919 года занялі яе чырвоную сталіцу Менск.

Пасля разгрому Чырвонай арміяй другога паходу Антанты (восень 1919 года), пасля разгрому Дзенікіна і контррэволюцыйных банд Юдзеніча—к пачатку 1920 года Чырвоная армія атрымала перамогу амаль на ўсіх фронтах грамадзянскай вайны. На поўдні, усходзе, поўначы і паўночным усходзе былі ліквідаваны асноўныя сілы белых.

Аднак, грамадзянская вайна неўзабаве разгарэлася з новаю сілай. Антанта арганізавала трэці антысовецкі паход, мяркуючы нанесці ўдар краіне Советаў сіламі панскай Польшчы і засеўшых у Крыме рэштак дзенікінскіх войск пад камандваннем барона Врангеля.

Польшча, выконваючы загад Антанты, імкнулася ажыццявіць і свае ўласныя імперыялістычныя захватніцкія тэндэнцыі і, распальваючы шавінізм, выкарыстаць вайну, як сродак для барацьбы супроць нарастаючай у Польшчы пролетарскай рэволюцыі. Польскія памешчыкі і капіталісты імкнуліся звярнуць свае страчаныя маёнткі, фабрыкі і заводы, імкнуліся да каланіяльнага зняволення Украіны і Беларусі.

У другой палове красавіка 1920 года белапалякі пачалі наступленне на Совецкую Украіну.

Для кіраўніцтва барацьбой Чырвонай арміі супроць наступаючых белапалякаў партыя паслала на Паўднёва-Заходні фронт вялікага арганізатара перамог працоўных на ўсіх фронтах грамадзянскай вайны, бліжэйшага саратніка Леніна—тав. Сталіна. На Паўднёва-Заходні фронт была паслана 25 Чапаеўская дывізія і 1 Конная армія.

На Заходні фронт былі таксама пасланы значныя ваенныя папаўненні. К пачатку пераможнага ліпеньскага наступлення Чырвонай арміі на Заходнім фронце былі сканцэнтраваны 3, 4, 15 і 16 арміі і Мазырская група.

Рашаючы перелом на Паўднёва-Заходнім фронце быў дасягнуты дзякуючы паспяховым дзеянням 1 Коннай арміі, кіруемай тав. Варашылавым і Будзённым.

5 чэрвеня «нашы конныя часці, згарнуўшыся ў кулак і сцягнуўшы абозы ў цэнтры кулака, прарвалі распалажэнне праціўніка ў раёне Папельян-Казацін» **(Сталін)**. Прарыў польскага фронту прымусіў белапалякаў хутка адступаць. 7 чэрвеня часці 1 Коннай арміі занялі гор. Жытомір.

Разгортваючы далейшае паспяховае наступленне, часці 58 стралковай дывізіі 14 арміі Паўднёва-Заходняга фронту 11 чэрвеня занялі гор. Кіеў.

> «Зруйнаванне ўсяго польскага фронту на Украіне і амаль поўнае знішчэнне III польскай арміі пад Кіевам, смяротныя ўдары па Бярдзічаву і Жытоміру і рух 1 Коннай арміі ў ровенскім кірунку стварылі абстаноўку, дазволіўшую і нашаму Заходняму фронту пачаць агульны наступ» **(Варашылаў).**

Для падтрымання наступлення часцей Паўднёва-Заходняга фронту ў пачатку чэрвеня перашла ў наступленне Мазырская група і 20 чэрвеня левафланговыя часці 15 Чырвонай арміі Заходняга фронту. У выніку адступлення белапалякаў на Паўднёва-Заходнім фронце, пад магутным націскам Мазырскай групы і левага фланга 16 арміі, белапалякі пачалі адступленне сваім правым флангам ў раёне Мазыра. 21 чэрвеня 2 Кавалерыйская брыгада заняла мястэчка Хойнікі, 23 чэрвеня часці Мазырскай групы занялі подступы гор. Рэчыцы і 29 узялі горад Мазыр.

На досвітку 4 ліпеня 3, 4 і 15 арміі перашлі ў наступленне. У гэты-ж дзень праціўнік быў збіты і пад пагрозай поўнага знішчэння прымушан быў спешна адступаць з разлікам замацавацца для абароны ў старых германскіх акопах перыяда імперыялістычнай вайны. Але імклівае наступленне часцей Заходняга фронту і абходныя дзеянні 4 арміі, асабліва рухавага 3 кавалерыйскага корпуса

тав. Гая, разбурылі планы белапалякаў. Германскія акопы былі заняты конніцай Гая раней, чым туды змаглі падыйсці галоўныя сілы праціўніка.

У ноч з 6 на 7 ліпеня перашла ў наступленне 16 армія. Яна паспяхова фарсавала раку Бярэзіну, адразу-ж заняла даволі вялікі раён на процілеглым беразе, разгортваючы наступленне ў напрамку Менска.

Так пачалося ліпеньскае наступленне Чырвонай арміі на Заходнім фронце, якое апракінула праціўніка і прымусіла яго хутка адступаць. Белапалякі, цяснімыя 27 стралковай дывізіяй 16 арміі, пакідалі пазіцыю за пазіцыяй. 10 ліпеня часці 27 стралковай дывізіі з боем прасунуліся на адлегласць 10—12 кілометраў ад Менска ў раёне Езерышча-Сцеклеева, 11 ліпеня раніцай часці 27 стралковай дывізіі вядуць упартыя баі з другою польскай дывізіяй на подступах Менска.

К 11 гадзіне 30 мінут аб'яднаныя каманды конных разведчыкаў 238 Бранскага і 239 Курскага палкоў прарваліся ў Менск, уносячы поўнае расстройства ў адступаўшыя часці праціўніка.

К 12 гадзіне 241 сялянскі і 242 Волжскі палкі, разбіўшы белапалякаў ля станцыі Менск, увашлі ў горад. К 14 гадзіне Менск быў канчаткова ачышчаны ад белапалякаў.

Трэці паход Антанты пацярпеў крах так сама, як і першыя два.

> «Толькі дзякуючы таму, што партыя была на стражы, што партыя была стражэйшым чынам дысцыплінавана і таму, што аўтарытэт партыі яднаў усе ведамствы і ўстановы і па лозунгу, які быў даны ЦК, як адзін чалавек ішлі дзесяткі, сотні, тысячы, і ў канчатковым выніку мільёны, і толькі таму, што нечуваныя афяры былі прынесены,—толькі таму цуд, які адбыўся, мог адбыцца. Толькі таму, не гледзячы на двухразовы, трохразовы і чатырохразовы паход Антанты і імперыялістаў усяго свету, мы аказаліся здольнымі перамагчы» **(Ленін).**

* * *

Белапольская акупацыя прынесла працоўным Беларусі неймавернае соцыяльнае і нацыянальнае прыгнечанне, палітычны тэрор, дзікі разгул капіталістычнай і памешчыцкай рэакцыі.

У першыя-ж дні пасля заняцця Менска белапалякамі імі было расстраляна каля 100 чалавек і звыш 1000 чалавек былі кінуты ў турмы. Белапольскія акупанты бязлітасна распраўляліся з лепшымі людзьмі партыі, рабочага класа і працоўнага сялянства.

У акупаванай Беларусі белапалякі аднавілі знішчаную пралетарскай рэволюцыяй прыватную ўласнасць, звярнулі ў маёнткі памешчыкаў, на фабрыкі і заводы—фабрыкантаў.

Польскімі ўладамі быў выдан закон аб звароце памешчыкам усяго ўзятага ў маёнтках з уплатай за разбурэнне маёнткаў, за выраблены лес, за ранейшыя арэнды і т. д.

Дзікі тэрор, пабоі, пагромы і здзекі легіянераў дапаўнялі малюнак каланіяльнага грабяжу і эксплаатацыі працоўных мас белапольскімі акупантамі.

Аднаўленне прыватнай уласнасці, бязлітасная эксплаатацыя, вялікадзяржаўная шавіністычная палітыка мракабесся і прымусовай паланізацыі школ, устаноў, пазбаўленне ўсякіх правоў працоўных—такая была нацыянальная палітыка ў акупаванай Беларусі, якую поль-

скі імперыялізм праводзіў у цесным саюзе і пры поўным падтрыманні мясцовай нацыяналістычнай контррэволюцыі.

Польская мова лічылася адзінай дзяржаўнай мовай. Усе вуліцы, плошчы, скверы былі перайменаваны на польскі лад. Усе беларускія школы і школы іншых нацыянальнасцей былі зачынены.

Мясцовая нацыяналістычная контррэволюцыя ўсяляк дапамагала акупантам у ажыццяўленні іх палітыкі ператварэння Беларусі ў калонію імперыялістычнай Польшчы. Белапалякаў горача і радасна сустрэлі ў Менску беларускія нацдэмы і ўсе буржуазныя нацыяналісты іншых колераў. Нацдэмаўская контррэволюцыйная газета «Звон» на розныя лады ўсхваляла «вызваліцеляў» Беларусі—белапалякаў. Яна спявала хвалебныя гімны «храбраму рыцару» з Захаду, запэўніваючы яго ў сваёй лакейскай адданасці і заклікаючы не спыняцца на Бярэзіне, а ісці далей на ўсход.

«Польшча,—пісаў «Звон»,—павінна прасунуць свае войскі яшчэ далей на ўсход, каб адабраць у большэвікоў Усходнюю Беларусь... Беларусь мае права спадзявацца, што Польшча не забылася на свайго даўнейшага сябра і таварыша».

Для дапамогі белапалякам у ажыццяўленні іх далейшай інтэрвенцыі на ўсход, накіраванай на задушэнне ўлады советаў, беларуская контррэволюцыя прыступіла да фармавання беларускага контррэволюцыйнага войска, ставячы сваёй задачай арганізаваць такую армію, якая была-б паслухмянаю зброяй у руках польскага імперыялізма. Гэтая армія была неабходна польскаму імперыялізму для ўмацавання сваіх пазіцый у акупаваных мясцовасцях.

Беларускія нацдэмакраты выконвалі ролю прамых падсобнікаў польскай акупацыі ў барацьбе з працоўнымі масамі Беларусі, прадаючы інтарэсы працоўных сваім капіталістычным пабрацімцам, гандлюючы оптам і ў розніцу «бацькаўшчынай Беларуссю».

Прамым падсобнікам польскіх акупантаў выступала і яўрэйская буржуазна-нацыяналістычная контррэволюцыя. Яўрэйскія контррэволюцыйныя нацыяналістычныя партыі (Бунд, Паалей-Цыён і інш.), якія мелі лютую ненавісць да пролетарскай рэволюцыі, змагаліся супроць большэвікоў, супроць мабілізацыі сіл рабочага класа на барацьбу з польскімі акупантамі.

З глыбокага падполля комуністычная партыя арганізавала і кіравала барацьбою працоўных супроць акупантаў. Комуністычная партыя арганізавала нелегальныя рэволюцыйныя профсаюзы, паспяхова правяла рад забастовак, загартоўваючы і выхоўваючы масы рабочых у барацьбе супроць белапольскіх акупантаў, контррэволюцыйных нацыяналістычных партый—беларускіх нацыяналістаў, Бунд, Паалей-Цыёна і інш.

Комуністычныя арганізацыі праводзілі велізарную агітацыйную работу сярод усяго працоўнага насельніцтва, арміі, распаўсюджваючы нелегальную літаратуру.

Першым памочнікам партыі былі арганізацыі комсамола. Гераічныя справы і ўчынкі беларускіх комсамольцаў адыгралі агромную ролю ў рэволюцыйным руху 1920 года.

Велізарную работу комуністычныя арганізацыі праводзілі ў вёсцы па арганізацыі і кіраўніцтву партызанскім рухам.

У адказ на заклік комуністычнае партыі ў акупаванай Беларусі пракацілася шырокая хваля паўстанняў супроць белапалякаў, кулакоў і памешчыкаў. Сяляне выступілі цэлымі вёскамі, выганяючы грабеж-

нікаў і адбіраючы ў іх награбленае. Паўстаўшае сялянства старалася нанесці ўдар ваенным сілам белапалякаў, перашкаджаючы свабоднаму перакіданню часцей і наладжванню сувязі паміж імі.

Ва ўсіх кутках Беларусі ўзнікаў і шырыўся партызанскі рух, убіраючы ў сябе сотні і тысячы герояў, адважных сыноў сваёй вялікай соцыялістычнай радзімы.

Гераічная барацьба чырвоных партызан жыве ў слаўных справах шматтысячных партызанскіх армій Віленшчыны, Меншчыны, Бабруйшчыны, жыве ў слаўнай барацьбе чырвоных паўстанцаў Ігумена, Маладзечна, Барысава, Баранавіч, Слуцка, Мазыра і дзесяткаў іншых гарадоў і вёсак Беларусі. Яна жыве ў адважным узрыве чырвонымі партызанамі стратэгічнага маста праз Бярэзіну, што вырашыла вынік нашых баёў з польскімі легіянерамі пад Барысавам. Яна жыве ў легендарных справах гразы старадарожскіх лясоў—чырвонага партызана Перамейчыка, які абвясціў савецкую ўладу ў захопленай паўстанцамі воласці, у самым тыле польскай арміі, у непасрэднай блізкасці ад фронту.

Большэвіцкае кіраўніцтва, таленавітая стратэгія Леніна і Сталіна, гераічная барацьба Чырвонай арміі, чырвоных партызан, працоўных мас Украіны і Беларусі вырашылі справу перамогі советаў над панскаю Польшчай.

Як перамога над белапольскай акупацыяй, так і тыя велізарнейшыя поспехі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва, з якімі Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка прыходзіць к 15 гадавіне вызвалення ад белапольскіх акупантаў, ёсць перамогі не толькі рабочых і працоўных Беларусі, але працоўных усяго Савецкага саюза, кіруемых стальной большэвіцкай партыяй на чале з яе любімейшым правадыром тав. Сталіным.

* * *

Дарэволюцыйная Беларусь была краем пераважна дробных саматужных майстэрань. На 4.700.000 насельніцтва ў 1913 годзе было толькі каля двух дзесяткаў тысяч рабочых, занятых пераважна ў рамеслена-саматужных прадпрыемствах.

А цяпер валавая прадукцыя прамысловасці БССР узрасла ў 9 з лішнім раз супроць даваеннага часу і больш як у 5 раз у параўнанні з 1928 годам.

Выраслі за апошнія гады буйныя фабрыкі і заводы—гіганты соцыялістычнай індустрыі: гомельскі шклозавод імя Сталіна—адно з самых механізаваных буйных прадпрыемстваў шклянай прамысловасці ў Саюзе; віцебская швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі»—адна з буйнейшых швейных фабрык Саюза; осінаўская раённая электрастанцыя імя Сталіна, якая жывіць сваёй энергіяй прамысловасць трох буйнейшых цэнтраў БССР.

Гэтыя вынікі нашых поспехаў і перамог «перавярнулі, разбілі ўшчэнт тэорыі контррэволюцыйных беларускіх нацдэмаў як за рубяжом, так і ўнутры БССР, сцвярджаўшых, што беларуская нацыянальнасць не развіваецца, што Беларусь прыгнечваецца Масквой, што развіццё Беларусі магчыма толькі на капіталістычных асновах» **(Гікало)**.

Развіццё на капіталістычных падставах магло прынесці Беларусі толькі дэградацыю, заняпад, развал. Аб гэтым яскравей за ўсё сведчыць лёс Заходняй Беларусі, акупаванай польскім імперыялізмам.

За гады польскай акупацыі прамысловасць Заходняй Беларусі не толькі не разгортвалася, а наадварот—дэградавала.

Калі прыняць агульны паказчык прамысловасці Заходняй Беларусі ў 1928 г. за 100, то ў 1933 годзе ён знізіўся да 38, г. зн. амаль на ²/з. Закрыццё фабрык усё больш павялічвае армію беспрацоўных. Колькасць занятых рабочых з 1929 па 1933 год зменшылася на 50 проц. і зараз дасягае 13.000 чалавек.

У БССР, як і ва ўсім Совецкім саюзе, ужо даўно ліквідавана беспрацоўе, небывала вырасла армія пролетарыята. У 1913 г. па ўсіх прадпрыемствах Беларусі налічвалася каля двух дзесяткаў тысяч рабочых, у 1934 годзе ў прамысловасці Совецкай Беларусі было занята ўжо 145.000 рабочых. У той-жа час мы бачым няўхільны рост беларускага пролетарыята. У цэнзавай прамысловасці за гады першай пяцігодкі склад беларусаў павялічваецца з 21,8 тыс. да 57,8 тыс. рабочых, яўрэяў—з 14,3 тыс. да 23,5 тыс. рабочых.

Планам другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, прадугледжана далейшае развіццё індустрыялізацыі Совецкай Беларусі. Агульная сума капіталаўкладанняў у другую пяцігодку па БССР вызначаецца ў размеры звыш 1,5 мільярда рублёў.

На падставе соцыялістычнай індустрыялізацыі, паступовага правядзення ленінска-сталінскай палітыкі калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як класа, карэнным чынам змяніўся твар беларускай вёскі, якая стала калгаснай і ўпэўнена ідзе к заможнаму жыццю.

347 соўгасаў і 10.910 калгасаў занялі пануючае становішча ў сельскай гаспадарцы БССР. Кулацтва ў асноўным ліквідавана як клас. Аднаасобная гаспадарка адсунута на другарадныя пазіцыі. Процант калектывізацыі ў БССР узрос на 1/IV-35 г. да 76. Сталёвая конніца соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, якая складаецца з 5.053 трактароў, апрацоўвае масівы калгасных і соўгасных палёў Совецкай Беларусі. Агромная маса простых і складаных сельскагаспадарчых машын прышла ў вёску, каб палегчыць працу калгаснікаў і ўзняць яго прадукцыйнасць.

На аснове калектывізацыі, арганізацыі МТС і соўгасаў намі дасягнуты буйнейшыя поспехі ў справе ператварэння БССР са спажываючага ў вытвараючы раён, у раён буйнай вытворчасці тэхнічных культур. Значна ўзрасла пасеўная плошча: з 2 389,4 тысяч га ў 1916 г. да 3 856,2 тысяч га ў 1934 годзе, прычым найбольш значная доля прыросту падае на тэхнічныя культуры. БССР становіцца адной з асноўных ільнаводных баз Совецкага саюза. Пасеўная плошча лёну ў 1916 годзе складала 94,5 тысяч га, а ў 1934 годзе лён займаў ужо 248,8 тысяч га. Сільна ўзраслі пасевы бульбы: у 1916 г. пад бульбу было засеяна 212 тыс. га, а ў 1934 г.—632 тысячы га. Партыя і ўрад цвёрда праводзяць лінію на павелічэнне азімага кліну пшаніцы, на стварэнне ўласнай пшанічнай базы ў БССР.

Другая пяцігодка ператворыць БССР, якая мае ў сваім распараджэнні буйныя кармавыя рэсурсы і магчымасці хуткага палепшання пароды жывёлы, у перадавы раён Совецкага саюза па прадукцыйнасці і якасці жывёлагадоўчай гаспадаркі, асабліва хуткаспелых відаў жывёлы і птушкі. К канцу другой пяцігодкі агульнае пагалоўе буйнай рагатай жывёлы па БССР ўзрасце з 1,56 млн. у 1932 г. да 2,43 млн. галоў, а пагалоў'е свіней—на 203,8%.

Новы статут сельскагаспадарчай арцелі, выпрацаваны лепшымі

людзьмі калгаснай вёскі сумесна з геніяльным нашым правадыром тав. Сталіным, кіраўнікамі партыі і ўрада, адкрыў новы этап у развіцці калгасаў—этап бурнага росквіту соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

У святле бурнага ўздыму, росквіту і радасных перспектыў далейшага развіцця соцыялістычнай сельскай гаспадаркі ордэнаноснай Савецкай Беларусі яшчэ больш рэзка вырысоўваецца факт дэградацыі, поўнага заняпаду сельскай гаспадаркі Заходняй Беларусі.

Памешчыцкія гаспадаркі, якія складаюць 0,8 % усіх гаспадарак Заходняй Беларусі, займаюць амаль палову ўсёй зямлі, а бедната, гаспадаркі якой складаюць 60%, мае толькі 12% усёй зямельнай плошчы. У кулакоў, якія складаюць 7% усіх гаспадарак, знаходзіцца 15% усёй зямлі. Зямельная палітыка польскага фашызма—гэта палітыка грабежніцтва сялянскай зямлі і сялянскіх прыбыткаў.

Селяніну Заходняй Беларусі прыходзіцца адпрацоўваць памешчыку, кулаку і дзяржаве за даўгі, падаткі, крэдыты, арэнду і т. д.— сто дзён у год. Такая форма адработкаў з'яўляецца аднаўленнем прыгону. Падатковы цяжар усё мацней прыціскае працоўнае сялянства Заходняй Беларусі. Сельская гаспадарка варочаецца да сярэдневяковых прылад апрацоўкі глебы. Жалезны плуг усё больш і больш замяняецца сахой. Рэзка зніжаецца ўраджайнасць. Голад зрабіўся сталым гасцём у хаце бедняка і серадняка Заходняй Беларусі.

Поспехі соцыялістычнай індустрыялізацыі і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі абумовілі пышны росквіт соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме культуры БССР.

У мінулым край амаль суцэльнай бязграматнасці ва ўмовах пролетарскай дыктатуры стаў рэспублікай суцэльнай граматнасці. БССР першай у Совецкім саюзе цалкам ліквідавала няграматнасць і ўвяла ўсеагульнае пачатковае навучанне.

У старой дарэволюцыйнай Беларусі былі 78 гімназій і прагімназій, у якіх навучалася 12.000 вучняў—сынкоў і дачок памешчыкаў, папоў, кулакоў і буйных чыноўнікаў. Тысячы і дзесяткі тысяч пролетарскай і бядняцка-серадняцкай сялянскай дзетвары былі пазбаўлены ўсякай магчымасці атрымаць асвету. А цяпер, пры совецкай уладзе, 891.986 рэбят Совецкай Беларусі навучаецца ў 7.020 поўных і няпоўных сярэдніх і пачатковых школах.

Раней у Беларусі—калоніі царскай Расіі—было забаронена выкладанне ў школе на роднай мове, праз школу праводзілася прымусовая русіфікацыя беларускага, польскага і яўрэйскага насельніцтва. Беларускіх школ старая Беларусь не ведала. А зараз, пры совецкай уладзе, кожны працоўны мае магчымасць навучаць сваіх дзяцей на роднай мове. 90,2% усіх вучняў пачатковай і сярэдняй школы навучаюцца на беларускай мове. Тысячы дзяцей працоўных палякаў, яўрэяў, рускіх навучаюцца ў 180 рускіх, 135 польскіх, 221 яўрэйскай школах.

У дарэволюцыйнай Беларусі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы. А зараз мы маем 15 ВНУ і ВТНУ з 12.273 студэнтамі, Вышэйшую комуністычную сельскагаспадарчую школу Беларусі, Комуністычны інстытут журналістыкі, 80 тэхнікумаў з 20.925 і 35 рабфакаў з 11.754 студэнтамі. Совецкая Беларусь стварае сваю шматлікую пролетарскую совецкую інтэлігенцыю, свае пролетарскія совецкія кадры.

У Беларусі, раней цёмнай, некультурнай, цяпер сільна вырасла

пролетарская навука. Тут створаны буйныя навуковыя цэнтры—Беларуская Акадэмія Навук, шматлікія навукова-даследчыя інстытуты, дзе растуць новыя пролетарскія кадры маладых вучоных беларусаў, яўрэяў, палякаў і іншых нацыянальнасцей, што насяляюць БССР. Соцыялістычнае мастацтва, узросшая сець тэатраў (іх 12) і кінотэатраў (1.060) з'яўляецца магутнаю збрcăй комуністычнага выхавання працоўных.

У БССР штогод выходзіць у сярэднім больш 1.000 назваў кніг з агульным гадавым тыражом да 10.000.000 экземпляраў. І усё-ж кніг нехапае, бо расце цяга працоўных да кнігі, да ведаў, да навукі, да мастацкай літаратуры. За 1928-1934 гг. у БССР выпушчана 1.450 назваў адной мастацкай літаратуры, тыражом у 4 млн. 472 тыс. экземпляраў. У былой Беларусі выходзіла каля двух дзесяткаў газет, а зараз маем у БССР 256 друкаваных і многа тысяч насценных газет.

Густой сеццю культурна-асветных устаноў пакрылася Совецкая Беларусь. 78 дамоў соцкультуры, 398 клубаў, 1.338 хат-чытален, 36 тыс. радыё-кропак, 9.575 бібліятэк і сярод іх такі гігант культуры, як Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна з 1,5 млн. кніжным фондам—усе гэтыя лічбы і даныя з'яўляюцца яркім паказчыкам велізарнага росту нацыянальна-культурнага будаўніцтва і палітычна-культурнага ўзроўню працоўных мас Совецкай Беларусі.

А ў гэты-ж час у Заходняй Беларусі, якая стогне пад пятою польскіх акупантаў, мы наглядаем упадак асветы, крызіс культуры.

Фашызм пазбаўляе працоўных Заходняй Беларусі права вучыцца, права быць граматнымі. У Камень-Кашырскім павеце, у Палессі, абсалютна няграматных 68% насельніцтва, а з астатняга «граматнага» насельніцтва чытаць і пісаць можа толькі адзін процант. Польскі фашызм насаджае ў Заходняй Беларусі сярэдневяковую цемру і невуцтва.

Нашы-ж агромныя поспехі ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, велізарны рост культуры, мастацтва, навукі ёсць трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і неабвяржыма сведчыць аб нашым няўхільным і хуткім руху ўперад да канчатковай перамогі комунізма.

Карэнныя змены адбыліся таксама і ва ўсім быце рабочага класа. Расце ў БССР, як і ва ўсім Совецкім саюзе, заработная плата. Фонды заработнай платы рабочых і служачых у БССР дасягнулі ў 1935 г. 726,3 млн. супроць 112,1 млн. рублёў у 1925-26 гг. Сярэдняя гадавая зарплата рабочых буйнай прамысловасці БССР дасягнула ў 1933 г. 1.467 руб. супроць 604 руб. у 1925-26 гг. 76,3% рабочых буйнай прамысловасці БССР да 1933 года былі ўжо пераведзены на 7-гадзінны рабочы дзень. Растуць усе віды соцыяльнага страхавання рабочых і служачых. Расце колькасць санаторый і дамоў адпачынку для працоўных мас. Расце калгасная заможнасць.

У 1934 годзе калгаснікі Беларусі атрымалі на працадзень у сярэднім да 2 кгр. зернавых і да 6 кгр. бульбы, супроць 1½ кгр. зернавых і 3½ кгр. бульбы ў 1933 годзе. Сотні тысяч калгаснікаў передавых калгасаў Совецкай Беларусі атрымалі на працадзень па 7 кгр. зернавых і да 16 кгр. бульбы.

Так з дня ў дзень паляпшаецца матар'яльнае становішча працоўных БССР. Такавы вынікі нашых перамог. Такавы рэзультаты гераіч-

най работы працоўных мас БССР, якія змагаліся пад сцягам Леніна-Сталіна, пад выпрабаваным кіраўніцтвам ЦК ВКП(б), правадыра нашай партыі і працоўных мас—тав. Сталіна.

* * *

Уручэнне Совецкай Беларусі ордэна Леніна найбольш яскрава падкрэслівае той факт, што Совецкі саюз—краіна брацтва яго народаў—стаіць на шырокай дарозе развіцця і росквіту.

Толькі Окцябрская социялістычная рэволюцыя знішчыла дашчэнту сістэму нацыянальнай рознасці, прыгнечання і зняволення. Толькі Окцябрская социялістычная рэволюцыя адкрывае магчымасць ажыццявіць на справе гістарычнае ўказанне правадыра нашай партыі і працоўных усяго свету—вялікага Сталіна, зробленае ім на X з'ездзе партыі:

> «Сутнасць нацыянальнага пытання ў РСФСР заключаецца ў тым, каб знішчыць тую адсталасць (гаспадарчую, палітычную, культурную) нацыянальнасцей, якую яны атрымалі ў спадчыну ад мінулага, каб даць магчымасць адсталым народам дагнаць цэнтральную Расію і ў дзяржаўных, і ў культурных, і ў гаспадарчых адносінах».

Сваіх велізарных поспехаў КП(б)Б дасягнула ва ўмовах самай жорсткай класавай барацьбы, няўхільна праводзячы генеральную лінію партыі, у бязлітаснай барацьбе супроць контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай групы і яе подлых падонкаў, супроць правага і «левага» апартунізма, супроць вялікадзяржаўнага шавінізма, беларускага нацыяналізма і іншага роду шавінізмаў (яўрэйскага, польскага і т. д.), барацьбе за пролетарскі інтэрнацыяналізм, за інтэрнацыянальнае выхаванне працоўных мас.

КП(б)Б разбіла на галаву вялікадзяржаўныя элементы, якія імкнуліся сарваць справу большэвіцкай беларусізацыі, беларускіх нацдэмаў і іх агентуры ўнутры партыі, якія, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сцягам, вялі барацьбу супроць большэвіцкай беларусізацыі з мэтай рэстаўрацыі ўлады капіталістаў і памешчыкаў і адрыву Беларусі ад СССР для ператварэння яе ў калонію імперыялізма.

Беларускія нацыянал-дэмакраты на ўсіх стадыях сваёй контррэволюцыйнай барацьбы супроць Совецкай Беларусі ставілі і ставяць стаўку на інтэрвенцыю. У гады грамадзянскай вайны яны прымалі самы актыўны ўдзел і аказалі ўсякае падтрыманне нямецкім, а потым белапольскім акупантам. Па прамому ўказанню нямецкіх і польскіх імперыялістаў яны сумесна з палачамі рабочых і сялян Беларусі—Булак-Балаховічам і Савінкавым—арганізавалі і падтрымлівалі контррэволюцыйныя і кулацкія паўстанні, антысовецкія выступленні супроць большэвікоў, супроць улады Советаў.

Контррэволюцыйная арганізацыя «Саюз Адраджэння Беларусі», рэарганізаваная ў далейшым у «Саюз Вызвалення Беларусі», асноўную стаўку ставіла на інтэрвенцыю. Гэта арганізацыя з мэтай рэстаўрацыі капіталізма займалася падрыхтоўкаю класавых сіл, на якія ўнутры БССР магла-б абаперціся інтэрвенцыя. Уся контррэволюцыйная палітыка прышчэпаўшчыны была стаўкай на аднаўленне кулака,

як унутранай сілы інтэрвенцыі і социяльнай базы нацыянал-дэмакратызма.

Контррэволюцыйная арганізацыя беларускіх нацыяналістаў вяла таксама ідэалагічную падрыхтоўку адрыву БССР ад Совецкага саюза і далучэння яе да фашысцкай Польшчы. Тэорыя «самабытнасці», патрабаванне адмаўлення Беларусі ад брацкай дапамогі рабочых і працоўных усяго Совецкага саюза, выкарчоўванне з беларускай мовы ўсяго, што зближае яе з соцыялістычнай культурай, тэорыя барацьбы беларускай і рускай культуры і арыентацыя беларускай культуры на капіталістычны захад, імкненне адарваць літаратуру, навуку, мастацтва ад актуальных праблем соцыялістычнага будаўніцтва—ўсё гэта служыла справе ідэалагічнай падрыхтоўкі інтэрвенцыі. Гэта арганізацыя займалася падрыхтоўкай і прасоўваннем сваіх нацдэмаўскіх кадраў на розныя ўчасткі будаўніцтва. Усёй гэтай рабоце контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў у Беларусі дапамагалі нацыянал-ухілісцкія элементы ўнутры КП(б)Б, якія вялі актыўную барацьбу супроць партыі і яе ЦК.

Беларускія нацухілісты непасрэдна змыкаліся з нацухілістамі яўрэйскімі, польскімі і т. д., якія таксама пратасквалі тэорыю» адзінства нацыі, ідэалізацыю контррэволюцыйных нацыяналістычных партый—Бунд, ППС і т. д.

КП(б)Б ускрыла і разграміла контррэволюцыйную арганізацыю беларускіх нацдэмаў, члены якой (Ігнатоўскі, Прышчэпаў) ажыццяўлялі дырэктывы імперыялістычных дзяржаў. Пазней КП(б)Б ускрыла новую контррэволюцыйную арганізацыю, якою кіраваў т. зв. «Беларускі Нацыянальны Цэнтр» і ядро якой складалі перакінутыя замежнай контрразведкай пад выглядам праследуемых рэволюцыйных дзеячоў шпікі і правакатары. Гэтыя людзі (Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Капуцкі, Гаўрылюк і інш.) аб'ядналіся з махровымі нацыянал-фашыстамі, правакатарамі і шпікамі за граніцай. Гэтыя шпікі і правакатары трымалі сувязь з рускімі і ўкраінскімі белагвардзейцамі. Яны разам з іншымі рэшткамі былых контррэволюцыйных дробнабуржуазных партый—эсэраў, БСГ, бундаўцаў і інш. —вялі сваю контррэволюцыйную работу на грошы загранічных контрразведак, яны аб'ядналіся з ўсімі антысовецкімі элементамі ўнутры БССР, з германскімі і польскімі фашыстамі для барацьбы супроць рабочых і сялян Совецкай Беларусі. Актывізацыя контррэволюцыйных нацдэмаўскіх элементаў знаходзілася ў прамой сувязі з прыходам к уладзе ў Германіі Гітлера, у сувязі з марамі германскіх фашыстаў захапіць Украіну і Беларусь.

ЦК КП(б)Б яшчэ ў 1933 годзе ў сваёй пастанове па нацыянальнаму пытанню запісаў:

> «Вялікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Совецкага саюза і ўсёй ВКП(б), але гэта ні ў якай меры не супярэчыць таму, што ў даны момант ў Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі. Неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на цяперашнім этапе блакуюцца паміж сабой на агульнай плацформе адрыву БССР ад СССР для аслаблення пазіцыі СССР і ўмацавання пазіцыі капіталізма».

КП(б)Б, на чале з яе кіраўніком тав. Гікало, пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК ВКП(б) і тав. Сталіна, бязлітасна разграміла контррэвалюцыйных нацдэмакратаў, вядзе і будзе весці самую рашучую барацьбу супроць спроб контррэвалюцыіператварыць БССР у калонію замежнага капітала, рэстаўраваць панства буржуазіі, узваліць на плечы працоўных Совецкай Беларусі ярмо памешчыкаў і капіталістаў, адарваць БССР ад вялікага Совецкага саюза.

Ордэнаносная БССР была, ёсць і будзе неадрыўнаю часткай вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, яго баявым фарпостам на стыку з капіталістычным Захадам.

Выключна агромны ў гэтай барацьбе заслугі кіраўніка большэвікоў Беларусі—тав. Гікало. Сталінскі стыль яго работы, штодзённае канкрэтнае і аперацыйнае кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам, выхаванне і вырошчванне большэвіцкіх кадраў, згуртоўванне працоўных мас БССР вакол сталінскага ЦК, бязлітасная барацьба з класавым ворагам забяспечылі нам велізарнейшыя поспехі ў справе соцбудаўніцтва ў БССР.

* * *

Большэвікі не могуць самасупакойвацца на дасягнутых поспехах. Ордэн Леніна абавязвае працаваць больш напружана і лепш. Уперадзе—велізарныя задачы другой пяцігодкі, якія мы павінны з поспехам вырашыць.

Выступленне тав. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі знамянуе пачатак новай паласы развіцця ў нашай краіне. Мы пераможна закончылі ранейшы этап, на працягу якога ліквідавалі тэхніка-эканамічную адсталасць краіны. Зараз СССР—краіна магутнай і першакласнай прамысловасці, краіна буйнай, абагуленай і машынізаванай сельскай гаспадаркі.

> «Мы зжылі ўжо ў асноўным перыяд голаду ў галіне тэхнікі. Але, зжыўшы перыяд голаду ў галіне тэхнікі, мы ўступілі ў новы перыяд, у перыяд, я-б сказаў, голаду ў галіне людзей, у галіне кадраў, якія ўмеюць асядлаць тэхніку і рушыць яе наперад... Упор павінен быць зроблен цяпер на людзях, на кадрах, на работніках, аўладаўшых тэхнікай. Вось чаму стары лозунг—«Тэхніка вырашае ўсё», які з'яўляецца адлюстраваннем ужо пройдзенага перыяда, калі ў нас быў голад у галіне тэхнікі,—павінен быць цяпер заменен новым лозунгам, лозунгам аб тым, што «кадры вырашаюць усё». У гэтым цяпер галоўнае» **(Сталін).**

Увага і клопаты аб людзях, вырошчванне і выхоўванне кадраў—рашаючая ўмова нашых далейшых перамог. Мы павінны прыцягнуць увагу ўсёй партыйнай і совецкай грамадскасці да пытанняў узняцця на новую вышыню ўсёй справы падрыхтоўкі кадраў, смелага вылучэння новых большэвіцкіх беларускіх кадраў і на лепшых прыкладах знатных людзей нашага соцыялістычнага будаўніцтва выхоўваць кадры, кадры партыйных і непартыйных большэвікоў, творцоў бясклясавага грамадства. Мы павінны выхаваць людзей адважных і бясстрашных, якія бязмерна любяць сваю соцыялістычную радзіму, людзей вялікіх дзярзанняў, ідучых смела наперад, людзей па-большэвіцку здольных змагацца за ажыццяўленне задач другой пяцігодкі.

Святкаванне пятнаццацігоддзя вызвалення БССР ад белапалякаў,

урачыстасць уручэння ордэна Леніна нашай рэспубліцы пройдзе пад сцягам выканання тых задач, якія стаяць перад намі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Прадпрыемствы, якія выконваюць і перавыконваюць промфінплан, працуюць з соцыялістычным прыбыткам, снабжаюць наш совецкі рынак высокаякаснай прадукцыяй—гонар працоўных БССР. Новы, ствараемы соцыялізмам на нашых соцыялістычных фабрыках і заводах чалавек, «выдатнік», «зотавец», наша совецкая тэхнічная інтэлігенцыя, выхаваная партыяй і ўрадам—гэта сапраўды «самы каштоўны капітал», які мы абавязаны акружаць клопатамі і ўвагай. Мы павінны ўсіх рабочых і работнікаў нашай прамысловасці мабілізаваць на асваенне створанай намі тэхнікі, на павышэнне прадукцыйнасці працы, уздым матар'яльнага і культурнага ўзроўню працоўных мас.

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) з усёй рашучасцю папярэдзіў партыйныя і совецкія арганізацыі аб труднасцях надыходзячай уборачнай кампаніі і дзяржаўных паставак. Мы арганізавана, добра правялі сяўбу. Але гэта яшчэ не гарантуе поспеху ва ўборцы соцыялістычнага ўраджаю.

> «Поспех уборкі,—гаворыцца ў рашэннях пленума,—вырашыць сістэматычнае і штодзеннае кіраўніцтва партыйных арганізацый уборкай, уцягненнем усёй масы калгаснікаў і рабочых соўгасаў у актыўную работу па ўборцы і скарыстання поўнасцю ўсіх машын».

Самая ўважлівая падрыхтоўка і правядзенне ўборкі, безагаворачнае выкананне поўнасцю і ў тэрмін усіх дзяржаўных паставак—вось на што павінны зараз зрабіць упор партыйныя і совецкія арганізацыі. Напружанай барацьбою за палепшанне якасці прадукцыі і павышэнне прадукцыйнасці працы, узорным правядзеннем уборкі, датэрміновым выкананнем усіх абавязацельстваў перад дзяржавай, барацьбою за колькасны і якасны ўздым нашай жывёлагадоўлі на аснове выканання дзяржаўнага плана, большэвіцкім выхаваннем кадраў—вось чым мы павінны азнаймаваць усенароднае свята вызвалення і перамог, вось чым працоўныя масы БССР павінны адказаць на атрыманне вышэйшай узнагароды.

Мы святкуем 15-ю гадавіну вызвалення Беларусі ад белапалякаў, калі капіталістычны свет шалёна рыхтуе новую крывавую бойню. Небяспека вайны, у першую чаргу супроць Совецкага саюза, за апошні год узрасла. Наш урад няўхільна праводзіць палітыку міру. Агалцелы германскі фашызм ліхаманкава шукае саюзнікаў і рыхтуе напад на СССР. Мы павінны заўсёды памятаць, што БССР стаіць на рубяжы з капіталістычным Захадам. Гэта абавязвае ўсіх працоўных нашай Совецкай Беларусі ўмацоўваць абаронную работу, быць гатовымі ў патрэбны момант даць сакрушальны адпор імперыялістычным драпежнікам.

У дзень нашага ўсенароднага свята мы яшчэ больш узмацнім сваю неразрыўную сувязь з роднай, горача любімай гераічнай Чырвонай арміяй. Мы будзем змагацца за яшчэ большае ўцягванне мільённых мас працоўных у работу Асоавіяхіма. Выхаваем сотні тысяч новых герояў, падобна Чапаеву, Шчорсу і іншых, беззаветна адданых соцыялістычнай бацькаўшчыне, гатовых у любую мінуту рынуцца на ворага і знішчыць яго.

КП(б)Б неаслабна змагалася супроць усіх і ўсякіх ухілаў ад ге-

неральнай лініі партыі, супроць усіх антыпартыйных груповак, супроць правых і «левых» апартуністаў, супроць контррэвалюцыйных трацкістаў, супроць права-«лявацкіх» уродаў, супроць зіноўеўцаў— гэтай беспрыкладнай у гісторыі нашай партыі групы, якая зрабіла двурушніцтва сваёй запаведдзю і скацілася ў балота контррэвалюцыйнага тэрарызма.

Мы не павінны ні на мінуту забываць слоў тав. Сталіна, што вораг разбіты, але не дабіты.

«Рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў...

Могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэвалюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэвалюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў.

Арганізаванае Зіноўевым і Каменевым зверскае забойства аднаго з бліжэйшых саратнікаў тав. Сталіна—С. М. Кірава, паўшага ад подлай рукі белабандытаў зіноўеўцаў-каменеўцаў, наглядна паказала ўсім нам, што азлоблены класавы вораг ідзе на крайнія меры барацьбы з совецкай уладай. З гэтай найцяжэйшай утраты ўся наша партыя зрабіла той асноўны вывад, што неабходна ўзмацніць барацьбу з апартуністычным дабрадушшам, завастрыць сваю пільнасць, узняць і ўзмацніць сваю баявую гатоўнасць.

Аднак, не ўсе комуністы ўлічылі цяжкія ўрокі, атрыманыя партыяй. Яркім прыкладам комуніста, які забыў свае элементарныя абавязкі ў адносінах да партыі, трапіў у цэпкія лапы класавага ворага, страціў свой партыйны твар, зазнаўся як «вяльможа» і бюракрат, з'яўляецца Енукідзе, выключаны апошнім пленумам ЦК ВКП(б) з радоў нашай партыі.

Справа Енукідзе паказвае яшчэ раз, што ва ўмовах нашай перамогі, ва ўмовах разгрому класавых ворагаў, галоўнай памехай, якая перашкаджае выкрываць прошукі абломкаў паміраючых капіталістычных класаў, з'яўляецца самасупакоенасць і дабрадушша. Не спачываць на лаўрах, не дабрадушнічаць, а быць пільным да ўсякіх прошукаў класавага ворага, непрымірыма, бязлітасна граміць усякую спробу ворага дэзарганізаваць нашыя рады, да канца дабіць рэшткі эксплаататарскіх класаў—у гэтым наша задача.

Для барацьбы з класавым ворагам і яго агентурай мы павінны ўзброіць кожнага комуніста марксісцка-ленінскай тэорыяй, веданнем гісторыі барацьбы нашай слаўнай большэвіцкай партыі з усімі ворагамі рабочага класа. Мы павінны перабудаваць унутрыпартыйную работу так, каб лепш выхаваць большэвіцкія кадры, павышаючы іх ідэйную ўзброенасць і рэволюцыйную пільнасць. Мы павінны ўсямерна паляпшаць арганізацыйную работу ў адпаведнасці з дырэктывамі XVII з'езда ВКП(б). Мы павінны навесці большэвіцкі парадак у нашай партыйнай гаспадарцы.

«Цяпер ужо ўсе прызнаюць,—гаварыў тав. Сталін на XVII з'ездзе партыі,—што нашы поспехі вялікія і незвычайныя... Гэта параджае пачуцце гордасці і ўмацоўвае веру ў свае сілы ў нашых работнікаў. Гэта, безумоўна, добра. Але поспехі маюць часам і свой ценявы бок. Яны параджаюць часам некаторыя небяспекі, якія, калі даць ім развіцца,—могуць развінціць усю справу. Ёсць, напрыклад, небяспека, што ў некаторых

нашых таварышоў можа закружыцца галава ад такіх поспехаў. Такія выпадкі бывалі ў нас, як вядома. Ёсць небяспека, што сёй-той з нашых таварышоў, ап'янеўшы ад поспехаў, зазнаецца ўканец і пачне ўбаюкваць сябе хвастлівымі песнямі накшталт таго, што «нам цяпер мора па калена», што «можам, хоць каго шапкамі закідаць» і т. д. Гэта зусім не выключана, таварышы. Няма нічога больш небяспечней, як падобныя настроі, бо яны раззбройваюць партыю і дэмабілізуюць яе рады... Значыць, не ўбаюкваць трэба партыю,—а развіваць у ёй пільнасць, не ўсыпляць яе,—а трымаць у стане баявой гатоўнасці, не раззбройваць, а ўзбройваць, не дэмабілізоўваць,—а трымаць яе ў стане мабілізацыі для ажыццяўлення другой пяцігодкі».

КП(б)Б—верны атрад ВКП(б)—пад кіраўніцтвам тав. Гікало будзе і наперад няўхільна і цвёрда змагацца за выкананне гэтых указанняў тав. Сталіна, мабілізаваць нашу арганізацыю на барацьбу за вырашэнне яшчэ больш агромных задач, якія стаяць перад намі.

Пад кіраўніцтвам вялікага кормчага працоўных усяго свету—мудрага Сталіна—мы пойдзем к новым перамогам, к поўнай пабудове комунізма!



*Тав.* ***ГАЛАДЗЕД***

*Старшыня Соўнаркома БССР*

Х. Каррадаў

# Рост ваеннай небяспекі і мірная палітыка СССР

Сучаснае міжнароднае становішча характарызуецца ростам ваеннай небяспекі. Падрыхтоўка імперыялістычнай бойкі за новы перадзел свету вядзецца ўзмоцненым тэмпам.

Рост ваеннай небяспекі з'яўляецца вынікам новага абвострання ўсіх унутраных і знешніх супярэчнасцей капіталістычнага свету. Факты цалкам пацвердзілі вывады тав. Сталіна, зробленыя ім у дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б), што пункт найбольшага заняпаду прамысловай вытворчасці ў капіталістычных краінах быў пройдзены ў 1932 годзе, пасля чаго крызіс уступіў у стадыю дэпрэсіі. Справа ідзе, аднак, не аб звычайнай дэпрэсіі, за якою следаваў новы росквіт прамысловай дзейнасці, а аб «дэпрэсіі асобага роду, якая не вядзе да новага ўздыму і росквіту прамысловасці, але і не варочае яе да пункту найбольшага заняпаду».

Апошні год не прынёс ніякіх сур'ёзных змен у развіцці капіталістычнай эканомікі.

Калі прыняць індэкс (паказчык) прамысловай прадукцыі ўсіх капіталістычных краін 1928 года за 100, то атрымаем такі малюнак:

1929 год—110; 1932 год—год найбольшага крызіснага падзення—62; снежань 1933 года—76,2; сакавік 1934 года—82,2; студзень—люты 1935 г.—76, г. зн. прыкладна той-жа ўзровень, на якім знаходзілася прамысловасць год таму назад.

Аб'ём прамысловай прадукцыі па асобных краінах прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

У 1932 годзе крызіс у Польшчы дасягнуў сваёй вышэйшай стадыі. Індэкс прамысловай прадукцыі ўпаў да 50 проц. у параўнанні з тым, што было да крызіса. У 1934 годзе ён узняўся да 63, на 13 проц.

ЗША. Калі прыняць аб'ём прамысловай прадукцыі да крызіса за 100, то ў сакавіку 1933 года ён складае 56, у снежні 1933 года—71, у верасні 1934 г.—зноў падзенне да 69. Дасягнуўшы найвышэйшага пункту свайго развіцця ў пачатку лютага гэтага года (88,2 проц.), прамысловая прадукцыя ў красавіку дае рэзкае зніжэнне, падае да ўзроўню красавіка 1934 года—65,2 проц.

Германія. Калі прыняць аб'ём прамысловай прадукцыі 1928 года за 100, то ў 1929 г. ён складаў 101,8, у 1932 г.—60,4, у 1934 г.—88,8. У 1935 г. — зноў зніжэнне. Агульны індэкс прамысловай прадукцыі (1928 г.—100) складаў у лютым і сакавіку гэтага года 86,6.

Тое-ж самае наглядаецца ў Японіі і радзе іншых краін.

Пераход к дэпрэсіі асобага роду не прынёс ажыўлення ў сусветны тавараварот. Сусветны гандаль за мінулы год не толькі не пашы-

рыўся, але нават значна скараціўся. Так, паводле даных Лігі нацый, сусветны гандаль скараціўся з 280 млрд. залатых марак у 1928 г. да 90 млрд. марак у 1934 годзе.

Яркім паказчыкам дэпрэсіі асобага роду з'яўляецца велізарная армія беспрацоўных у капіталістычных краінах.

Паводле афіцыяльных даных 1934 года, у капіталістычным свеце было 28 млн. беспрацоўных.

Дэпрэсія асобага роду прывяла да яшчэ большай эксплаатацыі рабочага класа. Па ўсёй амерыканскай прамысловасці прадукцыйнасць рабочага класа ўзрасла ў параўнанні з 1929 г. на 15 проц., у Англіі за гэты-ж час—на 29 проц., у Германіі сярэдняя выпрацоўка рабочага ўзрасла на 24,4 проц. Адначасова заработная плата знізілася.

Магнаты капітала здолелі за гэты час значна павялічыць свае барышы. Так, вядомы гарматны кароль Круп атрымаў у 1934 годзе 6 млн. марак прыбытку. У ЗША 200 буйнейшых прамысловых кампаній атрымалі ў 1934 годзе прыбытак, які на 150 проц. перавышае іх даход у 1926 годзе. Агульная сума іх прыбытку дасягнула ў 1934 годзе 430 млн. долараў, супроць 100 млн. долараў у 1932 годзе.

Буржуазія ва ўсіх краінах узмацняе эканамічнае і палітычнае наступленне на рабочы клас, але адначасова ўсё больш і больш узмацняецца рэвалюцыйны рух, пашыраецца ўплыў компартыі сярод шырокіх працоўных мас, узмацняецца цяга к адзінаму рабочаму фронту.

Адзінай краінай, якая не ведае крызісу, з'яўляецца Совецкі саюз. Ён жыве сваім асобым жыццём, якое рэзка адрозніваецца ад празябання загніваючага капіталістычнага свету. Совецкі саюз безупынна ідзе па шляху ўздыму народнай гаспадаркі, адначасова з якім няўхільна павышаецца дабрабыт шырокіх мас працоўных.

Прычынай новага абвастрання ваеннай небяспекі з'яўляецца імкненне імперыялістычных краін выйсці са стану «дэпрэсіі асобага роду» шляхам новага перадзелу свету. Упэўніўшыся ў правале ўсіх разлікаў на магчымасць вярнуць перыяд росквіту капіталістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, гэтыя краіны імкнуцца вырашыць раздзіраючыя іх супярэчнасці шляхам вайны.

Надзеі капіталістычных краін на магчымасць выйсці з крызіса шляхам вайны пазбаўлены ўсякіх падстаў.

У сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі тав. Сталін адзначыў, што вайна:

> «... павінна яшчэ больш заблытаць становішча. Больш таго, яна напэўна развяжа рэвалюцыю і паставіць пад пытанне само існаванне капіталізма ў радзе краін, як гэта мела месца ў ходзе першай імперыялістычнай вайны. І калі, не гледзячы на вопыт першай імперыялістычнай вайны, буржуазныя палітыкі ўсё-ж хватаюцца за вайну, як тонучы за саломінку, то гэта значыць, што яны канчаткова заблыталіся, папалі ў тупік і гатовы ляцець на сторч галавы ў бяздонне».

Асноўнымі ачагамі ваеннай небяспекі з'яўляюцца ў сучасны момант Германія і Японія, якія імкнуцца да новага перадзелу свету, перш за ўсё за кошт Совецкага саюза, разлічваючы гэтым шляхам заручыцца падтрыманнем і салідарнасцю астатніх імперыялістычных краін.

Захватніцкія планы германскага фашызма і японскай ваеншчыны накіраваны, аднак, не толькі супроць СССР. Захват Японіяй Манчжурыі і Паўночнага Кітая нанёс сур'ёзны ўдар па амерыканскіх інта-

рэсах. Растаржэнне Японіяй Вашынгтонскага дагавора, устанавіўшага акрэсленыя суадносіны морскіх сіл ЗША, Англіі і Японіі, таксама ў асноўным было накіравана супроць ЗША. ЗША не ў стане, аднак, зараз актыўна змагацца з японскай экспансіяй і пакуль што адказваюць Японіі пашырэннем праграмы морскіх узбраенняў, у разліку на тое, што вельмі напружанае фінансавае становішча Японіі не дазволіць ёй вытрымаць гонку ўзбраенняў з больш магутнымі ЗША. Адначасова з гэтым ЗША разлічваюць на тое, што актывізацыя японскай экспансіі прымусіць Англію перайсці ад палітыкі заахвочвання японскай ваеншчыны да палітыкі збліжэння з ЗША для сумеснай барацьбы з Японіяй. Варта адзначыць, што гэтыя разлікі не пазбаўлены падстаў.

Дэкларацыя японскага міністэрства замежных спраў ад 17 красавіка 1934 года, адбіўшы намеры японскага імперыялізма цалкам падначаліць свайму ўплыву Кітай, у тым ліку і тыя яго абласці, дзе ёсць сур'ёзныя інтарэсы Вялікабрытаніі, не на жарты ўстрывожыла брытанскі імперыялізм, які пачынае ўсведамляць, што захватніцкія планы Японіі ўжо перашлі тыя межы, за якімі яны прадстаўляюць пагрозу англійскаму ўплыву ў басейне Ціхага акіяна.

Гітлераўская Германія асабліва напружана рыхтуецца да вайны супроць Францыі, у мэтах заваёвы тэрыторый, што адышлі к Францыі ў выніку паражэння Германіі ў сусветнай вайне, і для рашаючай змены на карысць Германіі суадносін імперыялістычных сіл, устаноўленых Версальскім дагаворам.

Агульнавядомы спробы Германіі далучыць к сабе Аўстрыю. Ажыццяўленне аншлюса стварыла-б прадпасылкі для заняцця германскім імперыялізмам пануючага становішча ў паўднёва-ўсходняй Еўропе, што рэзка супярэчыць інтарэсам Францыі і асабліва Італіі. У сучасны момант «незалежная» Аўстрыя адыгрывае ролю буфера паміж Германіяй і Італіяй, з аднаго боку, і паміж Германіяй і краінамі паўднёва-ўсходняй Еўропы,—з другога. Наяўнасць агульнай граніцы Германіі з Югаславіяй і Венгрыяй мела-б вынікам узмацненне германскага ўплыву ў гэтых краінах. Гэта нанесла-б сур'ёзны ўдар Францыі, якая знаходзіцца ў саюзных адносінах з Югаславіяй, і Італіі, якая імкнецца захаваць Венгрыю ў арбіце свайго ўплыву.

Гэтым не вычэрпваюцца для італьянскага фашызма небяспекі, звязаныя з захватам Аўстрыі гітлераўскай Германіяй. Аншлюс стварыў-бы непасрэдную пагрозу паўднёваму Тіролю, у значнай меры заселенаму немцамі. Акрамя таго, Германія паспрабавала-б атрымаць выхад у Сярэдземнае мора, што паставіла-б пад пагрозу германскага ўдару важнейшыя італьянскія парты ў Адрыятычным моры. Гэтым належыць тлумачыць тое, што Італія рашуча супраціўляецца ажыццяўленню Германіяй аншлюса ў якой-бы там ні было форме.

Германскі фашызм ставіць сабе таксама мэтай захват Чэхаславакіі, рад абласцей якой у значнай частцы заселены немцамі Паўночнага Шлезвіга, які адышоў па Версальскаму дагавору к Даніі; абласцей Эйпен і Мальмедзі, якія ўваходзяць цяпер у склад тэрыторыі Бельгіі. Было-б таксама памылкова лічыць, што германскі фашызм адмовіўся ад сваіх захватніцкіх планаў у адносінах Польшчы (верхняя Сілезія і Польскі карыдор) і «вольнага горада» Данцыга, не гледзячы на зацікаўленасць Германіі ў выкарыстанні Польшчы супроць Францыі і супроць Савецкага саюза.

Нарэшце гітлераўская Германія імкнецца да захвату прыбалтый-

скіх краін з мэтай ператварэння іх у плацдарм для падрыхтоўкі антысовецкай вайны, якая застаецца галоўнейшай задачай германскага фашызма. Гітлераўская Германія не толькі не скрывае сваіх агрэсіўных намераў у адносінах СССР, але, наадварот, адкрыта аглашае свае планы расчлянення Совецкага саюза, імкнучыся выкарыстаць у сваіх імперыялістычных мэтах класавую ненавісць капіталістычнага свету супроць социялістычнай дзяржавы.

* * *

Для выканання сваёй захватніцкай праграмы германскі фашызм шалёнымі тэмпамі ўзбройваецца.

Версальскі дагавор істотна абмежаваў правы Германіі на ўзбраенне. Колькасць германскіх сухапутных сіл была вызначана максімальнаю лічбай у 100.000 чалавек, уключаючы афіцэраў і нестраявых. Выключнае прызначэнне гэтай арміі павінна было заключацца ў падтрыманні парадку ўнутры краіны, г. зн. у барацьбе з рабочым класам і ў нясенні пагранічнай службы.

У Версальскім дагаворы было асоба агаворана, што ўсеагульная вайсковая павіннасць у Германіі адмяняецца, што яе армія можа камплектавацца толькі шляхам добраахвотнага найму і што забараняюцца якія-б там ні было меры па мабілізацыі насельніцтва. Версальскі дагавор істотна абмежаваў нормы ўзбраенняў, знаражэння і матар'яльнай часткі германскай арміі і цалкам забараніў Германіі мець ваенную і морскую авіяцыю і падводны флот.

Не гледзячы на гэтую пастанову Версальскага дагавора, германскі імперыялізм тайна ўзбройваўся і падрыхтоўваў вайсковыя кадры не толькі ў арміі, але і ў шматлікіх фашысцкіх арганізацыях замаскаванага ваеннага тыпу. Нелегальныя ўзбраенні Германіі асабліва ўзраслі з часу прыходу к уладзе Гітлера. У выніку Германія ўжо к пачатку гэтага года мела ў сваім распараджэнні такія ваенныя сілы, якія дазволілі ёй не апасацца прэвентыўнай вайны з боку краін, зацікаўленых v захаванні версальскай сістэмы.

Далейшым крокам у галіне аднаўлення германскага імперыялізма з'явілася аднабаковае ануляванне Германіяй 16 сакавіка гэтага года ваеннага раздзелу Версальскага дагавора. Гэты акт быў ажыццёўлен Гітлерам пад прыкрыццём лозунга «раўнапраўя» у галіне ўзбраенняў. У Германіі зараз уведзена ўсеагульная вайсковая павіннасць, легалізавана існаванне ваенна-паветранага флоту і створана армія ў складзе 36 дывізій.

Аб ступені інтэнсіўнасці тайнай ваеннай падрыхтоўкі ў Германіі можна меркаваць па тым, што ў час перагавораў англійскага міністра замежных спраў Саймона з Гітлерам апошні прызнаў, што германскі паветраны флот ровен англійскаму. У сапраўднасці-ж Германія ўжо зараз не толькі ўраўняла свае паветраныя сілы з паветранымі сіламі, размеркаванымі на тэрыторыі Злучанага Каралеўства, але значна іх перавысіла.

Нам. наркома абароны тав. Тухачэўскі ў артыкуле «Ваенныя планы сучаснай Германіі» адзначае, што германскі ваенны паветраны флот налічвае 3.700 аэрапланаў, у тым ліку 2.100 бамбардыроўшчыкаў і разведчыкаў. У планы Герынга на бліжэйшы перыяд уваходзіць давядзенне авіяцыі да 16.000 аэрапланаў.

Аднаўляецца таксама былая морская магутнасць Германіі. Германскі флот налічвае 9 лінкораў, 8 крэйсераў, 12 эсмінцаў, 20 міна-

носцаў, 26 падводных лодак. Асабліва інтэнсіўна ідзе зараз пабудова падводнага флоту, эфектыўнасць якога была даволі добра выпрабавана Германіяй у час сусветнай вайны.

Тав. Тухачэўскі ў адзначаным вышэй артыкуле піша:

> «Для ажыццяўлення сваіх рэваншысцкіх і захватніцкіх планаў Германія будзе мець к лету гэтага года армію мінімум у 849.000 чалавек, г. зн. армію, большую на 40%, чым Францыя, і амаль такую-ж па колькасці як СССР (у СССР 940.000 чалавек, лічачы ўсе роды войск). І гэта не гледзячы на тое, што СССР мае ў 2½ раза больш насельніцтва і ў дзесяткі раз больш тэрыторыі, чым Германія».

* * *

Аднаўленне германскага імперыялізма, які адкрыта высоўвае праграму новага перадзелу свету, з'яўляецца самым важным фактам сучаснага міжнароднага становішча, які вызначае новую расстаноўку імперыялістычных сіл у Еўропе. Французскі імперыялізм, які на працягу раду год вёў у адносінах Германіі выключна хісцкую і пасіўную палітыку, аказаўся не ў стане папярэдзіць імклівы рост германскіх узбраенняў. Не адважваючыся прымусовым шляхам прымусіць Германію выконваць умовы Версальскага дагавора, французскі імперыялізм абмежаваўся паасобнымі запазніўшыміся ўступкамі, якія толькі ўзмацнілі пазіцыі германскага імперыялізма ў яго барацьбе супроць версальскай сістэмы і адначасова расхісталі базу французскага ўплыву ў Еўропе.

Германія сустракала на працягу раду год сур'ёзнае падтрыманне з боку Вялікабрытаніі і Італіі. Вялікабрытанія кіравалася жаданнем выкарыстаць Германію для пэўнага аслаблення Францыі, якая дзякуючы саюзным адносінам з Польшчай і Малой Антантай прэтэндавала на пануючае становішча ў Еўропе. Пры гэтым Вялікабрытанія выходзіла з меркаванняў, што ўзмацненне ваеннай магутнасці Германіі не зойдзе так далёка, каб закрануць інтарэсы Вялікабрытаніі. Што-ж датычыць Італіі, то яна імкнулася выкарыстаць франка-германскія супярэчнасці ў сваёй барацьбе супроць французскай гегемоніі. Італія разлічвае на тое, што Германія, зацікаўленая ў італьянскім падтрыманні, адмовіцца ад экспансіі ў напрамку паўднёва-ўсходняй Еўропы, у прыватнасці ад спробы захвату Аўстрыі.

Развіццё палітыкі гітлераўскай Германіі выявіла памылковасць як англійскіх, так і італьянскіх разлікаў. Гіганцкі рост германскай бамбардыровачнай авіяцыі, якая можа стварыць сур'ёзную пагрозу найбольш важным індустрыяльным цэнтрам Вялікабрытаніі, і ліхаманкавае будаўніцтва германскага падводнага флоту не маглі не прывесці да яшчэ большага хістання палітыкі англійскага ўрада ў адносінах да Германіі.

Вялікабрытанія ад безагаворачнага падтрымання Германіі пераходзіць да палітыкі большага зближэння з Францыяй, унікаючы, аднак, разрыў з Германіяй і прадаўжаючы садзейнічаць рэалізацыі раду дамаганняў германскага імперыялізма. Далей, Германія пакуль што не толькі не выявіла гатоўнасці лічыцца са знешне-палітычнымі інтарэсамі Італіі ў паўднёва-ўсходняй Еўропе і ў Аўстрыі, але, наадварот, актывізавала сваю дзейнасць у гэтай частцы еўрапейскага кантынента. Немінучым вынікам гэтага з'явілася франка-італьянскае зближэнне і пагоршанне адносін паміж Германіяй і Італіяй.

Аднаўленне германскага імперыялізма прывяло, такім чынам, да некаторага збліжэння Англіі, Францыі і Італіі супроць гітлераўскай Германіі, што асабліва ярка выявілася на канферэнцыі ў Стрэзе і на надзвычайнай сэсіі Совета Лігі нацый, якія абмяркоўвалі становішча, створанае аднабаковым ануляваннем Германіяй 5 раздзелу Версальскага дагавора.

* * *

Канферэнцыя ў Стрэзе і Совет Лігі нацый асудзілі дзеянні Германіі, аднак не намецілі ніякіх практычных мер для абмежавання германскага імперыялізма, які не лічыцца з інтарэсамі міру.

Па ініцыятыве Італіі на канферэнцыі ў Стрэзе было абмеркавана таксама пытанне **аб пагрозе незалежнасці Аўстрыі з боку германскага фашызма.** Канферэнцыя пацвердзіла англа-франка-італьянскія дэкларацыі ад 7 лютага і 27 верасня 1934 года аб неабходнасці захавання незалежнасці Аўстрыі і рэкамендавала скліканне ў Рыме канферэнцыі з мэтай заключэння дунайскага пакта.

Як вядома, план заключэння гэтага пакта ўзнік у выніку франка-італьянскіх перагавораў, якія адбыліся 3—7 студзеня г. г. у Рыме. Да ўдзелу ў дунайскім пакце мяркуецца прыцягнуць паміма Аўстрыі Польшчу, Чэхаславакію, Румынію, Югаславію, Францыю, Італію і Германію. Далучэнне Германіі да дунайскага пакта мела-б асоба важнае значэнне, бо зараз дзяржаўнаму існаванню Аўстрыі пагражае толькі германскі фашызм.

Да сучаснага моманту Італіі і Францыі не ўдалося, аднак, знішчыць труднасці, што стаяць на шляху склікання рымскай канферэнцыі, галоўным чынам у выніку рашучага супраціўлення, якое аказваюць заключэнню дунайскага пакта Германія, а таксама Венгрыя, ва ўрадавых колах якой сур'ёзна ўзмацніўся германскі ўплыў.

Рымская канферэнцыя была спачатку прызначана на 20 мая; пазней тэрмін яе склікання быў перанесен на 3 чэрвеня. Зараз ўжо не падлягае сумненню, што ў бліжэйшы час канферэнцыю склікаць не ўдасца. Аднак, нават, калі-б Францыі і Італіі ўдалося склікаць рымскую канферэнцыю і дабіцца заключэння дунайскага пакта—з удзелам ці без удзелу Германіі—само сабою зразумела, што незалежнасць Аўстрыі ад германскага імперыялізма гэтым далёка яшчэ не была-б забяспечана. Справа ў тым, што дунайскі пакт не здольны стварыць перашкод дзейнасці германскага фашызма, накіраванай на заваёву Аўстрыі знутры, пакольні гэта дзейнасць ажыццяўляецца праз аўстрыйскіх нацыянал-соцыялістаў.

У выніку ўстанаўлення, няхай сабе нават адноснага і часовага, «адзінага» фронту Англіі, Францыі і Італіі ў адносінах Германіі на канферэнцыі ў Стрэзе і на Сэсіі Совета Лігі нацый, германскі імперыялізм пацярпеў сур'ёзнае дыпламатычнае паражэнне. Было-б аднак памылкаю лічыць, што Англія адмовілася ад сваёй дваістай палітыкі ў адносінах да Германіі.

Гэта знашло сваё адлюстраванне ў імкненні Англіі ва што-б там ні стала пачаць з Германіяй перагаворы па асобных, найбольш важных для Англіі пытаннях, у прыватнасці адносна раздзелу паветраных і морскіх узбраенняў Германіі.

У роўнай меры нельга лічыць, што Італія канчаткова парвала са сваёй ранейшай палітыкай падтрымання Германіі з мэтай шантажа

Францыі і Англіі. Гітлераўская Германія ў апошні час даволі лоўка і не без поспеху выкарыстоўвае нездаволенасць Італіі супраціўленнем Англіі і Францыі яе планам захвату Абісініі, для таго каб зноў забяспечыць сабе італьянскае падтрыманне і пагоршыць узаемаадносіны Італіі з Англіяй і Францыяй.

Прамова Гітлера ад 21 мая г. г. сведчыць аб тым, што Германія не адмовілася ад сваіх захватніцкіх планаў у напрамку ўсходняй і паўднёва-ўсходняй Еўропы, не праяўляе ніякай гатоўнасці абмежаваць свае ўзбраенні, не мае намеру даць якія-б там ні было гарантыі непарушэння міру. Тая акалічнасць, што прамова Гітлера сустрэла ў Англіі наогул спрыяючы водгук, лішні раз сведчыць аб адзначаных хістаннях англійскай палітыкі.

У пачатку чэрвеня ў Лондане было заключана пагадненне паміж Германіяй і Англіяй адносна морскіх узбраенняў. У аснову пагаднення пакладзен прынцып суадносін паміж германскім і англійскім флотам—35: 100. Германія атрымлівае права давесці танаж свайго флота да ўзроўню 35 проц. не да агульнага танажа англійскага флота, а да танажа паасобных катэгорый (класаў) яго караблёў.

Найбольш наглядна можна паказаць гэта ў наступнай табліцы:

| Класы караблёў | Вялікабрытанія | Германія |
|---|---|---|
| | Агульны танаж (у тыс. тон) | Танаж на падставе 35 : 100 (у тыс тон) |
| Лінкоры | 525 | 183,7 |
| Авіяносцы | 135 | 42,7 |
| Крэйсеры | 338 | 117,3 |
| Эсмінцы | 150 | 52,5 |
| Падводныя лодкі | 52 | 18,4 |
| Разам | 1 200 | 414,6 |

Як відаць з табліцы, англійскі ўрад прадастаўляе Германіі права мець морскі флот з танажам у 414,6 тыс. тон, што ў адносінах да сучаснага танажу германскага флота (каля 200 тысяч тон) азначае рост ваенна-морскіх сіл Германіі на 110 проц.

Англа-германскае морскае пагадненне мае вялікае значэнне для ўсёй міжнароднай палітыкі. Узмацненне германскіх морскіх узбраенняў будзе шырока выкарыстана самой Англіяй для павелічэння сваіх ваенна-морскіх сіл. Гэта цягне за сабою гонку ва ўзбраенні Францыі, Італіі і ЗША. Аб гэтым зусім адкрыта заяўляе французскі і амерыканскі друк.

Абвострание між'імперыялістычных супярэчнасцей, узмацненне ваеннай небяспекі—вось знешне-палітычныя вынікі англа-германскага морскага пагаднення.

Японская буржуазія выкарыстоўвае ўнутраныя супярэчнасці капіталістычных краін для заваёвы цэнтральнага і паўночнага Кітая, каб расчысціць сабе шлях для наступлення на Захад.

Новае наступленне японскага імперыялізма на Кітай старанна падрыхтавана і разлічана на тое, каб даць японскаму імперыялісту максімальныя поспехі з мінімальнай затратай часу.

Перад гэтым наступленнем Японія заігрывала з англійскім урадам. У студзені г. г. міністр замежных спраў Хірота трымаў у японскім парламенце прамову аб новым дружаственным курсе ў адносінах Кітая.

Чан-Кай-Шы зараз заявіў, што «прамова Хірота здаецца нам зваротным пунктам кітайска-японскіх адносін». Ван-Дчжын-Вей—глава нанкінскага ўрада—у сваёй прамове 22 лютага прызнаў, што «прамова Хірота усяліла ў нас вялікую радасць і надзеі на блізкую дружбу абодвух народаў».

Але неўзабаве за выступленнем Хірота пачалося наступленне япона-манчжурскіх войск на Чахар. За Чахарам паследвала наступленне на Паўночны Кітай.

«Паўночны Кітай,—заявіў нядаўна адкрыта японскі чыноўнік,—можа лёгка існаваць і без Чан-Кай-Шы».

Непасрэдная мэта чарговага японскага наступлення—захапіць Паўночны Кітай, ператварыць яго ў «марыянетачную дзяржаву» для далейшай стратэгічнай падрыхтоўкі наступлення на Цэнтральны Кітай.

Для дасягнення гэтай грандыёзнай мэты патрабуюцца разнастайныя метады, пачынаючы ад уяўнай дружбы, подкупу прэсы, гаміндаdebугаўскіх чыноўнікаў, канчаючы прымяненнем узброенай сілы.

З поваду ўяўнай япона-кітайскай дружбы адна еўрапейская газета правільна заўважыла: «Калі Японія працягвае сваю брацкую руку для аховы Кітая, можна быць упэўненым, што гэтая рука цяжка ляжа на плечы Кітая».

Вядома, што Германія цалкам падтрымлівае захватніцкія планы Японіі. Германія ў саюзе з Японіяй актыўна рыхтуе новую імперыялістычную бойню, рыхтуе вайну супроць Совецкага саюза. Адным са звенняў адзінага фронту супроць Совецкага саюза з'яўляецца таксама і блок Германіі з Польшчай.

Становішча ў Польшчы характарызуецца рэзкім абвостраннем класавых супярэчнасцей. Сярод мас расце цяга да адзінага фронту барацьбы супроць фашысцкай дыктатуры, супроць небяспекі вайны, супроць наступлення капітала. Згрупоўваюцца і сілы контррэволюцыі, якая фашысцкім тэрорам спрабуе затрымаць развіццё рэволюцыйнага руху і ў саюзе з фашысцкай Германіяй узмоцненым тэмпам рыхтуе новую контррэволюцыйную вайну супроць СССР.

Імперыялістычныя імкненні польскай нацыі—рух на ўсход, г. зн. мара польскіх паноў аб Польшчы «ад мора да мора» запала ўжо даўно. Аднак, слабасць Польшчы, як дзяржавы, не дазволіла ёй адразу-ж пайсці па гэтым шляху. Пад уплывам цэлага раду ўнутраных і знешніх прычын польскім верхаводам прышлося шукаць гарантый у тых, каму яна была абавязана сваім існаваннем.

У 1919 годзе Польшча і Францыя заключылі саюзны дагавор, які служыў асновай іх узаемаадносін і ў сілу якога знешняя палітыка Польшчы падпадала значнаму ўплыву французскага імперыялізма—вяршыцеля ўсіх спраў пасляваеннай Еўропы. Такое становішча цягнулася аж да перавароту, утворанага Пілсудскім у маі 1926 года.

Пасля майскага перавароту вельмі хутка ў знешняй палітыцы

ўрада Пілсудскага пачалася змена, прадыктаваная інтарэсамі польскіх кансерватараў, з дапамогаю якіх Пілсудскі прышоў к уладзе.

Польскі экспарт у Германіі адыгрывае вялікую ролю ў знешнім гандлі Польшчы, прычым у германскім рынку збыту найбольш зацікаўлены польскія памешчыкі.

Побач з гэтым добра вядома, што кіраўнікі польскіх кансерватараў—пераважна буйныя памешчыкі з усходніх акраін польскай дзяржавы, прагнаныя Окцябрскай рэволюцыяй з наседжаных імі буйнейшых маёнткаў на Украіне і Беларусі. Не жадаючы мірыцца са стратай сваіх маёнткаў, польскія памешчыкі, як і магнаты прамыславафінансавага капітала, якія таксама імкнуцца к заваяванню калоній на ўсходзе, за кошт Совецкага саюза, песцяць думку аб тым, каб у блоку з германскім імперыялізмам выступіць супроць краіны Советаў.

Па меры таго, як Пілсудскаму ўдавалася прашчупаць, што Германія, перш чым пачаць свае акцыі супроць Польшчы з мэтай дэзарганізацыі французскага тылу, гатова пайсці на пэўнае з ёю збліжэнне (не адмаўляючыся ад прэтэнзій на Польскае памор'е), ён аднаўляе старую канцэпцыю пагадненняў і ўступак у карысць Германіі на заходняй граніцы, адначасова з уласнай экспансіяй на Ўсход.

Нашчупваюцца агульныя пункты ўзаемадзейнасці генеральных штабаў і выпрацоўваецца адзіны стратэгічны план контррэволюцыйнай вайны супроць Совецкага саюза. Ліхаманкава працуе дыпламатыя вайны, выкапваючы з архіваў старыя ідэі антысовецкага польска-германскага саюза.

Але ці няма на шляху ажыццяўлення гэтай палітыкі падводных рыфаў, якія могуць не толькі затрымаць карабель, але і спусціць яго на дно? З яўным непакоем буржуазнаму друку прыходзіцца канстатаваць аб рэволюцыйным бражэнні сярод шырокіх працоўных мас, якое тоіць у сабе нязмерную патэнцыяльную сілу.

17 лютага г. г. адбылася канферэнцыя рабочых дэлегатаў Варшавы. Ва ўмовах узмоцненага наступлення фашызма, нечуванага тэрору і непасрэднай небяспекі контррэволюцыйнай вайны, якую Польшча рыхтуе супроць СССР, рабочая канферэнцыя пад дружныя апладысменты прыняла рэзалюцыю па пытанню знешняй палітыкі. Сэнс рэзалюцыі такі, што не лічыцца з ёю нельга:

> «Канферэнцыя рабочых Варшавы стаіць на глебе захавання згоды ва ўсім свеце. Канферэнцыя пратэстуе супроць палітыкі саюза з Гітлерам, якая праводзіцца санацыяй (пілсудчынай). Канферэнцыя пратэстуе супроць усякіх спроб інтэрвенцыі ў СССР».

Не ўпэўнены польскія дыктатары ў сваёй арміі. Улада ўсякім спосабам стараецца ахаваць салдат ад рэволюцыйнага руху, ад уплыву «палітыкі». Але нездаволенасць салдацкіх мас усё больш узмацняецца, сям-там перарастаючы ў адкрытае бражэнне.

Ва ўзаемаадносінах паміж Польшчай і Германіяй таксама не ўсё гладка. Аб гэтым гавораць апошнія артыкулы як германскай, так і польскай прэсы, прысвечаныя агульным \ спрэчным пытанням аб рэжыме ў Данцыгу, аб становішчы нямецкіх меншасцей у Польшчы, аб эканамічных адносінах паміж абодвума краінамі і інш.

Па-першае, выбары ў данцыгскі фолькстаг, якія праходзілі пад знакам польска-германскага антаганізма, сведчаць аб тым, што аб

нармалізацыі польска-германскіх адносін у Данцыгу гаварыць яшчэ вельмі рана.

Не лепш справа і са становішчам германскіх меншасцей у Польшчы. Гэта старое пытанне—хваравітая праблема ў польска-германскіх адносінах.

Парцэляванне германскіх маёнткаў у Польшчы, што праводзіцца на аснове аграрнай рэформы, праследуе мэту ліквідацыі важнейшых фарпостаў германскага ўплыву на Памор'е. Гэта акалічнасць не можа не напалохаць гітлераўцаў, якія імкнуцца якраз к адваротнаму, і выклікае іх горкія скаргі. Так, напрыклад, «Дэйчэ рундшау», каментуючы агра-мерапрыемствы польскага ўрада, піша: «Немца зусім выцясняюць з Памераніі, дзякуючы прымусоваму парцэляванню. Немцу, як у роўнай меры і паляку, атрыманая ў спадчыну зямля, на якой памёр яго бацька і жывуць яго дзеці, нязмерна дарага... Закон не толькі закрануў нямецкіх грамадзян, якія займаюцца земляробствам, але і ад іх залежных немцаў, што працуюць у гарадах».

Нарэшце і ў галіне эканамічных адносін паміж удзельнікамі дзесяцігадовага пакта *) не ўсё добра. Уплывовыя нямецкія газеты і часопісы часта пішуць, што польскі імпарт у Германію значна перавышае германскі экспарт у Польшчу, што польска-германскае гандлёвае пагадненне не апраўдала сябе і т. д. Гандлёвы зварот паміж Германіяй і Польшчай усё больш скарачаецца.

Аб'яднаныя адной агульнай ідэяй контррэвалюцыйнай барацьбы з Совецкім саюзам, Польшча і Германія не маюць мажлівасці вырашыць свае супярэчнасці, уласцівыя ўсяму капіталістычнаму свету.

Польскі і германскі імперыялізм мяркуе вырашыць іх праз арганізацыю контррэвалюцыйнай вайны супроць Совецкага саюза. Усё часцей польскія паны кідаюць свой позірк у бок правабярэжнай Украіны і былых беларускіх маёнткаў князёў Радзівілаў ды Сапег.

Усё настойлівей яны крычаць пра сваю «гістарычную місію» вернага вартаўніка ўстояў капіталізма і аплота супроць пралетарскай рэвалюцыі ў Еўропе.

Але гэтым шляхам ні германскаму ні польскаму імперыялізму сваіх супярэчнасцей не вырашыць. Украінскія і беларускія рабочыя і сяляне добра памятаюць эксплаатаваўшых іх польскага памешчыка і капіталіста.

Няма іншай сілы для вызвалення польскага народу ад цяжкіх для яго вынікаў капіталістычных супярэчнасцей, акрамя пралетарыята і працоўнага сялянства, якія ўсё больш рашуча рыхтуюцца да рашаючага бою за пралетарскую рэвалюцыю.

* * *

Асноўнай задачай знешняй палітыкі СССР заўсёды была паслядоўная і настойлівая барацьба за мір.

У сваім гістарычным выступленні на XVII з'ездзе тав. Сталін даў наступную выключна яскравую характарыстыку напрамку міжнароднай палітыкі СССР:

> «Наша знешняя палітыка ясна. Яна ёсць палітыка захавання міру і ўзмацнення гандлёвых адносін з усімі краінамі. СССР не

*) Польска-германскі пакт.

думае пагражаць каму-б там ні было і—тым больш—напасці на каго-б там ні было. Мы стаім за мір і адстойваем справу міру».

Задача барацьбы за захаванне міру ніколі не была так актуальна, як у сучасны момант. Абвостранне пагрозы вайны не магло не пабудзіць урады тых краін, якія па розных прычынах, на даным гістарычным этапе, не зацікаўлены ў развязванні вайны, шукаць супрацоўніцтва з Совецкім саюзам, які з'яўляецца самым магутным фактарам міру. Гэта ў першую чаргу адносіцца да Францыі і краін Малой Антанты, для якіх палітыка германскага імперыялізма стварае асобую пагрозу. Кіруючыя колы французскай буржуазіі ўлічылі паўнейшую неабгрунтаванасць ілюзій адносна магчымасці забяспечання інтарэсаў асноўных капіталістычных краін, якія процістаяць Германіі, шляхам заахвочвання германскай экспансіі ў напрамку ўсходняй Еўропы, г. зн. Совецкага саюза.

Верны інтарэсам міру, совецкі ўрад заўсёды ўдзяляў выключную ўвагу праблеме безапаснасці. СССР заключыў з радам дзяржаў, як пагранічных, так і не маючых з ім агульных граніц, пакты аб ненападзе. З радам краін былі падпісаны пагадненні адносна вызначэння разумення агрэсара, якія маюць сур'ёзнае значэнне ў справе арганізацыі міру.

Асабліва важнае значэнне ў справе барацьбы за мір мела ўступленне СССР у Лігу нацый. Эвалюцыя знешняй палітыкі раду ўваходзячых у Лігу нацый краін і выхад з Лігі тых краін, палітыка якіх прадстаўляе сабою ў сучасны момант найбольш рэальную пагрозу справе міру, прывялі к таму, што гэта міжнародная арганізацыя ператварылася ў фактар, які ў некаторай меры тармозіць развязванне ваенных канфліктаў.

Статут Лігі нацый абавязвае ўсе ўваходзячыя ў склад гэтай арганізацыі дзяржавы паважаць цэласнасць і недатыкальнасць іншых дзяржаў і вырашаць спрэчныя пытанні выключна шляхам мірнага разбірання, прычым, у выпадку нападу на дзяржаву—члена Лігі нацый—другой дзяржавы, якая ўваходзіць у Лігу нацый або не з'яўляецца яе членам, Ліга нацый абавязана прыняць меры да эканамічнай і фінансавай блакады нападаючай дзяржавы і аказання ваеннай дапамогі дзяржаве, якая падверглася нападу.

Агульны характар гэтых палажэнняў статута Лігі нацый прывёў на практыцы к таму, што дзеянні паасобных дзяржаў, парушыўшых абавязацельствы, што ляжаць на дзяржавах—членах Лігі нацый, і стварыўшых у сувязі з гэтым пагрозу ўсеагульнаму міру, не сустрэлі адпору.

Узнікшая ў працэсе супрацоўніцтва паміж СССР і Францыяй прапанова аб узмацненні безапаснасці і ўмацаванні міру шляхам рэгіянальных пактаў узаемадапамогі, заключаемых на падставе статута Лігі нацый і не накіраваных к ізаляцыі або акружэнню якой бы там ні было дзяржавы, мела на мэце зрабіць магчымым сапраўднае прымяненне адзначаных вышэй палажэнняў статута Лігі нацый.

Наяўнасць рэгіянальных пактаў узаемадапамогі зрабіла-б больш затрудненым парушэнне міру, бо нападаючая дзяржава павінна была-б лічыцца з абавязацельствам цэлай групы краін—аказваць узброеную дапамогу краіне, якая падверглася нападу. Не віна Совецкага саюза, калі палажэнне аб заключэнні шматбаковага рэгіянальнага пакта не змагло быць ператворана ў жыццё.

Супраціўленне, аказанае Германіяй і Польшчай заключэнню рэ-

гіянальнага ўсходняга пакта ўзаемнай дапамогі не магло, аднак, затрымаць далейшых намаганняў СССР, у супрацоўніцтве з Францыяй, у напрамку арганізацыі безапаснасці. Рэзультатам гэтых намаганняў з'явілася падпісанне 2 мая гэтага года дагавора аб узаемнай дапамозе паміж СССР і Францыяй, што сведчыць аб цвёрдай рашучасці абодвух урадаў прадаўжаць барацьбу супроць ваеннай пагрозы. Непасрэднай задачай совецка-французскага дагавора з'яўляецца ўдакладненне і ўмацаванне тых гарантый калектыўнай небяспекі, якія прадугледжаны статутам Лігі нацый.

Артыкул 10 статута прадугледжвае абавязацельства членаў Лігі нацый «паважаць і захоўваць супроць усякага знешняга нападу тэрытарыяльную цэласць і існуючую палітычную незалежнасць усіх членаў Лігі». У сувязі з гэтым арт. 1 дагавора ўстанаўляе, што ў выпадку, калі-б СССР або Францыя з'явіліся прадметам пагрозы або небяспекі нападу з боку якой-небудзь еўрапейскай дзяржавы, дамаўляючыяся бакі абавязваюцца прыступіць да безадкладнай кансультацыі, у мэтах сапраўднага захавання пастаноў арт. 10 статута Лігі нацый.

Артыкул 15 статута Лігі нацый адносіцца да выпадкаў узнікнення паміж членамі Лігі канфліктаў, якія могуць пацягнуць за сабою разрыў дыпламатычных адносін, і прадугледжвае перадачу гэтых канфліктаў на вырашэнне Совета Лігі нацый. У гэтым выпадку, аднак, калі Совет не прымае з гэтага поваду аднагалоснага рашэння, § 7 арт. 15 пакідае за членамі Лігі права дзейнічаць так, як яны палічаць патрэбным «для захавання права і правасуддзя», што па сутнасці азначае магчымасць «легальна» прыбегнуць к вайне. Улічваючы гэта, арт. 2 дагавора ўстанаўляе, што, калі Францыя або СССР з'явіліся-б прадметам нападу з боку якой-небудзь еўрапейскай дзяржавы ва ўмовах, прадугледжаных § 7 арт. 15 статута, то бакі безадкладна акажуць адзін другому дапамогу і падтрыманне.

Артыкул 16 статута Лігі нацый адносіцца да выпадку, калі тая або іншая дзяржава прыбягае да вайны, не зварачаючыся перад гэтым ні да згодавага, трацейскага, або судовага разгляду, ні да Совета Лігі нацый. У гэтым выпадку дзяржава, прыбегшая к вайне, «разглядаецца як утварыўшая акт вайны супроць усіх іншых членаў Лігі», якія павінны ўдзельнічаць у эканамічных, фінансавых, ваенных або іншых санкцыях супроць парушальніка міру. Гэта абавязацельства носіць, аднак, надзвычай агульны характар. У сувязі з гэтым арт. 3 дагавора ўстанаўляе прамое абавязацельства для СССР і Францыі аказаць адзін другому безадкладную дапамогу і падтрыманне ў адпаведнасці з арт. 16 статута, прычым гэтае абавязацельства застаецца ў сіле і ў тым выпадку, калі Совет Лігі нацый па якіх-небудзь прычынах не вынесе ніякага рашэння.

Прадугледжаныя совецка-французскім дагаворам абавязацельствы дапамогі адносяцца да выпадкаў нападу, зробленага на ўласную тэрыторыю СССР або Францыі.

Заключэнне дагавора аб узаемнай дапамозе паміж СССР і Францыяй сведчыць аб цвёрдай рашучасці абодвух урадаў прадаўжаць барацьбу супроць ваеннай пагрозы за арганізацыю безапаснасці.

Разам з тым дагавор, зусім натуральна, стварае вельмі спрыяючыя прадпасылкі для далейшага развіцця дружаственых адносін паміж СССР і Францыяй. Наглядным пацверджаннем апошняй акалічнасці з'явіўся візіт у Маскву п. Лаваля, паследваўшы непасрэдна за падпісаннем дагавора.

У афіцыяльным паведамленні аб гутарках т. т. Сталіна, Молатава і Літвінава з п. Лавалем гаворыцца, што «пры абмене думкамі было канстатавана поўнае саўпаданне поглядаў абодвух бакоў на тыя абавязацельствы, якія пры стварыўшымся міжнародным становішчы выцякаюць для дзяржаў, шчыра адданых справе захавання міру і ўжо даўшых бясспрэчныя довады свайго міралюб'я шляхам гатоўнасці ўдзельнічаць у стварэнні ўзаемных гарантый».

Гэтыя гарантыі, адзіная мэта якіх заключаецца ва ўмацаванні справы міру, павінны быць створаны шляхам безадкладнага ажыццяўлення рэгіянальнага ўсходнееўрапейскага пакта, у якім змешчаны абавязацельствы ненападу, кансультацыі і неаказання дапамогі агрэсару (нападаючаму боку).

Праз кароткі тэрмін пасля падпісання совецка-французскага дагавора аб узаемнай дапамозе, а іменна 16 мая г. г., у Празе паўпрэдам СССР тав. Александроўскім і міністрам замежных спраў Чэхаславакіі Бенешам быў падпісан дагавор аб узаемнай дапамозе паміж Совецкім саюзам і Чэхаславацкай рэспублікай.

Совецка-чэхаславацкі дагавор аб узаемнай дапамозе грунтуецца на тых-жа прынцыпах, што і совецка-французскі дагавор, што з'яўляецца рэзультатам агульнасці мірных імкненняў урадаў СССР, Францыі і Чэхаславакіі. Падпісанне гэтага дагавора, паследваўшы за гэтым візіт у СССР п. Бенеша і яго гутаркі з кіраўнікамі совецкага ўрада сведчаць аб намерах Чэхаславакіі актыўна супрацоўнічаць з СССР для абароны міру.

Совецкая палітыка заключэння пактаў узаемнай дапамогі праследуе выключна абарончыя мэты і не мае рашуча нічога агульнага з палітыкай ваенных саюзаў. У сувязі з гэтым не прыходзіцца сумнявацца ў тым, што краіны, якія сапраўды імкнуцца да папярэджання пагрозы вайны, не забавяць пайсці па гэтым шляху, які дае рэальныя магчымасці для забяспечання міру і безапаснасці ўсіх народаў.

Мірная палітыка СССР, адпавядаючая інтарэсам працоўных мас не толькі Совецкага саюза, але і ўсяго свету, апіраецца на гіганцкі ўзросшую магутнасць Совецкага саюза. Гістарычныя поспехі ў справе пабудовы соцыялістычнага грамадства, дасягнутыя пад кіраўніцтвам партыі і яе вялікага правадыра тав. Сталіна, служаць залогам далейшага ўмацавання нашага міжнароднага становішча і далейшых поспехаў нашай мірнай палітыкі.



*Тав. ЧАРВЯКОЎ*
*Старшыня ЦВК БССР*

Ш. Гольдберг

# Да пытання совецка-польскай вайны

Большэвіцкая партыя з першых дзён свайго існавання з усёй яснасцю і рашучасцю паставіла пытанне аб праве нацый на сама-вызначэнне аж да дзяржаўнага аддзялення.

Правадыры большэвіцкай партыі Ленін і Сталін надавалі правільнаму вырашэнню нацыянальнага пытання агромнае значэнне, як зброі класавай барацьбы пролетарыята, бо нацыянальнае прыгнечанне з'яўляецца адным з фактараў затрымання падзення капіталізма.

> «Гэтае прыгнечанне (нацыянальнае—Ш. Г.) з'яўляецца адною з крыніц штучнага затрымання падзення капіталізма, штучнага падтрымання апартунізма і соцыял-шавінізма пануючых над светам імперыялістычных нацый» *).

Гэтую нацыянальна-вызваленчую праграму партыя процістаўляла прыгнятальнай палітыцы рускага царызма, імперыялістычнай палітыцы буржуазіі і соцыял-шавіністычнай палітыцы меншавікоў, эсэраў, ППС і інш. соцыял-шавіністаў. Большэвікі выхоўвалі пролетарыят у духу пролетарскага інтэрнацыяналізма і змагаліся за зблі-жэнне пролетарыята ўсіх нацыянальнасцей для барацьбы з агульным ворагам—капіталам.

Ленін так фармуляваў задачы рабочага класа ў галіне нацыянальнай палітыкі:

> «Пролетарыят (пануючых нацый—Ш. Г.) павінен патрабаваць свабоды палітычнага аддзялення калоній і нацый, якія прыгнятаюцца «яго» нацыяй. У праціўным выпадку інтэрнацыяналізм пролетарыята застанецца пустым і славесным: ні давер'е, ні класавая салідарнасць паміж рабочымі прыгнечанай і прыгнятаючай нацый немагчымы...
>
> З другога боку, соцыялісты прыгнечаных нацый павінны ў асаблівасці адстайваць і праводзіць у жыццё поўнае і безумоўнае, у тым ліку арганізацыйнае, адзінства рабочых прыгнечанай нацыі з рабочымі прыгнятаючай нацыі. Без гэтага немагчыма адстаяць самастойную палітыку пролетарыята і яго класавую салідарнасць з пролетарыятам іншых краін пры ўсіх і ўсялякіх прадзелках, здрадах і машэнніцтвах буржуазіі. Бо буржуазія прыгнечаных нацый заўжды ператварае лозунгі нацыянальнага вызвалення ў абман рабочых»**).

*) Ленін, т. XIX, стар. 258.
**) Ленін, т. XIX, стар. 41.

Вось чаму Ленін патрабаваў рашучай барацьбы не толькі з вялікадзяржаўным шавінізмам пануючых нацый, але і з нацыяналізмам прыгнечаных нацый. Вызваленне прыгнечаных нацыянальнасцей Расіі было ў інтарэсах рускага пролетарыята, бо

«нацыянальнае пытанне ёсць частка агульнага пытання аб пролетарскай рэволюцыі, частка пытання аб дыктатуры пролетарыята» (Сталін).

Зблiжэння пролетарыята ўсіх краін, кіраўніцтва шырокімі працоўнымі масамі прыгнечаных народаў для сумеснай барацьбы з агульным ворагам—капіталам, вось што патрабавалі большэвікі.

Ленін таксама вёў рашучую барацьбу з Р. Люксембург і яе аднадумцамі, якія недаацэньвалі важнасці нацыянальнага пытання. Большэвікі на чале з Леніным і Сталіным змагаліся як супроць адкрытай імперыялістычнай і прыгнятальнай палітыкі царызма, буржуазіі і яе агентаў меншавікоў і эсэраў, так і супроць соцыял-шавіністаў прыгнечаных нацый (ППС, Бунд і інш.), бо рускі пролетарыят не быў зацікаўлен у прыгнечанні іншых нацыянальнасцей, наадварот, ён быў зацікаўлен у салідарнасці працоўных усіх нацыянальнасцей.

У артыкуле, напісаным у снежні 1914 г., «Аб нацыянальнай гордасці велікарусаў» Ленін адзначае:

«Мы поўны пачуцця нацыянальнай гордасці, і іменна таму мы **асабліва** ненавідзім **сваё** рабскае мінулае (калі памешчыкі дваране вялі на вайну мужыкоў, каб душыць свабоду Венгрыі, Польшчы, Персіі, Кітая) і сваю **рабскую сучаснасць**, калі тыя-ж памешчыкі, спаспешэствуемыя капіталістамі, вядуць нас на вайну, каб душыць Польшчу і Украіну, каб давіць дэмакратычны рух у Персіі і ў Кітаі, каб узмацніць ганьбуючую нашу вялікарускую нацыянальную годнасць шайку Раманавых, Бобрынскіх, Пурышкевічаў. Ніхто не павінен у тым, калі ён нарадзіўся рабом; але раб, які не толькі чужаецца імкненняў к сваёй свабодзе, але апраўдвае і прыкрашвае сваё рабства (напрыклад, называе ўдушэнне Польшчы, Украіны і т. д. «абаронай бацькаўшчыны» велікарусаў), такі раб ёсць выклікаючы законнае пачуццё абурэння, пагарды і гідоты халуй і хам» *).

Ленін і Сталін вялі рашучую барацьбу з вялікадзяржаўнымі «соцыялістамі» пануючых нацый, не жадаўшымі змагацца за вызваленне прыгнечаных народаў і калоній. У час акупацыі царства польскага нямецкімі войскамі Ленін выступае супроць прыгнечання палякаў германскім імперыялізмам.

Так, у лютым 1916 г., Ленін пісаў:

«Руская дэмакратыя... **выйграла** безумоўна ад таго, што Расія **цяпер** не прыгнятае Польшчы, не трымае яе насільна. Рускі пролетарыят безумоўна ў выйгрышы ад таго, што ён не прыгнятае аднаго з народаў, які ён дапамагаў прыгнятаць учора. Нямецкая дэмакратыя прайграла безумоўна: пакуль нямецкі пролетарыят будзе цярпець прыгнечанне Польшчы Германіяй, ён застанецца ў становішчы горш чым раба, у становішчы хама, які дапамагае трымаць у рабстве другіх. Выйгралі безумоўна толькі юнкеры і буржуа Германіі» **).

*) Ленін, т. XVIII, стар. 81.
**) Ленін, т. XIX, стар. 31—32.

і Ленін заклікаў вызваліць Польшчу ад германскіх імперыялістаў.

Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя знішчыла панаванне буржуазіі, памешчыкаў і разарвала ланцугі нацыянальнага прыгнечання.

Совецкі ўрад, кіруючыся прынцыпамі ленінскай нацыянальнай *палітыкі*, у дэкларацыі праў ад 3—XI 1917 г. правазглашае поўны разрыў з палітыкай былых буржуазных урадаў Расіі, адмаўляючыся ад усіх няроўнапраўных дагавароў, і цалкам і поўнасцю прызнае незалежнасць Аўганістана, Персіі, Турцыі, Кітая і інш. прыгнечаных краін і народаў.

Адным з першых дэкрэтаў совецкага ўрада з'яўляецца дэкрэт аб праве народаў былой Расіі на самавызначэнне аж да дзяржаўнага аддзялення. Палітыка совецкага ўрада выцякала з характару самой рэволюцыі, як рэволюцыі соцыялістычнай. Пролетарская рэволюцыя, пакончыўшая з расійскім капіталізмам, разарвала ланцугі *нацыянальнага* прыгнечання, падарвала старую нацыянальную варожасць і расчысціла глебу для супрацоўніцтва народаў. Ленінская нацыянальная палітыка заваявала спачуванне і падтрыманне шырокіх мас былых прыгнечаных нацыянальнасцей і давер'е к расійскаму пролетарыяту з боку працоўных усяго свету.

Нацыянальная палітыка большэвіцкай партыі выклікала спачуванне і падтрыманне шырокіх мас вызваленых нацыянальнасцей і паслужыла адным з важнейшых момантаў, вызначыўшых перамогу большэвікоў і ў Окцябры 1917 года і ў час грамадзянскай вайны.

Што датычыць нацыянальнай буржуазіі былых акраін, то яна ў час Окцябрскай рэволюцыі хацела скарыстаць момант для аддзялення ад Расіі. Нацыянальная буржуазія на былых акраінах хацела аддзялення ад Совецкай рэспублікі з мэтай узмацніць панаванне над «сваімі» працоўнымі, не спыняючыся і перад ператварэннем гэтых буржуазных краін у калонію імперыялістычных дзяржаў. Працоўныя-ж гэтых нацыянальнасцей, пад кіраўніцтвам пролетарыята, пастаўленыя твар да твару са «сваёй» нацыянальнай буржуазіяй, імкнуліся к стварэнню советаў і к федэрацыі з совецкімі рэспублікамі.

Працэс рэзкай класавай дыферэнцыяцыі хутка паглыбляўся і прывёў да захвату ўлады рабочымі Фінляндыі, Латвіі, Украіны і цэлага раду іншых краін.

Уплыў Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі быў такі вялікі, што не толькі на былых акраінах, але ў многіх капіталістычных краінах працоўныя масы стыхійна ствараюць советы і захватваюць у свае рукі ўладу. Рэволюцыйная хваля высока ўзнялася і над Польшчай.

У канцы 1918 г. значная частка тэрыторый Польшчы пакрываецца советамі рабочых і батрацкіх дэпутатаў, выстаўляючых асноўныя лозунгі:

«Уся ўлада советам», «За дыктатуру пролетарыята». Гэтыя советы ўзначальваліся маладой комуністычнай партыяй Польшчы.

Маладая комуністычная партыя Польшчы, узнікшая ў перыяд рэволюцыйных бур і вострага пасляваеннага крызіса капіталізма, узначальвала эканамічныя і палітычныя баі польскага пролетарыята і шырокіх мас горада і вёскі.

Польскі пролетарыят разгарнуў барацьбу з буржуазіяй, якая ўтрымлівала сваё панаванне з дапамогаю штыка, кулі і шыбеніцы і з дапамогаю сваёй галоўнай апоры—ППС. ППС—былы слуга аўстрагерманскага імперыялізма—становіцца ў час стварэння незалежнай

Польшчы апорай польскай буржуазіі і не шкадуе сіл і сродкаў для абароны і захавання буржуазнага ладу.

Маладая комуністычная партыя Польшчы ў той час не мела яшчэ дастатковай большэвіцкай загартаванасці і вопыту дляператварэння советаў у органы паўстання. Але затое верны агент польскай буржуазіі—ППС прымае ўсе захады к таму, каб як мага хутчэй расправіцца з рэволюцыйным рухам польскага пролетарыята, каб потым усёй сілай абрушыцца вайною на совецкую рэспубліку. Члены ППС масамі ўступаюць у ахранку і акружаюць рабочых густою сеткай правакатараў і шпікаў. На працягу ўсяго 1918—1919 года па ўсёй Польшчы не спыняюцца арышты, пагромы і забойствы рэволюцыйных рабочых. Асабліва жорстка польская буржуазія распраўляецца з рэволюцыйнымі рабочымі Дамброўскага басейна, дзе разам з расстрэламі рэволюцыйных рабочых забіваюць іх жонак і дзяцей. Распраўляючыся з рэволюцыйным рухам унутры краіны, польская буржуазія і яе галоўная апора—ППС падрыхтоўваюць адначасова тыл для вайны з советамі з мэтай удушэння пролетарскай рэволюцыі і ажыццяўлення сваіх імперыялістычных планаў.

* * *

Польшча ўзнікла ў перыяд вострага пасляваеннага крызіса і разрухі, у агні рэволюцыйных бур, а само яе аднаўленне было паскорана Антантай з мэтай ператварэння Польшчы ў зброю сваёй палітыкі і ў першую чаргу з мэтай выкарыстання польскай дзяржавы для контррэволюцыйнай вайны супроць Совецкай Расіі.

Ужо адразу пасля Окцябрскай рэволюцыі буржуазны друк усіх краін заклікае да ўзброенай інтэрвенцыі супроць Совецкай Расіі, а ваенныя штабы і буржуазныя ўрады яе падрыхтоўваюць.

Буржуазная Польшча з самага пачатку свайго зараджэння ўступае на шлях захватаў чужых тэрыторый. Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя вызваліла працоўных адной шостай часткі зямнога шара ад прыгнечання, эксплаатацыі і галечы. У выніку пролетарскай рэволюцыі польскія зямельныя магнаты Радзівілы, Сапегі, Браневіцкія ўтрацілі свае агромныя абшары на Украіне і Беларусі, складаўшыя 48% усёй зямлі. Польская буржуазія ўтраціла агромны рынак збыту, невычэрпныя крыніцы сыравіны для сваёй прамысловасці, рабоў для шалёнай эксплаатацыі. Само існаванне Совецкай рэспублікі выклікала смяротны жах сусветнай буржуазіі за лёс капіталістычнага грамадства. Таму польская буржуазія рашуча імкнулася да каланізацыі Украіны і Беларусі, старалася разам з усёй міжнароднай буржуазіяй задушыць першую ў свеце рэспубліку працы.

Але ў той час апетыты Польшчы былі абмежаваны Антантай, бо галоўная стаўка была на рускіх генералаў. Спачатку, у час першага паходу, стаўка была на Калчака, а пасля разгрому Калчака Антанта ставіла стаўку на Дзенікіна.

> «Першы паход,—адзначае т. Сталін,—быў прадпрыняты ўвесну 1919 г. Паход гэты быў камбінаваны, бо ён меў на ўвазе сумесны напад Калчака, Дзенікіна, Польшчы, Юдзеніча і змешаных англа-рускіх атрадаў у Туркестане і ў Архангельску, прычым цэнтр цяжару паходу ляжаў у раёне Калчака» *).

*) Сталін, Новы паход Антанты на Расію. „Праўда“ ад 26-V 1920 г.

Паколькі галоўная стаўка Антанты ў час першага і другога паходу была на рускіх белых генералаў, то Польшча разглядалася тады не як галоўная сіла інтэрвенцыі, а як падсобная сіла. Галоўная стаўка, як адзначае т. Сталін, была раней на Калчака, а потым на Дзенікіна. Вось чаму Антанта абмежавала апетыты Польшчы так званай лініяй Керзона, пакідаючы ў руках Польшчы з былых рускіх уладанняў толькі чыста польскія губерніі.

Антанта імкнулася таксама выкарыстаць у барацьбе з Совецкай рэспублікай сілы ўсіх акраінных дзяржаў. Буржуазія гэтых дзяржаў не раз выступала ўзброенай рукою супроць Совецкай рэспублікі, ведучы бязлітасную барацьбу з рабочым класам, які змагаўся за сваю дыктатуру, імкнучыся адцягнуць «сваіх» працоўных ад класавых задач і захаваць сваё класавае панаванне. Яна імкнулася дабіцца гэтага таксама шляхам траўлі Совецкай рэспублікі і лямантам «аб чырвоным імперыялізме», граючы на нацыянальных і рэлігійных пачуццях мас. Адсюль, не гледзячы на некаторыя супярэчнасці, якія існавалі паміж нацыянальнымі інтарэсамі акраінных дзяржаў, Антантай і рускімі белагвардзейцамі з-за даходаў ад эксплаатацыі працоўных мас, іх аб'яднала агульная класавая ненавісць к Совецкай рэспубліцы.

Але Антанта стараецца выкарыстаць сілы акраінных дзяржаў асабліва пасля таго як свае салдаты адмовіліся ваяваць з пролетарскай рэспублікай пасля правалу першага паходу ўвесну 1919 г. Антанта імкнулася скарыстаць у якасці новай зброі супроць Совецкай рэспублікі сілы акраінных дзяржаў.

> «Пасля таго,—пісаў Ленін,—як дзяржавы праваліліся з паходам супроць Расіі, яны выпрабавалі другую зброю: там буржуазія мае сотні год вопыту і многа ўсякіх іншых зброй, і яна змагла перамяніць уласную ненадзейную зброю. Раней давілі, душылі Расію яе салдаты. Цяпер яна будзе душыць Расію пры дапамозе акраінных дзяржаў.
>
> Царызм, памешчыкі, капіталісты душылі цэлы рад акраінных народаў—Латвію, Фінляндыю і т. д. Яны выклікалі тут ненавісць адвечным прыгнечаннем. Слова «велікарос» стала самым ненавісным словам для ўсіх гэтых народаў, залітых крывёю. І вось, праваліўшыся на барацьбе супроць большэвікоў уласнымі салдатамі, Антанта ставіць стаўку на маленькія дзяржавы: паспрабуем імі задушыць Совецкую Расію!» *).

Перад малымі дзяржавамі, адзначае Ленін, была пастаўлена задача дапамогі Антанце і рускай контррэволюцыі задушыць пролетарскую рэспубліку і рэстаўраваць буржуазны лад у Расіі. Іх аб'яднала агульнакласавая ненавісць да Совецкай рэспублікі, існаванне якой выклікала жудасць усёй міжнароднай буржуазіі перад уласным пролетарыятам, перад рэволюцыяй у сябе дома. Удзел у антысовецкай інтэрвенцыі прыкрываўся «ахоўвай» самастойнасці малых народаў, ад нібы «імперыялістычных» імкненняў Совецкай Расіі.

Але, становячыся на шлях барацьбы з Совецкай рэспублікай, акраінныя дзяржавы немінуча павінны былі станавіцца зброяй у руках рускай і міжнароднай буржуазіі. Перамога Антанты і белых генералаў азначала аднаўленне рэакцыйнай Расіі—турмы народаў, азна-

*) Ленін, т. XXV, стар. 5?.

чала ліквідацыю самастойнасці гэтых дзяржаў, бо белыя зусім адкрыта гаварылі, што не прызнаюць незалежнасці гэтых народаў і стаяць за старую «адзіную, недзялімую» Расію. Што датычыць народаў, вызваленых Окцябрскай рэволюцыяй, цярпеўшых раней ад царскіх сатрапаў, то апошнія добра памяталі, як іх душылі на працягу многіх дзесяткаў год. Яны добра ведалі, што вызваленне і незалежнасць яны атрымалі дзякуючы пролетарскай рэволюцыі ў Расіі, якая адразу дала ім поўную магчымасць незалежнага дзяржаўнага існавання.

Царскі гнёт не прайшоў дарма для гэтых народаў, якія ясна ўяўлялі палітыку рускіх генералаў Дзенікіна, Юдзеніча і Калчака—палітыку, якая нічым не рознілася ад палітыкі Мураўёва-вешацеля і іншых чорнасоценцаў, душыўшых Польшчу, Латвію, Фінляндыю і інш. народы.

Буржуазія-ж гэтых дзяржаў перад тварам росту спачування працоўных мас к Совецкай Расіі вымушана была, не гледзячы на пагрозы Антанты, рабіць спробы к пагадненню з Совецкай рэспублікай, вядома, не без пастаянных хістанняў.

У канцы 1919 года Чырвоная армія атрымала рашучую перамогу над Дзенікіным, і другі паход Антанты правальваецца. Рэспубліка советаў атрымала перамогу над Антантай і яе стаўленікамі. У гэтай барацьбе Совецкай рэспубліцы была аказана велізарная дапамога з боку пролетарыята Захаду, які актыўна перашкаджаў ажыццяўленню планаў інтэрвентаў.

> «Другі паход Антанты быў прадпрыняты ўвосень 1919 года. Паход гэты быў таксама камбінаваны, бо ён меў на ўвазе сумесны напад Дзенікіна, Польшчы, Юдзеніча (Калчак быў скінуты з рахунку). Цэнтр цяжару паходу ляжыць на гэты раз на поўдні, у раёне Дзенікіна» *).

У рэзультаце разгрому Дзенікіна і перамог Чырвонай арміі на фронтах грамадзянскай вайны, у рэзультаце правільнай нацыянальнай палітыкі партыі пачынаюць мяняць свае адносіны да Совецкай рэспублікі акраінныя дзяржавы.

Латвія, Эстонія і Фінляндыя пераходзяць ад палітыкі хістання і пасіўнага чакання да непасрэдных перагавораў аб міры. 2 лютага 1920 года быў падпісан мір з Эстоніяй, які азначаў прарыў блакады. Пасля Эстоніі паследвалі мірныя перагаворы з Фінляндыяй, якія расстройвалі планы Антанты. Залежнасць гэтых краін ад Антанты прымусіла іх увесь час займаць хістаючуюся пазіцыю.

> «Яны,—гаварыў Ленін,—не смелі прама адмовіць: яны—у залежнасці ад Антанты. Яны не пайшлі на прамую дапамогу нам, яны чакалі, адцягвалі, пісалі ноты, пасылалі дэлегацыі, наладжвалі камісіі, сядзелі на канферэнцыях і прасядзелі да таго часу, пакуль Юдзеніч, Калчак і Дзенікін аказаліся раздаўленымі, і Антанта аказалася біта і ў другой кампаніі»**).

Такім чынам, як адзначае Ленін, акраінныя дзяржавы, узнікшыя дзякуючы Окцябрскай рэволюцыі, завязваюць пасля паражэння белых генералаў мірныя перагаворы з Совецкай рэспублікай супроць волі самой Антанты. Так абстаяла справа ў пачатку 1920 г. Але гэта

*) Сталін. „Правда“ за 25—26 мая 1920 г.
**) Ленін, т. XXV, стар. 54.

не азначала, што Антанта адмовілася ад далейшай барацьбы з Совецкай рэспублікай. Гэта было ясна ўказана Леніным у яго выступленні 3 красавіка 1920 года на 1-м усерасійскім з'ездзе працоўных казакаў. Падрабязна спыняючыся на прычынах перамог Совецкай рэспублікі ў барацьбе са шматлікімі ворагамі, Ленін разам з тым указвае, што небяспека новых нападаў на Совецкую рэспубліку не знішчана і што гэтая небяспека пагражае з боку Польшчы.

* * *

Ленін, спыняючыся на прычынах польскай агрэсіўнасці да Совецкай рэспублікі, гаварыў:

> «На працягу мінулых трох год Польшча, з ліку ўваходзіўшых раней у склад былой Расійскай імперыі дробных дзяржаў, належала да ліку тых, якія больш за ўсё мелі злосць на велікарускія нацыянальнасці і якія больш за ўсё мелі прэтэнзіі на большую частку тэрыторый, не населеных палякамі. Мір з Фінляндыяй, Эстоніяй і Латвіяй быў намі заключан таксама наперакор жаданню імперыялісцкай Антанты, але гэтага было лягчэй дасягнуць таму, што ў Фінляндыі, Эстоніі і Латвіі ў буржуазіі не было сваіх уласных імперыялісцкіх мэт, з-за якіх барацьба супроць Совецкай рэспублікі здавалася неабходнай, тады як імкненні польскай буржуазнай рэспублікі накіроўваліся не толькі на Літву і Беларусь, але і на Украіну. Акрамя таго, яе штурхае ў гэтым-жа напрамку старая адвечная барацьба Польшчы, якая ў свой час была вялікай дзяржавай і якая зараз супроцьстаўляецца вялікай дзяржаве—Расіі. Гэтую старую адвечную барацьбу Польшча не можа пакінуць і ў сучасны момант. Вось чаму Польшча праявіла значна больш ваяўнічасці і больш упартасці ў сваіх ваенных планах супроць нашай рэспублікі» *).

Такім чынам прычынай польскай агрэсіўнасці з'яўляецца не толькі падштурхоўванне Антанты, але і яе ўласныя імперыялістычныя імкненні.

Совецкая рэспубліка ахотна ўступіла ў мірныя перагаворы з усімі стварыўшыміся на б. акраінах Расіі дзяржавамі і прапанавала заключыць мірныя дагаворы, але Польшча, у адзнаку ад іншых акраінных дзяржаў, упарта ўхілялася. З самага моманту свайго існавання яна ўступае на шлях захватаў. Ужо 9 лістапада 1918 г. яна пачынае захватваць Заходнюю Украіну, а ў лютым 1919 г. польскія войскі без абвяшчэння вайны ўрываюцца ў Гродненскую губернію, якая з'яўлялася састаўною часткай, створанай пасля адыходу нямецкіх акупацыйных войск, Літоўска-Беларускай Совецкай Рэспублікі. І ўсе пратэсты і звароты часовага рабоча-сялянскага ўрада Літвы і Беларусі супроць польскіх захватаў чужой тэрыторыі і гатоўнасць вырашыць усе тэрытарыяльныя пытанні мірна былі адвергнуты Польшчай. На неаднаразовыя мірныя прапановы совецкага ўрада Польшча «адказала» правакацыйным расстрэлам 2 студзеня 1919 г. рускай місіі Чырвонага крыжа, якая зварочвалася з Германіі праз Польшчу ў Совецкую Расію пасля аказання дапамогі рускім хворым ваеннапалонным у Германіі.

*) Ленін, т. XXV, стар. 482.

Пад націскам польскага пролетарыята польскі ўрад пасылае свайго прадстаўніка А. Венцкоўскага ў Маскву з мэтай перагавораў. Савецкі ўрад быў гатовы весці з Венцкоўскім мірныя перагаворы па ўсіх спрэчных пытаннях. Але ўрад буржуазнай Польшчы паслаў свайго прадстаўніка не з мэтай заключэння міру, а з мэтай маскіроўкі сваіх авантурніцкіх прыгатаванняў. У той час як Венцкоўскі вёў у Маскве перагаворы, польскае войска, пераапрануўшыся ў рускую форму, без абвяшчэння вайны, урываецца ў сталіцу Літоўска-Беларускай Совецкай Рэспублікі—г. Вільню. Такім чынам перагаворы былі перарваны, і Венцкоўскі выехаў у Варшаву.

На працягу 1919 года польскае войска, без абвяшчэння вайны, захватвае тэрыторыю, а слабыя колькасна сілы Чырвонай арміі на Заходнім фронце не мелі мажлівасці аказаць белапалякам адпаведнага адпору, паколькі яе галоўныя сілы па неабходнасці былі ў той час кінуты на барацьбу з Калчаком і Дзенікіным. Тым часам Польшча атрымала агромную дапамогу ад Антанты і мела магчымасць скарыстаць момант для захопу беларускіх і украінскіх совецкіх тэрыторый. К канцу 1919 г. у руках Польшчы знаходзілася агромная частка Беларусі і частка Украіны.

К канцу 1919 г. Чырвоная армія разграміла Дзенікіна. Арганізаваны Антантай другі паход скончыўся крахам. Упартымі намаганнямі працоўных усёй краіны была заваявана перадышка. Совецкі ўрад, прызнаючы права ўсіх народаў на самавызначэнне аж да дзяржаўнага аддзялення, ахвотна імкнуўся к міру з усімі дзяржавамі і не раз звярачаўся да Польшчы з мірнымі прапановамі.

Совецкі ўрад не меў ніякіх замыслаў супроць незалежнай Польшчы. Палітыка пролетарскай рэспублікі выключала такую магчымасць, і гэта было неаднакроць і адкрыта заяўлена перад усім светам совецкім урадам і правадыром большэвіцкай партыі—Леніным.

Так на з'ездзе працоўных казакаў 1 сакавіка 1920 г. Ленін заявіў:

> «Мы гаворым таварышам у Польшчы, што мы яе свабоду беражэм, як свабоду ўсякага іншага народу, што рускі рабочы і селянін, паспытаўшы гнёт царызма, добра ведае, чым быў гэты гнёт. Мы ведаем, што найвялікшым злачынствам было тое, што Польшча была раздзелена паміж нямецкім, аўстрыйскім і рускім капіталам, што гэты раздзел асудзіў польскі народ на доўгія гады прыгнечання, калі карыстанне роднаю мовай лічылася злачынствам, калі ўвесь польскі народ выхоўваўся на адной мыслі—вызваліцца ад гэтага патройнага гнёту» *).

Рэспубліка советаў не збіралася навязваць Польшчы сілаю совецкі лад. Яна не ўмешвалася і ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў. Пытанне рэволюцыі павінен быў вырашаць сам польскі пролетарыят. У адозвах да польскага народу неаднакроць падкрэслівалася поўнае прызнанне незалежнасці і суверэннасці польскай дзяржавы. У інтарэсах спынення крывавай вайны і захавання жыцця дзесяткаў тысяч працоўных, у інтарэсах міру і соцыялістычнага будаўніцтва совецкі ўрад неаднакроць звярачаўся з мірнымі прапановамі да Польшчы. 2 лютага 1920 г. ВЦВК выпускае адозву да польскага народу, у якой яшчэ раз падкрэсліваецца шчырае імкненне к міру з Польшчай усіх працоўных Совецкай краіны і прапануецца: «пакончыць з кровепра-

*) Ленін, т. XXV, стар. 58.

літнай вайной, каб абодва народы маглі-б пачаць вайну з уціскаючымі іх бядотамі—холадам, голадам, тыфам і беспрацоўем» *).

Нарэшце, 4 лютага 1920 г. польскі міністр замежных спраў Патэк заявіў, што збіраецца адказаць на нашы мірныя прапановы ад 28 студзеня. 6 сакавіка совецкі ўрад зноў напамінае, што адказ яшчэ не атрыман. Не маючы далейшых магчымасцей захоўваць ад шырокіх мас мірную палітыку і мірныя прапановы совецкага ўрада, Польшча прыбягае к наступнаму манеўру. 27 сакавіка польскі ўрад пасылае радыё-тэлеграму ў Маскву, у якой ва ўльтыматыўнай форме прапануе прысылаць на лінію фронту ў гор. Барысаў совецкіх прадстаўнікоў для перагавораў з умовай спынення ваенных дзеянняў толькі на барысаўскім участку. Совецкі ўрад быў гатоў весці перагаворы з Польшчай у любым месцы, дзе ўгодна, толькі не ў Барысаве, бо палякі імкнуліся скарыстаць іх з тым, каб, спыніўшы ваенныя дзеянні на літоўска-беларускім участку фронту, у гэты час з усёй сілай пачаць напад на Кіеў. Вось чаму Польшча рашуча адхіліла шчырую прапанову совецкага ўрада весці перагаворы ў любым месцы за выключэннем Барысава.

У ноце, пасланай Польшчы ад 28-IV 1920 г., совецкі ўрад быў вымушан канстатаваць наступнае:

> «З прычыны таго, што апошняе паведамленне, зробленае польскім урадам, носіць характар ультыматума, адхіляючага ўсякае абмеркаванне выбару месца вядзення перагавораў акрамя Барысава, што, як вы гэта таксама разумееце, для нас непрыемлема, мы бачым сябе пастаўленымі перад прыкрай неабходнасцю прызнаць крушэнне перагавораў з Польшчай з-за пытання аб месцы» **).

Такім чынам, указанне Леніна на Польшчу, як бліжэйшую пагрозу вайны, пацвердзілася. Польшча не думала аб міры. Яшчэ ў снежні 1919 г. Пілсудскі правёў адпаведную падрыхтоўку для новага наступлення на пролетарскую рэспубліку. У канцы снежня 1919 года было заключана ваеннае пагадненне паміж Польшчай і Латвіяй, у рэзультаце якога ў студзені 1920 г. польскія войскі захапілі Дзвінск і прасунуліся разам з латвійскімі войскамі да возера Асвеі.

21 сакавіка 1920 г. быў падпісан афіцыяльны дагавор паміж Петлюрай і Польшчай, і Пілсудскі рыхтаваўся да акупацыі Украіны. Вось чаму польскі ўрад настойваў на барысаўскіх перагаворах і на перамір'і толькі на барысаўскім участку, дзе была перавага сіл Чырвонай арміі, якая прыкоўвала польскае войска.

Польскі імперыялізм даў адказ на мірную прапанову совецкага ўрада, але ён імкнуўся скарыстаць гэтыя перагаворы ў якасці дымавой заслоны для прыкрыцця сваіх захватніцкіх планаў з мэтай абману польскіх рабочых і прытуплення пільнасці Чырвонай арміі. Вось чаму польскі ўрад з-за Барысава перарывае мірныя перагаворы, а 26 красавіка 1920 г. Пілсудскі выпускае адозву да жыхароў Украіны з паведамленнем аб надыходзячай акупацыі. Такім чынам, увесну 1920 г. пачалося польскае наступленне на Украіну, што азначала 3-ці паход Антанты на Совецкую рэспубліку.

*) Чырвоная кніга, зборнік дыпламатычных дакументаў аб руска-польскіх адносінах у 1918—1920 г. г.

**) Там-жа.

Цэнтр нападу—Украіна.

5 мая 1920 г. Ленін у дакладзе на аб'яднаным паседжанні ВЦВК, Моссовета і фабрычна-заводскіх камітэтаў дае вычарпальную характарыстыку аб новай вайне.

> «Некаторыя дзяржавы,—гаварыў Ленін,—у саюзе з аднною з пагранічных дзяржаў спрабуюць зрабіць тое, што не ўдалося зрабіць усім імперыялісцкім дзяржавам у саюзе з усімі пагранічнымі дзяржавамі, і што імі было прадпрынята год і поўгода таму назад у саюзе з Калчаком, Дзенікіным і інш. Мы бачым цяпер абломкі імперыялістычнага плана. Імперыялістычныя планы адметны тым, што буржуазія тут асабліва праяўляе сваю цэпкасць. Яна ведае, што змагаецца за ўладу ў сябе дома, што тут вырашаецца пытанне не рускае ці польскае, а пытанне яе ўласнага існавання» *).

З гэтага пункту погляду, гаварыў Ленін, Антанта ў цэлым падтрымлівала Польшчу грашыма, зброяй і інструктарамі. Польшча з першых дзён свайго незалежнага існавання высунула шырокія захватніцкія планы, але ў той час яе апетыты не маглі быць поўнасцю задаволены па наступных прычынах: па-першае, буржуазная Польшча была занята падрыхтоўкаю тылу, г зн. барацьбой з рэволюцыйным польскім пролетарыятам і ўзмацненнем неакрэпшага дзяржаўнага апарата. Па-другое, Антанта, як і сама Польшча, разлічвалі тады на хуткую рэстаўрацыю буржуазнай Расіі. Выходзячы з гэтых меркаванняў, Антанта абмяжоўвала польскія апетыты і адвяла ёй падсобную ролю ў барацьбе з совецкімі рэспублікамі. Сама Польшча гэта добра ўлічыла. Гэтым тлумачыцца ўстрыманне польскіх войск ад далейшага наступлення на совецкую тэрыторыю ў час буйных поспехаў Дзенікіна. Нарэшце, значныя сілы польскай арміі былі тады заняты «упарадкваннем» межаў на захадзе з Германіяй і Чэхаславакіяй і вайною ў Галіцыі. Але к пачатку 1920 года становішча змянілася і стварылася больш спрыяючая абстаноўка для польскіх імперыялістычных імкненняў.

Пасля разгрому галоўных стаўленікаў Антанты—Калчака і Дзенікіна—Польшча ператвараецца ў галоўную сілу супроць пролетарскай рэволюцыі і ў сувязі з гэтым яна імкнецца цалкам і поўнасцю ажыццявіць свае імперыялістычныя планы.

Трэці паход Антанты ўвесну 1920 года адкрываўся пры такой абстаноўцы, калі Совецкая рэспубліка атрымала рашучую перамогу над шматлікімі стаўленікамі Антанты. У рэзультаце гэтых перамог у руках Совецкай рэспублікі знаходзіліся асноўныя раёны сыравіны, паліва і хлеба; колькасць фронтаў паменшылася ад 6 да 2-х, але ў асноўным становішча краіны было вельмі напружана з прычыны гаспадарчай і транспартнай разрухі. Совецкая рэспубліка мела патрэбу ў мірнай перадышцы для залечвання ран, нанесеных у імперыялістычнай і грамадзянскай вайне, для арганізацыі соцыялістычнага будаўніцтва. Што датычыць Польшчы, то яна падтрымлівалася Антантай, але, каб зрабіць вайну папулярнай і прыцягнуць на свой бок слаі дробнай буржуазіі, высоўваецца лозунг «вызвалення» Украіны і заключаецца саюз з Петлюрай. Саюз з Петлюрай, паводле разлікаў польскіх імперыялістаў, павінен быў служыць дымавою заслонай для лепшага прыкрыцця імперыялістычных планаў захвату і зняволення Украіны.

*) Ленін, т. XXV, стар. 258.

Польшча заключае саюз з Петлюрай і высоўвае лозунг «вызвалення» Украіны і яе федэрацыі з Польшчай, а на справе «польска-украінская і польска-совецкая вайна 1918—20 гг., паход на Менск, Вільню і Кіеў—усё гэта яскрава ўказвае на тое, што буржуазная незалежная Польшча з першага моманту свайго існавання была абернута супроць рабочай совецкай дзяржавы, супроць нацыянальна-вызваленчых імкненняў украінцаў, беларусаў, літоўцаў, звязваючы сваё існаванне з узмацненнем рабства заваяваных народаў і далейшым прасоўваннем сваіх межаў на ўсход шляхам акупацыі» *). У гэтай захватніцкай вайне польская буржуазія апіралася на украінскую контррэвалюцыю.

25 красавіка 1920 г. пад агульным кіраўніцтвам Пілсудскага польскае войска пачало наступленне на правабярэжную Украіну. Польская армія, узброеная Антантай, рушыла ў наступленне супроць XII і XIV чырв. армій, якія абаранялі гэты раён. Калі агульная колькасць польскіх войск вызначалася ў 52 тыс. штыкоў і сабель, дык колькасць чырвоных войск дасягала толькі 15 тысяч. Такім чынам палякі мелі значную перавагу сіл. Уступаючы праціўніку ў колькасці, XII і XIV арміі з баямі адступалі, і ў пачатку мая польскае войска захапіла Кіеў. Але польскія імперыялісты і іх агенты петлюраўцы жорстка памыліліся. Яны не ўлічылі трываласці нашага тылу.

Яшчэ ў перыяд поспехаў польскіх войск т. Сталін даў геніяльны аналіз перспектыў далейшай вайны.

«Але Польшча не хоча абмежавацца сваім уласным раёнам, яна прасоўвае войскі далей пакараючы Літву і Беларусь, утаргаючыся ўглыб Расіі і Украіны. Гэта акалічнасць мяняе становішча ў корані к вялікай нявыгадзе для ўстойлівасці польскіх войск.

Выходзячы за межы Польшчы і паглыбляючыся ў прылягаючыя да Польшчы раёны, польскія войскі аддаляюцца ад свайго тылу, аслабляюць сувязь з ім, пападаюць у чуждае ім і большай часткай варожае нацыянальнае асяроддзе. Горш таго. Варожасць гэта паглыбляецца той акалічнасцю, што агромная большасць насельніцтва прылягаючых да Польшчы раёнаў (Беларусь, Літва, Расія, Украіна) складаецца з няпольскіх **сялян,** якія церпяць гнёт польскіх **памешчыкаў,** што сяляне гэтыя разглядаюць наступленне польскіх войск, як вайну за ўладу польскіх паноў, як вайну супроць прыгнечаных няпольскіх сялян. Гэтым уласна і тлумачыцца, што лозунг совецкіх войск: «Далоў польскіх паноў!» знаходзіць моцны водгук сярод большасці насельніцтва ўказаных раёнаў, што сяляне гэтых раёнаў сустракаюць совецкія войскі, як вызваліцеляў ад памешчыцкага ярма, што яны, чакаючы совецкія войскі, паўстаюць пры першым зручным выпадку, наносячы польскім войскам удар з тылу. Гэтым-жа трэба вытлумачыць беспрыкладны ўздым духу ў совецкіх войсках, які канстатуецца ўсімі нашымі ваеннымі і палітычнымі работнікамі»**).

Тыл гэтага раёна быў варожы Польшчы.

*) 3 рэзалюцыі V з'езда КПП, 1930 г.
**) „Праўда", ад 26 мая 1920 г.

Польская буржуазія ўстанавіла на захопленых тэрыторыях каланіяльны рэжым. Агнём і мечам акупанты распраўляліся з украінскімі і беларускімі рабочымі і сялянамі. Гарады і вёскі, залітыя крывёю працоўных, палалі ў агні. Гэты час крэпка запамятаўся працоўнымі Украіны і Беларусі. Украінскія працоўныя масы пачалі рашучую барацьбу з польскімі акупантамі і іх паслугачамі і лакеямі—пётлюраўцамі. Рэчаіснасць паказала, што Петлюра мог пратрымацца на Украіне са сваім смехатворным «войскам» без дапамогі Польшчы некалькі дзён, бо сяляне і рабочыя не толькі не падтрымлівалі яго, а вялі з ім рашучую барацьбу. Польскае панства на Украіне і Беларусі трымалася пры дапамозе вялікай акупацыйнай арміі, жандармерыі, паліцыі, чыноўнікаў і мільённымі выдаткамі. Такая задача з'яўлялася непасільнай для збяднеўшай Польшчы са зруйнаванай прамысловасцю, з раздробленай і распыленай сельскай гаспадаркай і жабрацкімі фінансамі ва ўмовах астрэйшай барацьбы пролетарыята і працоўных мас Украіны супроць акупантаў.

І працоўныя акупаванай Беларусі пад кіраўніцтвам падпольнай комуністычнай партыі ўзняліся на рашучую барацьбу. Белапольскія катаванні і здзекі далучылі да рэволюцыйнага руху нават адсталыя слаі працоўных. Партызанскі рух разрастаўся і ўносіў сільную дэзарганізацыю ў польскую армію, якая неаднакроць была вымушана кідаць буйныя вайсковыя часці для барацьбы з партызанскім рухам, што ў сваю чаргу аблягчала барацьбу Чырвонай арміі. Так, для падаўлення паўстання ў Рудабельскім павеце, каля Бабруйска, палякі кінулі з фронту многа войск і артылерыю. Большая колькасць людзей і вёсак была знішчана. Аднак гэта не спыніла барацьбы за ўладу советаў у Беларусі. Партызанскі рух аслабіў сілы польскіх войск і дапамог Чырвонай арміі, якая мела моцны тыл з рабочых і сялян.

Партыя большэвікоў прыняла ўсе меры для арганізацыі руйнуючага ўдару і разгрому праціўніка. Не гледзячы на тагочаснае цяжкае становішча краіны, партыя і ўрад здолелі спешна арганізаваць сілы для рашучай барацьбы. Мільённыя масы рабочых і сялян, натхняемыя большэвіцкаю партыяй, узняліся на рашучую барацьбу з акупантамі.

Раз Польшча нам вайну навязала і раз вайна пачалася, то:

> «Наша правіла,—гаварыў Ленін,—якога мы трымаліся ва ўсе папярэднія войны, павінна неміnуча адрадзіцца і цяпер... Гэта правіла заключаецца ў тым, што раз справа дашла да вайны, то ўсё павінна быць падпарадквана вайне, ні малейшага хістання на гэты конт недапушчальна» *).

Працоўныя, ненавідзячы капіталістаў і памешчыкаў, гатовы былі біцца да канца, бо добра разумелі, што нясе ім польскі памешчык і фабрыкант. Нападзенне палякаў на Кіеў выклікала рэволюцыйны ўздым працоўных мас Украіны. Рэволюцыйны ўздым і гатоўнасць шырокіх мас да канца абараняць сваю соцыялістычную бацькаўшчыну далі магчымасць партыі і ўраду хутка стварыць грозную сілу для адпору. На працягу 2-х месяцаў на польскі фронт было накіравана 12 тысяч комуністаў і лепшыя сілы Чырвонай арміі на чале з Варашылавым і Будзённым.

---

**) Ленін, т. XXV, стар. 261.

Распрацаваны ў маі пад геніяльным кіраўніцтвам т. Сталіна план контр-манеўра Паўднёва-Заходняга фронту прывёў да аслабанення 12 чэрвеня Кіева і ачышчэння правабярэжнай Украіны. Польскі фронт трашчаў і развальваўся, а генерал Рыдз-Сміглы, які камандваў 3-й польскай арміяй, кінуўся на ўцекі ад праследвання 1-й доблеснай коннай арміі. Партыя большэвікоў на чале з Леніным і Сталіным здолела перамагчы ўсе труднасці і нанесла сакрушальны ўдар польскім панам. Контрнаступленне і моцны ўдар Чырвонай арміі прымусілі бегчы польскія войскі, прымусілі польскую буржуазію на час забыць аб захватах чужой тэрыторыі і сур'ёзна прызадумацца над захаваннем свайго буржуазнага ладу.

На працягу трох тыдняў Чырвоная армія ачысціла ўсю раней захопленую белапалякамі тэрыторыю Совецкай Беларусі і Украіны, а ў жніўні 1920 г. ваенныя дзеянні вяліся ўжо пад сценамі Варшавы.

Совецкая рэспубліка адказала на наступленне Польшчы контрнаступленнем, больш моцным ударам з мэтай разгрому праціўніка і паралізацыі яго ваенных і палітычных цэнтраў. Наступаючы на Польшчу, Чырвоная армія не праследвала захватніцкіх мэт. Наступленне Чырвонай арміі летам 1920 г. з'яўлялася адказам на польскае нападзенне, самаабаронаю Совецкай рэспублікі—аплота сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

Перамогі Чырвонай арміі выклікалі сярод рабочых капіталістычных краін хвалю ўздыму на барацьбу з буржуазіяй. Шырокая хваля класавых баёў пракатвалася не толькі ў Польшчы, але амаль ва ўсіх краінах Еўропы.

Англійскія рабочыя ствараюць «советы дзеяння» і выкідваюць баявы лозунг «Рукі прэч ад Совецкай Расіі», прымушаючы англійскі ўрад устрымацца ад актыўных ваенных дзеянняў супроць рэспублікі Советаў. Данцыгскія партовыя рабочыя не толькі самі адмовіліся пагружаць галандскі параход «Трытон», які ішоў з ваеннай зброяй для Польшчы, але актыўна перашкаджалі англійскім і польскім ваенным уладам гэта рабіць. Не адстаў пролетарыят астатняй Германіі.

Гераічная барацьба італьянскіх рабочых перашкодзіла італьянскай буржуазіі дапамагчы ваеннымі матэр'яламі як рускай контррэволюцыі, так і Польшчы. Велізарнае міжнароднае значэнне пролетарскай салідарнасці мела ўсеагульная забастоўка італьянскіх чыгуначнікаў у ліпені 1920 г., сарваўшая адпраўку боепрыпасаў для Польшчы. Ад іх не адсталі рабочыя Францыі і іншых краін, якія актыўна перашкаджалі перавозцы ваенных матар'ялаў для Польшчы. Рабочы клас Англіі, Францыі, Італіі і іншых краін праз галаву соцыял-здраднікаў разбурыў планы сваіх урадаў і дапамог Совецкай рэспубліцы.

Адначасова з гэтым большэвіцкая партыя вяла рашучую барацьбу з контррэволюцыйнымі поглядамі Троцкага, які лічыў асноўнай мэтай нашага наступлення—падштурхоўванне звонку рэволюцыі ў Польшчы, г. зн. штыкамі Чырвонай арміі. Па Троцкаму выходзіла, што без ажыццяўлення гэтай мэты існаванне Совецкай рэспублікі ў капіталістычным акружэнні немагчыма. У аснову гэтага ляглі контррэволюцыйныя погляды Троцкага, яго адмаўленне магчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. З гэтымі поглядамі большэвіцкая партыя на чале з Леніным і Сталіным вяла рашучую барацьбу і заўсёды давала бязлітасны адпор.

З другой паловы жніўня 1920 г. Чырвоная армія была вымушана к адступленню ад сцен Варшавы. Але, не гледзячы на адступленне

Чырвонай арміі ад Варшавы, Польшча не магла весці далей вайны, бо знаходзілася на краі бяздоння.

Тав. Сталін дае вычарпальнае тлумачэнне няўдачы варшаўскага наступлення.

«Наступленне без замацавання заваяваных пазіцый,—піша т. Сталін,—ёсць наступленне, асуджанае на правал. Калі можа быць наступленне паспяховым, скажам, у галіне ваеннай справы? Калі людзі не абмяжоўваюцца агульным прасоўваннем уперад, а імкнуцца разам з тым замацаваць захопленыя пазіцыі, перагрупаваць свае сілы, адпаведна са зьмяніўшайся абстаноўкай, падцягнуць, падвесці рэзервы. Для чаго ўсё гэта патрэбна? Для таго, каб гарантаваць сябе ад нечаканасці, ліквідаваць паасобныя прарывы, ад якіх не гарантавана ні адно наступленне, і падрыхтаваць, такім чынам, поўную ліквідацыю ворага... Памылка польскіх войск у 1920 г., калі ўзяць толькі ваенны бок справы, заключаецца ў тым, што яны пагарджалі гэтым правілам.

Гэтым, паміж іншым, тлумачыцца, што дакаціўшыся агулам да Кіева, яны вымушаны былі потым таксама агулам дакаціцца да Варшавы. Памылка совецкіх войск у 1920 г., калі ўзяць зноўтакі толькі ваенны бок справы, заключалася ў тым, што яны паўтарылі памылку палякаў пры сваім наступленні на Варшаву» *).

Такім чынам, адзначае т. Сталін, памылка заключалася ў безупынным наступленні ўперад, без замацавання заваяваных пазіцый, перагрупоўкі сіл і падцягвання тылоў і рэзерваў. Стомленая безупынным наступленнем уперад, Чырвоная армія сустрэлася са свежымі сіламі праціўніка і траціла перавагу.

Але, не гледзячы на гэта, Совецкая рэспубліка вышла з вайны пераможцай.

«У рэзультаце атрымалася тое,—гаварыў Ленін,—што Польшча, захоўваючы буржуазны парадак, выклікала крайняе гаспадарчае расстройства ўсёй краіны, выклікала надзвычайны рост нездаволенасці, выклікала буржуазны тэрор, які лютуе не толькі супроць прамысловых рабочых, але і супроць батракоў. Агульнабуржуазнае становішча Польшчы зрабілася да такой ступені няўстойлівым, што і гутаркі быць не магло аб працягу вайны» **).

Так абстаяла справа ў самой Польшчы ў час вайны. Крызіс, голад, беспрацоўе і дарагоўля раслі з кожным днём. Даваенная польская прамысловасць, вырасшая ў рэзультаце абшырных рынкаў Расіі, Украіны і Беларусі, была значна зруйнавана 4-гадовай імперыялістычнай вайною і зацiснута ў абцугі пасляваеннага крызіса і разрухі. За недахопам паліва, сыравіны і рынкаў, закрыліся каля 30 проц. усіх прадпрыемстваў, працаваўшых да вайны. З кожным днём становішча пагаршалася, а буржуазны лад не толькі не палепшыў, але яшчэ больш абвастрыў і паглыбіў ўсе супярэчнасці. З кожным днём становішча працоўных рабілася ўсё больш нязносным; беспрацоўе, галеча і голад узмацнілі рэволюцыйны рух і абвастрылі ўсё супярэчнасці буржуазнай Польшчы. На працягу 1920 г. у Польшчы

*) Сталін. Пытанні ленінізма, стар. 479.
**) Ленін, т. XXV, стар. 483.

пракатваецца шырокая хваля буйнейшых забастовак, а ўсе польскія турмы перапаўняюцца рэвалюцыйнымі рабочымі.

Польшча, як бачым, не мела магчымасці весці далей вайну. Не гледзячы на адступленне Чырвонай арміі з-пад Варшавы, не гледзячы на далейшыя захваты польскімі войскамі тэрыторый Савецкай рэспублікі, яна не магла працягваць вайну, бо гэтаму, акрамя ўнутранага становішча, перашкаджалі яшчэ і супярэчнасці ў лагеры саміх ворагаў. Такім чынам, Польшча была вымушана заключыць мір. 12 кастрычніка быў падпісан папярэдні мір з Польшчай. 18 сакавіка 1921 г. у Рызе быў падпісан канчатковы мір паміж Польшчай і Савецкай рэспублікай. Пасля падпісання папярэдняга міру з Польшчай, Леніным была дана поўная ацэнка польска-савецкай вайны. Гэта вайна, гаварыў Ленін, не прынесла палякам перамогі, не гледзячы на дапамогу Антанты, бо ў лагеры ворагаў не было адзінства, і таму што за намі было падтрыманне сусветнага пралетарыята.

> «Нападзенню на нас палякаў,—гаварыў Ленін,—прадшэстваваў характэрны для ўстанавіўшыхся тады міжнародных адносін эпізод. Калі мы ў студзені прапанавалі Польшчы мір, для яе надзвычай выгадны, для нас надта нявыгадны,—дыпламаты ўсіх краін зразумелі гэта па-свойму: «большэвікі непамерна многа ўступаюць,—значыць, яны непамерна слабы». Лішні раз пацвердзілася ісціна, што буржуазная дыпламатыя не здольна зразумець прыёмаў нашай новай дыпламатыі адкрытых прамых заяў» *).

У гэтым пераканалася не толькі Польшча, але і Антанта. Польшча на горкім вопыце пераканалася ў гэтым і была гатова заключыць Рыжскі мір, па якому яна атрымала на 59.650 кв. клм. менш тэрыторыі і на 4,5 млн. менш насельніцтва ў параўнанні з ранейшымі прапановамі Савецкай Расіі. Да кіеўскага нападу Савецкая рэспубліка была згодна ў інтарэсах міру і соцыялістычнага будаўніцтва пакінуць у руках Польшчы ўсю тэрыторыю, якая тады была акупавана польскім войскам. Гэта тэрыторыя ішла значна больш на ўсход, чым устаноўленая Рыжскім дагаворам граніца, якая раней уключала: Менск, Бабруйск, Мазыр, Новаград-Валынск, Праскураў і Каменец-Падольск. Але перамога Савецкай рэспублікі не толькі заключаецца ў выйгрышы тэрыторыі, але і ў прымушэнні Польшчы заключыць мір. У рэзультаце атрыманай перамогі Савецкая рэспубліка адстаяла сваё ўласнае існаванне і ў гэтай вайне не толькі атрымала перамогу над Польшчай, але і над самою Антантай.

У рэзультаце геніяльнага кіраўніцтва ленінскай партыі Савецкая рэспубліка вышла пераможцай з грамадзянскай вайны. Краіна Саветаў, прыступіўшы да будаўніцтва соцыялістычнага грамадства, за гэтыя гады ператварылася з слабой адсталай краіны з раздробленай сельскай гаспадаркаю і адсталай прамысловасцю ў магутную краіну перадавой тэхнікі, у цвярдыню соцыялізма, моцную базу сусветнай пралетарскай рэволюцыі.

Цвёрдая і нязменная палітыка міру, якая праводзіцца Савецкай рэспублікай з першых дзён яе існавання, знаходзіць падтрыманне шматмільённай масы працоўных усяго свету і нават раду капіталістычных краін, зацікаўленых у сучаснай абстаноўцы, у захаванні міру. Такі паварот раду буржуазных дзяржаў выклікан, перш

*) Ленін, т. XXV, стар. 377.

за ўсё, узросшай небяспекаю вайны з боку фашысцка-мілітарыстычнай Германіі ў Еўропе і імперыялістычнай Японіі ў Азіі. Непасрэдная ваенная небяспека, навісшая з боку гэтых дзяржаў, пагражаючая не толькі СССР, але і ўсім краінам, прымусіла многіх прызадумацца сур'ёзна над пытаннем захавання міру. Гэтыя меркаванні прымусілі ў першую чаргу такія краіны як Францыя, Малая Антанта, змяніць сваю палітыку ў бок палепшання ўзаемаадносін з Совецкай дзяржавай і разам з ёю ўключыцца ў агульны фронт барацьбы за мір. Але Польшча, заціснутая ў абцугах вострага эканамічнага крызіса, які адбываецца на фоне агульнага крызіса капіталізма і рэзкага абвострання класавай барацьбы, ганімая супярэчнасцямі ўнутранымі і знешнімі, шукае выхаду са становішча ва ўзмацненні барацьбы з рэвалюцыйным рухам і ў аднаўленні старых захватніцкіх планаў на Ўсходзе.

Унутраныя супярэчнасці Польшчы штурхаюць яе на зблiжэнне з германскім фашызмам, які аказвае вялікі ўплыў на ўзмацненне яе старых імперыялістычных планаў. Германскі фашызм падгравае антысовецкія імкненні Польшчы ў сваіх уласных мэтах. Гэтым тлумачыцца заігрыванне германскіх фашыстаў з Польшчай і выказванні Гітлера і іншых заправіл германскага фашызма аб неабходнасці «мірнага» выпраўлення ўсходніх граніц Германіі за кошт тэрытарыяльных захватаў на ўсходзе Еўропы, г. зн. за кошт захвату Совецкай Беларусі і Украіны. Вось у чым сэнс зблiжэння германскіх і польскіх імперыялістаў і ўхіленне гэтых дзяржаў ад заключэння ўсходняга пакта гарантыі граніц і ўзаемнай дапамогі супроць нападаючага боку.

Германскія і польскія імперыялісты забылі аб сваіх ганебных уцеках з Беларусі і Украіны і зноў уваскрашаюць старыя авантурыстычныя планы зняволення беларускіх і ўкраінскіх працоўных мас, якія пераможна будуюць соцыялізм.

Калі 15—17 год таму назад працоўныя адсталай і зруйнаванай імперыялістычнай і грамадзянскай войнамі краіны пераможна разграмілі шматлікія белыя банды і прымусілі польскіх і міжнародных імперыялістаў ганебна ўцякаць, то зараз вялікі Совецкі саюзператварыўся ў непрыступную крэпасць соцыялізма.

Працоўныя Совецкай Украіны і Беларусі 15 год назад пры дапамозе пролетарыята ўсёй Расіі, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і асабіста т. Сталіна, разграмілі польскіх імперыялістаў і іх лакеяў—украінскіх і беларускіх нацыяналістаў як і ўсю нацыяналістычную контррэволюцыю. Рабочыя і сяляне БССР разам з пролетарыятам усёй Расіі ачысцілі совецкую зямлю ад шматлікіх інтэрвентаў і контррэволюцыйных кулацкіх банд і разам з усімі народамі Совецкага саюза пад геніяльным кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і яе правадыра т. Сталіна стварылі прыгожую і магутную краіну соцыялізма. Народы Совецкага саюза дасканала ведаюць, што недатыкальнасць граніц залежыць ад іх саміх і, калі трэба будзе, яны моцна ўдараць па руках зарваўшыхся фашыстаў.

---

**Б. Гарбачоў**

**Намеснік камандуючага войскамі Маскоўскай ваеннай акругі**

# У барацьбе за Совецкую Беларусь

(Успаміны)

Прыфрантовы горад Менск к моманту Лютаўскай рэволюцыі быў перапоўнен салдатамі. Салдацкія масы былі настроены далёка не ваяўніча. Памятаецца, як радасна забілася сэрца пры паведамленні аб звяржэнні самадзяржаўя.

Усюды кіпела радаснае ажыўленне.

У той час я быў салдатам 20-га этапнага батальёна. Мае таварышы па батальёну быццам упершыню атрымалі дар слова. Узбуджана, дзіцяча-непасрэдна яны спяшаліся выказаць адзін другому свае заветныя мары. І аказалася, што марыла большасць аб адным: дамоў, дамоў, да зямлі, да сям'і, да мірнай працы... Хутчэй скінуць, здавалася прыросшую да цела, заскарузлую салдацкую амуніцыю.

Да гэтых дзён большасць салдат не ведала слова «мітынг». А зараз то тут, то там умомант узнікалі імправізаваныя мітынгі. Людзі, аб якіх не думалі, што яны здольны звязаць хоць-бы два словы, з захапленнем паўтаралі словы—свабода, рэволюцыя, мір.

Мір... Мір...—гэта слова асабліва часта гучэла ў вуснах салдат.

Афіцэры-казнакрады, якія былі маім начальствам, «дэмакратычна» заігрывалі з салдатамі, надзявалі чырвоныя банты, скланялі—свабода—народу, барацьба—роўнасць.

На імправізаваныя чырвоныя сцягі наклейваліся ці надпісваліся розныя лозунгі, грубавата-наіўныя, але заклікаючыя к міру, патрабуючыя міру, зямлі, удзелу рабочых і сялян у кіраванні краінай.

Якімі шляхамі яны, гэтыя спапяляючыя стары свет ленінскія думкі, напісаныя на кавалках чырвонай матэрыі, пранiклі ў салдацкія галовы?

Вуліцы горада кіпелі чалавечымі натоўпамі. Масы, якія рухаліся па вуліцах, былі афарбаваны ў шэры колер салдацкіх шынеляў, з рэдка ўкрапленымі чорнымі плямамі грамадзянскага адзення. Быццам языкі полымя калыхаліся над чалавечымі патокамі чырвоныя палотнішчы сцягаў, транспарантаў. Радасны гул стаяў над горадам. Дэманстрацыі рухаліся адначасова па некалькіх вуліцах, зліліся ў вялікае шэрае чалавечае возера на Саборнай плошчы.

Над натоўпам падымаліся чалавечыя фігуры, якія аглашалі асобныя лозунгі, гаварылі кароткія прамовы, тануўшыя ва ўсхваляваным гуле галасоў. Вельмі часта эсэраўскія экзальтаваныя папрыгунчыкі

выскаквалі над натоўпам з істэрычнымі выкрыкамі ў гонар Лютаўскай рэвалюцыі.

Бясспрэчна, эсэры былі красамоўны, і знатакі рыторыкі маглі-б у іх прамовах, грымеўшых на Саборнай плошчы, адшукаць нямала стылістычных прыгожасцей. Але ні нашых пачуццяў, ні нашу свядомасць не закранала і не хвалявала элаквенцыя рэвалюцыйных славаблудаў. Я кажу—«нашых» таму, што ў салдацкіх натоўпах былі тысячы аднолькава адчуваўшых са мной людзей. Я памятаю, што асабіста для мяне прагучэлі адкравеннем сказаныя ахрыплым прастужаным голасам бальшэвіцкага аратара лозунгі яго партыі: «Далоў грабежніцкую вайну, зямлю—сялянам, фабрыкі—рабочым, няхай жывуць советы!»

Тут многія з нас, салдат, стыхійна рэвалюцыйна настроеных, упершыню знайшлі верны шлях у галіне рэвалюцыйнага дзеяння, упершыню пачулі словы, паказаўшыя нам сапраўдных ворагаў, на якіх трэба выліць накапіўшуюся ў нас нянавісць; словы, адкрыўшыя нам мэты, дасягненню якіх трэба аддаць нашы сілы, а калі трэба, то і наша жыццё.

На Пецербургскай вуліцы Менска, у поўпадвале змяшчаўся камітэт РСДРП. Фармальна гэта быў орган яшчэ адзінай соцыял-дэмакратычнай партыі, але фактычна гэта быў большэвіцкі штаб. Трэба сказаць, што ў Менск, які быў прыфрантовым горадам, к канцу вайны сцягнулася вялікая група загартаваных падпольшчыкаў-большэвікоў. Узброеныя ленінскай тэорыяй, яны бачылі няўнікнёнае набліжэнне рэвалюцыі. Яны ведалі, што рабочы клас, што народ апранутым у шынелі, будзе той сілай, якая пакончыць з царызмам, з капіталізмам, з памешчыкамі. У раёне Менску перад Лютым знаходзіўся пад псеўдонімам Міхайлаў—М. В. Фрунзе. З ім побач працаваў большэвік Любімаў, зараз народны камісар лёгкай прамысловасці. Затым Мяснікоў, Крывашэін, Магілеўскі, Позерн, Фамін, Алібегаў і інш.

Гэты моцны большэвіцкі кулак з першых дзён Лютаўскай рэвалюцыі, намеціўшы мэты і вызначыўшы сілы ворагаў, пачаў прабіваць шляхі к захвату ўсёй улады ў рукі пролетарыята. Уся гэта група большэвікоў адразу-ж пасля Лютаўскай рэвалюцыі разгарнула напружаную работу па ператварэнню салдат царскай арміі ў салдат рэвалюцыі, па збіранню і падрыхтоўцы сіл к захвату ўлады рабочымі.

У поўпадвале на Пецербургскай вуліцы кіпела напружаная работа. Круглыя суткі большэвіцкі поўпадвал жыў ліхаманкавым жыццём. Сюды прыходзілі арганізатары салдацкіх камітэтаў, агітатары, салдаты, жадаючыя ўступіць у рады большэвікоў, уносілася і выносілася літаратура, лістоўкі, брашуры, адозвы. Сюды ў першыя дні Лютаўскай рэвалюцыі ў ліку многіх соцень салдат прышоў і я, каб заявіць аб сваёй гатоўнасці зрабіць усё тое, што патрабуюць ад мяне большэвікі.

Пасля таго, як мне быў уручан партыйны білет, кіраўнікі большэвіцкай арганізацыі сказалі мне: «Царская армія нам не патрэбна. Так, не патрэбна. Але людзі-то нам патрэбны. Вось ты прышоў, але гэтага мала. Рэволюцыі патрэбна работа і сілы многіх такіх, як ты, гатовых служыць ёй да канца і верна. Ты цяпер большэвік, ідзі і іншых рабі большэвікамі».

І мы пашлі, малаграматныя, з вельмі скромным палітычным багажом, узброеныя толькі верай у ленінскую праўду і нянавісцю да класавых ворагаў. А іх мы ведалі, вельмі добра ведалі.



Тав. Мяснікоў на пазіцыі пад Барысавам 1920 г.

І вось у той час, вельмі дрэнна ўладаючы рускай мовай (я—беларус), я таксама стаў агітатарам і прапагандыстам ідэй барацьбы за совецкую ўладу, ідэй большэвіцкай партыі, заклікаючым іншых на той-жа шлях, на які я ўстаў сам. У гэтыя дні я нарадзіўся зноў для жыцця, напоўненага ідэйным зместам, мэтанакіраванага і дзейснага.

Я не думаю, што я мог быць у той час красамоўным. Але тое, што я гаварыў салдатам, даходзіла да іх свядомасці, дакладней да пачуцця, знаходзіла ў іх жывы непасрэдны водгук, афармляла іх сімпатыі да большэвікоў, іх нянавісць да ўлады памешчыкаў і капіталістаў.

Пачалася паласа напружанай работы. Партыйны камітэт найбольш увагі звярочваў на работу сярод салдат. З гэтай мэтай я камандыроўваўся ў розныя часці Менскага гарнізона для вярбоўкі новых членаў партыі.

У сакавіку партыйны камітэт абавязаў найбольш актыўных салдат-большэвікоў прайсці двухтыднёвыя палітычныя курсы. Курсы гэтыя былі арганізаваны не зусім звычайна. Перад слухачамі ў якасці лектароў выступалі з апалогіямі сваіх праграм прадстаўнікі розных палітычных партый—эсэры, меншавікі, бундаўцы. Большэвіцкія-ж кіраўнікі курсаў пакінулі сабе толькі права рэзюме па гэтых апалогіях. Але якімі бліскучымі і знішчаючымі былі большэвіцкія рэзюме. Сухі, сурова падабраны, скупы на жэсты і словы ў звычайнай гутарцы Магілеўскі, які кіраваў курсамі, абрушваў з кафедры курсаў на сваіх праціўнікаў сакрушальныя аргументы.

Мяснікоў, Фрунзе, Любімаў, Магілеўскі—вось бліскучыя прадстаўнікі большэвіцкай гвардыі, якія выхоўвалі нас. Ніколі не забыць мне праніклівага і глыбока пераконваючага голасу Фрунзе, голасу, які запамінаўся на ўсё жыццё, які з незнішчальнаю верай маляваў тыя радасныя перспектывы, што адкрываюцца перад рабочымі і сялянамі перамогай совецкай улады. Таксама ніколі не знікне з памяці ўсіх ведаючых ці аднойчы бачыўшых Мяснікова—гэтага бліскучага і неўкрацімага трыбуна пролетарскай рэволюцыі, арганізатара яе сіл у Беларусі.

У красавіку адбыліся выбары ў Менскі Совет. Гэтыя выбары былі буйнай перамогай большэвікоў. Большэвіцкая фракцыя хоць і не была большасцю Совета, але кіруючая роля ў Совеце тым не менш належала большэвікам. У прыватнасці, выключна вялікую ролю ў жыцці Совета адыгрываў тав. Любімаў. Тонка скарыстоўваючы супярэчнасці нашых палітычных праціўнікаў, апіраючыся на магутную большэвіцкую фракцыю, ён фактычна з намесніка старшыні Совета ператварыўся ў кіраўніка Совета, і, як правіла, праводзіў іменна тыя рашэнні, якія садзейнічалі ажыццяўленню большэвіцкіх мэтаў.

Я быў таксама абраны дэпутатам Менскага Совета. Для мяне, як і для іншых салдат-большэвікоў і большэвіцкі настроеных дэпутатаў, Совет быў бліскучай палітычнай школай.

Эсэры, не гледзячы на тое, што большасць у Совеце была за імі, часта выступалі са слязлівымі скаргамі на большэвікоў, якія крыўдзяць іх.

У красавіку-ж адбылася знаймавальная падзея. Часовы ўрад, бачачы, што развал арміі нарастае, а прэстыж большэвікоў узнімаецца, парашыў проціпаставіць гэтаму сілы сваіх прысяжных златавустаў. На скліканы з'езд салдацкіх камітэтаў Заходняга фронту, задуманы Керэнскім, як мера падрыхтоўкі патрэбнага для ажыццяўлення ваяўнічых замыслаў Часовага ўрада настрою салдат,—былі прысланы

Чхеідзе, Цэрэтэлі і Скобелеў. Гэта ім даручылі іх капіталістычныя гаспадары падняць баявы дух рускай арміі, падрыхтаваць яе да новых баёў за інтарэсы памешчыкаў і капіталістаў. Гэта яны павінны былі ператварыць салдацкія камітэты ў вернападданіцкую зброю Часовага ўрада.

Рэзультат атрымаўся зусім не той, якога чакаў ад паездкі сваіх міністраў Часовы ўрад. З'езд сустрэў у штыкі місіянераў лозунга— «Барацьба да пераможнага канца». Большэвікі так пасаралі бедных златавустаў, што тыя, не чакаючы сканчэння з'езду, палічылі за лепшае рэтыравацца.

Пасля з'езду ініцыятыва і кіраўніцтва франтовым камітэтам перайшлі фактычна ў рукі большэвікоў. Месца таварыша старшыні франтовага камітэта заняў т. Любімаў, а члена—т. Мяснікоў.

З абраннем мяне ў Совет круг маіх партыйных і совецкіх абавязкаў значна пашырыўся і ўскладніўся. На чале групы салдат-большэвікоў я быў накіраваны ў стаяўшую пад Менскам казачую дывізію, у якой эсэры здолелі грунтоўна ўмацавацца і стварыць камітэты, якія дзейнічалі ў духу іх кіраўніцтва. Натуральна, што казачая дывізія прадстаўляла таму значную небяспеку для мацнеўшых большэвіцкіх арганізацый Менска і для Саветаў.

У штабе дывізіі, куды мы прыбылі, нас з салодкай далікатнасцю сустрэў начштадзіва, палкоўнік генеральнага штаба. Ён ветліва спраўіўся ў мяне аб сутнасці большэвіцкай праграмы. Я проста растлумачыў пану палкоўніку, што наогул праграма наша добрая і хутка мы ўсёй буржуазнай сволачы зробім нямала непрыемнасцей.

Цікава адзначыць, што не гледзячы на вельмі моцны ўплыў эсэраў у гэтай дывізіі, які распаўсюджваўся, галоўным чынам, на афіцэрскі састаў, «паны афіцэры» сустрэлі нас трусліва-ветліва. Мы адразу адчулі, што яны страцілі глебу пад нагамі, не ўпэўнены ў сваім будучым, не ведаюць, што ім рабіць.

Радавыя-ж казакі, з якімі мы ўвайшлі ў зносіны, хутка здолелі зразумець нашы лозунгі і патрабаванні большэвіцкай партыі, і на аснове праяўленых імі сімпатый мы хутка змаглі змяніць састаў казачых камітэтаў, увёўшы ў іх спачуваючых большэвікам казакаў.

Да ліпеня мне прыходзілася працаваць у вайсковых часцях, выконваючы абавязкі большэвіцкага агітатара, прапагандыста і арганізатара. К ліпеню ўплыў большэвікоў быў настолькі магутным, як у войсках, так і сярод рабочага насельніцтва Менска, што Часовы ўрад парашыў у процідзеянне яму прыняць рад энергічных мер. У парадку прыняцця гэтых энергічных мер у Менск былі падкінуты батальён ударніц і некалькі вайсковых часцей, лаяльна настроеных да Часовага ўрада. Часовы ўрад тым больш лічыў неабходным лакалізаваць уплыў большэвікоў, што падрыхтоўка да ліпеньскага наступлення вялася ва ўсю шырыню.

Акрамя таго, эсэры і меншавікі ў сваю чаргу адкрылі найпахабнейшую кампанію паклёпу і апарочвання большэвікоў. У ліпені, не памятаю дакладна якога чысла, эсэраўскі настроенымі кавалерыстамі быў збіты афіцэр—большэвік Арыстаў.

У гэтыя дні паседжанні Совета ператварыліся ў сапраўднае пекла. На паседжанні Совета з'яўляліся адпаведна падрыхтаваныя ўдарніцы і кавалерысты і падымалі страшэнны галдзёж па ўсякаму, на іх думку, падыходзячаму поваду. Яны прабавалі сцягваць большэвіцкіх аратараў з трыбуны і наогул усялякім чынам дэзарганізаваць работу Совета.

Аднак, усе гэтыя «экстраардынарныя» антыбольшэвіцкія мерапрыемствы вялі толькі к таму, што большэвіцкае кіраўніцтва Беларусі абрастала ўсё новымі і новымі масамі салдат і рабочых, гатовымі ў любы момант, па закліку іх кіраўнікоў, выступіць са зброяй у руках на захват улады.

У той-жа час Менскі Совет і камітэт партыі сканцэнтравалі сваю ўвагу і на вёсцы. Воляй партыі я з салдацкага агітатара ператвараўся ў агітатара і прапагандыста для вёскі. Афіцыяльнай місіяй, з якой я быў камандыраваны ў рад паветаў Менскай і Магілеўскай губерній, з'явілася загатоўка харчавання для рабочых цэнтра.

Вельмі добра засталося ў памяці становішча беларускай вёскі таго часу. Масы сялянства пад уплывам салдат-франтавікоў усё больш і больш пераконваліся, што эсэраўскія прарокі хлусяць, што іх абяцанкі свабод, вольнасцей і зямлі з дня ў дзень адкладваюцца, невядома на які тэрмін. Большэвіцкія-ж лозунгі былі прамымі, яснымі, не адкладаўшымі на доўгі час захват памешчыцкіх зямель і прадастаўленне сялянам шырокіх, ніколі раней не быўшых у іх праву.

У гэтай маральнай абстаноўцы вёскі мая работа большэвіцкага агітатара была надзвычайна эфектыўнай.

Куды-б я ні прыязджаў, я заўсёды знаходзіў староннікаў большэвіцкай праграмы дзеянняў у асобе некалькіх салдат-франтавікоў, якія з'яўляліся самымі энергічнымі маімі памочнікамі ў прапагандысцкай і агітацыйнай рабоце.

К верасню месяцу, г. зн. яшчэ да Окцябрскай рэволюцыі, у некаторых паветах Беларусі сяляне налажылі рукі на памешчыцкія землі і выгналі з сядзіб памешчыкаў. Начное неба часта афарбоўвалася полымем пажараў. Гэта палілі памешчыцкія сядзібы.

Пярэдадзень Окцября азнаймаваўся амаль поўнаю стратай і ўплыву ўлады афіцыяльнымі прадстаўнікамі Часовага ўрада ў вёсцы. Валасныя земствы фактычна не мелі ніякага ўплыву на жыццё вёскі. Сялянства з імі, як органамі ўлады, не лічылася.

Окцябрскі пераварот адбыўся ў Менску амаль адначасова з пераваротам у Піцеры, у кожным разе не пазней 27—28 кастрычніка. Наяўнасць магутнай партыйнай арганізацыі абумовіла хуткі ахоп совецкімі органамі ўсяго жыцця Менска і нават Беларусі. Праз некалькі дзён пасля ўстанаўлення совецкай улады ў Менску т. Кнорын у сваім артыкуле «Что-же дальше» пісаў:

> «Адмовіўшы буржуазіі ў дзяржаўнай уладзе ў цэлым, мы павінны адмовіць ёй у гэтым і на месцах. Земствы і самакіраўніцтвы павінны перастаць існаваць як гэткія. Валасныя, гарадскія, павятовыя Советы павінны быць адзінымі органамі гаспадарчага і палітычнага жыцця. Советы павінны скрозь і ўсюды стаць адзінымі арганізатарамі жыцця, як палітычнага, так і гаспадарчага. Дыктатура пролетарыята павінна быць ажыццёўлена поўнасцю, бо без гэтага немагчыма правядзенне тых рашучых мер, якіх патрабуе ад нас даны час» («Звязда», 1917 г., № 6).

Магчыма, яшчэ да таго, як была апублікавана гэта ўстаноўка партыйнага камітэта, я быў выклікан у Менскі Совет. Выклікаўшы мяне Крывашэін сказаў мне: «Ну, хопіць гутарыць. Настаў час вялікіх спраў. Вось табе задача—паязджай у горад Ігумен і арганізуй там совецкую ўладу, навядзі там совецкія парадкі».

Крывашэін уручыў мне шырокавяшчальны мандат, які прадастаўляў мне звышнадзвычайныя поўнамоцтвы і «прочая, прочая, прочая».

— А хто там, што там і з кім там пачаць?—нясмела запытаўся я.

— Ну, гэта ўжо твая справа. Прыедзеш—убачыш. А як зробіш, убачым мы. Добра—пахвалім, дрэнна—пакараем, не крыўдзіся.

У лістападаўскі дзень уступіў я ў горад Ігумен, зараз—Чэрвень.

Ігумен—тыповы павятовы захалусны гарадок, з ліку мноства тых павятовых захалусцяў, якія здабылі царскай Расіі славу «дзяржавы павятовай».

Некалькі званіц, некалькі каменных дамоў—вось і ўсё, чым адрозніваўся Ігумен ад любога вялікага сяла. Прамысловых прадпрыемстваў, апрача маленечкай друкарні ў горадзе не было, а значыць не было і рабочых. Насельніцтва складалася ў асноўным з гандлярскага мяшчанства, захудалага павятовага чыноўніцтва, дробных адзіночак рамеснікаў. Партыйнай арганізацыі ў Ігумене не было. Задача-ж у мяне была пэўная—стварыць савецкую ўладу, а для гэтага ліквідаваць усю адміністрацыйную спадчыну Часовага ўрада.

Проста з фурманкі з'явіўся я ў габінет былога ігуменскага прадвадзіцеля дваранства, які ў той час узначальваў павятовае земства. Без усякіх прадмоў выцягнуў я з кішэні мандат Менскага Совета, у якім значылася, што мне даручана арганізацыя органаў савецкай улады ў Ігумене і павеце і сунуў яго пад нос збянтэжанаму дварана-земцу.

Сустрэча з главой ігуменскай улады ўсяліла ў мяне ўпэўненасць, што усё будзе добра. Земец страшэнна мяне перапалохаўся, а гэта ўжо палова поспеху.

— Улада земства несапраўдна. Ніякай іншай улады, акрамя савецкай, я не пацярплю,—заявіў я старшыні земства.

Дварана-земец дарэшты атарапеў, невыразна замармытаў нешта накшталт таго, што ён наогул не збіраецца супраціўляцца, што ён вельмі і вельмі рад, вітае савецкую ўладу і наогул затрымліваца тут не думае. І, зрабіўшы рукою шырокі абводзячы жэст, ён як-бы ўвёў мяне тым самым ва ўладанне сваёй рэзідэнцыяй.

Застаўшыся адзін, я доўга раздумваў над тым, з чаго-ж мне пачынаць арганізацыю савецкай улады. Аднак, губляцца мне было не да твару і не да часу. Я выклікаў нейкую земскую канцылярскую крысу і наколькі мог сурова і аўтарытэтна загадаў гэтай асобе абвясціць усім служачым, што хаця ў Ігумене і адбылася перамена ўлады, тым не менш служачыя ўсіх устаноў павінны застацца на сваіх месцах і надалей, да асобнага майго ўказання, акуратна наведваць службу і выконваць свае абавязкі.

У гэты-ж дзень я рашыў налажыць руку на Ігуменскае казначэйства і забяспечыць ад магчымага знікнення хаваўшыяся там грошы і каштоўнасці. З гэтай мэтай я выклікаў да сябе павятовага казначэя Сушкевіча. Бедны казначэй прадстаў перада мною трапяткі і бледны, як крэйда. Аказваецца, чуткі аб прыбіцці страшнага бальшэвіцкага камісара, раздутыя мяшчанскай фантазіяй ў злавесную для ўсіх ігуменскіх жыхароў падзею, дасягнулі вушэй казначэя. Усе казкі і байкі, якія толькі ён чуў аб бальшэвіках, ажылі. Ідучы да мяне, Сушкевіч чакаў немінучай бяды. Мой знадворны выгляд і мой касцюм, напэўна, канчаткова пераканалі беднага чыноўніка, што тут дабра яму не будзе. Яшчэ не пачуўшы ад мяне ніводнага слова, ён ужо плакаў.

Я запытаў яго—ці гатоў ён сумленна і аддана служыць новай уладзе?

Пасля доўгіх і незразумелых гутарак я нарэшце мог зразумець наступнае: Ён толькі і жыў для таго, каб дачакацца часу, калі яго закліча на службу совецкая ўлада. О, так, ён будзе служыць ёй верай і праўдай, усім сэрцам і душою аддаўшыся совецкім парадкам; ён да апошняй кроплі аддасць сваю кроў за кожную капейку, якая зараз належыць новай дзяржаве.

Па меры таго, як супакойваўся ўсхваляваны казначэй, мне ўдалося выясніць, што ў казначэйстве знаходзіцца звыш 7 мільёнаў рублёў. Я сказаў Сушкевічу, што ён застаецца пры выкананні сваіх абавязкаў, але без майго дазволу не мае права зрабіць ніводнай выдачы, нават самай нязначнай сумы.

Трэба адзначыць, што павятовы казначэй верна і аддана служыў совецкай уладзе і пазней дапамог мне вывезці з Ігумена і ў поўнай захоўнасці перадаць камандванню нашага Заходняга фронту гэтыя 7 мільёнаў рублёў, якія былі скарыстаны Мясніковым для фармавання часцей Чырвонай арміі.

На наступны дзень эсэраўская і меншавіцкая земская шпана сабралі дзесці сход, на якім пратэставалі супроць узурпацыі ўлады, парушэння свабоды дэмакратыі большэвіцкім няграматным камісарам. На гэтым сходзе я не быў. Прыкладна, аднačасова я праводзіў сход невялікай групы бяднейшай часткі гарадскіх рамеснікаў і друкарскіх рабочых. На гэтым сходзе я і знайшоў першых памочнікаў па арганізацыі совецкай улады.

Але першыя ігуменскія большэвікі былі сырым матар'ялам і ў пачатку не маглі аказаць мне вялікай дапамогі. Патрабаваліся больш энергічныя памочнікі, і такіх памочнікаў я знайшоў не зусім звычайным шляхам. У Ігумен праездам папалі 4 агітатары Менскага камітэта партыі—тт. Ершоў, Маўрын, Талкачоў і Папоў, якія рабілі па заданню камітэта паездку па раду паветаў. Але ў Ігумене і скончылася іх агітацыйнае турнэ. Я адважыўся данай мне уладай пакінуць гэтых таварышоў для пастаяннай работы ў Ігумене. І вось з прыбыццём гэтых таварышоў і стварэннем мясцовай арганізацыі, якая ў першы час налічвала да 15 чалавек, і пачалася рэгулярная дзейнасць совецкіх органаў у горадзе Ігумене.

Трэба сказаць, што структура совецкіх органаў на месцах ні мне, ні таварышам, працаваўшым са мной, не была вядома, таму першы рэўком у Ігумене быў назван Соўнаркомам, старшынёй якога я быў абраны, сумяшчаючы гэта з функцыямі народнага камісара па ваенных справах. Аддзелы-ж рэўкома былі названы наркаматамі.

Тав. Папоў узначаліў партыйную арганізацыю. Талкачоў стаў на чале народнай асветы, Ершоў—на чале працы і соцыяльнага забясьпечання і т. д.

У снежні арганізацыя совецкай улады была закончана.

Аднак, супраціўленне антысовецкіх, антыбольшэвіцкіх элементаў далёка не было зломлена. У снежні, карыстаючыся нашай неспрактыкаванасцю і недастатковай сувяззю з павятовай перыферыяй, эсэрам удалося сабраць павятовы настаўніцкі з'езд. Гэты з'езд быў задуман, як антысовецкая і антыбольшэвіцкая дэманстрацыя, якая павінна была застрашыць нас.

Настаўніцкі з'езд, кіруемы эсэрамі, пачаўся з бурных дэмаршаў па адрасу большэвіцкіх захопнікаў улады. На з'ездзе пры дружным ухваленні аўдыторыі раздаваліся заклікі да ўдалення большэвікоў з Ігумена, да аднаўлення дэмакратычных свабод і т. д. і т. п.

Даведаўшыся аб страсцях, якія разгарэліся на з'ездзе, і аб эсэраўскім блудзе, мы ўтрох—я, Папоў і Талкачоў—з'явіліся на з'езд і азна-

ёмілі настаўнікаў, наколькі маглі зразумела, з прынцыпамі совецкай улады і задачамі, якія закліканы выконваць тут.

Нам без асаблівай цяжкасці ўдалося пераламаць настроі з'езда, і гэты з'езд, задуманы эсэрамі як антыбольшэвіцкая дэманстрацыя, ператварыўся ў дэманстрацыю падтрымання Совета і большэвікоў. З'ездам была вылучана асобая дэлегацыя, прыбыўшая ў рэўком з заявай аб тым, што настаўніцтва павету бярэ на сябе абавязак аказваць усялякую дапамогу і падтрымку органам совецкай улады і комуністычнай партыі.

Аднак, стварэннем партыйнай арганізацыі і совецкіх органаў яшчэ далёка не вырашалася пытанне аб устойлівасці ўлады ў горадзе і павеце. Абстаноўка як у Ігумене, так і ў павеце мела ў сабе шмат небяспек для маладой улады і партарганізацыі. У горадзе была моцная эсэраўская арганізацыя, якая налічвала ў сваіх радах значную колькасць афіцэраў-франтавікоў і карысталася сімпатыямі значных слаёў гарадскога мяшчанства і буржуазіі. Уплыў гэтай арганізацыі распаўсюджваўся на рад валасцей.

Акрамя таго, яшчэ задоўга да Окцябрскага перавароту з дазволу Часовага ўрада з польскіх салдат, якія знаходзіліся ў розных вайсковых часцях царскай арміі, пачаў фармавацца польскі корпус пад камандваннем царскага генерала Даўбор-Мусніцкага.

Корпус легіёнаў Даўбор-Мусніцкага стараўся прабрацца ў Польшчу і з гэтай мэтай ён канцэнтраваўся ў Беларусі, бліжэй да фронту, бліжэй да Польшчы.

К моманту Окцябрскага перавароту польскія легіянеры, якіх камандванне змагло добра ізаляваць ад рэволюцыйнага ўплыву большэвіцкі настроеных салдат рускай арміі, занялі яўна контррэволюцыйныя пазіцыі і пачалі аказваць падтрымку не толькі польскім, але і рускім памешчыкам заходніх раёнаў Беларусі. Так, у апісваемы мною момант у мястэчку Дукора, якое знаходзілася на тэрыторыі Ігуменскага павету, стаяў першы Уланскі полк корпуса Даўбор-Мусніцкага пад камандваннем палкоўніка Масціцкага. Гарнізоны з польскіх легіянераў размясціліся ў мястэчку Бярэзіна, у маёнтку графа Патоцкага і ў Дудзіцкай воласці. Пад выглядам намеру ахоўваць маемасць паноў польскія легіянеры рабілі ўсякія гвалты над сялянамі, праследвалі салдат-франтавікоў, раззбройвалі іх і пачыналі граміць рэволюцыйныя сілы беларускай вёскі, тым самым падрыхтоўваючы глебу для перамогі контррэволюцыі.

Вось некалькі фактаў контррэволюцыйных дзеянняў польскіх легіянераў. У Якшэцкай воласці знаходзіліся два эскадроны польскіх уланаў, якія абаранялі інтарэсы памешчыкаў, ездзілі па эканоміях з кулямётамі і рабілі гвалты над сялянамі і салдатамі. У Дудзіцкай воласці польскія ўланы рабілі гвалты над сялянамі, некаторых сялян збівалі нагайкамі, калі яны прыходзілі апісваць памешчыцкія маёнткі.

Тое-ж рабілася і на тэрыторыі іншых паветаў. У Сененскім павеце легіянерамі былі расстраляны 10 совецкіх работнікаў. Апрача таго, легіянеры захапілі цалкам горад Рагачоў і яго павет і пагражалі захопам раду іншых мясцовасцей Беларусі.

У валасцях-жа Ігуменскага павету яны тварылі масу агіднасцей і гвалтаў над сялянамі. Зрывалі арганізацыю валасных советаў і партыйных ячэек, захаплялі склады харчавання, жывёлу і т. д.

Натуральна, што ў святле гэтых асаблівасцей становішча ў горадзе і павеце я быў вымушан з першых-жа момантаў звярнуць асаблі-

вую ўвагу на стварэнне ўзброенай сілы, на якую магла-б абаперціся маладая совецкая ўлада. З гэтай мэтай з пачатку снежня 1917 г. я звязваўся з большасцю воласцей павету і выслаў у іх прадстаўнікоў партыйнай арганізацыі для стварэння партызанскіх і чырвонагвардзейскіх атрадаў, на якія ўскладалася задача барацьбы з польскімі легіянерамі і абарона працоўных і іх органаў—советаў, абарона партыйных арганізацый. Так, у снежні месяцы былі арганізаваны атрады ў мястэчку Бярэзіна, у Смілавіцкай, Дудзіцкай і радзе іншых воласцей

Атрады гэтыя дзейнічалі сепаратна, у дрэннай сувязі паміж сабой, амаль не падпарадкваючыся мне. Таму з пачатку студзеня я прыступіў да арганізацыі ў горадзе Ігумене чырвонагвардзейскага атрада, які і стварыў з салдат-франтавікоў і дробных рамеснікаў. Атрад налічваў да 125 байцоў пры 4 кулямётах.

Сутычкі з легіянерамі надышлі ў хуткім часе. Першая сутычка адбылася ў вёсцы Пухавічы, дзе польскія легіянеры хацелі вывезці належачую памешчыку жывёлу і яго маемасць. Гэта зацея легіянерам не ўдалася, бо я паслаў адзін узвод майго атрада, якому ўдалося прыпыніць вывазку жывёлы і прымусіць легіянераў ачысціць Пухавічы. Гэта была першая сутычка майго атрада з легіянерамі, якая абыйшлася без страт для абодвух бакоў.

Аднак, блізкасць легіянераў прымушала мяне ўсё больш і больш трывожыцца. Як я ўжо ўказаў, у Дукорах стаяў першы ўланскі полк, які з'яўляўся вялікай пагрозай для горада і павету. Я парашыў раззброіць полк, але паколькі сілы ў маім распараджэнні былі недастатковыя, папрасіў у т. Мяснікова дапамогі. У дапамогу мне прыбыла рота пры 5 кулямётах, але гэта было мала, бо полк быў вельмі добра ўзброен і ў два-тры разы перавышаў нашы сілы. Таму, адмовіўшыся ад раззбраення палка, я прадпрыняў рад аперацый супроць асобных яго эскадронаў, цыркулюючых па павету. Нечаканым налётам у Іванічах мне ўдалося поўнасцю раззброіць эскадрон уланскага палка, узяць 40 коней і ўсю зброю. Гэта было ў першых лічбах студзеня.

За кошт захопленых у легіянераў коней, знаражэння і зброі я стварыў невялікую кавалерыйскую групу ў складзе майго чырвонагвардзейскага атрада. Гэта група несла галоўным чынам разведчую службу, наглядаючы за рухам легіянераў па тэрыторыі павету.

У канцы студзеня я парашыў усё-ж прадпрыняць больш буйную аперацыю супроць палка ў цэлым. Свайму намесніку т. Каралькевічу, вельмі добраму большэвіку, выключна смеламу байцу, я даў складанае заданне. Ён павінен быў з групай пераапранутых у сялянскае адзенне чырвонагвардзейцаў прабрацца ў Турын, дакладна вызначыць размяшчэнне палка ўланаў і з наступленнем ночы зняць пасты і раззброіць сонных легіянераў.

Спачатку аперацыя, якую пачаў Каралькевіч, ішла вельмі ўдала. Большасць пастоў ім была знята. Але, як выявілася пасля, мясцовы млынар, неяк даведаўшыся аб пранікненні ў Турын Каралькевіча з групай байцоў, паведаміў аб гэтым польскім афіцэрам. І вось у пачатку раззбраення атрад Каралькевіча быў абкружан і амаль поўнасцю знішчан. Апошнія 15 чалавек былі расстраляны легіянерамі на наступны дзень, прычым кара суправаджалася зверскімі катаваннямі.

Я быў поўнасцю ўпэўнен у поспеху аперацыі Каралькевіча, бо Каралькевіч быў з той пароды людзей, якія, калі што робяць, то толькі добра і выключна дакладна. Можна сабе ўявіць, як я быў

ўзрушаны весткай аб пагібелі ўсёй групы Каралькевіча. Неадкладна я сабраў усе сілы, аж да міліцыі, і кінуўся ў Турын. Легіянеры ўжо адыходзілі. Мне ўдалося толькі абрушыцца на хвост іх калоны і выклікаць паніку.

К пачатку лютага 1918 г. з захаду пачала насоўвацца грозная небяспека. Гэта рухаліся нямецкія акупацыйныя войскі, наперадзе якіх ішлі легіянеры.

Маленькія партызанскія атрады, якіх шмат арганізоўвалася на тэрыторыі як Ігуменскага, так і іншых паветаў, не маглі аказаць акупантам колькі-небудзь значнага процідзеяння.

К гэтаму часу парвалася сувязь з Менскам, і такім чынам, калі раней совецкія органы і партыйная арганізацыя Ігумена мелі дырэктыўныя ўказанні з Менска, то ў гэты час яны аказаліся прадастаўленымі ўласнай волі і ініцыятыве.

З набліжэннем акупантаў контррэволюцыйныя элементы павету і горада яўна актывізавалі сваю дзейнасць. За некалькі дзён да захвату Ігумена акупантамі ў горадзе выбухла контррэволюцыйнае паўстанне пад кіраўніцтвам афіцэраў Дзенісевіча, Жыганковіча, Гаўруковіча і Ковель. Так званы Соўнаркомм, больш дакладна Рэўком, на чале са мной, быў арыштаваны. Паколькі мая персона была найбольш прыметна на ігуменскім гарызонце і я ўзначальваў Рэўком і стаяў на чале яго ўзброеных сіл, то ўвага да мяне з боку паўстанцаў была асаблівая. Я быў аддзелены ад іншых разам са мной арыштаваных камісараў і запёрты ў памяшканне былой гарадской управы. Мне скруцілі рукі і ногі вяроўкамі і, дастаткова паздзекваўшыся нада мной, абвясцілі, што праз некалькі гадзін я буду павешан.

Дапамогі мне чакаць не было адкуль. Таму прышлося скарыстаць толькі тыя сродкі, якія я меў, а гэтымі сродкамі была не зусім звычайная фізічная сіла. Мне ўдалося разарваць вяроўкі, нечакана накінуцца на ахоўваючага мяне афіцэра і вырваць у яго вінтоўку. Некалькімі стрэламі я разагнаў контррэволюцыйных паўстанцаў, падаспеўшых на дапамогу майму часавому, і рыхтаваўся дорага прадаць сваё жыццё. Але ў гэты час кулямётчык майго атрада Носаў і камісар Ершоў прадпрынялі выключна дзёрзкі крок. Прыкрыўшы кулямёт саломай, а самі, апрануўшыся ў сялянскае адзенне, яны пад выглядам сялян прыехалі на падводзе на плошчу, дзе стаяў будынак гарадской управы, і нечакана адкрылі агонь па беспарадачна таўпіўшыхся ля памяшкання ўправы паўстанцах. Вылазка Носава і Ершова была так нечакана, што афіцэры і іх воінства разбегліся. Праз некаторы час на плошчу сталі сцякацца байцы майго атрада, якія хаваліся ў час паўстання.

К вечару гэтага дня паўстанне было поўнасцю ліквідавана, яго главары ўцяклі з горада і такім чынам у нас было даволі часу, каб дбайна і спакойна падрыхтавацца да эвакуацыі.

Мне здаецца, што ў сярэдзіне лютага Ігумен быў намі пакінут. Усе каштоўнасці, якія захоўваліся ў павятовым казначэйстве, былі намі вывезены.

Шлях нашага адступлення з Ігумена на Магілеў быў надзвычайна цяжкі. Набліжэнне акупантаў акрыліла контррэволюцыйныя надзеі кулачча і памешчыкаў. Я меркаваў, што пакідаць у тыле нашых ворагаў не мела сэнсу, і таму мы парашылі ачысціць тэрыторыю, па якой праходзіў атрад, ад яўна контррэволюцыйных элементаў. Так, атрад, кіруючыся рэволюцыйным сумленнем, расстраляў на шляху ад Ігумена да Магілева звыш 10 памешчыкаў, некалькі кулакоў і папоў-

З Магілева я са сваім атрадам прыбыў у Менск, адкуль быў накіраваны ў Оршу і прызначаны начальнікам штаба групы чырвонагвардзейскіх і партызанскіх атрадаў, уваходзіўшых у заходнюю заслону. Але дзеянні заходняй заслоны былі галоўным чынам сродкам скалочвання партызанскіх груп і атрадаў у рэгулярныя вайсковыя злучэнні Чырвонай арміі і падрыхтоўкай да будучых баёў на фронтах грамадзянскай вайны.

Гэта было прадапошняй паласой барацьбы супроць акупантаў. Пры ўсім выдатным гераізме паасобных атрадаў і камандзіраў, пры ўсёй самаафярнай гатоўнасці біцца да канца, заходняя заслона не магла, натуральна, процістаяць сілам нямецкіх акупацыйных войск. Асобныя аперацыі, якія намі праводзіліся, былі выключна паспяховы, але агульнага поспеху яны нам прынесці не маглі. Заходняя заслона павольна адкатвалася на ўсход.

З красавіка месяца 1918 г. я, па загаду камандуючага заходняй заслонай т. Мяснікова, пачаў фармаваць жалезны кавалерыйскі полк. У хуткім часе пасля стварэння жалезнага палка разыграліся апошнія падзеі барацьбы за Савецкую Беларусь, у якіх мне прышлося прымаць асабісты ўдзел.

Вось усе тыя падзеі барацьбы за Совецкую Беларусь, удзельнікам якіх я быў і якія я наглядаў.

Натуральна, што шмат сцерлася ў мяне ў памяці. Забыты імёны, асобы, даты. Але памяць ніколі не страціць ўспаміну аб тым самаадданым гераізме, з якім масы беларускіх рабочых і батракоў, чырвонагвардзейцаў і партызан змагаліся за таржаство пролетарскай дыктатуры, за перамогу пролетарскай рэволюцыі. Сучасная Совецкая Беларусь—бліскучы і непаўторны помнік іх дзеянняў і гераізма.

**Е. Сергееў**

(былы камандуючы Паўн. групай
і 4 арміяй Заходняга фронту)

# 4-я чырвоная армія ў баях за вызваленне Совецкай Беларусі ў 1920 годзе

У радасныя, светлыя дні 15-ай гадавіны вызвалення Совецкай Беларусі мне хочацца падзяліцца ўспамінамі аб барацьбе нашай Чырвонай арміі з польскімі акупантамі.

Майскае наступленне Заходняга фронту (у камандванне якім тады толькі што ўступіў т. М. Н. Тухачэўскі) было выклікана неабходнасцю дапамагчы гераічным часцям Паўднёва-Заходняга фронту, якія рыхтаваліся ў гэты час к пераходу ў контрнаступленне для ліквідацыі украінскай авантуры Пілсудскага і сцягвалі свае сілы, акружаючы жалезным кальцом захвачаны белапалякамі Кіеў.

Неабходна было адцягнуць з гэтага фронту хоць-бы частку польскіх сіл, трэба было прыкаваць увагу праціўніка да другога, аддалённага ад Кіева, фронту, і нарэшце належала прасунуць уперад войскі Заходняга фронту, паколькі становішча, якое яны займалі, асабліва на поўдзень ад Полацка, было нязручным для намечанага вялікага наступлення ў ліпені.

Усё гэта прымусіла Заходні фронт пачаць свае дзеянні, не чакаючы падыходу ўсіх сіл, вызначаных для вялікага наступлення, бо на гэта патрабавалася-б каля месяца, а абстаноўка на Украіне патрабавала хуткага наступлення.

Наступленне пачалося 14 мая 1920 года і закончылася 10 чэрвеня адыходам назад к Дзвіне дзеючых на правым флангу Заходняга фронту—Паўночнай групы і 15 арміі. Не гледзячы на няўдачу, гэта аперацыя, аднак, мела агромнае значэнне, як свайго роду рэпетыцыя вялікага ліпеньскага наступлення.

Майскае наступленне ў канчатковым выніку прывяло к таму, што, па-першае амаль усе рэзервы польскай арміі, якія знаходзіліся ў глыбокім тыле, былі прыцягнуты да паўночнага фланга Заходняга фронту і, што асабліва важна, частка гэтых рэзерваў (дзве дывізіі) была перакінута сюды з Кіеўскага раёну.

Па-другое, войскі Заходняга фронту адышлі пасля наступлення ўжо не ў балоцістыя лясы на паўднёвым усходзе ад Полацка, адкуль яны пачалі наступленне, а затрымаліся на больш выгаднай лініі ўжо значна ўперадзе Полацка і, такім чынам, забяспечылі сабе магчымасць выкарыстання гэтага важнага чыгуначнага вузла.

Па-трэцяе, большасць дывізій, якія потым прынялі ўдзел у вялікім ліпеньскім наступленні, упершыню памераліся сіламі з польскай арміяй

і вынеслі з гэтых баёў упэўненасць у канчатковай перамозе, усвядомілі сваю сілу ў барацьбе з рэгулярнай, па-еўрапейску аснашчонай арміяй.

Нарэшце, па-чацвёртае, вопыт майскага наступлення дазволіў зрабіць рад каштоўных вывадаў, пазней пакладзеных у аснову арганізацыі і замыслу пабудовы ліпеньскага наступлення. У прыватнасці, у рэзультаце майскага наступлення Паўночная група была значна ўзмоцнена і разгорнута ў цэлую армію, атрымаўшую назву 4 арміі Заходняга фронту, а вопыт дзеянняў Паўночнай групы прывёў к вываду аб неабходнасці ўключэння ў склад 4 арміі сільнай коннай групы, што і выразілася ў фармаванні 3 коннага корпуса.

Я знарок спыняюся на гэтым моманце, бо, як убачым ніжэй, дзеянні 3 Коннага корпуса і ўсёй 4 арміі ў цэлым аказалі агромны ўплыў на ход усіх падзей пры выкананні ліпеньскага наступлення Заходняга фронту.

Каротка ўсю гісторыю майскага наступлення можна ўявіць сабе ў наступным выглядзе (гл. схему № 1).

* * *

Да пачатку наступлення арміі Заходняга фронту займалі лінію працягласцю звыш 600 клм, маючы ў сваім складзе 66.000 чалавек (12 стр. дывізій) чыста баявога элемента (штыкоў і сабель) *) супроць 55.000 штыкоў і сабель (8 пяхотных дывізій) у палякаў.

Групоўка сіл палякаў была даволі роўнамерная («кардон»), але ў глыбокіх рэзервах у польскага камандвання былі яшчэ даволі значныя сілы—шэсць пяхотных дывізій стаяла ў адлегласці 100—200 клм. ад фронту і ў Кіеўскім раёне з фронту былі выцягнуты яшчэ дзве пяхотныя дывізіі. Гэта акалічнасць дазволіла палякам на працягу 10—15 дзён падвоіць свае сілы супроць Заходняга фронту.

У склад Заходняга фронту пасля пачатку баёў таксама прыбывалі новыя часці—чатыры стр. дывізіі ў раён Полацка і адна—на барысаўскі напрамак (у 16 армію). З гэтых пяці дывізій (каля 20.000 штыкоў і сабель) у наступленні прынялі ўдзел толькі чатыры, а адна стр. дывізія прыбыла на фронт толькі тады, калі ўся аперацыя была ўжо закончана.

Групоўка сіл Заходняга фронту к 14 мая была наступная: уздоўж латвійскай граніцы ад Опочкі да Дрысы і па правым беразе Дзвіны да Астраўлян, былі расцягнуты часці паўночнай групы, прычым граніцу з Латвіяй абараняла адна 48 стр. дывізія, маючы перад сабой усю 1 курляндскую дывізію і палову 2 ліфляндскай дывізіі латвійскай арміі. Якраз перад пачаткам наступлення к граніцы ад Дзвінска прасоўвалася яшчэ адна латвійская дывізія.

На польскім участку па правым беразе Заходняй Дзвіны была распаложана 164 брыгада 55 стр. дывізіі ў складзе ўсяго 1000 штыкоў. Левы бераг Дзвіны займала часць 8 пях. дывізіі палякаў; астатнія сілы гэтай дывізіі, якая мела за сабой у рэзерве адзін полк 8 дывізіі легіянераў, знаходзіліся перад фронтам 15 арміі.

У склад Паўночнай групы ўваходзіла таксама толькі што пры-

*) Пад колькасцю „штыкоў і сабель“ трэба разумець колькасць радавых чырвонаармейцаў у ротах і эскадронах. Кулямётчыкі, артылерысты, сапёры, сувязь і т. д. у гэты лік не ўваходзяць.


Схема №1
Майскае наступленне на Заходн. фронце
Себеж
48 сд.
2 пд.
1 пд.
Латв. арм.
4 пях. дыв.
Дзвінск
Дрыса
Дзісна
р. Дзісенка
18 сд
(падыходзіць)
164 бр.
паўночн. гр.
14.5.
Полацк
Астраўляне
р. Зах. Дзвіна
Бешанковічы
15 арм.
14.5.
Валасевічы
16 арм.
Лепель
р. Бярэзіна
8 пд.
1 польск. арм.
15 арм 1.6.
1 п. арм.
Свенцяны
воз. Нарач
Резервн. польск. арм. 1.6.
герман. пазіцыі
чыг.

быўшая з Архангельска 18 стр. дывізія, два палкі якой яшчэ былі ў дарозе і прыбылі толькі к канцу наступлення. Дывізія гэта, меўшая каля 5000 штыкоў, прадстаўляла сабою выдатную, моцна згуртаваную баявую адзінку, але на-жаль была зусім без абозу, коней і сродкаў сувязі. Тлумачылася гэта тым, што дывізія пад Архангельскам ваявала з інтэрвентамі ўздоўж чыгункі, яе ўзбраенне стаяла на чыгуначных плацформах, усё снабжэнне ішло па чыгунцы, а сувязь трымалася па чыгуначных правадах; у такім выглядзе дывізія і была перакінута на Заходні фронт і к пачатку наступлення яшчэ знаходзілася ў перыядзе даснабжэння на «палявы» лад.

Ударную групу фронту складала 15 армія з шасці стралковых і адной кавалерыйскай дывізіі (6, 53, 4, 11, 56 стр. дыв. і 15 пях. дыв.)—агульнай сілай у 29. 000 штыкоў і сабель; яна была разгорнута на фронце каля 50 клм. ад Дзвіны да Валасовіч, маючы перад сабою часць 8 пях. дывізіі і 1 літоўска-беларускую пях. дывізію, у рэзерве якой былі два палкі 3 дывізіі легіянераў.

Такім чынам, супроць 30.000 штыкоў і сабель Паўночнай групы і 15 арміі—палякі мелі на фронце тры пях. дывізіі і адну кав. брыгаду, складаўшыя 1 армію агульнай колькасцю да 14.000 штыкоў і сабель.

На поўдзень, па рацэ Бярэзіне і па Дняпру была распаложана 16 армія, маючы перад сабой 4 польскую армію, амаль роўную ёй па сілах. 16 армія мела задачай—наступаць на Менск, наносячы галоўны ўдар праз Ігумен (Чэрвень). Трэба адзначыць, што адсутнасць перавагі ў сілах над палякамі не дазволіла 16 арміі паспяхова выканаць сваю задачу; яе часці адышлі назад за Бярэзіну, а палякі паспелі зняць з гэтага фронту каля адной дывізіі і выкарысталі гэтыя сілы для контрудара па леваму флангу 15 арміі. Самы ход наступлення ўдарнай групы Заходняга фронту, у агульных рысах, разгортваўся наступным чынам: 15 армія, перашоўшы ў наступленне, 14 мая лёгка перавярнула і адкінула 1 польскую армію і, развіваючы поспех адной дывізіяй (53) і кавалерыяй у заходнім напрамку, усёй астатняй масай, зашоўшы правым плячом, прадаўжала наступаць у паўднёва-заходнім напрамку на Маладзечна.

Паўночная група, вярней—спачатку адна яе 164 брыгада, пасля няўдалай спробы пераправіцца праз Дзвіну сваімі сіламі без дапамогі 15 арміі, пасля адыходу праціўніка пераправілася каля Дзісны і атрымала задачу—забяспечыць з поўначы правы фланг 15 арміі. 48 стр. дыв. прадаўжала заставацца на латвійскай граніцы, а 18 стр. дыв. яшчэ толькі падыходзіла к Дзвіне. Такім чынам, задачу забяспечання ўдарнай групы Заходняга фронту выконвала адна 164 брыгада, якая пачала наступленне на паўночны ўсход ад Дзісны, адцясняючы адышоўшы сюды полк з дывізіі легіянераў і кав. брыгаду. Калі 164 брыгада прасунулася ўперад кіламетраў на 30, яе наступленне было затрымана праціўнікам, заняўшым зручную пазіцыю за азёрамі і балотамі, а ў той-жа час часць 4 земгальскай дывізіі латвійскай арміі пераправілася на левы бераг р. Дзвіны каля Дрысы і адсюль невялікімі партыямі вяла разведку на поўдзень у тыл 164 брыгадзе, дзе пачаліся дробныя сутычкі і перастрэлка, якая не спынялася на працягу ўсёй аперацыі. Становішча рабілася трывожным. Польскія часці стварылі нібы агульны фронт з латышамі, і нельга было рашыць, ці з'яўляецца гэта проста праявай «ініцыятывы» непрымірыма настроеных груп латвійскага афіцэрства, дзеючага на свой рыск і страх, ці гэтыя падзеі перарастуць у прамую дапамогу палякам з боку Латвіі, якая, як

мы бачылі вышэй, якраз к гэтаму часу падвяла к Дрысе цэлую новую дывізію.

На правым флангу 15 арміі 53 стр. дывізія на шырокім фронце ад р. Дзісенкі да воз. Нарач падышла к лініі старых германскіх пазіцый, якія добра захаваліся яшчэ з часу сусветнай вайны і прадстаўлялі сабой некалькі суцэльных ліній акопаў з бетоннымі кулямётнымі гнёздамі і прытулкамі, густа пераплеценых калючым дротам. У гэтыя акопы засела адышоўшая сюды 8 пях. дывізія, якая лёгка адбіла ўсе наступальныя спробы 53 сд, не меўшай ні перавагі ў сілах над абараняючымся праціўнікам, ні цяжкай артылерыі, а без цяжкай артылерыі разбіць бетонныя ўмацаванні безумоўна было нельга.

Адначасова галоўныя сілы 15 арміі сваім правым флангам ужо параўняліся з воз. Нарач і паспяхова цяснілі да Маладзечна часці 3 дыв. легіянераў і 1 літоўска-беларускай пях. дывізіі.

Як толькі пачалося наступленне Заходняга фронту, польскае камандванне зараз-жа пачало перакідку сваіх рэзерваў к атакаванаму ўчастку. Усяго было перакінута да васьмі пяхотных дывізій (у тым ліку дзве дывізіі з Кіеўскага раёна), г. зн. увесь наяўны рэзерв польскай арміі. З гэтых васьмі дывізій толькі адна была накіравана супроць цэнтра 15 арміі на Маладзечанскі напрамак; астатнія сем дывізій былі згрупаваны такім чынам: 3½ пях. дывізіі накіраваны супроць левага фланга 15 арміі і наступала на поўнач уздоўж заходняга берагу р. Бярэзіны і 3½ пд. накіраваны ў раён на поўнач ад Свенцян, дзе разам з 8 пд склалі новую «Рэзервную армію», якая перашла ў наступленне па абодва бакі р. Дзісенкі прама на ўсход. Разам з прыбыўшымі рэзервамі сілы палякаў на фронце Паўн. групы і 15 арміі павялічыліся з 14.000 да 50.000 штыкоў і сабель у той час, як нашы сілы павялічыліся вельмі нязначна ў выніку таго, што тры новапрыбыўшыя на фронт дывізіі (18,12 і 6) наогул мелі не больш 10.000 штыкоў і, значыць, толькі як-бы папоўнілі тыя страты, якія панесла 15 армія ў час наступлення.

Такім чынам палякі, атрымалі ў цэлым амаль палутарную перавагу над ударнай групай Заходняга фронту і ў дадатак, майстэрскі сканцэнтраваўшы свае ўдарныя групы супроць флангаў 15 арміі, прымусілі Заходні фронт спыніць наступленне і пачаць у першых лічбах чэрвеня адыход назад к Дзвіне.

Трэба прызнацца, што гэты адыход даўся не лёгка і запатрабаваў уводу ў справу ўсіх трох новапрыбыўшых дывізій. Асабліва цяжкім было становішча на фронце 53 стр. дыв., на дапамогу якой былі вылучаны дзве брыгады 18 стр. дыв., гераічнымі баямі затрымаўшыя прасоўванне рэзервнай польскай арміі і крок за крокам адыходзіўшыя к Дзісне, забяспечваючы ад абыходу з поўначы правы фланг 15 арміі.

К 10 чэрвеня наступленне праціўніка было спынена некалькі на захад ад лініі Дзісна, Лепель, дзе Паўночная група і 15 армія, адбіваючы разрозненыя наступальныя спробы праціўніка, трывала замацаваліся і стаялі аж да ліпеньскага наступлення.

Якія-ж былі зроблены вывады з вопыту гэтай «рэпетыцыі» вялікага ліпеньскага наступлення?

Першым і самым галоўным вывадам было тое, што будучае наступленне трэба пабудаваць так, каб не даць магчымасць левафланговым часцям польскай арміі адыйсці ад Дзвіны прама на Захад і заняць

лінію старых германскіх пазіцый. Утрыманне гэтых пазіцый 8 пях. дывізіяй, як мы бачылі вышэй, дазволіла польскаму камандванню спакойна сканцэнтраваць у раёне на поўнач ад Свенцян моцную ўдарную групу і накіраваць яе супроць правага фланга 15 арміі. Па-другое, неабходна адразу-ж перарваць усякую сувязь паміж палякамі і латышамі, хутка ачысціўшы ад польскіх часцей усю прастору паміж Дзвіной і Дзісенкай. І, нарэшце, па-трэцяе,—неабходна як мага хутчэй аўладаць лініяй старых германскіх пазіцый, праскочыўшы яе там, дзе яна не можа быць занята праціўнікам, і наступленнем з поўначы на Свенцяны выключыць для палякаў магчымасць сканцэнтроўваць у гэтым раёне свае рэзервы.

Першая задача патрабавала разгортвання Паўночнай групы ў больш сільную армію, што і было дасягнута фармаваннем **4 арміі Заходняга фронту,** у склад якой увашлі, акрамя часцей Паўночнай групы, яшчэ дзве стр. дывізіі (53 і 12).

Другая і трэцяя задачы маглі быць выкананы толькі сільнай коннай групай, якая, перамогшы супраціўленне праціўніка на поўнач ад Дзісенкі, магла-б хуткім кідком праскочыць старыя германскія пазіцыі раней, чым іх займе праціўнік і ўдарам з поўначы разграміць яго разервы, калі яны будуць сканцэнтроўвацца ў Свенцянскім раёне. Неабходнасць выканання гэтых важнейшых задач паслужыла штуршком для сфармавання **3 Коннага корпуса,** у склад якога ўвайшлі 15 кав. дывізія і новапрыбыўшая з Сібіры 10 кав. дывізія. Ідэйная сувязь усіх трох задач, патрабаваўшая адзінага кіраўніцтва, пацягнула за сабой уключэнне 3 Коннага корпуса ў склад 4 арміі.

Пытанне фармавання 3 Коннага корпуса вырашылася параўнаўча спрыяюча, бо ў распараджэнне камфронту прыбыў камкор тав. Гай са штабам 2 каўказскага коннага корпуса. Праўда гэты штаб корпуса быў без тылавых установ, але выхад са становішча быў знойдзены ў тым, што адну з прыбыўшых з Сібіры стралковых брыгад улілі на папаўненне стралковай дывізіі, а яе тылы перадалі новаму 3 Коннаму корпусу.

26 мая, якраз у той час, калі палякі збіралі рэзервы для пераходу ў контрнаступленне супроць Заходняга фронту, войскі Паўднёва-Заходняга фронту перашлі ў рашучае наступленне. Трэба асабліва падкрэсліць, што супроць 37.000 штыкоў і сабель Паўднёва-Заходняга фронту палякі мелі тут да 60.000 штыкоў і сабель; але ў ліку 37.000 на Паўднёва-Заходнім фронце, палова, г. зн. больш 18.000, былі «саблі» славутай 1 Коннай арміі тав. Будзённага і Варашылава, і іменна гэтыя саблі далі магчымасць разграміць 3 польскую армію генерала Рыдз-Сміглы і адкінуць усе польскія сілы далёка ад граніц Савецкай Украіны. Пры такой няроўнасці сіл, безумоўна, увод палякамі на Заходні фронт цэлых двух пяхотных дывізій, г. зн. да 10.000 штыкоў, таксама адыграў не апошнюю ролю, асабліва калі ўспомніць, што гэтыя дзве дывізіі маглі быць узяты назад толькі 13 мая, г. зн. тады, калі лёс украінскай авантуры Пілсудскага фактычна ўжо быў вырашан чырвонай конніцай.

Ніжэй мы ўбачым, што і ў вялікім наступленні Заходняга фронту роля чырвонай конніцы была, як гавораць, «вядучай». 3 Конны корпус, абыходзячы паўночны фланг палякаў, цягнуў за сабой па сутнасці ўсе чатыры арміі Заходняга фронту.

У перыяд з 10 чэрвеня па 4 ліпеня на Заходнім фронце ішла ўзмоцненая падрыхтоўка к вялікаму наступленню; вялася агромная

палітычная работа; падводзіліся новыя войскі, папаўняліся страты, часці ўмацоўваліся прылівам партыйцаў (да 16%), фармаваліся штабы двух новых армій (4 і 3), арганізоўваўся тыл. Аб'ём гэтай работы быў настолькі вялікі, а труднасці так многалікі, што трэба прама сказаць, што наступленне 4 ліпеня пачалося ўсё-ж пры няпоўнасцю арганізаваным тыле і са значным недакамплектам у байцах і тэхнічнай маемасці. У дадатак, уся асноўная маса польскіх рэзерваў, перакінутая сюды ў час майскага наступлення (акрамя двух пд), заставалася на фронце, а цэлы рад прызнакаў гаварыў аб тым, што праціўнік сам збіраецца перайсці ў наступленне супроць нашага Заходняга фронту.

Праўда, гэтае новае наступленне Пілсудскага так і не адбылося, але ў сваёй кнізе «1920 год»*) ён прама піша аб сваіх замыслах: «Магчыма хутчэй пакончыць з конніцай Будзённага і затым ужо перакінуць як мага больш сіл на поўнач, каб перайсці ў рашучае наступленне там, дзе збіраліся самыя вялікія сілы праціўніка».

Цяпер ужо тав. Будзённы ў сваю чаргу дапамог Заходняму фронту, бо «пакончыць» з сабой ён Пілсудскаму не даў, а, наадварот, яшчэ прыцягнуў на сябе і здорава патрапаў усе тыя сілы, якія польскі галоўнакамандуючы збіраўся зноў накіраваць на Заходні фронт. Аднак, трэба адзначыць, што ўсё-ж чаканне польскага наступлення на поўначы мела ўплыў і на арганізацыю і на тэрміны выканання вялікага наступлення Заходняга фронту, у прыватнасці зноў прымусіўшы яго пачаць дзеянні, яшчэ не закончыўшы ўсе патрэбныя падрыхтаванні.

Новая 4 армія была к 4 ліпеня сфармавана ў складзе 3 Коннага корпуса, 18, 12 і 53 стралковых дывізій і 164 брыгады 55 сд. 48-ая сд. неўзабаве была ўзята пад непасрэднае падначаленне штаба фронту. Штыкоў у арміі набралося ўсяго крыху больш 10.000, каля 5.000 сабель (3 к к) і 108 гармат. Авіяцыі было ўсяго 2 атрады, але з іх адначасова падняцца ў паветра маглі не больш 4—5 самалётаў, а танкаў не было зусім. Як бачым і сілы і асабліва «тэхніка», былі вельмі невялікія, асабліва дрэнна было з сувяззю і з транспартам. Усяго на Заходнім фронце к гэтаму часу было 96.000 штыкоў і сабель супроць 62.000 палякаў **).

Агульны замысел аперацыі фронту і роля, якую павінна была выканаць 4 армія з 3 Конным корпусам відаць са схемы № 2.

* * *

Калі добра разабрацца ў гэтай схеме і ўлічыць тыя вывады, якія былі зроблены на вопыце майскага наступлення, дык мы ўбачым, што самыя важныя задачы, якія забяспечвалі поспех усяму фронту, былі ўскладзены на маю маленькую 4 армію, галоўным козырам якой быў доблесны 3 Конны корпус. І сапраўды, задачы, якія былі пастаўлены камандваннем Заходняга фронту 4 арміі, зводзіліся да наступнага: атакаваць праціўніка паміж р. Заходняя Дзвіна і балотамі, якія знаходзіліся на захад ад Дзісны і, ахватваючы яго левы фланг, адкінуць на паўднёвы захад, адрэзаўшы яму шляхі адыходу на Свенцяны.

Адначасова 3 Конны корпус павінен быў хутка кінуцца прама на захад, ачысціць ад рэштак праціўніка ўсю прастору паміж рэкамі

*) Ёсць у перакладзе на рускую мову—выд. „Военного Вестника", Москва, 1926 г.

**) Агульная колькасць войск Заходняга фронту к 4 ліпеня даходзіла да 365.000 чал. супроць 120.000 польскага „літоўска-беларускага" фронту.


48 с.д.
Схема N 2
3 к. к=са
напрамак
3 к.к.
Дзісна
Полацк
3 к.к.
р. Дзісенка
абход 4 арм.
4 а.
4 а.
15 а.
1 а.
15 а.
Свенцяны
Лепель
адыход 1 польск. арміі
Воз. Нарач
3 а.
3 а.
фронт палякаў
стар. германскія пазіцыі
з. Вільні
Маладзечна
р. Бярэзіна
МЕНСК
з. Ліды
16 а.
4 арм.
Становішча 4 ліпеня
Становішча 7 ліпеня
Баранавічы
Адыход 1 і 4 польск. армій

Заходняя Дзвіна і Дзісенка і захапіць старыя германскія пазіцыі, пакуль сюды яшчэ не адышлі польскія часці з фронту і не падаспелі разервы з тылу. У далейшым Конны корпус павінен быў захваціць Свенцяны. Такім чынам, калі-б 4 арміі ў цэлым і не ўдалося-б поўнасцю адрэзаць палякам адыход на Свенцяны, дык усёроўна іх войскі, адышоўшы за старыя германскія пазіцыі на поўдзень ад р. Дзісенкі, не змаглі-б на іх утрымацца, бо Конны корпус ударыў-бы ім у тыл з поўначы.

Такая пабудова аперацыі пазбавіла праціўніка ўсякай магчымасці паўтарыць той манеўр, якім ён сарваў майскае наступленне; сабраць рэзервы ў раёне Свенцян можна было-б толькі тады калі-б польскія часці моцна ўтрымалі-б у сваіх руках старыя германскія пазіцыі (што і здарылася ў маі). Цяпер 4 армія і 3 Конны корпус павінны былі не дапусціць такога становішча, а наадварот самі павінны былі заняць раён Свенцяны, адкуль прамым рухам на поўдзень збіваць праціўніка, калі-б ён папрабаваў, зачапіўшыся за германскія пазіцыі, аказаць на іх супраціўленне і ўсім іншым арміям Заходняга фронту.

Ніжэй мы ўбачым, што ў сапраўднасці ўсё так і вышла і ўсім іншым арміям Заходняга фронту не прышлося нават атакаваць гэтыя сільныя ўмацаванні, бо пад пагрозай удару з поўначы 4 арміі і яе слаўнай конніцы палякі пакідалі ўмацаванні, нават не прабуючы на іх абараняцца.

Нарэшце, трэба ўспомніць і аб латышах. Паяўленне нашай непераможнай конніцы, якая ішла ўздоўж Дзвіны, павінна было аказаць значны ўплыў на латышскія войскі і прымусіць прызадумацца ўсе тыя элементы, якія марылі ўдарыць на Чырвоную армію разам з палякамі.

Калі 7 ліпеня на поўдзень ад Дзвінска часці Коннага корпуса сустрэліся з латвійскімі войскамі, то латвійскія салдаты і афіцэры ўжо пачціва віншавалі нашых ліхіх коннікаў з перамогай над палякамі.

Калі мы яшчэ ўспомнім, што ў час ліпеньскага наступлення конніца тав. Будзённага граміла польскія арміі ўжо далёка ад Кіева— у раёне гор. Ровно і што палякі з прычыны гэтага не маглі-б перакінуць адсюль на поўнач ні аднаго чалавека, а ў тылу ўсе іх рэзервы былі ўжо вычарпаны і пасланы на фронт у рэзультаце майскай аперацыі, то ўвесь малюнак поспехаў Заходняга фронту ў вялікім ліпеньскім наступленні становіцца зусім ясным і зразумелым.

Ітак, наступленне трох паўночных армій Заходняга фронту пачалося а 5 гадзіне раніцы 4 ліпеня (16 армія яшчэ не была гатова да наступлення і пачала яго толькі 7 ліпеня).

У першы-ж дзень на ўсім фронце мы мелі рашучы поспех, які асабліва выявіўся на фронце самай сільнай 15 арміі. У 4 арміі пасля напружанага бою на паўночным участку арміі праціўнік быў зломлен, і конніца тав. Гая кінулася, апярэджваючы пяхоту, прама на захад.

Ужо ў пачатку другога дня наступлення выявілася імкненне праціўніка добра прыкрыць свой левы фланг, для чаго з рэзерва 1 арміі тры палкі 8 пях. дывізіі і два палкі конніцы рушыліся на поўнач, пераправіўшыся праз раку Дзісенку. Але тут і выявілася тая пабудова аперацыі, аб якой мы гаварылі вышэй,—заняць азёрныя прасторы паміж Дзвіной і Дзісенкай праціўніку ўжо не ўдалося, бо Конны корпус паспеў ужо праскочыць праз гэтыя азёры, рас-

сеяўшы часці польскай «падгрупы Дзвіна», якія прабавалі там затрымацца, а 8 дывізію не пусцілі на поўнач наступаўшыя адсюль 12 і 33 дывізіі 4 арміі, такім чынам і леваму флангу 1 польскай арміі прышлося пачаць адыход назад за Дзісенку. К вечару 6 ліпеня працiўнік ужо на ўсім фронце пачаў адыходзіць на лінію Маладзечна, воз. Нарач, нават не прабуючы адыйсці на Свенцяны. Конны корпус толькі 7 ліпеня захваціў старыя германскія пазіцыі, а Свенцяны былі заняты толькі раніцой 16. Але палонныя польскія салдаты, захвачаныя яшчэ 6-га ўвечары, ужо тады паведамлялі, што яны таму адыходзяць на поўдзень, што Свенцяны ўжо заняты чырвонай конніцай. Як бачым, паніка на чатыры дні апярэдзіла Конны корпус, прымушаючы праціўніка зварочваць з тых дарог, куды яшчэ толькі нацэльвалася наша доблесная конніца.

Цяпер задача заключалася ў тым, каб вывесці на захад ад германскіх пазіцый ужо не толькі 3 Конны корпус, але і ўсю 4 армію. І вось 7 ліпеня ўся 4 армія, вышаўшы на поўдзень ад р. Дзісенка, паварачвае фронт амаль прама на захад і накіроўваецца на лінію Свенцяны, воз. Нарач. Астатнія арміі фронту праследуюць праціўніка ў агульным напрамку на Маладзечна, яшчэ больш збіваючы яго на поўдзень—пад удар пачаўшай у гэты дзень сваё наступленне 16 арміі. У гэты-ж час 4 армія атрымала нечаканую прыбаўку ў сілах—зводная брыгада конніцы са складу 16 і 33 дывізій 15 арміі захапілася праследваннем праціўніка на захад і, страціўшы сувязь са сваёй арміяй, апынулася ўперадзе 4 арміі прама на новым напрамку яе руху. Каб не траціць дарагога часу і яшчэ больш узмацніць конніцу 4 арміі, камандуючы фронтам загадаў перадаць гэтую брыгаду ў склад 3 Коннага корпуса, які, такім чынам, узмацніўся яшчэ на 2.000 сабель.

Быстры манеўр 3 Коннага корпуса і захват ім Свенцян дазволіў усёй 4 арміі лёгка прайсці праз усе акопы і лабірынт дроту, якім былі пераблытаны старыя германскія пазіцыі, бо іх амаль ніхто не абараняў, але з раёну Вільні на поўнач ужо рухаліся рэзервы праціўніка. Гэта была толькі закончыўшая фармаванне новая 2 літоўска-беларуская пяхотная дывізія, якая к 11 ліпеня заняла зручны для абароны рубеж па р. Вілія і па лясах і азёрах на захад (гл. схему № 3).

Адначасова за раку Вілію і зручны для абароны рубеж за возерам Свір адышлі і яшчэ дзве пяхотныя дывізіі (8 і 10), уцякаўшыя з-пад ахвату 4 арміі. Астатнія часці 1 і 4 польскай арміі трымаліся ў раёне Менска і таксама галоўнай сваёй масай адыходзілі за старыя германскія пазіцыі на фронт: Смаргонь, Крэво і далей на поўдзень.

Па думцы галоўнага камандвання польскіх армій на гэтым рубяжы павінен быў быць дан адпор наступаючым арміям Заходняга фронту, прычым большая частка сіл павінна была сканцэнтравацца ў раёне Вільні для ўдару спачатку па 4 арміі, а потым і па флангу галоўных сіл Заходняга фронту. Стварыць гэтую ўдарную групу меркавалася за кошт сільнага разрэджання фронту ад воз. Свір на поўдзень да самага Палесся, а ўстойлівасць гэтаму тонкаму фронту павінна была надаць лінія старых германскіх пазіцый, якая сапраўды прымусіла-б нашы 15, 3 і 16 арміі затраціць многа часу і знарадаў раней, чым ім удалося-б аўладаць гэтай сільнай пазіцыяй.

Але, аднак, гэты план таксама патрабаваў часу для свайго ажыццяўлення, бо мы ўжо бачылі, што ў выніку першых дзён наступ-



Схема N3
Воз. Нарач
Воз. Свір
Свенцяны
164 бр.
4 арм.
11.7.
53 сд
12 сд
18 сд
8 пд.
10 пд
17 пд
15 арм.
11.7.
Маладзечна
3 арм.
12.7.
Смаргонь
11 пд.
Крэво
чыг.
3 к.к
Вільня
14.7.
1 польск. арм.

лення, асноўная маса польскіх сіл не магла адыйсці на захад к Свенцянам і, значыць, к Вільні, а адкацілася к поўдню, на Маладзечна. Цяпер трэба было збіраць сілы к Вільні, накіроўваючы іх ад Маладзечна на Вільню праз Смаргонь, а забяспечыць гэтую магчымасць павінны былі часці, якія стаялі на р. Віліі. Гэты новы план польскага камандвання зноў рухнуў пад ударамі 4 арміі і ў першую чаргу 3 Коннага корпуса. У трохдзённым баі на р. Віліі зародак будучай польскай ударнай групы, якая пакуль яшчэ іграла ролю заслоны, быў разбіт. У ноч на 14 ліпеня 3 Конны корпус аўладаў Вільняй, а пад вечар таго самага дня 4 армія вышла на чыгуначны шлях Вільня—Маладзечна. У гэты час галоўныя сілы Заходняга фронту, адкінуўшы 11 ліпеня палякаў з Менска, якраз падышлі сваім правым флангам (15 арміяй) да лініі старых германскіх пазіцый.

Такім чынам, не толькі план контрнаступлення польскага камандвання быў сарваны, але, што самае галоўнае, абарона старых германскіх пазіцый аказалася ўжо немагчымай для галоўных сіл генерала Шэптыцкага, які камандваў тады «літоўска-беларускім» фронтам (1 і 4 арміі), і, па яго настаянню, галоўнакамандуючы Пілсудскі аддаў загад аб адыходзе войск гэтага фронту на наступны рубеж па рэках Нёман і Шчара.

Барацьба на р. Віліі была не лёгкай, бо ўмовы мясцовасці палягчалі палякам абарону і калі-б заслона тут была больш сільная... то цяжка прадбачыць, ва што-б вылілася вялікае наступленне Заходняга фронту.

Але іменна ўся справа была якраз у тым, што гэтая заслона была слабая, а слабая яна была таму, што правільна ўлічаны вопыт майскага наступлення даў асновы для той пабудовы ліпеньскага наступлення, якая прынесла перамогу Заходняму фронту.

Цікава, што сам Пілсудскі ацэньваў вынікі баёў на рацэ Віліі і пад Вільняй так: «значэнне гэтага бою і яго рэзультаты адбіліся на гісторыі вайны ў значна большай ступені, чым папярэднія, значна больш цяжкія баі. 4 і 5 ліпеня... усе стратэгічныя меркаванні і планы лопнулі ў адну мінуту з-за выпадковага бою пад Вільняй».

Горка скардзячыся на няздольнасць генерала Шэптыцкага атрымаць перамогу над нашай 4 арміяй,—«...той іменна арміяй, якая пры далейшым развіцці аперацыі пастаянна і заўсёды, аж да Варшавы, аказвала рашаючы ўплыў на безупыннае і безустаннае адступленне фронту ген. Шэптыцкага»,—Пілсудскі гаворыць далей: «З гэтага часу ўсе спробы затрымаць праціўніка вырашаліся з яго боку такім-жа чынам, якім была вырашана бітва пад Вільняй. Сергееў са сваёй арміяй і конніцай, ідучы ад Вільні ўжо адносна вузкім карыдорам, сістэматычна абыходзіў левы фланг нашых войск, накшталт нейкага бакавога авангарда, які цягнуў за сабой астатнія совецкія войскі. Кожны такі абыход ліквідаваў, як гэта мела месца пад Вільняй, спробы супраціўлення спачатку 1 арміі, якая прымушана была адступаць, а за ёю спяшалася адступіць паўднёвая 4 армія. З прычыны наяўнасці на крайнім флангу совецкіх войск конніцы, гэтая ліквідацыя набывала часамі размеры сапраўднага паражэння, бо хуткасць захвату тэрыторыі біла па ўражанню»*).

Сапраўды, пасля баёў 11—14 ліпеня пад Вільняй і Менскам, баёў, якія прывялі да вызвалення сталіцы Совецкай Беларусі, пачынаецца бесперапыннае праследванне польскіх армій к Нёману, Нараву, Бугу

*) „1920 год“, гл. 6 і 7.

і Вісле. Войскі 4 арміі і 3 Конны корпус наступалі з боем, робячы ў сярэднім у дзень больш 20 кілометраў. Уражанне, якое выклікаў у польскага камандвання гэты бяспрыкладны марш Заходняга фронту, вельмі яскрава выражана ў той-жа кнізе Пілсудскага («1920 год»).

«Гэты бесперапынны рух значных непрыяцельскіх сіл, які прарываўся час ад часу як-бы скачкамі, надае ўражанне чагось неадхільнага, што насоўваецца, як нейкая цяжкая, дзівосная хмара, для якой няма ніякай перашкоды... Пад уплывам гэтай імклівай навальнічнай хмары хісталася дзяржава, хісталіся характары, мяклі сэрцы салдат»... «Для нашай, польскай стараны, пад уплывам гэтых падзей усё ясней і выразней вырысоўваўся, паміма знешняга фронту, фронт унутраны... Дзяржава трашчала, намаганні войск раздрабляліся ў спробах контратак, а работа камандвання з кожным днём станавілася маральна больш труднай і цяжкай».

У выніку баёў пад Вільняй амаль уся 1 польская армія збіваецца ў кучу ў раёне Ліда, адкуль імкліва кідаецца к Нёману, стараючыся заняць гэтую новую, важную абарончую лінію. Адначасова 4 польская армія адыходзіць на Шчару, якая таксама прадстаўляла сабой сур'ёзную перашкоду для нашага наступлення.

Як відаць са схемы № 4, і гэты план польскім арміям выканаць не ўдалося—перашкодзіў усё той-жа 3 Конны корпус, які раптоўным налётам у ноч на 19 ліпеня захваціў Гродна.

Гэты эпізод настолькі цікавы, што на ім трэба спыніцца крыху падрабязней. Гродна прадстаўляла сабой крэпасць часоў сусветнай вайны; фарты яе, праўда, былі разбураны, але засталіся акопы і густая сетка дротавай агарожы, кальцом ахапляючай горад на адлегласці 6—7 км. У крэпасці і горадзе знаходзіўся польскі гарнізон у выглядзе запаснога кавалерыйскага палка, караульнага батал'ёна і школы падрыхтоўкі афіцэраў. Пасля баёў пад Вільняй сюды адышлі таксама рэшткі 2 літоўска-беларускай пяхотнай дывізіі (тры батальёны) і яшчэ адзін кав. полк. Усяго набралася да 3.200 штыкоў, 1.200 сабель, 67 кулямётаў, 10 гармат, 4 танкі і два бронепаязды. Часці, як бачым, зборныя, але па колькасці яны толькі нямногім уступалі 3 Коннаму корпусу, які ў той час налічваў у сваіх радах не больш 5.000 сабель.

Пасля ўпартага бою, які заняў амаль увесь дзень 19 ліпеня, Конны корпус нарэшце аўладаў горадам, і, пераправіўшыся на левы бераг Нёмана, заняў перадавымі часцямі Кузніцу, дзе нечакана выявіў новага праціўніка, наступаўшага на Гродна з боку Беластока. Гэта былі галаўныя часці 9 пях. дывізіі, якая раней дзейнічала ў Палессі. Адначасова выявілася наступленне на Гродна буйных сіл праціўніка і на правым беразе Нёмана. Гэта былі 8 і 10 пях. дывізіі, якія накіроўваліся для заняцця Гродна і абароны р. Нёмана. Атакаваны з двух бакоў 3 Конны корпус два дні зацята біўся ў пешым страі, абараняючы захвачаную крэпасць. К 21 ліпеня праціўнік узмацніўся яшчэ часцямі 17 пд, якая падышла з паўднёвага ўсходу, і цэлым радам розных часцей ад Беластока. Становішча корпуса было цяжкае, баявыя прыпасы падыходзілі к канцу, але якраз з раніцы 21 ліпеня з Гродненскай пушчы пачалі выходзіць падаспеўшыя дывізіі 4 арміі, а ад Ліды падыходзіла 15 армія. Праціўнік, які ўжо аўладаў паўднёвай часткай крэпасці, прымушан быў кінуць атаку на правым беразе і пераправіцца на левы бераг Нёмана. Цяпер 4 арміі


Схема №4
у Маладзечна
ліда
15 арм. 19.7.
3 арм 19.7.
р. Шчара
22.7.
Воўкавыск
гродненская пушча
18 сд
17 пд.
12 сд
8 і 10 пд.
22.7
р. Неман
17 пд.
4 арм. 19.7.
53 сд
у Вільню
3 к.к. 19.7.
23.7
бр. 9 пд.
Кузніца
Гродн. гарн.
Гродна
Гожа
3 к.к. 23.7

прадстаяла фарсіраваць Нёман з боем. 3 Конны корпус быў зменен у Гродна адной брыгадай 12 сд і накірован праз Гожу ў абыход праціўніка, наступаўшага на Гродна з поўдня. Астатнія дывізіі арміі пачалі з боем перапраўляцца праз Нёман на ўсход ад Гродна.

Вось як апісваў гэтыя баі ачавідзец іх—наш пролетарскі паэт, т. Дзем'ян Бедны, у сваёй тэлеграме, пасланай у газету «Праўда»: «Аперацыя пад крэпасцю Гродна, праведзеная 4 арміяй з 19 па 23 ліпеня, здзіўляе сваёй выразнасцю і прыгожасцю і не паддаецца апісанню па высокаму гераізму, праяўленаму чырвонымі часцямі, якія фарсіравалі Нёман і разграмілі праціўніка, наступаўшага ў складзе пяці дывізій на Гродна. Нашы часці перапраўляліся праз Нёман уплаў і на бярвеннях пад ураганным артылерыйскім агнём, захватваючы штыкавой атакай батарэі праціўніка. Кавалерыя ў конным страі брала крэпасныя фарты. Усяго пад Гродна за час аперацыі захвачана 30 гармат, у тым ліку—10 цяжкіх, 70 кулямётаў і 3 танкі, якія зараз-жа былі павернуты супроць праціўніка, і палонных—звыш 4.000.

34 брыгада 12 дывізіі адбіла 16 шалёных атак праціўніка; абараняючы Гродна і прыцягваючы на сябе галоўны ўдар палякаў, яна тым самым дала магчымасць суседнім дывізіям зрабіць шырокі абыходны манеўр. Бой, які даходзіў часамі да найвялікшай лютасці, закончыўся поўным разгромам праціўніка, адступаўшага ў паніцы. Спалучэнне свядомасці і гераізму чырвонаармейцаў ператварыла іх у байцоў, якім сапраўды няма роўных» *).

Разграміўшы палякаў пад Гродна і прадаўжаючы праследванне іх к Нараву, 4 армія выходзіла ўжо з межаў Заходняй Беларусі і пачынала ўваходзіць ва ўласна-Польшчу.

З вайны з Польшчай мы вышлі пераможцамі, мы нанеслі яшчэ адзін рашучы ўдар па міжнароднай буржуазіі, мы яшчэ раз паказалі Антанце, як можа адстойваць, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, свае заваяванні Чырвоная армія, пераможны пролетарыят разам з шырокімі працоўнымі масамі сялянства. І калі прыдзецца, то байцы нашай доблеснай Чырвонай арміі, усе як адзін, будуць да апошняй каплі крыві біцца з ворагам за краіну Советаў—бацькаўшчыну працоўных усяго свету.

---

*) Тэлеграма, пасланая т. Дзем'янам Бенным у газету „Праўда" 25 ліпеня 1920 г.



*Тав. БУДЗЁННЫ*
*Інспектар кавалерыі РСЧА*
*і член Рэвваенсовета СССР.*

І. Немец

# Беларусь пад гнётам белапольскіх акупантаў

Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя ў Расіі зніштожыла ўладу капітала.

Старая буржуазна-памешчыцкая Расія—турма народаў і буйнейшы аплот рэакцыі на захадзе і ўсходзе—перастала існаваць. Пролетарыят у Расіі, узяўшы ў свае рукі ўладу, упершыню ў сусветнай гісторыі не на словах, а на справе пакончыў з нацыянальным прыгнечаннем ва ўсіх відах і формах, паклаўшы ў аснову сужыццё народаў, дабравольнае супрацоўніцтва на аснове поўнага раўнапраўя.

> «Окцябрская рэволюцыя адным ударам разарвала ланцугі нацыянальнага прыгнечання, перавярнула старыя адносіны паміж народамі, падарвала старую нацыянальную варожасць, расчысціла глебу для супрацоўніцтва народаў і заваявала рускаму пролетарыяту давер'е яго інанацыянальных братоў не толькі ў Расіі, але і ў Еўропе і Азіі» *).

Совецкая ўлада на справе паказала працоўным масам, прыдушаным гнётам імперыялізма, што сапраўднае зніштажэнне нацыянальнага прыгнечання і імперыялістычнага грабяжу, сапраўднае ажыццяўленне права нацый на самавызначэнне ў інтарэсах працоўных мас магчыма толькі пасля знішташэння ўлады капітала і ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята.

> Совецкая ўлада паказала ўсім прыгнечаным народам, што «існаванне капіталізма без нацыянальнага гнёту таксама нямыслімa як нямысліма існаванне соцыялізма без вызвалення прыгнечаных нацый, без нацыянальнай свабоды» **).

Гэтыя палажэнні геніяльнага прадаўжальніка вучэння В. І. Леніна пацверджаны і ўсёй паследуючай гісторыяй малых буржуазных дзяржаў, створаных у пасляваенны перыяд.

Створаныя новыя самастойныя нацыянальныя буржуазныя дзяржавы быўшых прыгнечаных нацый: Фінляндыя, Польшча і інш., сталі дзяржавамі нацыянальнага прыгнечання і імперыялістычных захватаў і былі выкарыстаны сусветным імперыялізмам, як зброя для барацьбы супроць першай у свеце пролетарскай дзяржавы.

Найбольш агрэсіўную ролю супроць краіны Советаў адыграла буржуазна-памешчыцкая Польшча.

---

*) Сталин, Марксизм и национально-колониальный вопрос, стар. 105.
**) Там-жа, стар. 67.

Польская буржуазія, палаючы лютай ненавісцю супроць пролетарскай рэволюцыі, прымала актыўны ўдзел ва ўсіх паходах Антанты супроць краіны Советаў. У перыяд трэцяга паходу Антанты польскі імперыялізм пад даўленнем апошняй, праследуючы і свае захватніцкія мэты, узяў на сябе ролю авангарда міжнароднага імперыялізма супроць пераможнай пролетарскай рэволюцыі.

У вайне супроць краіны Советаў панская Польшча дабівалася ператварэння Украіны і Беларусі ў краіну каланіяльнага грабяжу і прыгнечання.

Акупаваўшы ў 1919—20 гг. частку Украіны і Беларусі, белапалякі ўпісалі жудасную старонку ў гісторыю працоўных мас гэтых краін. У сваёй палітыцы гвалту, грабяжу і здзекаў над працоўнымі масамі белагвардзейшчына Польшчы перашчыгаляла старую царскую Расію.

Актыўнымі памочнікамі ў справе ператварэння працоўных мас Беларусі ў каланіяльных рабоў польскага імперыялізма выступалі беларускія контррэволюцыйныя нацдэмакраты і іх браты па справе абману і здрадніцтва працоўных мас (Бунд і інш.).

11 месяцаў панавалі белапольскія акупанты ў Беларусі. За 11 месяцаў свайго гаспадарання агнём і мечам яны залівалі крывёю працоўных мас беларускую зямлю.

Пагромамі, грабяжамі, масавымі расстрэламі белапалякі азнаменавалі заняцце кожнага горада, кожнай вёскі, кожнага мястэчка.

Пасля заняцця Менска 8 жніўня 1919 г. белапалякі праводзілі масавыя арышты і расстрэлы. Колькасць арыштаваных. ў першыя-ж дні дасягнула звыш 1000 чалавек, расстраляна каля 100 чал. Лепшыя сыны пролетарыята за малейшае падазрэнне ў спачуванні, не кажучы ўжо аб прыналежнасці да комуністычнай партыі, расстрэльваліся без суда і следства.

Пагромы—улюбёны метад старой царскай Расіі ў барацьбе супроць працоўных мас—прымяняліся ў шырокім маштабе. На працягу першых пяці дзён Менск быў прадастаўлен польскім салдатам на поўнае разграбленне. Былі разграблены магазіны і крамы, над яўрэйскай беднатой учыняліся самыя дзікія, нечалавечыя здзекі.

Уварваўшыся ў горад Бабруйск 28 жніўня 1919 г., белапалякі не толькі перапоўнілі турмы рабочымі і сялянамі, але і школы, кіно і тэатры ператварылі ў турмы, бо колькасць арыштаваных не магла ўжо памясціцца ў турмах. У справе вылоўлівання большэвікоў ім дапамагалі ўсе падонкі грамадства: быўшыя царскія гарадавыя, ксяндзы, папы і рабіны. У Бабруйскім лагеры ваеннапалонных адбываліся масавыя знішчэнні палонных чырвонаармейцаў. «Бабруйская крэпасць,—піша тав. Гершон (актыўны ўдзельнік бабруйскага падполля)—прасякнута крывёю.

Белапалякі знішчалі чырвонаармейцаў не толькі расстрэламі, але і эпідэміяй тыфу. Калі большэвікі падполля арганізавалі культурныя сілы горада, урачоў, якія згадзіліся бясплатна дапамагчы ліквідаваць эпідэмію і палегчыць становішча нашым братам, паміраючым ад тыфу, штаб польскай арміі адказаў коратка: «іх не лячыць, а расстрэльваць».

Быўшыя гаспадары нацыяналізаваных совецкай уладай фабрык і заводаў, пад абаронай польскага штыка, занялі зноў пануючае становішча на прадпрыемствах. Эксплаататары распаясаліся. Баявыя профсаюзы былі разагнаны. Дзесяткі тысяч рабочых былі зволены з работы і пазбаўлены ўсякіх сродкаў да існавання.

Становішча працоўных было такое, што нават буржуазная карэспандэнтка амерыканскай газеты «Лібертар», наведаўшая гор. Барысаў, вымушана была засведчыць малюнкі жудасцей, голаду і галечы, якія даходзілі да таго, што ў рабочых кварталах людзі безнадзейна чакалі смерці.

Штыком і кулямётным агнём экзекуцыйных атрадаў белапалякі аднаўлялі памешчыцкую ўласнасць і памешчыцкую ўладу. 27 жніўня 1919 года начальнік Менскай акругі Рачкоўскі апублікаваў абавязковую пастанову белапольскіх акупантаў, аднаўляючы буржуазна-памешчыцкае рабства для рабочых і сялян Беларусі. Пастанова гаворыць: «Уся прыватная ўласнасць павінна быць вернута законным уласнікам. Памешчыкі або іх прадстаўнікі абавязаны не пазней 10 верасня ўступіць ва ўладанне сваімі маёнткамі».

Памешчыкі, якія вярнуліся ў свае маёнткі, поўныя лютай ненавісці да сялянства, накладвалі каласальныя кантрыбуцыі. Вёскі абкладаліся памешчыкамі па 500 і больш рублёў за тое, што яны карысталіся пры савецкай уладзе бясплатна лесам, належаўшым раней памешчыкам.

У Дзісненскім павеце памешчыкі, вярнуўшыся, неадкладна запатрабавалі ад сялян палавіны ўраджаю ўсіх узараных і засеяных сялянамі зямель. Старая паншчына і кабальная арэнда, супроць якіх сялянства стагоддзямі змагалася і ад якіх іх вызваліла Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя, пад аховай польскага штыка была ўведзена зноў. У радзе раёнаў Беларусі памешчыкі прымусілі сялян працаваць у памешчыцкіх маёнтках па два дні ў тыдзень. Сяляне, пазбаўленыя памешчыкамі зямлі, вымушаны былі арандаваць яе ў памешчыкаў на кабальных умовах.

Палітыка варварскага грабяжу белапольскіх каланізатараў не мела граніц. У сялян забіралі ўсё, што толькі маглі, прыдушаючы агнём і мечам малейшае супраціўленне. Налогі, рэквізіцыі, грабяжы прадстаўлялі звычайную з'яву ў беларускай вёсцы.

Мясцовыя ўлады рэквізавалі ў сялян жыта, авёс, бульбу, мяшкі, мяса, палатно, кажухі.

Толькі за адзін чэрвень месяц 1920 г. мясцовыя ўлады ў Бабруйскім павеце па так званых арганізаваных нормах рэквізавалі 22.935 пудоў мяса. Такія рэквізіцыі рабіліся штомесячна. Акрамя мясцовых улад, вайсковыя часці без усякіх норм праводзілі рэквізіцыю коней, кароў, свіней і т. п. Такія грабяжы рабіліся любой воінскай часцю. Акрамя ўсяго гэтага ўчыняліся бандыцкія налёты на вёскі і мястэчкі.

У мястэчку Плешчаніцы па распараджэнню каменданта былі зроблены налёты на базар. Налётчыкі забіралі ўсё, што пападалася ім пад руку: коней, кароў і іншыя прадметы, прывезеныя на прадажу.

Польскі атрад у маі 1920 г. арганізаваў налёт на вёску Панкратавічы, Бабруйскага павету, Туркаўскай воласці. Атрад, устанавіўшы супроць гэтай вёскі артылерыю і кулямёты, пачаў яе абстрэльваць ураганным агнём. Пасля абстрэлу яны падпалілі пяць хутароў і пачалі грабеж, выводзячы з сабою не ўгнаную ў лес жывёлу і коней. Да аднаго селяніна гэтай вёскі ўварвалася каля дзесяці легіянераў, яны захапілі ў яго жывёлу і коней і забралі з сабой яго двух сыноў: аднаму з іх было 12, а другому 15 год. Дом і будынкі падпалілі. Калі стары селянін звярнуўся да легіянераў з просьбай пакінуць яму сыноў і хаця-б аднаго каня, легіянеры па загаду афіцэра збілі яго прыкладамі.

На вёску Засамчы, Замошскай воласці ў сакавіку 1920 г. белапалякі налажылі кантрыбуцыю ў 30.000 рублёў: паколькі ў сялян не было грошай, яны рэквізавалі жывёлу, а сялян збілі шампаламі.

19 чэрвеня 1920 г. белапалякі 1-га пазнанскага вялікапольскага палка зрабілі налёт на мястэчка Шчэдрын, Бабруйскага павету. Увараўшыся ў дом гр-на Партона, яны выгналі на вуліцу бацьку і маці і накінуліся на безабаронную дачку Гітлю, каб згвалціць яе. Калі яна вырвалася з рук гэтых варвараў, апошнія прыстрэлілі яе разрыўною куляй, якая вырвала ёй усе ўнутранасці. Пасля гэтай агіднай справы яны пачалі грабіць і забіраць усё, што ім пападала пад руку.

У вёсцы Качэрыцы, Бабруйскага павету, група польскіх камандзіраў пад выглядам пошуку комуністаў пачала грабіць сялян, забіраючы сала, масла, малако і т. п., затым устроілі баль і запатрабавалі, каб прывялі сялянскіх дзяўчын. Не выцерпеўшы гэтых здзекаў, сяляне сабраліся і прагналі польскіх грабежнікаў з вёскі. У адказ на гэтае выступленне сялян, белапалякі акружылі вёску з усіх бакоў і падпалілі яе. Белапольскія варвары, так званыя «цывілізатары» з Заходу, не выпусцілі з вёскі нікога, нават жанчын з груднымі дзецьмі. Так у жудасных пакутах згарэла 200 чалавек.

Усе гэтыя факты нястрымнага разгулу акупантаў з'яўляюцца нязначнай капляй у моры пралітай імі крыві рабочых і сялян Беларусі. Таму бязмернымі здзекамі над рабочымі і сялянамі Беларусі гучэлі адозвы Пілсудскага аб вызваленчай ролі польскай зброі.

Пад фальшывым сцягам вызвалення Беларусі белапольскія акупанты зніштажалі ўсякую магчымасць развіцця нацыянальнай культуры. У гэтай справе яны таксама ішлі па слядах старой царскай Расіі.

Акупанты аб'явілі дзяржаўнай мовай польскую мову. Усё справаводства ў дзяржаўных установах вялося толькі на польскай мове. Служачыя дзяржаўных установаў, не ведаючыя польскай мовы, звальняліся. Каб ліквідаваць беларускія школы, створаныя совецкай уладай, акупанты пазбавілі іх дзяржаўных субсідый.

Совецкая ўлада, вымушаная аставіць Менск белапалякам, пакінула для дзіцячых ачагоў грашовыя сродкі. Адразу пасля заняцця Беларусі белапольскія «цывілізатары» закрылі польскія ачагі, грошы, пакінутыя совецкай уладаю, канфіскавалі, а кіраўніц і выхавальніц арыштавалі.

Вуліцы, плошчы і скверы былі перайменаваны па-польску. Шыльды на магазінах перафарбоўваліся ў польскі колер і на польскай мове. Нават назва «Беларусь» была заменена назвай «Усходнія крэсы» (акраіны). Так «вырашылі» нацыянальнае пытанне польскія акупанты. Вось гэта і называецца на мове польскіх імперыялістаў «вызваленне Беларусі».

Адказам на гэтую варварскую, драпежніцкую палітыку грабяжу і прыгнечання белапалякаў былі масавыя сялянскія выступленні і рост партызанскага руху пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Згуртаваўшыся вакол комуністычнай партыі, яны самаадданa змагаліся супроць захватчыкаў. Куды-б ні рухаліся польскія войскі, яны ўсюды сустракалі процідзеянне з боку працоўных мас, прагнуўшых вызвалення. Белапалякі аказаліся ў варожым акружэнні.

Палегчыць палякам задачу ўмацавання сваёй улады ў Беларусі для далейшай барацьбы супроць совецкай улады ўзялі на сябе бела-

рускія контррэволюцыйныя нацдэмакраты, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сцягам.

Беларускія контррэволюцыйныя нацдэмакраты пасля заняцця Менска белапалякамі зварачаліся да польскага камандвання з просьбай не спыняцца на Бярэзіне, а ісці далей на Ўсход. У нацдэмаўскай газеце «Звон» (№ 1 і 2 за 1919 г.) мы чытаем: «Польшча павінна дапамагчы Беларусі, яна павінна пасунуць свае войскі яшчэ далей на Ўсход, каб адабраць у большэвікоў усходнюю Беларусь і такім чынам аб'яднаць яе... Беларусь мае права спадзявацца, што Польшча не забыла свайго саюзніка і кампаньёна: «стары друг лепш новых двух». Польскі імперыялізм, які вёў знішчальную вайну супроць працоўных мас Беларусі, з'яўляецца, вядома, лепшым старым другам для беларускіх нацдэмакратаў, усведамляўшых, што без дапамогі польскага імперыялізма яны не змогуць надзець ярмо ўлады памешчыкаў і капіталістаў на працоўныя масы Беларусі. Таму нацдэмаўская газета «Беларусь» 28 сакавіка 1920 года, субсідуемая польскімі акупацыйнымі ўладамі, пісала, «што для Польшчы з'яўляецца ўсходняй палітыкай, для нас з'яўляецца беларускай палітыкай... Цяпер кожнаму ясна, што будучыня Беларусі цесна звязана з будучыняй Польшчы» («Беларусь» № 68 за 1920 г.). «Будзем разам з імі ахоўваць нашу зямельку» («Беларусь» 29/V-20 г.).

І для гэтай аховы «беларускай зямелькі», якая выражалася ў бязлітаснай барацьбе супроць рабочых і сялян акупаванай Беларусі і дапамозе белапалякам у іх далейшым наступленні на краіну Советаў, яны на грошы польскага імперыялізма арганізоўвалі беларускае контррэволюцыйнае войска. Таму зразумела, чаму польская дэфензіва давала самыя лепшыя водзывы аб дзейнасці беларускіх нацдэмакратаў. Дэфензіўшчыкі адзначалі выдатную работу правадыроў беларускага нацыяналізма—Луцкевічаў, Смолічаў, Рак-Міхайлоўскіх, Лёсікаў і інш.—на карысць акупацыйных улад. Але ўсе лакейскія намаганні беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі ўтрымаць працоўныя масы ў пакорнай паслухмянасці польскім акупантам цярпелі крах. Контррэволюцыйныя нацдэмакраты з зубоўным скрыгатаннем вымушаны былі прызнаць, што «ў той час, як у цэнтры Беларусі паміж польскаю ўладай і беларускімі палітычнымі коламі (г. зн. контррэволюцыйнымі нацдэмакратамі—**І. Н.)** наладжваецца кантакт і супольная работа, у гэты час з правінцыі прыходзяць трывожныя чуткі. Там разумення паміж польскімі ўраднікамі і мясцовым насельніцтвам няма...» «Можна смела сказаць, што адносіны насельніцтва да польскай улады на месцах безумоўна непрыязныя. Гэта асабліва трывожна, калі прыняць пад увагу, што час патрабуе безумоўнай згоды і аб'яднання» («Звон», 6/X-19 г.). Але працоўныя масы Беларусі аставаліся глухімі да заклікаў нацыяналістычнай контррэволюцыі—агентаў польскага імперыялізма. На заклік комуністычнай партыі к барацьбе супроць акупантаў працоўныя масы згуртаваліся вакол большэвіцкага падполля. У абстаноўцы шалёнага белага тэрора, не гледзячы на палітыку знішчэння комуністаў, партыйныя арганізацыі падполля самаахвярна змагаліся супроць белапольскіх акупантаў.

З глыбокага падполля партыйныя арганізацыі, якім увесь час пагражала смерць ад узброеных да зубоў польскіх белагвардзейцаў, згуртоўвалі рабочыя і сялянскія бядняцка-серадняцкія масы на барацьбу за вызваленне ад буржуазна-панскай няволі. З глыбокага падполля большэвікі Беларусі арганізоўвалі масы на барацьбу з польскай шляхтай і яе агентурай: беларускімі контррэволюцый-

нымі нацдэмакратамі і яўрэйскай нацыяналістычнай контррэволюцыяй—Бундам і інш.

Як беларускія контррэволюцыйныя нацдэмакраты, так і контррэволюцыйны Бунд існавалі легальна, выконваючы соцыяльны заказ польскіх акупантаў і яўрэйскай буржуазіі. Бунд процідзейнічаў арганізацыі рабочых мас у баявыя прафесіянальныя саюзы. Яны змагаліся за адмаўленне профсаюзаў ад класавай барацьбы. Яны змагаліся за ўзаконенне наёмнага рабства, яны зрывалі стачачную барацьбу рабочых, яны распаўсюджвалі самыя дзікія небыліцы аб совецкай уладзе з тым, каб паралізаваць энергічную барацьбу рабочых і сялян Беларусі супроць польскіх грабежнікаў і наёмных слуг міжнароднай буржуазіі.

Не гледзячы на крывавы белы тэрор, расстрэлы, рад правалаў партыйных арганізацый у Слуцку, Бабруйску, Менску і т. д., партыйныя арганізацыі шырока разрасталіся і разгарнулі сваю работу ў профсаюзах, вёсцы і польскай арміі. У Менску, Бабруйску і Слуцку комуністы ў процілегласць ствараемым белапалякамі жоўтым хрысціянскім профсаюзам арганізавалі рабочых на барацьбу з акупантамі ў баявыя нелегальныя інтэрнацыянальныя профсаюзы. Падпольныя арганізацыі КПЛ і Б, дзякуючы штодзённай непрымірымай барацьбе з контррэволюцыйным Бундам і Паалей-цыёнам, пазбавілі іх уплыву амаль ва ўсіх профсаюзах. Работай і барацьбой профсаюзаў партыя кіравала праз комуністычныя ячэйкі, арганізаваныя пры профсаюзах.

Не гледзячы на вялікія труднасці, падпольныя арганізацыі КПЛ і Б разгарнулі вялікую работу сярод салдат польскай арміі. Распаўсюджваючы лістоўкі і агітацыйную літаратуру, яны раскрывалі сапраўдны контррэволюцыйны сэнс вайны польскага імперыялізма супроць краіны Советаў. «Распаўсюджваемыя ў войсках пракламацыі чытаюцца з вялікім уздымам». Яны заражалі салдат ідэямі комунізма, паказваючы шлях рабочаму і селяніну, адзетаму ў мундзір польскага салдата к вызваленню ад гнёту і эксплаатацыі буржуазіі і памешчыкаў. Падпольныя комуністычныя арганізацыі, рэволюцыянізуючы польскую армію, тым самым падрывалі ваенную магутнасць польскага імперыялізма, дапамагаючы працоўным масам Беларусі ў іх барацьбе за вызваленне ад акупантаў.

Большэвіцкай прапагандай і самаадданай барацьбою ўдалося не толькі падняць на барацьбу рабочых і сялян Беларусі, але і ўнесці каласальнае разлажэнне ў рады польскай арміі. Гэта тлумачыцца галоўным чынам тым, што самаадданая барацьба большэвікоў сустракала падтрыманне працоўных мас гарадоў, вёсак і мястэчак Беларусі, што толькі заклікі комуністычнай партыі знаходзілі водгук у сэрцах рабочых і сялян Беларусі. Толькі большэвікі далі кліч барацьбы, а не кліч прымірэння. Толькі большэвікі паказалі шлях к вызваленню. Вось што гаварылася ў адозве падпольнага ЦБ компартыі да сялян Беларусі.

> «Ужо два месяцы наша краіна занята польскімі легіянерамі...
> Таварышы сяляне! Што змянілася за гэты час?
> Памешчыкі, якія пры совецкай уладзе ўцякалі, цяпер вярнуліся ў свае маёнткі і пры дапамозе польскіх салдат люта распраўляюцца з сялянамі і батракамі. Розга і бізун зноў сталі гуляць па вашых спінах... Хлеб, які быў засеян вамі, цяпер вывозіцца памешчыкамі для таго, каб карміць зладзеяў-легіянераў.
> На вашых конях легіянеры ідуць з вайной супроць вашых братоў, сялян Магілеўскай, Віцебскай, Смаленскай і інш. губер-

ній. Польскія легіянеры, гэтыя наёмнікі вашых памешчыкаў, нападаюць на вашы стады, забіраюць і вывозяць вашу жывёлу.

Ды хіба вольны селянін можа карміць прыгнятальнікаў? Ніколі! Ганіце ў шыю ўсіх гвалтаўнікоў!

Бярыце зброю ў рукі!

Пакажыце, што вы сіла, што вы не баіцёся бразгаючых шпорамі памешчыцкіх сынкоў. Не паспеюць яны сагрэцца, як бальшэвіцкая Чырвоная армія пагоніць іх з нашых палёў, вёсак.

Запасайцеся зброяй!

Выганяйце гвалтаўнікоў, легіянераў!

Ганіце ў карк усё іх каінава племя!

Няхай дрыжаць яны ад вашай вольнай сялянскай сілы, вашай зброі.

Смерць памешчыцкай зграі!

Няхай жывуць советы сялян і рабочых!»

Не ў беларускія белагвардзейскія вайсковыя часці ішла маса беднаты і сераднякоў вёскі, куды іх звалі беларускія контррэвалюцыйныя нацдэмакраты, а ў партызанскія атрады на паўстанцкую барацьбу супроць белапольскіх грабежнікаў і беларускай нацдэмакратычнай белагвардзейшчыны.

Для арганізацыі партызанскіх атрадаў у Менскім раёне быў створан паўстанцкі камітэт на чале з т. Шаранговічам. Цёмнымі начамі, па вёсках і лясах ён праводзіў сходы сялян, на якіх ствараліся атрады чырвоных партызан. Дзякуючы праведзенай паўстанцкім камітэтам увесну 1920 г. рабоце, у Менскім раёне налічвалася больш 400 партызан.

У Бабруйскім павеце арганізатарам і кіраўніком партызанскага руху быў т. Леўкоў. У рэзультаце каласальнай работы, праробленай бабруйскай падпольнай партарганізацыяй і асабіста т. Леўковым, увесь павет пакрыўся густою сеткай партызанскіх атрадаў. Працоўнае сялянства некаторых валасцей, як Рудабельская і іншыя, цалкам уваходзіла ў партызанскія атрады.

У раёне Докшыц, Барысаўскага павету, было зарэгістравана 2000 сялян, гатовых у кожны час да партызанскіх выступленняў. Увесну 1920 г. у Барысаве было ад 200 да 250 партызан, у Ігумене—да 200; у Маладзечна—250, у Старых Дарогах—300.

Бальшэвіцкія кіраўнікі партызанскіх атрадаў сваім прыкладам, адвагай і адданасцю справе рабочага класа натхнялі працоўныя масы на вялікую барацьбу супроць прыгнятальнікаў.

Паўстанцкі рух падрываў устойлівасць тылу белапалякаў, садзейнічаючы гераічнай пераможнай барацьбе Чырвонай арміі, працягнуўшай брацкую руку дапамогі працоўным масам Беларусі. Не гледзячы на слабую ўзброенасць і невялікую колькасць партызанскіх атрадаў у першы час, яны наносілі сур'ёзныя ўдары белапольскім атрадам, у сто раз перавышаўшым іх колькасцю і ўзбраеннем.

Вось некалькі прыкладаў гераічнай барацьбы чырвоных партызан.

У студзені 1920 г. партызанскія атрады ў вёсцы Стасеўцы разбілі роту белапалякаў. У Ігуменскім павеце партызанскі атрад раззброіў групу белапалякаў з 400 чалавек. 5/VI каля станцыі Жодзіна, Барысаўскага павету, сяляне-партызаны ўзарвалі два эшалоны з баявымі прыпасамі. 10/VI чырвоныя партызаны ўзарвалі чыгуначныя масты і разбурылі палатно чыгункі, дзякуючы чаму быў прыпынен пасажырскі рух па лініі Менск—Вільня, Менск—Баранавічы.

Партызанскі рух набыў самыя шырокія размеры ў перыяд ліпеньскага наступлення Чырвонай арміі. Чырвоныя партызаны, нападаючы на вайсковыя часці белапалякаў, адбівалі аднначасова награбленае імі дабро ў сялян. Атрад, які дзейнічаў у раёне Рудабелкі, Бабруйскага павету, пад кіраўніцтвам тав. Арлоўскага, у ліпені месяцы атрымаў весткі ад сялян, што распалажаныя ў гэтым раёне польскія часці аграбілі адну з вёсак. Партызанскі атрад уночы зрабіў налёт на шматлікую групу белапалякаў. Каб скрыць ад белапалякаў малалікасць свайго атрада, яны дагаварыліся падаваць розныя каманды: рота, узвод,—наперад! і т. д. Белапалякі былі засцігнуты знянацку. Частка назаўсёды засталася на месцы, частка выратавалася ўцёкамі. Гэты налёт даў партызанам вялізныя трафеі. Яны захапілі вялікую колькасць зброі. Ім удалося адбіць каля 60 падвод з усякай правізіяй, награбленай палякамі ў сялян. Гэты-ж атрад спаліў на рацэ Пціч два драўляных масты, адрэзаўшы белапалякам дарогу к адступленню.

Атрад партызан пад камандай Жынко, які дзейнічаў у Брожскай і Рудабельскай воласцях, разбіў польскі батальён, захваціў 18 коней і ваенную маемасць. Спаліўшы мост праз раку Пціч ля вёскі Бярозаўкі, атрад адрэзаў белапалякам шлях к адступленню, паставіўшы іх пад пагрозу поўнага знішчажэння чырвонаармейскімі часцямі з фронту і партызанскімі атрадамі з тылу.

У вёсцы Падгай на Коханаўшчыне палякі перад адыходам пачалі грабіць сялян. Аб гэтым сяляне паведамілі партызанам, якія разагналі белапалякаў, частку перабілі, а шасцярых салдат узялі ў палон.

Калі адступаючыя польскія войскі падпалілі за сабою мост праз раку Пціч, у раёне Прылук, партызанскі атрад пад камандай тав. Гладкага пачаў абстрэльваць белапалякаў і прагнаў іх. У гэты-ж час рабочыя бліжэйшага маёнтка і сяляне патушылі палаючы мост, праз які ў хуткім часе пераправіліся перадавыя часці Чырвонай арміі.

Для расправы з непакорнымі сялянамі і партызанамі Рудабельскай воласці белапалякі накіравалі туды буйны ваенны атрад у 1500 штыкоў. Белапольскі атрад акружыў Рудабелку і вакольныя вёскі і пачаў зверскую расправу. Падпальвалі дамы і іншыя будынкі, лавілі мужчын. Чырвоныя партызаны, пад камандай тав. Леўкова (кіраўнік партызанскага руху ў Бабруйскім павеце, цяперашні сакратар ЦВК Беларусі), кінуліся на белапалякаў. У гэтым няроўным бai адзін з атрадаў страціў 90 % свайго складу. Але, не гледзячы на такія каласальныя страты, панесеныя атрадам, партызаны не праявілі і ценю панікі. Наадварот—быў праяўлен гераізм, адвага, мужнасць і адданасць справе рэволюцыі. Толькі калі рады партызан сталі сільна радзець, калі былі расстраляны ўсе патроны, партызаны пачалі арганізавана адыходзіць.

Пападаючы ў палон да белапалякаў, партызаны праяўлялі большэвіцкую мужнасць. Яны паміралі з рэволюцыйнымі лозунгамі на вуснах. Вось прыклад, як ішлі на смерць 14 храбрых партызан, прысуджаных ваенна-палявым судом к расстрэлу:

«Вясенні сонечны дзень. 14 партызан вялі на расстрэл. Сплеценыя ланцугамі, акружаныя лесам штыкоў, параненыя, яны, падтрымліваючы адзін другога, ішлі і спявалі: «Смела, таварышы, у ногу», і калі паставілі ўсіх 14 над вырытай ямай і прапанавалі ім павязкі на вочы—яны адмовіліся».

Адзін за ўсіх сказаў: «Мы паміраем, але бяссмертна наша ідэя, і яна пераможа ва ўсім свеце. Нас заменяць тысячы новых барацьбітоў»

Будучы захвачаны белапалякамі, партызаны ў жудасных пакутах паміралі, трымаючы высока сцяг вызвалення.

Тав. Леўкоў так апісвае тып партызана: «Абадраны, стомлены і галодны, на нагах замест ботаў парцянкі, у правай кішэні абойма патронаў. Партызан спакоен, яго ставяць расстрэльваць, а ён гаворыць: «Другой узнагароды я не чакаю, паміраю за свабоду, за рэвалюцыю, за совецкую ўладу».

Белапалякі, адступаючы пад націскам Чырвонай арміі, дэмаралізаваныя барацьбой партызанскіх атрадаў у тыле, варварскі зніштажалі артылерыйскім агнём гарады і сёлы Беларусі.

Пасля заняцця гор. Барысава Чырвонай арміяй 25/V—20 года белапалякі адкрылі ўраганны агонь па гораду, выпусціўшы каля 800 6—8-дзюймовых знарадаў. У рэзультаце абстрэлу гор. Барысаў быў ператворан у руіны. Звыш 500 грамадзян—мужчын, жанчын і дзяцей—забіта, больш 100 чалавек цяжка ранена і згарэла ў агні. Да 10.000 жыхароў, ратуючыся ад агня, разбегліся па лясах, застаўшыся голымі і галоднымі. Калі што-небудзь у горадзе ўцалела, то толькі дзякуючы самаадданым дзеянням комуністаў і рэўкома горада Барысава.

Перад адыходам з Бабруйска, у ноч на 9 і 10 ліпеня, белапалякі арганізавалі грабеж па гораду. Былі разгромлены ўсе магазіны і крамы, тавары раскрадзены, усе склады, хлявы, таварная станцыя, прыстань і масты былі спалены. Будынкі бабруйскай крэпасці, аблітыя мазутай, гарэлі 4—5 дзён. Фабрыкі і заводы ў большай сваёй частцы былі або ўзарваны або спалены белапалякамі. Белапалякі пагналі з сабой жывёлу і падводы, бязлітасна расстрэльваючы мясцовых жыхароў.

У Слуцку перад адыходам белапалякі спалілі значную частку горада, суправаджаючы гэта бязлітасным грабяжом. Яны забіралі ўсё, што пападала ім пад руку: жывёлу, адзенне, абутак, грошы і т. д. У павеце згарэла 1462 будынкі з усім хатнім дабром. Забрана і ўгнана 1820 коней, 2716 кароў, 1196 свіней, 2906 авечак. Забітых налічвалася 35 чалавек. Мястэчка Урэчча, Слуцкага павету, перад адыходам белапалякаў на працягу некалькіх сутак падвяргалася грабяжу. У апошні-ж дзень быў падпален кожны трэці дом. Пажарную каманду, прабаваўшую тушыць агонь, пад пагрозай зніштажэння палякі вымусілі спыніць барацьбу з агнём.

Звар'яцелае, раздзетае да-гала насельніцтва, уцякала ў лес, дзе на працягу некалькіх дзён вымушана было харчавацца лісцем і травой.

Перад адступленнем з Дзісненскага павету белапалякі ўгналі 50% усіх коней і разарылі ўсю сялянскую гаспадарку. Станцыя Калодзішчы была разграблена і разгромлена белапалякамі. Усе паравозы, абсталяванне вузкакалейкі лесапільнага завода было ўвезена імі. Яны спалілі ўвесь рухомы састаў, усе будынкі, завод, склад і амбары. Асобая падрыўная каманда, рассыпаўшыся па паселішчу, падпальвала будынкі і грабіла. Сцены абкладваліся ўнізе сенам, абліваліся карасінам і падпальваліся.

Перад адыходам з Менска 9—11 ліпеня белапалякі разграмілі горад, спалілі казармы, фабрыкі, госпіталі, узарвалі вакзал. Урадавыя, грамадскія і прыватныя будынкі абліваліся карасінам і падпальваліся.

Горад палаў у агні. У гэты-ж самы час белапалякі, як драпежныя звяры, мітусіліся па вуліцах і завулках горада, учыняючы масавыя грабяжы і гвалты.

Па Захар'еўскай (цяпер Совецкай) вуліцы не засталося ніводнай цэлай вітрыны; грамілі ўсё, нават аптэкі. Выламліваліся дзверы прыватных кватэр і спусташаліся, чыніліся гвалты і здзекі над мірным насельніцтвам.

За перыяд гаспадарання белапольскіх акупантаў Беларусь была зруйнавана і спустошана. Колькасць мужчын, жанчын і дзяцей, пацярпеўшых ад белапольскіх акупантаў, паводле няпоўных даных, толькі па трох паветах і гарадах Беларусі—Бабруйскім, Барысаўскім і Ігуменскім—дасягае 160.547 чалавек. Адных толькі дзяцей па гэтых паветах пацярпела каля 24.489.

Гераічная, самаадданая барацьба Чырвонай арміі палажыла канец сярэдневяковаму варварскаму разгулу белапольскіх акупантаў на Беларусі.

Зруйнаваная, бедная, адсталая Беларусь за 15 год пасля свайго вызвалення ад польскіх акупантаў пры агромнай дапамозе Совецкага саюза ператварылася ў квітнеючую ордэнаносную Совецкую рэспубліку.

Таму святкаванне 15-гадовага юбілея вызвалення Беларусі ад белапалякаў і дзень перадачы рэспубліцы ордэна Леніна з'яўляецца вялікай урачыстасцю для Совецкага саюза.

Найвялікшыя перамогі, атрыманыя працоўнымі Беларусі, з'яўляюцца рэзультатам ленінскага кіраўніцтва ЦК ВКП(б) на чале з вялікім і мудрым правадыром народу—тав. Сталіным.

Гэтыя найвялікшыя перамогі з'яўляюцца таксама рэзультатам напружанай барацьбы працоўных мас Беларусі пад кіраўніцтвам КП(б)Б на чале з лепшым большэвіком-сталінцам тав. Гікало супроць усіх класавых ворагаў і апартуністаў усіх масцей.

Ордэнаносная Совецкая Беларусь, як састаўная частка Совецкага саюза, пільна ахоўваючы граніцы вялікай краіны Советаў, з'яўляецца несакрушымым фарпостам на граніцы з капіталістычным Захадам.

І калі капіталістычны свет захоча выпрабаваць моцнасць нашых граніц, працоўныя Беларусі сумесна з усімі народамі Совецкага саюза дадуць сакрушальны адпор імперыялістычным разбойнікам.

---

**А. Залескі**
**(былы старшыня Замір'еўскага Камітэта партыі)**

# Замір'еўская партыйная арганізацыя ў барацьбе з нямецкімі і белапольскімі акупантамі

*(Успаміны)*

11 ліпеня 1935 года спаўняецца пятнаццатая гадавіна вызвалення Беларусі ад белапольскіх акупантаў. 11 ліпеня 1920 г. рабоча-сялянская Чырвоная армія заняла горад Менск.

Пад сакрушальным націскам слаўных часцей Чырвонай арміі затрашчаў і пачаў развальвацца польскі фронт. Слаўная конніца Варашылава і Будзённага пад непасрэдным і геніяльным кіраўніцтвам тав. Сталіна прымусіла польскія дывізіі пусціцца наўцекі.

Гэта гістарычная дата асабліва памятна рабочым, сялянам і ўсім працоўным Беларусі і ўсяго Савецкага саюза. Вызваленне Беларусі ад белапалякаў гэта—перамога працоўных Беларусі над памешчыкамі і фабрыкантамі, яшчэ адзін руйнуючы ўдар па міжнароднай контррэвалюцыі.

Рабочыя і сяляне добра ведаюць, чаго польскія памешчыкі і фабрыканты ішлі ў Беларусь. Яны ішлі, каб забраць назад зямлю, фабрыкі і заводы, заваяваныя працоўнымі ў дні рэвалюцыі; каб вялікія багацці нашай краіны аддаць на разграбленне шакалам польскага і міжнароднага імперыялізма; каб зняволіць рабочых і сялян Беларусі, надзець ярмо эксплаатацыі і зрабіць іх халопамі яснавяльможных паноў.

Рабочыя і сяляне Беларусі даведаліся—хто іх прыяцелі і хто ворагі. Яны і зараз не забылі пра час акупацыі белапольскай арміі, калі польская шляхта, распеpазаўшыся, распраўлялася з рабочымі і сялянамі, спальвала цэлыя сёлы і вёскі, наладжвала пагромы і расстрэлы.

15 год як рабочы клас і ўсе працоўныя Беларусі скінулі ярмо памешчыцкай і капіталістычнай кабалы і гвалту.

15 год працоўныя Савецкай Беларусі пры брацкай дапамозе і падтрыманні працоўных вялікага Савецкага саюза, дзякуючы перамогам нашай слаўнай Чырвонай арміі, геніяльнаму кіраўніцтву большэвіцкай партыі і яе вялікага правадыра тав. Сталіна, пераможна будуюць соцыялізм.

На аснове правільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і асабіста т. Сталіна працоўныя Савецкай Беларусі дабіліся велізарнейшых поспехаў у справе пабудовы соцыялізма і забяспечання радаснага культурнага і заможнага жыцця.

За гэтыя 15 год замест маленькіх саматужных заводзікаў, дзе панавала зверская эксплаатацыя рабочых, створаны ўзброеныя навейшай тэхнікай гіганты соцыялістычнай індустрыі з вялікай колькасцю рабочых.

На шырока раскінутых землях, раней належаўшых князям, памешчыкам і кулакам, арганізаваны калгасы, атрымаўшыя зямлю ад пролетарскай дзяржавы ў карыстанне навечна. Калгаснікі ўпэўнена і нястомна будуюць заможнае, культурнае і радаснае жыццё.

Дасягнуты велізарнейшыя поспехі ў справе развіцця беларускай соцыялістычнай культуры. Калі ў час царызма Беларусь мела некалькі гімназій для дзяцей капіталістаў, памешчыкаў, папоў усіх масцей і кулакоў і сець царкоўна-прыходскіх школ, у якіх адурманьвалі дзяцей рабочых і сялян, выхоўваючы іх у духу рабскага паслушэнства, дык зараз Совецкая Беларусь з'яўляецца краінай суцэльнай граматнасці з вялікай сецію вышэйшых, сярэдніх навучальных і культурна-асветных устаноў (кіно, тэатры, клубы, дамы соцкультуры і т. д.).

За 15 год, што прайшлі з таго часу, як Чырвоная армія ачысціла совецкую зямлю ад белапольскіх акупантаў, Беларусь узнялася з бяздоння разрухі і разбурэння на нябачаную вышыню гаспадарчага і культурнага росквіту.

Працаю і гераізмам свайго народу, воляй і геніяльным кіраўніцтвам большэвіцкай партыі Беларусь ператворана зараз у квітнеючую краіну, у адну з перадавых рэспублік нашага вялікага Совецкага саюза.

Усе працоўныя з вялікім гонарам і радасцю падводзяць вынікі сваім дасягненням, заваяваным на працягу гэтых 15 год. Дасягненні гэтыя адзначаны ўрадам Совецкага саюза, які за поспехі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва ўручыў БССР вышэйшую ўзнагароду—ордэн Леніна. Дасягненні гэтыя атрыманы пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, яе кіраўніка і любімага правадыра сусветнага пролетарыята тав. Сталіна, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і яе кіраўніка тав. Гікало.

Перамогі над белапольскімі акупантамі і контррэволюцыйнымі інтэрвентамі дасягнуты цаной агромнейшых ахвяр. Працоўныя Совецкай Беларусі добра памятаюць недалёкае мінулае, калі тысячы і дзесяткі тысяч рабочых і сялян пралівалі сваю кроў, аддавалі сваё жыццё на фронтах вайны, у дрымучых лясах у партызанскай барацьбе з нямецкімі інтэрвентамі і белапольскімі акупантамі. Тысячы замучаных і пакалечаных у засценках дэфензівы, расстрэленых, павешаных, загінуўшых ад холаду і голаду застануцца для нас назаўсёды помнікам гераічнай пераможнай барацьбы. Тысячы сёл, вёсак, рабочых кварталаў знішчаны былі азвярэлымі бандамі акупантаў. Рабочыя і сяляне Беларусі адчулі на сабе ўвесь цяжар прыгнечання і помсты памешчыкаў і фабрыкантаў, выгнаных са сваіх наседжаных гнёзд.

Кабалу і знявагу, кроў і слёзы, прымус і пагромы—вось што прынеслі акупанты на Беларусь, вось што нясуць імперыялістычныя заваявальнікі ўсюды, дзе ступіць іх крывавы бот.

Працоўныя Совецкай Беларусі добра ведаюць гэта на ўласным вопыце і жорсткім лёсе сваіх братоў з Заходняй Беларусі, якія знаходзяцца пад ярмом польскага панавання. Рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі, цягнучы жабрацкае існаванне, пазбаўлены ўсякіх палітычных правоў, прыдушаны нечуваным нацыянальным уціскам. Бізун і куля—вось метады кіравання ў гэтай краіне жудаснай галечы; «хлоп» і

«пся крэў»—вось мова, якою паны размаўляюць з беларускімі рабочымі і сялянамі.

Германскія і польскія фашысты выношваюць план новага паходу на Совецкую Беларусь. Яны марань аб зняволенні беларускіх рабочых і сялян, аб новай крыві і мучэннях народу.

Працоўныя Совецкай Беларусі з усімі працоўнымі Совецкага саюза дадуць належны адпор кожнаму, хто пасягне на іх бацькаўшчыну.

У пятнаццатую гадавіну вызвалення ад белапалякаў, калі ўсе працоўныя Совецкай Беларусі падводзяць вынікі дасягненням у соцыялістычным будаўніцтве і ўспамінаюць аб слаўнай барацьбе партызанскіх атрадаў і часцей Чырвонай арміі з белапольскімі акупантамі, мне, як яе ўдзельніку, хочацца падзяліцца ўспамінамі аб паасобных баявых эпізодах.

* * *



Зруйнованы вакзал ст. Койданава ў час белапольскай акупацыі.

У пачатку красавіка 1918 г., прыехаўшы ў Сноўскую воласць, Навагрудскага павету, я пачаў шукаць сувязі з мясцовымі таварышамі—партызанамі, большэвікамі. Неўзабаве мне ўдалося звязацца з тав. Валодзька І. І., які трымаў сувязь з менскай партарганізацыяй праз тав. Славінскага, і многімі іншымі таварышамі.

К часу майго знаёмства з тав. Валодзька ў радзе месц былі ўжо арганізаваны партыйныя ячэйкі, ажывілася прапагандысцкая работа сярод рабочых чыгункі, маёнткаў і сялян. Перад намі паўстала задача—стварыць цэнтр мясцовай падпольнай арганізацыі для кіраўніцтва работай партыйных ячэек.

У маі 1918 года па прапанове тав. Валодзька быў створан «Замір'еўскі падраённы камітэт партыі», у склад якога ўвайшлі тт. Валодзька І. І., Залескі А. К., Лабаноўскі П. А., Валодзька Ф. І. і Жук А. Камітэт кіраваў нізавымі партыйнымі арганізацыямі ўсіх валасцей Навагрудскага павету, Клецкай і Ланьскай вол., горада Несвіжа, Слуцкага павету, замір'еўскага чыгуначнага дэпо і рабочых чыгункі ўчастку Столбцы—Баранавічы. Цэнтрам свайго прабывання камітэт абраў чыгуначную станцыю Замір'е, як найбольш выгаднае

месца для наладжвання сувязі з Менскам і навакольным асяроддзем чыгуначных, а таксама сельскагаспадарчых рабочых бліжэйшых княжых і памешчыцкіх маёнткаў. Праз кароткі час Навагрудскі павет і частка Слуцкага пакрыліся сеццю нізавых партыйных ячэек. Так, напрыклад, арганізавалася ячэйка на станцыі Замір'е, куды ўваходзілі Валодзька І. І., Жук А., Кудзін І., Кузоўнікаў, Гірэй, Касмовіч і інш. У ячэйкі сёл Ліпа і Баяры ўваходзілі Залескі А. К., Лабаноўскі П. А., Булгак М. І., Залескі Ф. К. і іншыя. У ячэйку мястэчка Гарадзея ўваходзілі Зелікаў, Раманоўскі і інш. Ячэйкі створаны былі таксама ў Пагарэльцах, Сімакове, Жуховічах, Астраўках, Далматаўшчыне, Студзёнках, Міры, Несвіжы, Клецку, Еськовічах, Чэрніхаве.

Камітэт размеркаваў абавязкі сваіх членаў. На тав. Валодзька І. І была ўскладзена работа па сувязі і транспартаванні зброі і літаратуры, што ён паспяхова выконваў, працуючы на ст. Замір'е тэлеграфістам. На тав. Залескага А. К. была ўскладзена ваенная работа—арганізацыя і кіраўніцтва партызанскімі атрадамі, збор і хаванне зброі. Тав. Лабаноўскі П. А. наладжваў і вёў агітацыю і прапаганду. Таварышам Валодзька Ф. І. і Жук А. даваліся паасобныя даручэнні.

Першачарговай задачай падпольнага Падраённага Камітэта было шырокае правядзенне прапаганды і агітацыі. Неабходна было правільна растлумачыць шырокім масам рабочых і сялян сутнасць палітыкі большэвіцкай партыі, падзеі ў РСФСР, выкрыць палітыку буржуазных і згодніцкіх партый і ролю нямецкіх інтэрвентаў, каб мабілізаваць масы на барацьбу за совецкую ўладу, за дыктатуру пролетарыята.

Спачатку прыходзілася наладжваць тайныя сходы, на якія пасылаліся таварышы, незнаёмыя для насельніцтва данай мясцовасці. Калі-ж да нас пачалі прымыкаць больш шырокія колы рабочых і сялян, то агітацыю павялі мы вальней.

Аднойчы ў базарны дзень мне давялося выступіць у мястэчку Сноў на пляцы непадалёк ад камендатуры. Праўда, зацея была рызыкоўнай, але на мітынгу было тады 12 членаў партыі, якія арганізавалі маю ахову. Маю трыбуну (воз селяніна) у тры шчыльныя колы акружылі спачуваючыя нам таварышы. Прамова прыцягнула тысячы быўшых на рынку сялян, якія стараліся паслухаць, што гаворыць большэвік. І трэба было бачыць здзіўленне і абурэнне нямецкага каменданта, калі ён прыбег на рынак і на ўласныя вочы ўбачыў, як большэвік заваёўвае масу сваёй агітацыяй. Салдаты каменданта не палічылі патрэбным выканаць яго загад аб маім арышце. Бачачы ваяўнічы настрой шматлюднага натоўпу, сам ён страляць не адважыўся, хоць і прыбег з рэвальверам у руках.

Быў і такі выпадак. Памёр член партыі замір'еўскай ячэйкі т. Гунько І. А. Партыйная ячэйка парашыла пахаваць яго, як комуніста, выкарыстаўшы яго пахаванне для агітацыі супроць інтэрвентаў. Пачаліся перагаворы з маткаю нябожчыка. Але колькі яе ні ўгаварвалі, яна не згадзілася хаваць сына без папа. Прышлося фармальна з ёю згадзіцца. Аднак па навакольных вёсках і маёнтках пашыраліся чуткі, што тав. Гунько, як партыец, будзе пахаваны без папа і па-комуністычнаму. К часу пахавання сабралося многа рабочых і сялян. Запрасілі і папа з крыжам і з харугвамі. Але як толькі пачалі выносіць цела, ля гроба ўзвіліся чырвоныя сцягі з большэвіцкімі лозунгамі, заграў духавы аркестр пад кіраўніцтвам члена партыі т. Зелікава. Бачачы такую абстаноўку, поп зараз-жа пакінуў нябожчыка і забараніў званару біць у званы. Парт'ячэйка бліскуча выка-

рыстала гэты выпадак. Пасля выступлення прамоўцаў-большэвікоў настрой прысутных быў настолькі ўзрушаны, што яны гатовы былі зараз-жа граміць нямецкую камендантуру, забіраць маёнткі.

Вялікую работу правёў падпольны камітэт у галіне распаўсюджвання комуністычнай літаратуры, якая часткова дастаўлялася т. Назарэнка В., які спецыяльна працаваў па дастаўцы літаратуры менскаму камітэту са Смаленска, дзе яна друкавалася на рускай, яўрэйскай, польскай і іншых мовах. Частку літаратуры дастаўляла з Менска т. Заводнік А., якая ў той час працавала па распаўсюджанню друку ў камітэце на Школьнай вуліцы № 6. Трэба сказаць, што як газеты, так і брашуры зачытваліся насельніцтвам, што называецца, да дзірак.

Наша агітацыя знаходзіла сабе вельмі пладлівую глебу і добра прывівалася сярод рабочых і сялян. Ілюзіі аб тым, што немцы хутка навядуць парадак і не дадуць сялян у крыўду памешчыкам, хутка рассеяліся.

Былі ўведзены ўсемагчымыя шматлікія падаткі і канфіскацыі, ад якіх цярпелі беднякі і серадdespite някі. Хто не мог выканаць устаноўленага падатку, пасылаўся на прымусовую працу ў канцэнтрацыйныя лагеры, вайсковыя часці і на работы па аднаўленню памешчыцкіх маёнткаў.

Нямецкія акупанты адкрыта грабілі бядняцка-серадняцкае насельніцтва вёскі, падтрымлівалі і ахоўвалі памешчыкаў і фабрыкантаў, якія з прыходам немцаў, вярнуліся на свае старыя месцы.

Аднавіўшы сваю гаспадарку, многія памешчыкі абавязвалі сялян адпрацаваць пэўную колькасць дзён нібы за забраную ў 1917 годзе маёмасць.

Настрой сялян усё больш і больш рэволюцыянізаваўся. Пачаліся адкрытыя выступленні супроць нямецкіх акупантаў.

У лістападзе 1918 года адбыліся два ўзброеныя паўстанні сялян вёсак Ужанка і Сімакова, Гарадзейскай воласці. Паўстанне ў вёсцы Сімакова было зараз-жа падаўлена, многія ўдзельнікі арыштаваны і расстраляны. Сяляне-ж вёскі Ужанка адбілі жывёлу, якую немцы збіраліся вывезці ў Германію.

На ўсе падобныя выступленні немцы пачалі адказваць жорсткімі расправамі. Нямецкія жандары наладжвалі павальныя вобыскі цэлых вёсак. Памятаю, як мне аднойчы давялося трапіць у перапалку пры вобыску ў вёсцы Баяры, Сноўскай воласці. Раніцою вёска раптам акружана была двума ротамі нямецкіх салдат, ланцуг якіх рассыпаўся па вуліцы. Нікога ні з двара, ні ў двор не прапускалі. Пачаліся вобыскі. А ў мяне ў гэтай вёсцы было да 30 чалавек партызан, многа зброі і патронаў. Вобыск праводзілі так уважліва, што заняліся нават раскопкамі. Справа не абышлася без афяр. Забілі аднаго селяніна, які супраціўляўся вобыску, а сям'ю Раманоўскіх, у якіх на гародзе знайшлі захаваную зброю, цалкам арыштавалі. Пачаліся публічныя расстрэлы зачыншчыкаў. Аднаго з жыхароў вёскі Сімакова нямецкія жандары расстралялі публічна ўдзень непадалёк ад станцыі.

Падпольны партыйны камітэт разгарнуў вялікую агітацыйную работу сярод нямецкіх салдат. Пачалі з літаратуры і адозваў на нямецкай мове. У першы час яе баяліся раздаваць нямецкім салдатам, і падкідвалі. Член нашай партыйнай арганізацыі чыгуначнік Жук А. прымяняў цікавую тэхніку распаўсюджвання комуністычнай літаратуры сярод нямецкіх салдат. Ён зварочваў яе ў скрутак і накладаў у кошык. Стоячы на выхадной стрэлцы, ён браў у адну руку зялёны

сігнал, а другою кідаў скруткі ў вокны вагонаў з праходзячымі нямецкімі эшалонамі.

Агітацыя хутка дала свае вынікі. Цэлыя вайсковыя спалучэнні нямецкіх салдат адмаўляліся ехаць на заходні фронт, выконваць загады афіцэраў.

У чэрвені 1918 года падпольны камітэт падрабязна прааналізаваў палітычную сітуацыю, каб намеціць план далейшай работы. Нямецкія акупанты адчувалі сябе на тэрыторыі акупаванай Беларусі не зусім надзейна. Разлажэнне акупацыйнай арміі было зусім відавочным, і асабліва ўзмацнілася пасля паражэння нямецкай арміі на захадзе. З другога боку, усё больш і больш нарастаў рэволюцыйны настрой рабочых і сялян Беларусі.

Гераічная і пераможная барацьба рабочага класа і працоўнага сялянства Совецкай Расіі са шматлікімі контррэволюцыйнымі бандамі яшчэ больш натхняла рабочых і сялян Беларусі на барацьбу за сваё вызваленне, за ўладу советаў.

У ліпені 1918 года склікана была падпольная партыйная канферэнцыя Замір'еўскай арганізацыі. Канферэнцыя адбывалася ў вёсцы Дальняя Гарадзея ў гумне аднаго таварыша члена партыі. Канферэнцыя абгаварыла пытанні аб міжнародным становішчы, аб становішчы ў Совецкай Расіі, а таксама аб арганізацыі партызанскіх атрадаў, закупцы зброі і падрыхтоўцы к захопу ўлады.

Ад Менскага камітэта прысутнічаў на канферэнцыі тав. Крыніцкі (Бампі), які зрабіў даклад па першаму пытанню. Канферэнцыя прыняла рад практычных рашэнняў, па абвестцы дня. Замір'еўская арганізацыя абавязвалася наладзіць дастаўку зброі ў Менск у распараджэнне Менскага камітэта партыі.

Пасля канферэнцыі мы многа ўвагі ўдзялілі арганізацыі партызанскіх атрадаў. Для большай аперацыйнасці дагаварыліся аб структуры атрадаў. Пярвічная арганізацыя—гэта сельскі атрад, які разбіваецца на роты, узводы і аддзяленні, а агульнае кіраўніцтва партызанскімі атрадамі ўскладаецца на валасны штаб. Ужо праз некалькі дзён пасля партыйнай канферэнцыі партызанскі атрад з 800 чал. пад маім агульным кіраўніцтвам арганізаваўся ў Сноўскай воласці. У Міры пад кіраўніцтвам т. Вайтовіча атрад налічваў 45 чалавек. У Чэрніхаўскай воласці ў атрадзе т. Якубовіча было 120 чалавек. У Ланьскай воласці ў т. Олешкевіча— 100 чалавек. Партызанскія атрады арганізаваны былі таксама ў Замір'і, Несвіжы, Клецку, Ярэміцкай, Тураўскай і іншых валасцях.

Узбраенне атрадаў не прадстаўляла труднасці. Праз увесь Навагрудскі павет праходзіў руска-германскі фронт. Старая руская армія пакінула пасля сябе многа зброі, якою ў вялікай колькасці запаслося мясцовае насельніцтва. Усе партызанскія атрады былі ў дастатковай колькасці забяспечаны вінтоўкамі, патронамі, гранатамі і нават кулямётамі. Акрамя ўзбраення, у распараджэнні падпольнага камітэта былі запасныя склады зброі. Па распараджэнню менскага падпольнага камітэта партыі Замір'еўскі камітэт павінен быў дастаўляць зброю ў Менск для ўзбраення арганізуемага там партызанскага батальёна з рабочых. Дастаўку зброі з Замір'я ў Менск арганізавалі праз Валодзька Ф. І., які яшчэ раней быў спецыяльна прыстроены ў краму-вагон загадчыкам. У гэтым вагоне пад выглядам прадуктаў было перавезена ў Менск многа зброі ў скрынках. Калі трэба было даставіць у Менск партыю зброі, прадстаўнік менскага камітэта

тав. Славінскі тэлеграфаваў тав. Валодзька І. І. па раней умоўленаму паролю: «прысылайце бульбу».

Настроі чыгуначнікаў, рабочых памешчыцкіх маёнткаў, сялян беднякоў і сераднякоў к гэтаму часу былі вельмі рэволюцыйнымі і баявымі. Ад многіх можна было пачуць: «Калі пачнем?». Чыгуначныя рабочыя былой Александраўскай дарогі ўчастку Менск—Баранавічы—Сіняўка падалі пісьмовы пратэст нямецкаму камандванню. У пратэсце ўказвалася на факты псавання і знішчэння чыгуначнага транспарта, на своевольны захват нямецкім камандваннем і салдатамі харчавання і маемасці сялян і ставілася патрабаванне вываду акупацыйных войск з Беларусі. Задача падпольнага камітэта заключалася ў тым, каб накіраваць гэты рэволюцыйны баявы настрой у пэўнае русло. Мы стрымлівалі масы ад паасобных узброеных выступленняў, на што правакавалі земскія і валасныя ўправы, дзе сядзелі агенты нямецкіх акупантаў і памешчыкаў.

Згодніцкія меншавіцкія буржуазна-нацыяналістычныя партыі канчаткова дыскрэдытавалі сябе ў вачах рабочых і сялян, як прамыя падсобнікі нямецкіх акупантаў, як агенты беларускіх фабрыкантаў і памешчыкаў. Ніякага ўплыву на масы рабочых і сялян яны не мелі. Супроць іх пашла нават значная частка інтэлігенцыі, якая стала на бок большэвікоў.

Гэтыя дробна-буржуазныя партыі дапамаглі нямецкім акупантам, беларускай буржуазіі змагацца з працоўнымі масамі Беларусі. Так, у пачатку верасня 1918 года сяляне Ярэміцкай воласці сабраліся ў мястэчку Турэц на рынак. Член партыі Замір'еўскай арганізацыі т. Грамыка выкарыстаў вялікі збор сялян і адкрыў мітынг. У сваёй прамове ён абрысаваў палітычнае становішча, ролю акупантаў і згодніцкіх партый, якія праводзілі сваю здрадніцкую работу пры немцах. Усе прысутныя падтрымалі т. Грамыку. Але вось з'яўляецца на трыбуне эсэр Янушэнкаў—былы царскі штабс-капітан. Адрэкамендаваўшыся прадстаўніком беларускай народнай рады, гэты контррэволюцыянер пачаў гаварыць аб сіле нямецкай арміі, аб арганізацыі народнага беларускага ўрада і заклікаў прысутных выступаць супроць большэвікоў, як супроць злейшых ворагаў беларускага народу. Сяляне асвісталі яго і прагналі з трыбуны. Пасля гэтага Янушэнкаў адправіўся да нямецкага каменданта, з дапамогай якога мітынг быў разагнаны і многія з яго ўдзельнікаў расстраляны.

15 ліпеня 1918 г. ў Менску на Паліцэйскай вуліцы адбылася падпольная канферэнцыя, на якой былі прадстаўнікі ад 75 вясковых арганізацый: Новагрудскай, Ігуменскай, Барысаўскай, Ошмянскай і інш. Работай канферэнцыі кіравалі тт. Славінскі, Райцэс, Ходаш. Канферэнцыя разгледзела тры пытанні: аб палітычным моманце, арганізацыйныя пытанні і даклады з месц. Пасля абгаварэння абвесткі дня вырашана было скласці адозву да насельніцтва, з заклікам змагацца за ўладу советаў, а таксама прынята структура нізавых партыйных арганізацый (сяло, воласць, павет, цэнтр), якія, акрамя вядзення чыста партыйнай работы, павінны былі стаць цэнтрамі кіраўніцтва ўзброенымі партызанскімі атрадамі і баявымі дружынамі. На гэтай канферэнцыі ад Замір'еўскай арганізацыі прысутнічалі я і тав. Валодзька І. І.

У кастрычніку 1918 года атрымаліся звесткі аб рэволюцыйных дэманстрацыях германскіх рабочых у Берліне і іншых нямецкіх гарадах.

Пачатак рэволюцыйных выступленняў рабочых у Германіі моцна

перапалохаў мясцовую беларускую контррэволюцыю. Аб'явіўся «новаяўлены беларус» генерал Кандратовіч, які ўзяў на сябе фармаванне контррэволюцыйнай арміі. У Менску і іншых гарадах Беларусі з'явілася многа афіцэраў старой арміі ў форме і пагонах. Пачалі ўзмоцнена злятацца княскія і памешчыцкія сынкі ў маёнткі князёў Радзівілаў, Святаполка Мірскага, памешчыкаў Гартынгаў, Абуховічаў і інш.

Замір'еўскі падраённы падпольны камітэт партыі парашыў склікаць падпольную партыйную канферэнцыю для абгаварэння становішча і плана далейшых дзеянняў.

У першых лічбах лістапада 1918 года ў вёсцы Дальняя Гарадзея, у доме Позняка Максіма адбылася 3-я канферэнцыя падпольных партыйных арганізацый Замір'еўскага падраёна. З'явілася на канферэнцыю 35 прадстаўнікоў з арганізацый Снові, Міра, Замір'я, Клецка, Несвіжа і Лані. Камітэт усклаў кіраўніцтва канферэнцыі на мяне. Тав. Валодзька І. І. на канферэнцыі не прысутнічаў, бо нямецкі камендант аддаў загад аб яго арышце, і яму прыходзілася хавацца. Канферэнцыя абгаварвала пытанні ўзаемаадносін з нямецкім камандваннем і салдатамі з прычыны наспяваючых рэволюцыйных падзей у Германіі, аб захваце ўлады і ліквідацыі памешчыцкіх земскіх упраў, аб канфіскацыі маёнткаў і затрыманні вывазу германцамі з Украіны і Беларусі маемасці і харчавання. Канферэнцыя распрацавала план па ўсіх гэтых пытаннях. Было вырашана яшчэ больш узмацніць агітацыю і прапаганду сярод нямецкіх салдат. Намечаны былі таварышы, якія павінны былі скласці валасныя рэўкомы, захапіць уладу і разагнаць земскія ўправы. Зацверджан спіс камісараў маёнткаў і інструкцыя камісарам аб парадку аховы маемасці.

Інструкцыя гэта захавалася ў архівах і прыводзіцца поўнасцю:

## ІНСТРУКЦЫЯ

камісарам маёнткаў аб парадку аховы даручанай ім маемасці.

§ 1.

Для аховы і цэласці ўсяго хлеба ў гумнах, свірнах і іншай маемасці маёнтка ўстанаўляюцца караульныя вартавыя пасты па колькасці, якую знойдзе патрэбным камісар маёнтка.

§ 2.

Уся маемасць паступае пад ахову камісара і належнага вясковага камітэта, якія і нясуць адпаведную адказнасць за цэласць яе.

§ 3.

Чыны караула без супярэчання выконваюць усе распараджэнні, якія даюцца камісарам і датычаць аховы маемасці данага маёнтка.

§ 4.

У выпадку знішчэння агнём або наогул па якому-небудзь выпадку ўсёй або часткі маемасці данага маёнтка, камісар і адпаведны караул падлягаюць суду народнага трыбунала.

§ 5.

Па атрыманні распараджэння ад Падраённага камітэта праз валасны камітэт аб заняцці маёнтка Камісар, атрымаўшы адпаведную колькасць людзей для аховы, накіроўваецца ва ўказаны яму маёнтак або фальварак.

§ 6.

Камісар адводзіць з наяўных у маёнтку кватэр адно памяшканне для караулкі.

§ 7.

Снабжэнне караўлкі і забяспечанне матар'ялам асвятлення адносіцца на сродкі маёнтка.

§ 8.

Усякая прадажа і купля, адзначаная ў § 7, павінна праводзіцца толькі з ведама Падраённага камітэта.

§ 9.

Харчаванне людзей караульнай каманды прадуктамі праводзіцца распараджэннем Падраённага камітэта.

§ 10.

Увесь хлеб і фураж, што акажацца ў свірнах, павінен быць апячатаны і захаваны ў цэласці.

* * *

Праз некалькі дзён пасля падпольнай канферэнцыі прыступлена было да выбараў на агульных сельскіх сходах пярвічных органаў совецкай улады—вясковых камітэтаў, советаў. Адразу частка насельніцтва баялася ісці на такія сходы, але камітэт накіраваў у вёскі ўсе свае сілы, што вельмі хутка дало станоўчыя вынікі.

Найперш узялі Сноўскую воласць, дзе кіраўніцтва работай было ўскладзена на мяне і тав. Лабаноўскага П. А. 11 лістапада 1918 года ў вёсцы Ліпа за сем кілометраў ад цэнтра воласці мы склікалі поўлегальны валасны з'езд прадстаўнікоў сельскіх камітэтаў. На з'езд з'явілася чалавек 120. Ахоўваў з'езд партызанскі атрад. Настрой быў баявы. Адразу паўстала пытанне аб захваце ўлады і стварэнні рэвалюцыйнага камітэта Сноўскай воласці. На наступны-ж дзень, згодна нашым указанням, у мястэчка з'явілася каля 300 партызан з замаскаванаю зброяй. Рэволюцыйны камітэт у складзе Залескага А. К., Лабаноўскага П. А., Грыца, Хамко і інш. з'явіўся ў памяшканне сноўскай земскай валаснай управы, прад'явіў пратакол з'езда сельскіх камітэтаў і прапанаваў старшыні ўправы Антановічу зараз-жа здаць справы і ўступіць месца рэволюцыйнаму камітэту. Старшыня і сакратар земскай управы заявілі, што яны з намі вусна размаўляць не будуць. Тады т. Грыц, які быў вылучан сакратаром рэўкома, напісаў у двух экземплярах запіску, у якой указвалася, што прадстаўнікі земскай управы самазванцы, стаўленікі нямецкіх акупантаў, слугі памешчыкаў і павінны зараз-жа здаць усе справы, маемасць і ўступіць уладу законна выбранаму Рэволюцыйнаму камітэту—органу совецкай улады. Такая папера ўручана была пад распіску сакратару ўправы Хона Яўно. Прачытаўшы і параіўшыся між сабою, яны тут-жа даюць пісьмовы адказ, што, як прадстаўнікі ўлады часовага ўрада, не могуць уступіць улады да мінавання тэрміну паўнамоцтва і што ўсімі наяўнымі сіламі будуць яе абараняць. Я тут-жа прапанаваў тав. Грыцу напісаць ультыматум з указаннем, каб яны зараз-жа здалі ўладу.

У той-жа час адзін з начальнікаў партызанскіх атрадаў паведамляе, што атрад партызан раззброіў паліцыю мястэчка і што начальнік і міліцыя разбегліся. Бачачы такое становішча, яны пісьмова згаджаюцца перадаць справы і ўступіць уладу.

Позна ноччу мы правялі паседжанне Рэволюцыйнага камітэта і арганізавалі надзвычайную камісію, на чале якой паставілі матроса члена партыі тав. Хамко. У распараджэнне Ч. К. далі 50 узброеных партызан, якіх афіцыяльна назвалі атрадам па ахове рэволюцыйнага парадку. Устанавілі і форму—чырвоная павязка на левай руцэ; узбраенне—рэвольвер, карабін, у кішэнях бомбы. Размеркавалі абавязкі між членамі Рэволюцыйнага камітэта. Паколькі не ведалі добра структуры рэўкомаў РСФСР, то стварылі аддзелы, на чале якіх сталі народныя камісары: ваенны, харчавання, зямельных і лясных спраў і т. д.

Каб абвясціць насельніцтва аб арганізацыі новай, совецкай улады і аб яе палітычным упарадкаванні, парашылі выпусціць дэкларацыю ў форме шырокай адозвы. У дэкларацыі паведамлялася аб арганізацыі, мэтах і задачах совецкай улады ў Снаўскай воласці, якая аб'яўлялася састаўною часткай РСФСР, нямецкай акупацыйнай арміі прапанавалася зараз-жа ачысціць межы Снаўскай воласці і ўсёй Беларусі, насельніцтва заклікалася да абароны совецкай улады і захавання рэволюцыйнага парадку.

На другі дзень па мястэчку Сноў і ўсіх вёсках воласці разаслана была гэта адозва і пастанова Рэволюцыйнага камітэта, у якіх паведамлялася аб звяржэнні земскай управы і прыводзіўся спіс членаў рэўкома. На вуліцах з'явіліся ўзброеныя атрады з чырвонымі павязкамі на руках. Над будынкам развіваўся чырвоны сцяг.

Убачыўшы такі малюнак, нямецкае камандванне прышло ў ярасць. Было аддана распараджэнне нямецкім салдатам арыштаваць увесь атрад і рэволюцыйны камітэт. Нам данеслі, што на вуліцы пачалася барацьба. Партызаны не здаваліся і выступалі супроць немцаў вельмі рашуча. Пасланыя намі таварышы заявілі камандванню і салдатам, што, калі немцы не спыняць свае спробы арыштаваць партызан і рэволюцыйны камітэт, то зараз-жа пачнецца ўзброенае паўстанне ва ўсіх валасцях Навагрудскага павету.

Нямецкія салдаты вылучылі дэлегацыю для перагавораў з намі, узгадніўшы патрабаванні з афіцэрамі. Калі яны ўбачылі нашу цвёрдасць і пачулі аб сілах, з якімі мы маем намер абараняць свае заваёвы, то прад'явілі нам такія ўмовы: для падтрымання рэволюцыйнага парадку пакінуць у распараджэнні валаснога рэволюцыйнага камітэта 20 чалавек, узброеных толькі халоднай зброяй, прычым на наручнай павязцы павінна быць акрамя пячаткі рэволюцыйнага камітэта таксама і пячатка нямецкага каменданта. У гэтым патрабаванні мы катэгарычна адмовілі, і дэлегацыя пашла ні з чым.

Нямецкія каменданты і наогул камандванне ўзмоцнена заняліся прадажай сялянам казённых лясоў, маемасці і пабудоў, што засталіся яшчэ ад старой арміі (наша мясцовасць была яе бліжэйшым тылам). Каб перашкодзіць гэтаму, мы выставілі па ўсіх дарогах воласці атрады, якія затрымлівалі ўсякага, хто вёз купленую ў немцаў маемасць. Як толькі немцы даведаліся аб гэтым, у рэволюцыйны камітэт зараз-жа з'явілася шэсць афіцэраў на чале з камендантам. Трымаючы напагатове рэвальверы, яны патрабавалі ад нас адмяніць распараджэнне, у праціўным выпадку пагражалі расстрэлам. Я праз іх-жа перакладчыка і пад шасцю дуламі рэвальвераў пачаў тлумачыць ім

аб незаконнасці іх патрабавання. У гэты час чалавек 20 партызан з карабінамі ў руках, а некаторыя з гранатамі, абкружылі нямецкіх афіцэраў. Заўважыўшы гэта, яны збавілі тон і фармальна згадзіліся больш не прадаваць маемасці, якая ім не належыць.

Прыкладу Снові паследвала суседняя Чэрніхаўская воласць, дзе пад старшынствам т. Якубовіча арганізаваўся рэвалюцыйны камітэт. Крыху пазней была абвешчана совецкая ўлада ў Мірскай, Ярэміцкай і іншых валасцях Навагрудскага павету.

Па маёнтках тых валасцей, дзе была захвачана ўлада, пачалі арганізоўвацца рабочыя камітэты, камісары якіх выганялі памешчыкаў, а іх маёнткі бралі на ўлік. Там-жа, дзе совецкая ўлада яшчэ не была адноўлена, прымаліся меры, каб перашкодзіць абмалоту і вывазу хлеба, а таксама іншых прадуктаў і жывёлы, з тым каб пакінуць іх для Чырвонай арміі, прыход якой чакалі з дня на дзень, для рабочых Ленінграда і Масквы. Калі рабочыя не маглі самі перашкодзіць гэтаму, то ў дапамогу ім пасылаліся атрады партызан. Гэтую работу мы правялі з поспехам, захаваўшы для Чырвонай арміі і рабочых прамысловых цэнтраў многа тысяч тон хлеба, мяса і іншых прадуктаў.

У лістападзе 1918 года, пасля таго, як у Германіі скінулі кайзера і пачалася рэволюцыя, нямецкая армія рыхтавалася да эвакуацыі. Камандванне старалася захапіць і вывезці ў Германію як мага больш маемасці, асабліва прадуктаў.

Падпольны партыйны камітэт даручыў т. Валодзька І. І. пры дапамозе членаў партыі чыгуначнікаў прыняць усе меры к таму, каб перашкодзіць нямецкаму камандванню вывезці якую-б там ні было маемасць і харчаванне. І трэба сказаць, што тав. Валодзька гэта заданне выканаў бліскуча. Працуючы тэлеграфістам на вузлавой станцыі Замір'е, ён, па-першае, быў заўсёды ў курсе ўсіх распараджэнняў нямецкіх камендантаў і, па-другое, меў магчымасць мяняць іх распараджэнні ў нашу карысць пад выглядам памылак перадачы і т. д. Удавалася, напрыклад, пускаць цэлыя саставы з каштоўнымі грузамі замест кірунку Баранавічы—на РСФСР. Псавалі паравозы, стрэлкі, і ўсё з адною мэтай—не даць вывезці каштоўных грузаў. У выніку ўдалося затрымаць дванаццаць паяздоў, гружаных прадуктамі.

Мы атрымалі распараджэнне ад Менскага камітэта партыі—накіраваць атрад партызан у горад Менск, дзе контррэволюцыя пад нацыянальным сцягам пачала мабілізаваць сілы для барацьбы з совецкаю ўладай і Чырвонай арміяй.

Генерал Кандратовіч і Езуітаў арганізавалі нацыянальную контррэволюцыйную армію. Да гэтага трэба дадаць, што ў распараджэнні губернскай земскай управы была ўзброеная сіла—міліцыя, накіраваная супроць большэвікоў. Таму Менскаму камітэту неабходна было проціпаставіць сваю ўзброеную сілу. І вось да менскіх атрадаў узброеных рабочых далучыліся атрады, пасланыя мясцовымі партыйнымі арганізацыямі. Замір'еўскі падраённы камітэт партыі паслаў тт. Гунько І. з вёскі Дальняя Гарадзея, Раманоўскага з вёскі Баяры і іншых у колькасці 20 чалавек.

10 снежня раніцою ў Менск уступіла Чырвоная армія пад кіраўніцтвам тав. Крывашэвіча. К гэтаму часу ў Менску ўжо легальна існавала совецкая ўлада, узначальваемая Менскім гарадскім советам рабочых дэпутатаў. У распараджэнні Совета былі пад камандваннем т. Славінскага міліцыя, узброеныя атрады рабочых і партызанскія з валасцей. Адскочыўшы ад Менска, нямецкае камандванне ўзрывае чыгуначны мост на станцыі Столбцы праз раку Нёман.

Тав. Валодзька І. І. даведваецца, што немцы маюць намер узарваць чыгуначныя масты на рацэ Ушы каля Замір'я. Падпольны камітэт рашае не дапусціць гэтага. Тав. Валодзька дае распараджэнне машыністу т. Казоўнікаву заваліць паравоз на выхадной стрэлцы ст. Замір'е ў кірунку маста. Казоўнікаў хутка варочаецца і паведамляе, што яму не ўдалося гэтага зрабіць. Тым часам мы даведваемся, што немцы маюць на ўвазе падвезці са ст. Баранавічы выбуховыя матэрыі. Я заразжа адпраўляюся ў м. Сноў і даю распараджэнне партызанскаму атраду разбурыць чыгуначны пуць ля раз'езда Хвоева. Атрад з 25 чалавек пры дапамозе чыгуначных рабочых раз'езда Хвоева бліскуча выконвае гэта распараджэнне, разабраўшы за ноч кілометр пуці. У рэзультаце немцы не змаглі падвезці выбуховых матэрый, і мост уцалеў. Былі затрыманы таксама саставы, якія накіроўваліся немцамі з Украіны ў Германію.

Не маючы магчымасці карыстацца чыгуначным транспартам, немцы пешым маршам прадаўжалі свой адыход на Украіну.

Пагранічныя аддзелы «імператарскіх гусар», адыходзячы апошнімі, заняліся грабежніцтвам і здзекам над насельніцтвам. У сяле Хвоева яны ўчынілі цэлы пагром. Невялікі партызанскі атрад быў раззброены. Насельніцтва Хвоева і навакольных вёсак пачало прасіць аб дапамозе. Сноўскі валасны рэволюцыйны камітэт паслаў партызанскі атрад з 200 чалавек, каб прызваць зарваўшыхся грабежнікаў к парадку. Але атрад быў абстраляны кулямётным і ружэйным агнём кавалерыйскага эскадрона, кулямётнай каманды, роты пяхоты і абознікаў. Атрымаўшы такія весткі, рэволюцыйны камітэт кінуў некалькі партызанскіх атрадаў у колькасці каля двух тысяч чалавек пры дзесяці кулямётах, які пасля трохгадзіннага бою раззброіў немцаў. У гэты час часці Чырвонай арміі былі ўжо ў Замір'і. Мы зараз-жа звязаліся з імі. Камандзір 152 палка т. Дзергачоў прыбыў з атрадам на месца. Начальнікі партызанскіх атрадаў настойвалі на тым, каб расстраляць усіх афіцэраў, але камандванне Чырвонай арміі рабіць гэтага не дазволіла. Немцаў адпусцілі, звярнуўшы ім халодную зброю і дазволіўшы забраць забітых.

На гэтым закончылася дзейнасць падпольнага Замір'еўскага камітэта. У далейшым ён быў перабудован і з'явіўся асновай для Новагрудскага павятовага камітэта партыі.

Пасля адыходу немцаў, 5 студзеня 1919 г. была склікана чацвертая канферэнцыя Замір'еўскай партыйнай арганізацыі. На гэтай канферэнцыі быў заслухан справаздачны даклад камітэта і вынесена рашэнне перабудаваць арганізацыю: Клецкую, Ланьскую, Гавязнянскую валасныя, а таксама арганізацыю гор. Несвіжа перадаць Слуцкаму павету, а цэнтр Новагрудскай партыйнай арганізацыі перанесці ў горад Новагрудак.

Па прыездзе ў Новагрудак быў папоўнен склад партыйнага камітэта, які ўжо называўся Новагрудскім павятовым камітэтам Комуністычнай партыі большэвікоў Літвы і Беларусі. У камітэт членамі ўвашлі: Залескі А. К., Валодзька І. І., Назарэнка В., Лабаноўскі П. і Вінькоў. Гэтым адкрывалася новая старонка барацьбы Новагрудскай партыйнай арганізацыі з мясцовай контррэволюцыяй і белапалякамі. Быў таксама зацверджан склад Новагрудскага павятовага рэволюцыйнага выканкома, куды ўвашлі Залескі А., Валодзька І., Назарэнка В., Лабаноўскі П., Міскевіч, Вінькоў, Нячай, Лабкоў, Максіменка і Журко.

20 снежня 1918 года ў Смаленску адбывалася VI паўночна-заходняя абласная канферэнцыя большэвіцкай партыі. Гэта канферэнцыя

была абвешчана Першым з'ездам Комуністычнай партыі бальшэвікоў Беларусі. Менская губернія замацавалася, як база для развіцця савецкай улады ва ўсёй Беларусі. Быў арганізован урад Беларусі. Устанавілася сувязь і кіраўніцтва нізавымі совецкімі арганізацыямі.

Новагрудскі павятовы рэволюцыйны камітэт узяўся за ачыстку павятовых совецкіх установ ад эсэраў, памешчыкаў, агентаў Скарападскага і Беларускай контррэволюцыйнай рады. Гэтыя элементы паспелі праскочыць у нашы совецкія органы з адною мэтай—барацьбы супроць совецкай улады. Былі выкрыты і выкінуты: агент гетмана Скарападскага контррэволюцыянер былы афіцэр Янушэнкаў і буйны памешчык Ясінскі, якія прабраліся ў ваенны камісарыят. Пачысцілі і іншыя ўстановы. Наогул праároблена была вялікая работа па ачыстцы ад класава-варожых элементаў як павятовых, так і валасных устаноў, каб зрабіць гэтыя органы пролетарскай дыктатуры боездольнымі ў барацьбе з контррэволюцыяй за справу рабочага класа.

У 1918-19 гг. Новагрудскі павет прадстаўляў сабою тэрыторыю, удоўж і поперак зрытую акопамі, аблытаную дротам, эканамічна знясіленую за гады імперыялістычнай вайны і яшчэ больш аслабленую ўсякімі паборамі, якія спаганяліся арміяй германскага імперыялізма.

Маладой, толькі што арганізаванай совецкай уладзе з вялікай труднасцю прыходзілася наводзіць парадак і будаваць эканоміку краіны. Многа намаганняў нам, працаваўшым у Новагрудскім павеце, прыходзілася прыкладаць, каб прыстроіць бежанцаў імперыялістычнай вайны, якія прыязджалі з розных месц РСФСР. Трэба было ім даць жыллё, харчаванне і неабходныя сродкі вытворчасці. Асноўнымі крыніцамі, з якіх нам прыходзілася чэрпаць гэтыя харчы і сродкі для бежанцаў і мясцовай разоранай беднаты, былі маёнткі князёў Радзівіла, Святаполка Мірскага, графа Шчэрсоўскага, Крэноўскага, Вержбіцкага, Есінскага і інш. За кошт затрыманай маемасці гэтых яснавяльможных і іншых паноў ствараліся ўмовы для існавання разгромленай беднаты.

Аднак, нядоўга давялося нам займацца мірнай творчаю работай.

Як вядома, у 1918 годзе ўзнікла польская дзяржава. З першых-жа дзён польскія імперыялісты пры натхненні еўрапейскіх імперыялістычных дзяржаў, і асабліва Францыі, пачалі будаваць планы аб стварэнні вялікай Польшчы «ад мора да мора». Аб Польшчы да Бярэзіны зусім адкрыта выказваўся польскі буржуазны друк. Сілы нашай Чырвонай арміі на тэрыторыі Беларусі былі малыя. У пунктах, як напрыклад Зельва і Картузская Бяроза, якія пасля немцаў павінны былі перайсці ў нашы рукі, з'явіліся польскія легіянеры. Польскія памешчыкі і кулакі паўсталі на барацьбу за рэалізацыю лозунга, «ад мора да мора», за зварот сваіх маёнткаў, адкуль іх выгналі рабочыя і сяляне Беларусі.

Ужо ў першых чыслах красавіка 1919 года белапольскія банды пачалі налёты на мясцовасці, дзе існавала совецкая ўлада.

Новагрудскі камітэт партыі атрымаў паведамленне Дзятлавіцкага рэўкома аб тым, што атрад легіянераў з 250 чалавек, узброеных вінтоўкамі і гранатамі пры двух кулямётах, пад камандай афіцэраў знаходзіцца ў мястэчку Жалудок і маюць намер рухацца ў Слонім праз Дзятлава. У Орле Віленскай знаходзіўся атрад кавалерыі, які таксама рухаўся на Слонім. Праз кароткі час былі атрыманы таксама звесткі аб тым, што польскія легіянеры занялі горад Слонім, разагналі ў за-

нятых пунктах мясцовыя советы, многіх работнікаў арыштавалі і пачалі грабіць насельніцтва, якое падтрымлівала совецкую ўладу.

Паколькі Слонімскі павет межаваў з Новагрудскім і легіянеры набліжаліся к станцыі Нова-Ельня, якая знаходзілася ад Новагрудка ўсяго ў 20 клм., Новагрудскі партыйны камітэт прыняў захады да арганізацыі абароны граніц павету. Аб стварыўшымся становішчы былі праінфармаваны штаб дывізіі, які знаходзіўся ў Менску, суседнія з Новагрудскім паветам, а таксама валасныя партыйныя і совецкія арганізацыі Новагрудскага павету. Найбольш уражальным для нас месцам быў участак у напрамку чыгуначнай станцыі Нова-Ельня, што на лініі чыгункі Баранавічы—Вільня. Заняўшы Нова-Ельню, белапалякі маглі рухацца ў напрамку Новагрудак—Карэлічы—Мір—Столбцы, заняць пераправы праз раку Нёман і, захапіўшы чыгуначную лінію Баранавічы—Менск, адрэзаць размеркаваныя ў гэтым раёне вайсковыя часці.

Сілы, якія былі ў распараджэнні Новагрудскага павятовага выканаўчага камітэта і знаходзіліся ў г. Новагрудку, складаліся з двух караульных рот, узвода кавалерыі пры адпаведным узбраенні.

Па пастанове павятовага камітэта партыі гэтыя сілы і былі кінуты супроць белапалякаў, якія прасоўваліся ў напрамку Новагрудка. Кіраўніцтва аперацыяй было ўскладзена на ваеннага камісара павету, т. Валодзька І. Неўзабаве пасля выступлення часці гэтыя сустрэліся з белапалякамі і пасля ўпартага бою, пад націскам пераважаючых па колькасці сіл, адышлі ад Нова-Ельні, а палякі яе занялі.

15 марта 1919 года павятовы камітэт партыі сабраў сход партыйнага актыва і паставіў на абгаварэнне пытанне: пакінуць г. Новагрудак, ці заставацца ў ім, але ўзяць Нова-Ельню. Было прынята рашэнне ўзяць Нова-Ельню, для чаго мабілізаваць не менш 90% партыйцаў, арганізаваць некалькі атрадаў, з якімі рушыць на Нова-Ельню, і прасіць Менск аб прысылцы дапамогі. Адначасова дана было ўказанне Замір'еўскай, Сноўскай і Мірскай валасным партыйным арганізацыям стварыць атрады для барацьбы з белапалякамі, якія рухаліся ў напрамку Слонім—Баранавічы—Замір'е.

Камандванне ўсімі атрадамі на ўчастку Нова-Ельня было ўскладзена на члена партыі, т. Ефімко, намеснікам якога быў прызначаны т. Назарэнка. Тав. Ефімко атрымаў заданне выбіць палякаў са станцыі Нова-Ельня.

Атрад 17 сакавіка досвіткам выступіў у напрамку станцыі Нова-Ельня, скрываючы свой рух ляснымі дарогамі. 18-га раніцай атрад падышоў на 4 клм ад ст. Нова-Ельня. Камандзір атрада т. Ефімко накіраваў т. Назарэнка з чатырма байцамі ў разведку. Разведка данесла, што галоўныя сілы палякаў сканцэнтраваны за мястэчкам Нова-Ельня, недалёка ад яго, у былых старых рускіх акопах. Эскадрон кавалерыі, штаб і дапаможныя атрады знаходзіліся ў самым мястэчку Нова-Ельня і часткова распаложаны ў памяшканні гасцініцы. Ад мабілізаванага ў падводы палякамі селяніна даведаліся, што палякі з самага ранку з 18 на 19 сакавіка маюць намер выступіць ў напрамку горада Новагрудка.

Узважыўшы атрыманыя звесткі, т. Ефімко парашыў паслаць раней наступлення раніцы адну частку атрада ў абходны рух лесам з поўначы на поўдзень, а другой загадаў следваць прама на Нова-Ельню, акружаючы такім чынам мястэчка з двух бакоў.

Было ўмоўлена, што, дасягнуўшы мястэчка з поўдня, другі атрад павінен кінуць ракету, пасля чаго першы атрад адкрывае ружэйны і кулямётны агонь. Пачуўшы стральбу першага атрада, другі атрад павінен весці ўзмоцнены агонь або па адступаючых паляках з Н-Ельні ў напрамку на горад Слонім, або па наступаючаму на Н-Ельню батальёну з боку рускіх старых акопаў. План гэты аказаўся вельмі ўдалым. Тав. Назарэнка добра ўдалося правесці абходны рух і заняць на адлегласці ½ клм на ўзлеску подступы да мяст. Н.-Ельня. Заняўшы подступ з паўднёвага боку, было відаць, што палякі сапраўды збіраюцца к паходу на Новагрудак. Вельмі многа было падвод, на якія грузіліся патронныя скрынкі, рассаджваліся па фурманках пяхота, прыбыўшая ў мястэчка. Кавалерысты клапаціліся ля коней; пры разведзеных кастрах кучкамі стаялі і сядзелі польскія салдаты і дапівалі, відавочна, чай. Абстаноўка напамінала спешную запраўку і падрыхтоўку ў паход. Тав. Назарэнка выпусціў сігнальную ракету і не паспеў выпусціць другой, як атрад пад камандай т. Ефімко адкрыў сільны агонь з вінтовак, і кулямётаў. У замяшанні і паніцы падводчыкі сяляне рубілі гужы, пастронкі і вярхамі першымі рушылі з мястэчка, а за імі кінулася і пяхота белапалякаў.

Хутка атрад т. Ефімко ўварваўся ў мястэчка Н.-Ельню, а атрад Назарэнка прадаўжаў страляць і праследваць адступаючых белапалякаў да рэчкі, праз якую каля гадзіны таму назад атрад пераправіўся. Не давялося бачыць у дзень гэтай рэчкі—у ёй не мала знашло спакою белапалякаў. Калі адступаючыя ўцалеўшыя ўжо ўцяклі, атрад т. Назарэнка павярнуў на м. Н.-Ельню, дзе кулямётная стральба не супакойвалася. Ля памяшкання гасцініцы залёг атрад т. Ефімко. Як аказалася, у гасцініцы знаходзіўся штаб і яго ахова. Польскія афіцэры не хацелі здавацца і адчайна адбіваліся з вінтовак і кулямётаў. Па ланцугу пранеслася звестка аб тым, што забіты камандзір атрада Ефімко. Гэтае паведамленне ўразіла ўсіх, але ні на мінуту не пасеяла сумнення ў далейшым поспеху.

Тав. Назарэнка камандванне першым атрадам перадаў т. Вялічка, камандзіру другой караульнай роты, а сам з некалькімі байцамі падпоўз амаль да самых вакон гасцініцы і пачаў кідаць у вокны гранаты. Праз некалькі мінут чутна была кулямётная стральба толькі нашых кулямётаў, кулямёты палякаў змоўклі. Гэта дало магчымасць байцам падпаўзці да гасцініцы з паўночнага боку, закідаць яе вокны гранатамі і праз кароткі час уварвацца ў памяшканне. Усе, хто застаўся ў жывых, і 8 чалавек афіцэраў былі тут-жа расстраляны. Акрамя мноства вінтовак, былі ўзяты таксама кулямёты. Аперацыяй нашага атрада і гераічнымі ўчынкамі яго байцоў пры яе правядзенні цікавілася потым наша вышэйшае камандванне. Пасля гэтай аперацыі атрад пачаў займаць пазіцыі.

У той час, калі мы вялі барацьбу на гэтым участку ад Замір'еўскага валаснога партыйнага камітэта былі атрыманы звесткі аб тым, што белапалякі кінулі каля 5 эскадронаў кавалерыі колькасцю да 1 200 сабель пры некалькіх кулямётах з раёна Сіняўкі ўглыб нашага распалажэння ў напрамку Несвіж—Столбцы, усё з тою-ж мэтай: захапіць пераправы праз раку Нёман і расправіцца з застаўшыміся ў гэтым раёне часцямі Чырвонай арміі і ўзброенымі атрадамі. Па шляху следвання (Клец, Несвіж, Сноў) белапалякі разганялі мясцовыя советы, расстрэльвалі совецкіх работнікаў, разбуралі гаспадаркі тых сялян, якія спачувалі совецкай уладзе і Чырвонай арміі.

Адначасова з рэйдам гэтага белапольскага атрада ў г. Несвіжы і суседняй з Несвіжам вёсцы Качановічах мясцовая буржуазія, памешчыкі, іх верныя слугі, а таксама кулакі паднялі паўстанне. Частка таварышоў была забіта, сярод іх члены Несвіжскага рэвалюцыйнага камітэта—т. Грынблат і Татур, астатнім таварышам прышлося пакінуць горад, і белапольскія паўстанцы захапілі ўладу ў свае рукі. Мы апынуліся ў Новагрудку пры гэтым у вельмі незайздросным становішчы, бо засталіся што называецца ў мяшку, не маючы шляхоў для адступлення.

Памятаю, як тав. Валодзька і я, пасля такіх звестак, усю ноч сядзелі на тэлеграфе ў Новагрудку, аддаючы распараджэнні Замір'еўскай і суседнім з Несвіжам валасным партыйным арганізацыям аб арганізацыі барацьбы з зарваўшайся польскай кавалерыяй і аб падаўленні паўстання ў горадзе Несвіжы. Сіламі мясцовых узброеных атрадаў і з дапамогай прысланых з Менска падмацаванняў (бронепоезды і пяхота), атрады польскай кавалерыі пасля бою ў раёне вёскі Студзенкі прымушаны былі адыйсці ў напрамку Слоніма.

У падаўленні Несвіжскага паўстання рашаючую ролю адыграла Замір'еўская валасная партыйная арганізацыя. Асабліва праявілі сябе, як арганізатары і кіраўнікі падаўлення паўстання, тт. Валодзька Ф. і Жук А. Атрад пад кіраўніцтвам т. Жука, складзены пераважна з членаў партыі Замір'еўскай арганізацыі, узброеных кулямётамі пры дапамозе адной роты разбіў паўстанцаў і аднавіў совецкую ўладу ў Несвіжы і Клецку. Потым Новагрудскі павятовы камітэт партыі адбіваў наступленне белапалякаў на ўчастку Сіняўка, Клецк, Сноў, Ішкольдзь, Новагрудак.

19 мая 1919 г. Замір'е было таксама пакінута часцямі Чырвонай арміі. Усе члены партыі ўліліся ў палкі Чырвонай арміі для яе ўмацавання і далейшай барацьбы з белапалякамі, якія прасоўваліся на ўсход. Я са згоды і па даручэнню вышэйшых партыйных органаў пашоў на падпольную работу, каб у занятых белапалякамі пунктах наладзіць работу партыйных арганізацый і партызанскі рух для барацьбы з белапольскімі акупантамі.

Скарыстаўшы цяжкае становішча совецкіх рэспублік, якія вялі барацьбу на шматлікіх франтах з Дзенікіным, калчакоўшчынай, французскімі, японскімі і інш. інтэрвентамі, белапалякі ўжо ў сакавіку 1919 г. захапілі акрамя многіх іншых гарадоў і самы гор. Менск, і лінія фронту прайшла каля Полацка, Барысава, Бабруйска.

Польскія імперыялісты дзейнічалі ў інтарэсах капіталістаў і памешчыкаў, якія ішлі на Беларусь, каб вярнуць сабе заводы і маёнткі, аднавіць эксплаатацыю і прыгон рабочых і сялян Беларусі. Белапалякі выконвалі волю сусветнай буржуазіі, якая імкнулася задушыць маладыя совецкія рэспублікі, як базу сусветнай рэволюцыі. Зараз-жа пасля акупацыі Беларусі ўрад Пілсудскага выдаў загад, у якім гаварылася:

«Уся прыватная ўласнасць, ці то гвалтоўна захопленая, ці выпадкова трапіўшая, павінна быць безадкладна вернута ўласнікам. Уласнікі зямельнай маемасці або іх правамоцныя наменнікі абавязаны да 10 верасня прыняць у сваё ўладанне зямельныя маемасці».

«Агнём і мечам» польскія акупанты праводзілі ў жыццё гэты загад урада Пілсудскага. Для гэтага пасылаліся карныя экспедыцыі, якія зніштажалі непакорлівых, спальвалі цэлыя вёскі, арыштоўвалі, падвяргалі katаванням сотні рабочых і сялян. Расстрэл і павешанне—

такім быў прысуд польскіх паноў. Пагромы, аграбленне, пагалоўнае вырэзванне яўрэйскага насельніцтва былі масавай з'явай.

Я быў ачавідцам гэтых многіх здзекаў белапольскіх катаў над беларускімі рабочымі і сялянамі. Не гаворачы аб тых, якія былі западозраны ў комунізме або ў спачуванні яму, уся моладзь падвяргалася пагалоўным катаванням у засценках дэфензівы. Так, напрыклад, у вёсках Баяры і Ліпа, Сноўскай воласці, Навагрудскага павету, усю моладзь, якая сабралася на свята, арыштавалі, адправілі ў Баранавічы, дзе падверглі розным катаванням за тое, што насельніцтва гэтых вёсак было рэволюцыйнае. За малейшае падазрэнне ў рэволюцыйным руху, або невыкананне загаду белапольскага жонду, белапольскія жан-



Партызанскі атрад на Беларусі пры польскай акупацыі 1919—20 гг.

дары шляхам падпалу зніштажалі цэлыя вёскі, расстрэльвалі кожнага дзесятага з выстраеных у шарэнгу жыхароў вёскі. Паўсямесна лютаваў белы жудасны тэрор, уведзены азвярэлымі белапольскімі катамі, на дапамогу якім прышла буржуазія ўсіх нацыянальнасцей. Рабочыя і сяляне Беларусі добра ўразумелі, хто іх прыяцелі і хто ворагі, і па закліку комуністычнай партыі, якая ў той час пайшла ў глыбокае падполле, пачалі ўзнімацца на барацьбу супроць белапольскіх акупантаў, супроць капіталістаў і памешчыкаў усіх нацыянальнасцей, асеўшых на Беларусі.

Па закліку комуністычнай партыі рабочыя і працоўныя сяляне пачалі арганізоўвацца ў партызанскія атрады. Цэлыя вёскі ішлі па закліку большэвікоў у партызанскія атрады. Партызанскі рух ахоплівае цэлыя паветы. Белапольская акупацыйная армія пачала адчуваць на сабе моцныя ўдары гэтых атрадаў, якія часта паралізавалі яе дзейнасць.

Гераічная работа компартыі, барацьба чырвоных партызан моцна падточвалі сілы акупантаў. У гэты час значна ўзраслі і ўмацаваліся

сілы Чырвонай арміі на Заходнім фронце. Чырвоная армія перамагла на асноўных франтах грамадзянскай вайны і рушыла супроць белапольскіх акупантаў.

Чырвоная армія, апіраючыся на рэволюцыйныя сілы падполля і партызанскі рух, ударам за ўдарамі разбіла акупантаў, вышвырнула іх з межаў Беларусі.

Барацьба з белапалякамі закончылася поўнай перамогай у выніку паспяховай барацьбы слаўнай непераможнай Чырвонай арміі, вадзімай тт. Фрунзе, Варашылавым, Будзённым у рэзультаце геніяльнай стратэгіі т. Сталіна, які так умела арганізаваў яе па даручэнню Цэнтральнага Камітэта партыі. Гэтай слаўнай перамогі над белапольскімі акупантамі ніколі не забудуць усе працоўныя Совецкай Беларусі.

Пролетарыят і калгаснае сялянства Беларусі атрымалі дзякуючы гэтай перамозе магчымасць пад сцягам большэвіцкай партыі, кіруемай ленінскім ЦК і лепшым вучнем Леніна—любімым правадыром працоўных усяго свету—т. Сталіным, будаваць сваё шчаслівае, культурнае і радаснае жыццё.

Пад гэтым-жа сцягам яны пойдуць і ў далейшую барацьбу за сусветны Окцябр.

---



**Д. Дудкоў**

# Контррэвалюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм на службе ў белапольскіх акупантаў

Даючы ацэнку Лютаўскай рэвалюцыі, т. **Сталін** гаварыў:

> «Лютаўская рэвалюцыя таіла ў сабе ўнутраныя непрымірымыя супярэчнасці. Рэвалюцыя была зроблена намаганнямі рабочых і сялян (салдат), між тым як у выніку рэвалюцыі ўлада перайшла не да рабочых і сялян, а да буржуазіі. Робячы рэвалюцыю, рабочыя і сяляне хацелі пакончыць з вайной, дабіцца міру, між тым як стаўшая на чале ўлады буржуазія імкнулася скарыстаць рэвалюцыйнае натхненне мас для прадаўжэння вайны, супроць міру. Гаспадарчая разруха ў краіне і харчавы крызіс патрабавалі экспрапрыяцыі капіталаў і прамысловых прадпрыемстваў на карысць рабочых, канфіскацыі памешчыцкіх зямель на карысць сялянства, між тым як буржуазны ўрад Мілюкова-Керанскага стаяў на варце інтарэсаў памешчыкаў і капіталістаў, рашуча ахоўваючы апошніх ад замахаў з боку рабочых і сялян *).

Гэтыя глыбокія супярэчнасці магла вырашыць толькі пролетарская рэвалюцыя. «Неабходна была новая, **соцыялістычная** рэвалюцыя для таго, каб вывесці краіну з тупіка імперыялістычнай вайны і гаспадарчага развалу» **). Партыя большэвікоў і яе правадыры вялікія геніі чалавецтва—Ленін і Сталін—прывялі масы к пераможнай Окцябрскай рэвалюцыі, якая ўстанавіла дыктатуру пролетарыята і разбіла ланцугі соцыяльнага і нацыянальнага ўціску, панаваўшага раней у былой Расіі.

Супроць пролетарскай рэвалюцыі стаў утварацца агульны контррэвалюцыйны фронт, які ўключыў у сябе і сілы сусветнага капіталізма, і буржуазна-памешчыцкую генеральскую контррэвалюцыю, і буржуазных нацыяналістаў акраін, і дробна-буржуазных контррэвалюцыянераў—меншавікоў, эсэраў, бундаўцаў і многіх іншых.

Буржуазныя нацыяналісты былых калоній ішлі на барацьбу супроць дыктатуры пролетарыята ў саюзе з усякімі ворагамі пролетарыята. Башкірскія нацыяналісты заключылі саюз з Калчаком і Дутавым, якія вялі барацьбу за «адзіную-недзялімую» Расію. Казакстанскі ўрад Алаш-Арды заключыў ваенны дагавор з вялікадзяржаўна-рускім «Комучам». Закаўказскія меншавікі ішлі на барацьбу супроць рабочых і

*) Сталин. Марксизм и национально-колониальный вопрос, стр. 52—53.
**) Там-жа, стр. 53.

сялян Закаўказзя і, карыстаючыся падтрыманнем з боку рускіх белагвардзейцаў-генералаў, прадавалі край англійскім імперыялістам, з дапамогай якіх расстралялі лепшых сыноў народаў Закаўказзя— 26 бакінскіх камісараў.

Па такому-ж контррэволюцыйнаму шляху ішлі і беларускія нацыянал-дэмакраты—ідэолагі беларускага кулацтва.

Беларускія нацыянал-дэмакраты—лютыя ворагі рабочых і працоўнага сялянства—напярэдадні Окцябра ў саюзе са сваімі пабрацімцамі ворагамі рэволюцыі, вялікадзяржаўна-рускімі контррэволюцыйнымі генераламі Кандратовічамі, Алексееўскімі і іншымі стварылі «Цэнтральную беларускую вайсковую раду». Рада займалася фармаваннем з рознага контррэволюцыйнага зброду ваенных часцей для барацьбы супроць рабочых і сялян, супроць Окцябра ў Беларусі. У саюзе з рускімі, яўрэйскімі і польскімі нацыяналістамі нацыянал-дэмакраты зрабілі спробу контррэволюцыйнага перавароту, склікаўшы ў снежні 1917 года так званы «ўсебеларускі кангрэс». З мэтай звяржэння совецкай ўлады ў Беларусі нацыянал-дэмакраты звярталіся за дапамогай да лютых ворагаў працоўных мас Беларусі— польскіх нацыяналістаў у асобе корпуса Даўбор-Мусніцкага. А вядома, што корпус Даўбор-Мусніцкага, выступіўшы ў студзені 1918 г. на барацьбу супроць Совецкай Расіі і Беларусі, з'ўляўся выканаўцам імкненняў польскіх паноў і буржуазіі вярнуць шматлікія маёнткі і прадпрыемствы, утрачаныя імі ў нашай краіне ў выніку пролетарскай рэволюцыі. Корпус Даўбор-Мусніцкага ставіў сабе мэтай барацьбу за «граніцы 1772 года».

Беларускія нацыянал-дэмакраты з мэтай барацьбы за буржуазна-памешчыцкую Беларусь пайшлі на службу к нямецкім імперыялістам, акупаваўшым краіну ў 1918 г., віталі кайзера Вільгельма і выражалі яму «найглыбейшую падзяку» за «вызваленне» Беларусі ад совецкай ўлады і большэвікоў. У спецыяльнай інструкцыі сваім павятовым упаўнаважаным нацдэмаўская рада давала наказ вылаўліваць рэволюцыйныя элементы і выдаваць на расправу акупантам.

Беларускія нацыянал-дэмакраты, заключыўшы саюз з былым царскім генералам—манархістам Шчарбачовым, фармавалі з часцей б. Румынскага фронту банды, прызначаныя для барацьбы супроць беларускіх рабочых і сялян і Совецкай Расіі. Той-жа мэце служыла і дзейнасць у Одэсе Баліцкіх, Некрашэвічаў і інш. па стварэнню з дапамогай украінскіх нацыяналістаў такіх-жа банд.

Кучка беларускіх контррэволюцыянераў увесь час кідалася ў абнімкі то аднаго, то другога ворага совецкіх рэспублік, прапанавала то аднаму, то другому свае катаўскія паслугі ў барацьбе супроць Совецкай Беларусі. Белапольскія акупанты, якія з'явіліся на тэрыторыі Беларусі ўвесну 1919 года, знайшлі сабе ў асобе беларускіх нацыянал-дэмакратаў, не пагарджаўшых ніякай подлай і бруднай контррэволюцыйнай работай, шчырых і надзвычайна ўслужлівых і актыўных памочнікаў.

* * *

Распачынаючы барацьбу супроць Совецкага саюза, белая Польшча выступала ў якасці выканаўцы волі Антанты, у прыватнасці імперыялістычнай Францыі.

> «Палякі,—гаварыў Ленін,—нам вайну навязалі, і мы ведаем, што тут галоўную ролю адыгрывалі нават не польскія памешчыкі, не польскія капіталісты, бо становішча Польшчы, як і

цыпер, было адчайнае. Яна з адчаю пайшла на гэту авантуру. Але галоўная сіла, якая штурхала палякаў на вайну з намі, была, вядома, сіла капітала міжнароднага і, у першую чаргу, французскага» *).

Імперыялісты Захаду, узбройваючы і знаражаючы польскія легіёны, ставілі сваёй мэтай знішчыць дыктатуру пролетарыята ў Расіі рукамі польскіх салдат.

Выконваючы ролю буржуазіі краін Захаду, белая Польшча мела і свае імперыялістычныя імкненні. Памешчыкі і буржуазія Польшчы хацелі стварыць польскую дзяржаву ў «граніцах 1772 г.», заваяваць совецкія Украіну і Беларусь і ператварыць іх у свае калоніі. Польскія паны, вякамі прыгнятаўшыя беларускага селяніна, хацелі вярнуць свае шматлікія і велізарныя маёнткі, утрачаныя ў Окцябрскую рэволюцыю.

У час нападу белапольскіх войск на Беларусь галоўныя сілы Чырвонай арміі знаходзіліся на іншых фронтах. Белапалякі і колькасна і па ўзброенасці былі значна мацней ваяваўшых з імі чырвоных часцей. Але перамогі свае белапалякі куплялі дарагою цаной, сустракаючы вельмі моцны адпор з боку чырвонага войска. Беларускія рабочыя і сяляне разам з Чырвонай арміяй геаічна абаранялі сваю краіну. Вільна была захвачана толькі пасля 3-дзённых боёк, калі польская артылерыя значна зруйнавала горад.

Віленскія комуністы да апошняй мінуты, да апошняга патрона абаранялі горад. Многія з іх загінулі смерцю герояў. Жорсткія бойкі ішлі каля Нова-Вілейска, Маладзечна, Ракава і інш. Гэтыя паселішчы па некалькі раз пераходзілі з рук у рукі. Цэлых 5 тыдняў адбываліся бойкі на тэрыторыі паміж Маладзечнам і Менскам, на гэтай адлегласці ў 80 вёрст. Бойкі каля Менска прадаўжаліся 12 дзён, і калі белапалякі былі ўжо ў 7—8 вярстах ад Менска, то ўдарам чырвоных часцей былі адкінуты ад горада на адлегласць у 30 вёрст і больш.

Каб палегчыць захват Беларусі, белапалякі пускалі ў ход не толькі зброю, але і подлае ашуканства. У сваёй прамове ў захвачаным Менску Пілсудскі гаварыў: «Польскае войска, якім я маю гонар камандваць, усюды нясе вызваленне і свабоду. Польшча ідзе на акраіны не для таго, каб навязаць сваю волю» **).

Рабочыя і сяляне Беларусі не верылі гэтым фальшывым адозвам і прамовам акупантаў, што прышлі на Беларусь разам з памешчыкамі і буржуазіяй, выгнанымі адсюль пролетарскай рэволюцыяй. Не верылі акупантам таму, што з першых крокаў уваходу на Беларусь белапалякі арганізавалі дзікі і зверскі тэрор супроць працоўных мас Беларусі.

Захапіўшы Менск, белапалякі выдалі 24 жніўня 1919 г. загад № 16, які звarочваў зямлю памешчыкам, прадпрыемствы—буржуазіі. У гэтым загадзе, падпісаным намеснікам генеральнага камісара ўсходніх зямель Рачкевічам, абвяшчалася: «Паведамляецца да агульнага ведама, што ўсякія распараджэнні і дэкрэты большэвіцкіх улад, што датычаць прыватнай уласнасці, аб'яўляюцца несапраўднымі. Права прыватнай уласнасці аднаўляецца ў поўнай меры... Уся прыватная ўласнасць ці то захопленая сілай, ці тая, што выпадкова знаходзіцца ў незаконных уласнікаў, павінна быць неадкладна звернута» ***).

*) Ленін, т. XXV, стар. 399.
**) „Звон", № 14, 24/IX-19 г.
***) „Минский курьер", № 2, 27/VIII-19 г.

На прадпрыемствах быў уведзен жорсткі капіталістычны рэжым. У карэспандэнцыі з Менска, надрукаванай у газеце «Звезда», пісалася: «Работы няма амаль ніякай. Працуе 5 працантаў, астатнія беспрацоўныя знаходзяцца ў жудаснай галечы. Прадпрыемцы прымаюць на работу толькі самых забітых і адсталых рабочых, а больш свядомых... наогул не прымаюць» *).

У памешчыцкіх маёнтках уваскрашалася паншчына. Так у карэспандэнцыі з м. Петрыкава, Менскай г., у газету «Комуністас» пісалася: «Зварочваюцца памешчыкі ў свае маёнткі, адбіраюць у сялян жывёлу і іншую маемасць, прымушаюць іх па тры дні працаваць, а дзе памешчыкі яшчэ не вярнуліся, іх лакеі прымушаюць сялян чысціць панскія дамы» **).

Аднаўляючы панаванне памешчыкаў і буржуазіі, белапалякі разгарнулі сістэму самага раз'юшанага нацыянальнага ўціску. Пануючай мовай абвяшчаецца загадам № 8 ад 2 жніўня 1919 г. польская. «На абшарах, занятых польскім войскам, урадавай мовай лічыцца польская»—так заяўляе акупанцкі загад.

Беларускія, яўрэйскія і рускія школы закрываліся, настаўнікаў гэтых школ белапалякі арыштоўвалі і гналі ў турмы і канцэнтрацыйныя лагеры. Па гарадах і мястэчках Беларусі адбываліся жудасныя яўрэйскія пагромы. У гэтай бруднай справе польскія паны перашчыгалялі пурышкевіцкі «саюз рускага народу».

Па ўсёй акупаванай Беларусі распачаўся самы нястрыманы, самы шалёны белапольскі тэрор, які лютаваў з першых дзён прыходу польскага войска.

Як толькі белапалякі захапілі г. Вільню, каля 2.000 чалавек было арыштавана і пасаджана ў турму. Сярод арыштаваных былі чырвонаармейцы, совецкія і партыйныя работнікі і проста западазроныя ў спачуванні совецкай уладзе. У горадзе адбыўся яўрэйскі пагром, які цягнуўся з 19 красавіка да 9 мая. Людзей забівалі на смерць прыкладамі, прывязвалі да хвастоў коней і цягалі па вуліцах, закапвалі жыўцом у магілу.

Калі азвярэлыя белапалякі ўвайшлі ў красавіку 1919 г. у г. Ваўкавыск, Гродненскай губ., яны распачалі (як і ў Вільні) незлічоныя арышты «падазроных» асоб. Арыштаваных за спачуванне совецкай уладзе і большэвікам падвяргалі нечалавечым катаванням. Збітых, скрываўленых гналі ў турму ў адной бялізне, не гледзячы на халоднае надвор'е. Адной арыштаванай жанчыне не дазволілі ўзяць з сабой яе пакінутае на волю лёсу 4-тыднёвае дзіця. У горадзе пад пагрозай збіення забаранялася размаўляць на рускай, беларускай і яўрэйскай мове.

Падобныя падзеі перажыў і г. Беласток, дзе з прыходам войск ген. Галлера адбыўся яўрэйскі пагром. Легіянеры ўчынялі і безупынныя грабяжы.

Кашмарную расправу ўчынілі белапалякі над яўрэйскім насельніцтвам г. Пінска. Ачавідцы забойства 37 чалавек апавядалі: «Няшчасных павялі на базарны пляц, прыставілі да манастырскай агарады і ўсе былі скошаны прывезеным туды кулямётам» ***).

*) „Звезда", № 518, 22/XI-19 г.
**) „Жизнь национальностей", № 3, 18/1 1920 г.
***) „Минский пролетарий" № 17, 1919 г.

Турмы гарадоў перапаўняліся палітычнымі зняволенымі, якія штодня перажывалі страшэнныя здзекі і катаванні. Зняволеныя менскай турмы пісалі на волю: «Кожны вечар менская контрразведка ператвараецца ў сапраўдную бойню. Звязваюць палітычным арыштаваным рукі і ногі, як баранам, і голых па-зверску збіваюць жалезнымі прутамі. А каб яны не крычалі, завязваюць ім рот анучамі. Нават жанчын падвяргаюць тым-жа катаванням. Хворых і слабых жанчын закрываюць у халодных і цёмных адзіночках. Кожны вечар паўтараецца тая-ж экзекуцыя над іншымі палітычнымі» *).

Аднаўляючы панаванне памешчыкаў, белапалякі пакрылі вёскі лесам шыбеніц і перапоўнілі карнымі атрадамі, учыняўшымі масавыя забойствы рэволюцыйных сялян.

У 1919 г. вёска Рэмуцеўка была падпалена легіянерамі і памешчыкам Біспінгам. Сяляне былі аграблены, у іх забралі коней, кароў, прадукты. У м. Азёры, Гродненскай губ., белапалякі расстралялі некалькіх сялян, забралі ў жыхароў мястэчка жывёлу і прадукты. У м. Масты, той-жа губерніі, легіянеры збівалі і грабілі насельніцтва. Аднаго жыхара мястэчка секлі каля ложка, на якім ляжала яго жонка, толькі што нарадзіўшая дзіця.

Асаблівую ненавісць праяўлялі белапалякі да чырвонаармейцаў і іх сем'яў. У органе ЦК Компартыі Літвы і Беларусі—«Звезде» апавядалася, што ў вёсках Слуцкага павету рабілася наступнае: «Калі суседзі скажуць, што сям'і вядома аб службе сваіх родных у радах Чырвонай арміі і яна маўчыць пра гэта, тады ў яе адбіраюць усю маемасць, забіраюць жывёлу, коней і інш., а саміх мужчын збіваюць да смерці. Злоўленых дабраvольцаў (чырвонаармейцаў—Д. Д.) расстрэльваюць на месцы» **). Шматлікія вёскі, у якіх сялянства так ці інакш супраціўлялася безупынным рэквізіцыям, знішчаліся зусім з твару зямлі, а сялян расстрэльвалі.

Калі сяляне в. Зарытава, Слуцкага павету, у адказ на рэквізіцыі арганізавалі самаабарону і прагналі легіянераў, тады з'явіўся карны атрад. Вёска, якая мела 240 двароў, была спалена цалкам, а ўцякаўшых з полымя, нават жанчын і дзяцей, белапалякі расстрэльвалі, злоўленых кідалі жывымі ў агонь.

Грабяжы і пагромы ў вёсках, як правіла, суправаджаліся незлічонай колькасцю выпадкаў згвалтавання жанчын. «Звезда» паведамляла, што ў Даўгінаўскай вол. «шляхецкія банды раз'язджалі па вёсках і пагрозамі гвалту прымушалі сялян прыводзіць да іх сваіх дачок...» Многія ратаваліся выкупам, але «панскія бандыты бралі прынесенае і пасля гэтага ўсё-ж гвалтавалі і дачок тых сялян, якія неслі ім свой выкуп» ***). Зварочваючы памешчыкаў у маёнткі і аднаўляючы памешчыцкае панаванне, белапалякі пускалі ў ход супроць сялян усё, што маглі: узброеныя напады на вёскі ўдзень і ўночы, расстрэлы сялян як пачкамі, так і паасобку, лютыя катаванні, пагромы, падпалы і інш.

Сістэма белапольскага тэрору вельмі падобна да той, што і зараз яшчэ праводзіцца ў абнішчаўшых, аграбленых незлічонымі падаткамі, залітых рабоча-сялянскай крывёю Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі.

---

*) „Жизнь национальностей", № 3, 18/1-20 г.
**) „Звезда" № 511, 17/IX-19 г.
***) „Звезда" № 2, 1920 г.

* * *

Паслугачамі белапалякаў, іх актыўнымі памочнікамі ў барацьбе за рэстаўрацыю памешчыцка-буржуазнага ладу былі буржуазныя нацыяналісты ўсіх колераў: беларускія нацыянал-дэмакраты, рускія вялікадзяржаўнікі, яўрэйскія нацыяналісты і інш. Усе яны радасна сустрэлі прыход акупантаў і дапамагалі ім замацоўвацца ў Беларусі.

Беларускія нацыянал-дэмакраты ў асобе віленскай рады заяўлялі, што «прабіў новы час, разгарнулася новая старонка гісторыі беларускага адраджэння» *). Рада Гродненшчыны друкавала такую адозву: «Учора старая Гародня ўбачыла сцягі войск польскай дзяржавы, якія занялі гэта адвечнае беларускае месца. Стрэнце, беларусы, новых госцяў свайго краю з поўным спакоем і пэўнасцю» **).

Чакаючы прыезду маршала Пілсудскага ў Менск, нацдэмаўская газета «Звон» пісала: «Гэтымі днямі прыязджае ў Менск начальнік польскай дзяржавы Язэп Пілсудскі... Прывет табе, начальніку польскай дзяржавы, на тваёй роднай зямліцы Беларусі» ***).

У пахвалах па адрасу польскага войска і маршала Пілсудскага не адставалі ад нацдэмаў і іх саюзнікі—рускія вялікадзяржаўнікі. Рускі вялікадзяржаўнік граф. Доўнар-Запольскі, які быў тады бургамістрам г. Менска, у адозве да насельніцтва Менска пісаў падобна «Звону»: «Выражаю глыбокую ўпэўненасць, што ў момант прыезду ў Менск абажаемага правадыра ўсё насельніцтва нашага горада без розніцы нацыянальнасці і веравызнання прыме палкі ўдзел і прыкладзе ўсе намаганні да наладжвання ўрачыстасці, якая-б і выражала нашы пачуцці глыбокай пашаны і ўдзячнасці да камендanta» ****).

Працоўныя г. Менска варожа сустрэлі прыход легіянераў, разам з якімі зварочваліся памешчыкі і буржуазія. З нацыяналістамі-ж справа інакш абстаяла... Усе яны «без розніцы нацыянальнасці і веравызнання» віталі акупантаў і наладзілі ўрачыстую сустрэчу ім.

На гэтай сустрэчы з падзякай Пілсудскаму ад нацдэмаў выступаў А. Прушынскі (А. Гарун). Ён заклікаў польскае войска ісці далей на ўсход, захватваць савецкія гарады Беларусі.

У наладжванні ўрачыстага спаткання маршалу Пілсудскаму разам з беларускімі нацыянал-дэмакратамі прымалі вельмі дзейны ўдзел рускія вялікадзяржаўныя шавіністы. Разам з Гаруном выступаў барацьбіт за «праваслаўе, самадзяржаўе і народнасць» епіскап Мельхіседзек. Ён у сваёй прывітальнай прамове пасылаў «благаславенне боскае» акупантам. Яўрэйскія нацыяналісты таксама віталі акупантаў—арганізатараў пагромаў над яўрэйскімі працоўнымі масамі. З прывітаннем выступаў сіяніст Хургін *****).

Так, злучаныя агульнай задачай барацьбы супроць Саветаў, супроць працоўных мас, буржуазныя нацыяналісты ўсіх колераў поўзалі на каленях перад акупантамі і спаборнічалі на лепшы гімн хвальбы па адрасу белапалякаў і правадыра белапольскага войска—Пілсудскага.

Пасля ўрачыстай сустрэчы Пілсудскаму, беларускія нацыянал-дэмакраты разгарнулі ў сваім друку прапаганду за захват белапалякамі ўсёй Беларусі. Думка, што палякі не пойдуць далей р. Бярэзіны,

*) „Беларуская думка", № 10, 1919 г.
**) Там-жа.
***) „Звон", № 11, 1919 г.
****) „Минский курьер", № 22, 16/IX 1919 г.
*****) Там-жа.

выклікала трывогу і непакой у нацдэмаўскім лагеры. «Наперад да Дняпра!»—вось заклік нацыянал-дэмакратаў да акупантаў. У артыкуле «Трэба рабіць да канца», надрукаваным у «Звоне», нацыянал-дэмакраты заклікалі белапалякаў ва што-б там ні стала рухацца на ўсход—«вызваляць» астатнюю Беларусь *).

Беларускія нацыянал-дэмакраты прымалі ўсе захады к таму, каб аказаць акупантам і ваенную дапамогу.

Ваенная дапамога нацдэмаў белапалякам выразілася ў дзейнасці па фармаванню вайсковых часцей для барацьбы супроць Савецкай Расіі і рабочых і сялян Беларусі. Калі была акупавана Віленшчына і Гродненшчына, беларускія нацыянал-дэмакраты пасылалі 27 мая 1919 года дэлегацыю к гора-кіраўніку Беларусі, стаўленіку Пілсудскага, «генеральнаму камісару Усходніх зямель»—Ю. Асмалоўскаму. Узначальваў дэлегацыю нейкі Радштэйн-Гулевіч-Бароўскі, якога нацдэмы атэставалі «камандуючым беларускага гусарскага палка». Радштэйн кляўся перад Асмалоўскім ад імя гродненскай і віленскай нацдэмаўскай контррэволюцыі ў вернасці белапольскаму панству. Радштэйн заяўляў, што «ваякі-беларусы гарачь жаданнем палажыць сваё жыццё ў барацьбе супроць Саветаў і «просяць даць ім («ваякам»—Д. Д.) дапамогу матар'яльную і збройную» **).

Радштэйн запэўніваў пана Асмалоўскага, што «ваякі-беларусы» хочуць ісці разам з белапалякамі «ваяваць побач на адным фронце супроць агульнага ворага», г. зн., супроць рабочых і сялян Савецкай Расіі і Беларусі.

Пан Асмалоўскі, які выконваў абавязкі вярбоўшчыка лакеяў для белапалякаў, прыняў прапанову ўслужлівых беларускіх белабандытаў, «адзначыў, што з яго боку на гэта ёсць поўнае спагаданне» і абяцаў далажыць аб гутарцы з дэлегацыяй свайму начальству.

Вынікам візіта к пану Асмалоўскаму было тое, што белабандыты з рады Віленшчыны і Гродненшчыны мелі гонар быць прынятымі самім Пілсудскім 28 ліпеня 1919 года. Рада дагаварылася з Пілсудскім аб умовах фармавання «беларускага войска». Пункты гэтага дагавора, апублікаванага 4 жніўня 1919 г. у нацдэмаўскай газеце «Беларускае жыццё» вельмі добра паказваюць твар нацдэмаў, гандляваўшых акупаваным краем. У дагаворы запісана: «Беларуская рада Віленшчыны і Гродненшчыны выдзяляе вайсковую камісію з месцам быцця пры галоўным камандванні польскага войска». Далей зазначаецца: «галоўнакамандуючы польскага войска назначае начальніка беларускага войска і афіцэраў». Нават і форму для беларускіх бандытаў вайсковая камісія магла ўстанавіць толькі «разам з галоўным польскім камандваннем».

Такім чынам, віленскія і гродненскія нацдэмы распачыналі арганізацыю «беларускага войска», якое павінна было з'яўляцца састаўной і неадрыўнай часткай войска акупантаў. «Беларускае войска» прызначалася для барацьбы за інтарэсы польскіх зямельных магнатаў і капіталістаў, за іх панаванне ў акупаванай Беларусі.

Пасля захвату белапалякамі Менска, нацдэмы разам з акупантамі, і на сродкі акупантаў, узяліся за справу арганізацыі «беларускай вайсковай камісіі» ў Менску. Загад аб утварэнні гэтай камісіі быў падпісан Пілсудскім 22 кастрычніка 1919 года. Старшынёй камісіі быў прызначаны беларускі белабандыт П. Алексюк, членамі камісіі: афіцэр

*) „Звон“, № 2, 1919 г.
**) „Звон“, № 1, 1919 г.

польскага генштаба Канапацкі, палкоўнік Якубоўскі, Аўсянік, А. Прушынскі (Гарун), Рак-Міхайлоўскі—вядомы правакатар у нацыянальна-вызваленчым руху Заходняй Беларусі, арыштаваны ў БССР у 1933 г. па справе «БНЦ», і іншыя асобы. Фактычным кіраўніком камісіі з'яўляўся Канапацкі, які прызначаўся ў якасці камандуючага будучага «беларускага войска» *).

Дзейнасць беларускіх нацыянал-дэмакратаў па фармаванню «беларускага войска» скончылася поўным крахам. На заклікі вайсковай камісіі адгукаўся толькі розны контррэволюцыйны зброд з афіцар'я, кулацкіх элементаў, бандытаў і дэзертыраў. Адозвы камісіі, накіраваныя да працоўных мас, завісалі ў паветры, заставаліся «гласом вопиющего в пустыне».

Крах сваёй дзейнасці па фармаванню ваенных часцей з беларускага насельніцтва вымушаны былі прызнаць і самі беларускія нацыянал-дэмакраты. Іх газета «Беларусь» яшчэ 6 снежня 1919 г. радавалася, што «начальнік польскай рэспублікі выдаў дэкрэт аб адкрыцці беларускіх курсаў афіцэраў і падафіцэраў» у г. Слоніме, на Гродненшчыне, але гэта радасць была кароткатэрміновай. «Генералы» не мелі арміі, весці ў бой супроць Чырвонай арміі не было каго... І тая-ж «Беларусь» 25 студзеня 1920 г. горка сумавала: «Вялікі лік сыноў мае наша зямелька. Але, што-ж мы бачым? Загад дзяржаўнага шэфа Пілсудскага застаецца да гэтага часу простым кавалачкам паперкі... Роўна нічога рэальнага ў стварэнні войска не зроблена. Беларусь да гэтага часу не мае ніводнага салдата, апрача тых, каторыя стаяць ля габінетаў вайсковай камісіі».

Нацдэмам і іх гаспадарам белапольскім магнатам, не гледзячы на ўсе намаганні, не ўдалося абдурыць нават самую нязначную частку працоўнага насельніцтва Беларусі, ні ў якой меры не ўдалося ператтварыць яго ў шэрую скаціну і павесці на забой ва ўгоду польскім памешчыкам і фабрыкантам.

Рабочыя і сяляне Беларусі ішлі зусім іншай дарогай—дарогай барацьбы ў радах Чырвонай арміі і чырвоных партызан супроць белапалякаў за вызваленне сваёй акупаванай, залітай крывёю, аграбленай белымі панамі краіны.

Беларускія нацыянал-дэмакраты, пашоўшы на службу да польскіх паноў, знаходзіліся на іх утрыманні.

Нацыянал-дэмакраты і іх друк увесь час атрымлівалі субсідыі ад белапалякаў, аб чым Ваяводскі заяўляе: «Беларуская нацыянальная прэса (газета «Беларусь») субсідавалася польскімі акупацыйнымі ўладамі» **). Газету «Беларусь» рэдагаваў у 1920 г. Язэп Лёсік вядомы белапанскі паслугач і хлоп.

У сваіх адозвах, газетах і брашурах беларускія нацыянал-дэмакраты без канца і без меры балбаталі аб «незалежнасці» Беларусі, малявалі сябе барацьбітамі за гэту «незалежнасць». Балбатня аб «незалежнасці» была тым нацыянальным сцягам, якім нацдэмы хацелі прыкрыць свой прадажны і здрадніцкі твар. Нацыянал-дэмакраты змагаліся за буржуазна-памешчыцкую Беларусь як неадрыўную частку польскай дзяржавы ў «межах» 1772 г. Яны ведалі, што Беларусь, захваченая Польшчай, не будзе самастойнай дзяржавай, і гэта нацдэмаў ніколечкі не непакоіла. Іх непакоіла адно—небяспека аднаўлення Совецкай Беларусі, у якой не будзе месца эксплаататарам, а

*) Зборнік „Наша ніва", Вільня, 1920 г.
**) Магілеўскі архіў, фонд № 8, справа 24.

інтарэсы эксплаататараў былі для нацдэмаў сваімі ўласнымі інтарэсамі. З мэтай захавання буржуазна-памешчыцкага ладу ў Беларусі нацыянал-дэмакраты гатовы былі ў любы момант прадаваць Беларусь любому разбойніку-пакупніку.

Гэтыя свае планы беларускія нацдэмы добра паказалі ў рознай сакрэтнай і асабовай перапісцы. З ліста аднаго нацдэма, пісанага ім у 1920 г. да Рак-Міхайлоўскага—члена «беларускай вайсковай камісіі»—мы даведваемся, што ў 1919—20 гг. нацыянал-дэмакраты былі за поўнае злучэнне Беларусі з Польшчай у адзіную дзяржаву, цалкам і поўнасцю згаджаліся з існуючым станам рэчаў, г. зн. з усім ладам, устроеным акупантамі ў краіне.

У такім духу выступаў у пачатку 1920 года Я. Лёсік на старонках рэдагуемай ім утрыманкі белапалякаў—газеты «Беларусь». Лёсік супроць якіх-бы там ні было змен у акупанцкім рэжыме—рэжыме гвалту і самавольства белапанскіх бандытаў.

У гэтым цынічна-подлым артыкуле Лёсік прама і адкрыта заяўляе, што яны, нацыянал-дэмакраты, супроць змены існуючага акупанцкага рэжыму ў Беларусі. Лёсік выступае не толькі за захаванне белапанскага ладу ў акупаванай Беларусі, ён—за пашырэнне белапольскай акупацыі на ўсю этнаграфічную Беларусь.

Найміт белых паноў даказвае патрэбнасць для беларускага народу бізуноў, шыбеніц, карных атрадаў.

Беларускія нацыянал-дэмакраты з дзікай ненавісцю адносіліся да рабочых і сялян, рваўшых ланцугі белапольскай няволі, і дапамагалі акупантам душыць рэвалюцыйны рух, не пагарджаючы ніякімі сродкамі.

Рукамі памешчыцкіх і кулацкіх банд нацыянал-дэмакраты хацелі-б расправіцца з чырвонымі героямі-партызанамі.

Гаворачы аб службе беларускіх нацыянал-дэмакратаў белапольскім акупантам, нельга прайсці міма пытання аб адносінах нацдэмаўскай контррэвалюцыі да вядомага агіднейшага белабандыта «бацькі» Балаховіча.

Балаховіч, як вядома, прадаваўся буржуазіі і памешчыкам розных краін і нацый. У 1918 г. Балаховіч знаходзіўся на службе ў ген. Юдзеніча, вёўшага барацьбу за аднаўленне «адзінай недзялімай» Расіі і праславіўся катаўска-садысцкімі расправамі над працоўнымі гор. Пскова. У часы свайго прабывання ў Пскове Балаховіч амаль штодня вешаў на шыбеніцах і вулічных ліхтарах рабочых і сялян. Па сумяшчэнню з бандыцкай работай Балаховіч займаўся і друкаваннем фальшывых манет.

У 1919 г. Булак-Балаховіч прадаўся белапалякам і знаходзіўся са сваімі бандамі ў іх войску.

Бандыцкая дзейнасць Балаховіча ў Беларусі і на Украіне—пагромы, забойствы савецкіх і партыйных работнікаў, грабяжы і інш.—добра вядомы працоўным масам гэтых савецкіх краін.

Разам з белапалякамі Балаховіч арганізаваў на працягу восені і зімы 1919—1920 гг. пагромы ў 174 насельных пунктах Беларусі. Пагромы далі 7 096 пацярпеўшых, з іх 1 100 былі забіты, 150—паранены, 1 250 жанчын было згвалтавана.

Вайною супроць мірнага насельніцтва з'яўляўся напад банд Балаховіча на г. Мазыр і іншыя мясцовасці Палесся ў 1920 г. па загаду польскага камандвання. Па шляху да Мазыра балахоўцы ўчынілі безліч зверскіх распраў над насельніцтвам Беларусі і Украіны.

У г. Мазыры балахоўцы за два першыя дні свайго прабывання ў горадзе не пакінулі ніводнага неразграбленага дома. «Адначасова да дзесяці чалавек было расстраляна па абвінавачанню ў комунізме. Усе жанчыны хаваліся ў склепах і на чардаках, але балахоўцы выцягвалі іх адтуль і гвалтавалі, пры гэтым не было літасці ні няпоўналетнім, ні старухам» *).

Аб жудасных учынках Балаховіча і яго банд можна шмат гаварыць, спіс пагромаў, грабяжоў, забойстваў можна значна павялічыць, але і гэтыя даныя добра характарызуюць твар гэтага бруднага белабандыта.

І вось гэтага крывавага і самага шалёнага сабаку з белапанскай псярні беларускія нацыянал-дэмакраты называлі беларускім нацыянальным героем. Балаховіча, помсціўшага па загаду польскіх памешчыкаў рабочым і сялянам за захвачаныя ў Окцябрскія дні маёнткі і прадпрыемствы, нацыянал-дэмакраты апявалі на ўсякія лады.

Гродненскі камітэт на чале з цяперашнім белаэмігрантам Якавюком, пражываючым у Літве, вынес у кастрычніку 1920 г. такую рэзалюцыю: «Гародзенскі беларускі нацыянальны камітэт горача вітае народнага атамана беларускай арміі—Булак-Балаховіча, жадае яму далейшага поспеху ў барацьбе за шчасце нашай бацькаўшчыны», «абяцае сваё падтрыманне як маральнае, так і фізічнае» **).

Адкуль у Балаховіча ўзяўся тытул «народнага атамана беларускай арміі?»

Гэтым тытулам узнагародзілі яго нацыянал-дэмакраты. Яшчэ да налёту на Мазыр, 22 студзеня 1920 г. рада БНР (старшынёю рады быў А. Луцкевіч) вынесла пастанову аб залічэнні банд Балаховіча ў «беларускае войска». А Луцкевіч пісаў старшыні вайскова-дыпламатычнай місіі рады ў Рызе: «Атрад Балаховіча пратакольным пастанаўленнем ад 22 студзеня 1920 г. прынят у склад войска БНР» ***). Вядома, Балаховічам распараджаліся белапалякі, яны яго гаспадарамі былі і заставаліся. А наданне памянёнага тытула Балаховічу трэба лічыць за знак пашаны, павагі і любасці нацдэмаў да бандыта.

Пад крылом Балаховіча нацдэмы ў 1920 г. у г. Мазыры займаліся гульнёю ў міністры. Самі нацдэмы ў сваёй газеце «Беларускі звон» аб гэтым апавядалі: «Калі з Савінкавым пайшоў праз Беларусь ваяваць з большэвікамі Балаховіч, то былы віцэ-старшыня вайсковай камісіі Паўлюк Аляксюк скамбінаваў пры арміі Балаховіча беларускі габінет міністраў» ****).

Нацыянал-дэмакраты прыязджалі ў Мазыр з просьбай да Балаховіча прыняць пасаду «начальніка дзяржавы беларускай».

Саюз з «бацькам» не быў саюзам часовага парадку, ён заключаўся надоўга і ўсур'ёз. Нацдэмаўская контррэволюцыйная арганізацыя, так званы «Саюз вызвалення Беларусі», выкрыты ў БССР у 1930 г., займаўся справай размеркавання міністэрскіх партфеляў на выпадак ажыццяўлення інтэрвенцыі і намячаў пасаду ваеннага «міністра»—бандыту Булак-Балаховічу...

Дзейнасць па фармаванню контррэволюцыйных вайсковых часцей нацыянал-дэмакраты пачалі яшчэ да польскай акупацыі. У час польскай акупацыі гэта дзейнасць узмацняецца.

*) „Звезда", № 69, 10/XI-1920 г.
**) Магілеўскі архіў, ф. № 4, справа 80, стар. 38.
***) Архіў БНР, № 86.
****) „Беларускі звон", Вільня, 1921 г., № 21.

Вядома, што ў 1918 годзе нацдэмы пры дапамозе украінскіх нацыяналістаў арганізоўвалі банды ў Кіеве, якія ўдзельнічалі ў баях супроць Чырвонай арміі ў час яе наступу на г. Кіеў *). За дапамогай у арганізацыі банд нацыянал-дэмакраты зварачаліся к Дзенікіну.

У сувязі з заняцем Чырвонай арміяй г. Кіева, нацыянал-дэмакраты пераносяць фармаванне банд у Одэсу і дабіваюцца ў канцы 1918—пачатку 1919 г. згоды Антанты на гэта фармаванне. Фармаванне было даручана Венту. А хто-ж такі Вент? Вент быў царскім афіцэрам. У 1918 годзе камандаваў прыгранічным атрадам Украіны ў час барацьбы украінскай нацыяналістычнай контррэволюцыі супроць Чырвонай арміі, потым камандаваў нейкай «беларускай дывізіяй» на поўдні Расіі і быў прадстаўніком гэтай ваеннай часці пры «штабе войск кааліцыі» **).

Што Вент быў стаўленікам Антанты і што «беларускае войска» фармавалася на грошы Антанты, аб гэтым гаворыць нейкі Гладкі ў справаздачы «ўраду БНР» у лютым 1920 г. Гладкі піша, што ў Одэсе «з дазволу Антанты пачалося фармаванне асобнай беларускай дывізіі, у склад якой уваходзілі часці рознага роду зброі, як то: пяхота, артылерыя, конніца і інжынерныя часці. Начальнікам дывізіі быў прызначан ад Антанты прадстаўнік Беларусі, палкоўнік генеральнага штаба Вент. На фармаванне былі атрыманы ад Антанты грошы ва украінскай валюце... У канцы сакавіка 1919 года агульны лік штыкоў у дывізіі дайшоў да 4 000. Пры наступленні большэвікоў на Одэсу дывізія прымала ўдзел у абароне горада» ***).

Такім чынам «беларускае войска» было часткай антантаўскай арміі, падначальвалася антантаўскаму камандванню і скарыстоўвалася па яго ўгледжанню, а нацдэмы выконвалі ролю антантаўскіх вярбоўшчыкаў.

Сярод працоўных нацыянал-дэмакраты не толькі не мелі ніякага ўплыву, але наадварот—сустракалі моцны адпор. Як паказваюць анкеты «ваяк-беларусаў» (архіў БНР), нацыянал-дэмакраты здолелі завербаваць у «беларускае войска» толькі розныя грамадскія адкіды і абтраскі з ліку былога афіцар'я, дэзертыраў, розных бандытаў і былых людзей.

За дапамогай на фармаванне банд «ўрад БНР» на чале з А. Луцкевічам рассылаў сваіх пасланцоў у розныя краіны Захаду. Нацыянал-дэмакраты абівалі парогі краін малой Антанты.

Яшчэ да заключэння Рыжскага міру нацдэмы, адчуваючы хуткі канец усёй белапольскай авантуры, кідаліся за дапамогай да англійскіх імперыялістаў, гатовы былі і ім прадаваць Беларусь, каб толькі захаваць памешчыцка-буржуазны лад. Аб перагаворах з англійскімі імперыялістамі паведамляў «радзе БНР» яе прадстаўнік у Літве—Антон Аўсянік: «У перагаворах з англійскім камісарам заўважыў, што справай нашай Англія зацікаўлена, **асабліва нашым прыродным багаццем.** Англійскі камісар запрапанаваў мне падаць ад урада БНР мемарандум на імя англійскага ўрада, прычым камісар прапанаваў у мемарандуме паказаць: 1) якую суму грошай жадае ўрад БНР пазычыць ад Англіі і на якіх варунках; 2) чым можа забяспечыць гэту пазыку; 3) на які лік войска жадае атрымаць урад БНР абмундзіравання, зброі і інш.; 4) дзе мае тварыць сваю армію; 5) кароткі нарыс гісторыі беларускага руху; 6) сучаснае палажэнне Беларусі; 7) адносіны

*) Архіў БНР, № 88.
**) Архіў БНР, № 18.
***) Архіў БНР, № 15 (усюды падкр. намі—Д. Д.).

да суседзяў; 8) статыстычныя даныя аб прыродным багацці Беларусі» *).

Перагаворы з англійскімі імперыялістамі былі перагаворамі аб гнуснай, агідна-подлай, гандлярскай здзелцы на прадмет прадажы Беларусі. Але ні прадажа Беларусі імперыялістам Англіі, ні прадажа Беларусі французскай буржуазіі і польскім памешчыкам **не маглі ажыццявіцца; не ад гандлюючых бакоў гэта залежала.** Характарызуючы ў той час прадажнасць беларускіх нацыянал-дэмакратаў, т. В. Кнорын на старонках «Звезды» пісаў: «Яны прадалі Беларусь Польшчы і атрымалі задатак. Але ці ажыццявіцца здзелка—гэта будзе залежаць ад саміх працоўных мас Беларусі і Польшчы». Тав. Кнорын заяўляў: «Мы не сумняваемся, што беларускі народ хутка пакончыць з «беларускімі» палітыкантамі і іх арыентацыяй на пана, бо беларускі рабоча-сялянскі народ... быў і застаўся шчырым прыхільнікам совецкай улады» **).

Вось хто не дапусціў здзелкі аб прадажы Беларусі. Рабочыя і сяляне Беларусі пры дапамозе Чырвонай арміі і ўсяго рускага пралетарыята сапраўды хутка пакончылі як з акупантамі, так і з іх паслугачамі—нацдэмамі.

Дзейнасць беларускіх нацыянал-дэмакратаў—лакеяў белапалякаў і прыхвасняў Балаховіча—скончылася поўным крахам і правалам. Рашаючай прычынай гэтага краху і правалу з'яўляецца тое, што большэвікі Беларусі своечасова і бязлітасна выкрывалі твар гэтых ворагаў беларускага народу і ізалявалі беларускіх нацыянал-дэмакратаў ад мас. Пазбаўленыя ўсякага ўплыву на працоўныя масы, сустракаючы з боку апошніх ненавісць і варожасць, беларускія нацыянал-дэмакраты не маглі затрымаць руху мільёнаў барацьбітоў за Совецкую Беларусь. Дарэмнымі былі ўсе намаганні брудных і подлых авантурыстаў.

Ні расстрэлы, ні шыбеніцы, ні пагромы, ні белапанскія бізуны, ні дзікі разгул банд Булак-Балаховіча,—нішто не магло суняць рух рэволюцыйных рабочых і сялянскіх мас, бо на чале мас стаяла непераможная большэвіцкая партыя. Большэвікі Беларусі—неадрыўная частка маналітнай партыі Леніна—Сталіна—у цяжкіх умовах падполля і крывавых рэпрэсій з боку белапалякаў разгарнулі гераічную барацьбу за вызваленне Беларусі.

У газеце «Звезда», шмат тысяч экземпляраў якой распаўсюджвалася па акупаванаму краю, у вялікай колькасці адозваў, якія рассылаліся па гарадах і вёсках, большэвікі Беларусі выкрывалі твар белапольскіх акупантаў і іх лакеяў нацыянал-дэмакратаў, паказвалі верны шлях барацьбы за вызваленне з панскай няволі.

З'яўленне большэвіцкай літаратуры сярод рабочых і сялян адыгрывала вялікую рэволюцыянізуючую ролю. Народныя масы, чуючы моцны зазыўны кліч сваіх правадыроў, яшчэ больш запаляліся энтузіязмам барацьбы і ненавісцю супроць сваіх прыгнятальнікаў. «Звезда» і большэвіцкія адозвы сеялі сярод мас надзеі на хуткі канец акупацыі. Так, у адным з паведамленняў у газеце «Звезда» за 1920 г. пісалася: «У Беластоку і яго ваколіцах распаўсюджваліся большэвіцкія лістоўкі на рускай, польскай і яўрэйскай мовах. Рабочыя і сяляне асабліва зацікавіліся першамайскай лістоўкай, выданай Комуністычнай партыяй Літвы і Беларусі. Польскія ўлады ледзь не ашалелі, шукаючы дру-

*) Архіў БНР, № 51 (Падкрэслена намі—Д. Д)
**) „Звезда", № 514, 19/X-1919 г.

карню, дзе друкаваліся гэтыя лістоўкі. Настрой сялян узняты, рэвалюцыйны. Усе чакаюць адпаведнага моманту, каб паўстаць супроць ненавісных паноў. З'яўленне лістовак узняло дух і бадзёрасць» *).

Клічучы масы на барацьбу супроць акупантаў, большэвікі выкрывалі твар белапольскіх паслугачоў нацыянал-дэмакратаў і іх здрадніцкую ролю. Менскі раённы Камітэт Компартыі Літвы і Беларусі пісаў: «Беларуская рада, якая складаецца з памешчыкаў, кулакоў-міраедаў і фабрыкантаў, якая яшчэ нядаўна на каленях дзякавала Вільгельму за прыход яго войск, зараз спрабуе шляхам ашуканства і соцыялістычнай маскі выступіць ад імя народу Беларусі. Беларуская рада абкружае сябе польскімі легіянерамі і былымі рускімі контррэволюцыйнымі афіцэрамі і, надзеўшы ўжо соцыялістычную маску, спрабуе, заманіўшы за сабой частку несвядомых рабочых і сялян, захапіць уладу, каб зноў перадаць бразды кіраўніцтва памешчыкам і фабрыкантам».

Для папаўнення часцей Чырвонай арміі, якая змагалася за вызваленне Беларусі, большэвіцкія арганізацыі праводзілі мабілізацыі значнай колькасці членаў і кандыдатаў партыі. Напрыклад, газета «Звязда» ў 1920 г. паведамляла: «Віцебскі губернскі камітэт РКП пастанавіў дадаткова мабілізаваць на фронт на барацьбу з польскай шляхтай **15** проц. губернскай арганізацыі. Усе калектывы і ячэйкі павінны на працягу 24 гадзін выдзеліць 15 проц. свайго складу для адпраўкі на фронт» **).

Шмат членаў партыі і комсамольцаў ішло на фронт і ў якасці дабравольцаў.

Большэвікі былі кіраўнікамі і арганізатарамі моцнага партызанскага руху, які набыў значную сілу ўвосень 1919 г., асабліва ў Бабруйскай і Мазырскай акругах, дзе амаль кожная вёска прымала ўдзел у барацьбе чырвоных партызан. Яшчэ больш узмацніўся партызанскі рух увесну 1920 г. Атрады партызан у 200—300—400 чал. дзейнічалі па ўсёй акупаванай Беларусі.

Ніякія зверскія белапольскія расправы не маглі задушыць партызанскі рух. Ён выбухаў з новай сілай і захопліваў новыя і новыя раёны.

Сваімі дзеяннямі ў тыле белапольскіх войск, смелымі, раптоўнымі і нечаканымі нападамі партызаны наводзілі жывёльны жах на акупантаў, сеялі паніку ў іх радах.

Гэта велізарнае значэнне барацьбы працоўных мас Совецкіх рэспублік супроць акупантаў падкрэсліваў т. Сталін у артыкуле— «Новы паход Антанты на Расію»:

> «Трэба адзначыць, што справы Польшчы ў гэтых адносінах, у адносінах раёна галоўнага ўдару, абстаяць з рук вон дрэнна. Справа ў тым, што па прычынах, ізложаных вышэй, ні адзін з прылягаючых да Польшчы раёнаў не можа быць прызнан для польскіх войск спрыяючым ні ў сэнсе раёна ўдару, ні ў сэнсе далейшага развіцця гэтага ўдару: куды-б ні рушыліся ўперад польскія войскі, яны ўсюды будуць сустракаць процідзеянне з боку украінскага, рускага, беларускага мужыка, чакаючага вызвалення ад польскіх памешчыкаў з боку совецкіх войск».

*) „Звезда", № 11, 19-VI-20 г.

**) Там-жа.

Рабочыя і сяляне Беларусі ўліваліся ў рады Чырвонай арміі і разам з ёю гераічна змагаліся за вызваленне Беларусі. Усюды ў Беларусі Чырвоная армія сустракала велізарнае падтрыманне з боку сялянскіх мас.

З Слуцкага павету пісалі: «Уся бедната палае злобай і ненавісцю да новых гвалтаўнікоў. Усе чакаюць не дачакаюцца прыходу Чырвонай арміі» *). Калі Чырвоная армія з'явілася на тэрыторыі Меншчыны, сяляне «сталі карміць чырвонаармейцаў, хто чым мог, а потым пасадзілі чырвонаармейцаў за свой агульны стол, разам з імі елі і неслі труднасці фронту». На чырвонаармейцаў, якія былі кепска апрануты, сяляне «надзявалі свае кажухі, сярмягі і наогул рабілі ўсякую дапамогу ў барацьбе з холадам і голадам». Сяляне, як паведамлялі карэспандэнты «Звезды», выходзілі і на лінію агня дапамагаць чырвонаармейцам, «капалі акопы, прывозілі і ставілі па ўказанню сапёраў дротавыя загародкі»... «У час боек хадзілі ў разведку, папярэджвалі чырвонаармейцаў аб набліжэнні непрыяцеля, а некаторыя, асабліва былыя салдаты, бралі вінтоўкі і разам з чырвонаармейцамі змагаліся»... «У акопы падносілі патроны; выкапвалі часта з-пад зямлі закапаныя яшчэ ў дні старой арміі. Дзеці збіралі гільзы. Дзяўчаты прыносілі ў акопы харчы і набівалі кулямётныя ленты абоймамі патронаў» **).

І гэта падтрыманне, якое Чырвоная армія сустракала па ўсёй Беларусі, адыграла вялікую ролю ў тых пераможных бойках, якія Чырвоная армія вяла супроць белапольскага войска.

Агульнымі сіламі Чырвонай арміі, рабочых і сялян Савецкіх рэспублік белапалякі былі разгромлены. 11 ліпеня 1920 года, у дзень, які стаў штогоднім святам працоўных БССР, белапалякі пакінулі Менск. Беларусь, вызваленая з белапольскай няволі, атрымала невычэрпныя магчымасці для соцыялістычнага гаспадарчага і нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Канец белапольскай акупацыі быў надзвычайна моцным ударам для сусветнага імперыялізма. Пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна рабочыя і сяляне перамаглі. Перамога была вынікам устанаўлення цяснейшага саюза паміж працоўнымі Савецкай Расіі і працоўнымі раней прыгнечаных нацый.

Тав. Сталін адзначаў:

> «Тры гады рэволюцыі і грамадзянскай вайны ў Расіі паказалі, што без узаемнага падтрымання цэнтральнай Расіі і яе акраін немагчыма перамога рэволюцыі, немагчыма вызваленне Расіі ад кіпцюроў імперыялізма» ***).

Перад нацыянальнымі рэспублікамі стаялі два шляхі, два выбары, аб якіх гаварыў тав. Сталін:

> «або разам з Расіяй, і тады—вызваленне працоўных мас акраін ад імперыялістычнага ўціску;
> або разам з Антантай, і тады—немінучае імперыялістычнае ярмо» ****).

Трэцяга выхаду не было і быць не магло. Рабочыя і сяляне Беларусі пры падтрыманні пралетарыята Расіі пад кіраўніцтвам партыі

*) „Звезда", № 511, 17/IX-1919 г.
**) Там-жа.
***) Сталин. Марксизм и национально-колониальный вопрос, стар. 58.
****) Там-жа, стр. 59.

большэвікоў і яе правадыроў—Леніна і Сталіна, знішчылі панаванне ў краіне буржуазіі і памешчыкаў. Пры гэтым-жа падтрыманні яны вызваліліся ад крывавай белапольскай няволі, ад дзікага імперыялістычнага ўціску.

Вопыт барацьбы часоў Окцябра і грамадзянскай вайны асабліва ярка паказаў, да чаго імкнулася буржуазія былых калоній імперыі, у тым ліку і Беларусі.

> **«Стала для ўсіх відавочным, што нацыянальная буржуазія імкнецца не да вызвалення «свайго народу» ад нацыянальнага ўціску, а да свабоды выкалачвання з яго барышоў, да свабоды захавання сваіх прывілеяў і капіталу... стала ясна, што вызваленне прыгнечаных нацыянальнасцей немагчыма без разрыву з імперыялізмам, без звяржэння буржуазіі прыгнечаных нацыянальнасцей, без пераходу ўлады ў рукі працоўных мас гэтых нацыянальнасцей» *).**

За інтарэсы гэтай буржуазіі, звергнутай рабочымі і сялянамі Беларусі, за інтарэсы імперыялістычных інтэрвентаў увесь час змагаліся беларускія нацыянал-дэмакраты. Яны выступалі выканаўцамі волі і імкненняў эксплаататарскіх класаў і тады, калі падтрымлівалі крывавую авантуру Даўбор-Мусніцкага, і тады, калі поўзлі на каленях перад разбойнікам з вялікай імперыялістычнай дарогі—кайзерам Вільгельмам, дзякуючы за знішчэнне совецкай улады ў Беларусі, і тады, калі сваімі бруднымі, катаўскімі рукамі дапамагалі польскім панам зацягваць на шыі рабочых і сялян Беларусі пятлю соцыяльнага і нацыянальнага ўціску і бяспраўя, і тады, калі вянчалі на «царства» ў Беларусі бандыта Булак-Балаховіча, і тады, калі на працягу ўсіх наступных год вялі сваю падрыўную шкодніцкую контррэволюцыйную работу, каб адарваць БССР ад Совецкага саюза іператварыць яе ў калонію імперыялістычных дзяржаў.

Беларускія нацыянал-дэмакраты ўвесь час подла спекулявалі лозунгам нацыянальнага самавызначэння, імкнуліся прыкрываць свае разбойніцкія намеры і ўчынкі сцягам барацьбы за «незалежнасць Беларусі».

Наступныя словы **т. Сталіна** б'юць магутным молатам па гэтых маскуючыхся ворагах пролетарскай рэволюцыі:

> **«Барацьба акраінных «урадаў» была і застаецца барацьбой буржуазнай контррэволюцыі супроць соцыялізма. Нацыянальны сцяг прышпіляецца да справы толькі для абману мас, як папулярны сцяг, зручны для прыкрыцця контррэволюцыйных замыслаў нацыянальнай буржуазіі» **).**

Разбітыя ў час грамадзянскай вайны лютыя і агіднейшыя ворагі БССР—беларускія нацыянал-дэмакраты не склалі сваю зброю і спрабавалі не раз паднімаць свой брудны, фальшыва-нацыянальны сцяг.

Пасля грамадзянскай вайны разам з рускімі, яўрэйскімі, польскімі і іншымі нацыяналістамі, разам з зарубежнай беларускай, белагвардзейскай контррэволюцыяй, у саюзе з буржуазіяй і памешчыкамі імперыялістычных дзяржаў, у саюзе з усімі ворагамі СССР беларускія нацдэмакраты прадаўжалі сваю контррэволюцыйную падрыўную работу.

---

*) Сталин. Марксизм и национально-колониальный вопрос, стр. 55.
**) Там-жа, стр. 54. Падкр. намі—Д. Д.

На працягу ўсяго гэтага часу яны вялі сваю падрыўную шкодніцкую контррэвалюцыйную работу, імкнучыся к ператварэнню БССР у калонію імперыялістычных дзяржаў.

Прышчэпаўская хутарызацыя, шкодніцтва ў землеўпарадкванні, у калгасным і соўгасным будаўніцтве і іншых галінах сельскай гаспадаркі, шкодніцтва на культурным фронце, утварэнне контррэвалюцыйных арганізацый, падрыхтоўка тэрарыстычных актаў—далёка не вычэрпваюць усёй той контррэвалюцыйнай работы, якую беларускія нацдэмакраты ў блоку з буржуазнымі нацыяналістамі іншых масцей, з трацкістамі і зіноўеўцамі праводзілі ва ўгоду сваім імперыялістычным гаспадарам.

Уся дзейнасць беларускіх нацдэмаў была накіравана к таму, каб адарваць Беларусь ад Совецкага саюза і ператварыць яе ў калонію імперыялістычных дзяржаў, у прыватнасці Польшчы і Германіі.

Беларускія нацдэмакраты ўтварылі шпіёнска-шкодніцкую, інтэрвенцыйную арганізацыю—«Саюз вызвалення Беларусі». Апіраючыся на рэшткі кулацтва і буржуазныя элементы гарадоў, нацыянал-дэмакраты рыхтавалі контррэвалюцыйнае паўстанне, якое, будучы злучана з уварваннем інтэрвентаў, павінна было, згодна разлікам контррэвалюцыйнага «СВБ», прывесці да звяржэння совецкай улады ў БССР, аднаўлення капіталістычнага ладу і далучэння БССР да фашысцкай Польшчы.

Але гэта стаўка беларускіх белагвардзейцаў-бандытаў скончылася крахам. Працоўныя масы БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б выкрылі і разграмілі контррэвалюцыйны «СВБ».

Рэшткі контррэвалюцыйнага нацдэмакратызма, нацыянал-фашысты, шпіёны і правакатары Луцкевічы, Астроўскія, Пігулеўскія, Якавюкі, Варонкі і інш., у саюзе з рускімі і украінскімі белабандытамі, з германскімі і польскімі фашыстамі, утварылі на грошы замежных контрразведак новую арганізацыю—«БНЦ».

> «Усё гэта атрэп'е сваю контррэвалюцыйную, разбэшчаную інтэрвенцыянісцкую работу асабліва разгарнула ў сувязі з канцом адноснай стабілізацыі капіталізма. Пераход да новага тура рэвалюцыі і войн, прыход к уладзе фашысцкай рэакцыі ў радзе капіталістычных краін, непрыкрытая імперыялістычная вайна, якая вядзецца японскімі імперыялістамі ў Кітаі, безупынныя антысовецкія правакацыі супроць Совецкага саюза, якія азначаюць адначасова падрыхтоўку новых войн супроць Совецкага саюза і ўзмацнілі небяспеку непасрэднага нападу на Совецкі саюз, асабліва акрылілі і ўзмацнілі надзеі нацдэмаў на інтэрвенцыю. Гэтыя надзеі нацдэмаў асабліва акрыліў прыход к уладзе Гітлера ў Германіі, а таксама ўсё больш прымаемы рэакцыйнымі коламі Еўропы розенбергаўскі праект барацьбы супроць Совецкага саюза і, у прыватнасці, вырашэння ўсіх спрэчных пытанняў на ўсходзе капіталістычнай Еўропы за кошт Совецкага саюза (Украіны і Беларусі)» *).

КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК і тав. Гікало выкрыла гэтыя контррэвалюцыйныя арганізацыі і нанесла зніштажальны ўдар гэтым подлым адкідам грамадства, подлым майстрам шпіянажа, дыверсіі і інтэрвенцыі.

Ведучы барацьбу супроць ворагаў соцбудаўніцтва, ідэолагаў рэштак паміраючых класаў, КП(б)Б дабілася пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б)

*) З рэзалюцыі Снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б. 1933 г.

і правадыра сусветнага пролетарыята тав. Сталіна ператварэння БССР у багатую індустрыяльна-калгасную краіну, заслужыўшую вышэйшую ўзнагароду ад урада СССР—ордэн вялікага Леніна.

Чым больш высока ўздымаецца магутнасць СССР, нацыянальных рэспублік, тым больш шалее пераможаны, але яшчэ не зусім дабіты класавы вораг. Буржуазныя нацыяналісты, шпіёны і дыверсанты, белабандыты-зіноўеўцы і трацкісты ўжываюць усё больш гнусныя і подлыя способы барацьбы супроць соцбудаўніцтва.

Барацьба з класавым ворагам, у тым ліку і з беларускімі нацыянал-дэмакратамі, яшчэ не скончана. Рэшткі капіталістычных элементаў яшчэ не дабіты зусім. Капіталістычнае акружэнне, пакуль яно існуе, будзе ўплываць на актывізацыю капіталістычных элементаў.

Тав. Сталін гаварыў, што рост магутнасці Совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне рэштак паміраючых класаў, што і надалей

> «могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый: эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, зразумела, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асаблівых афяр.
>
> Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Гэтыя ўказанні правадыра **ні адзін член партыі, ні адзін працоўны** не павінен ні на мінуту забываць.

---



Тав. ТУХАЧЭУСКІ
*Камандуючы Заходнім фронтам*
*у перыяд савецка-польскай вайны*

В. Александровіч

Х. Шулякоўскі

# Вызваленне Менска ад белапольскай акупацыі

11 ліпеня 1920 года наша геройчная Чырвоная армія пад мудрым кіраўніцтвам большэвіцкай партыі вырвала з крывавых кіпцюроў польскіх паноў скатаваную, зганьбаваную сталіцу Беларускай Совецкай Рэспублікі—Менск. Рабочыя і сяляне ўсёй Расіі, усіх народаў Совецкай краіны прышлі на дапамогу сваім братам беларускім рабочым і сялянам, геройчным партызанам Беларусі і сумеснымі намаганнямі вызвалілі Беларусь ад акупацыі белапалякаў.

11 ліпеня 1920 года Менск стаў совецкім. Свабодна, поўнымі грудзьмі ўздыхнулі рабочыя і сяляне Беларусі, скінуўшы з сябе панскае ярмо. Пачалося новае свабоднае жыццё, пачалася ўдарная соцыялістычная будоўля ў саюзе і пры дапамозе працоўных народаў Совецкага саюза, пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна.

Непазнаваемай стала наша Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка. З адсталай прыгнечанай калоніі царскай Расіі Беларусь ператварылася ў адну з самых перадавых рэспублік Совецкага саюза. Змяніўся твар і сталіцы Беларусі—Менска. З губернскага чыноўніцкага, местачковага тыпу гарадка, прамысловасць якога складалася з некалькіх дзесяткаў саматужных майстэрань, Менск вырас у адзін з перадавых прамысловых і культурных цэнтраў Совецкага саюза.

Вялікіх перамог на фронце соцыялістычнага будаўніцтва Беларусь дабілася пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і яе мудрага правадыра т. Сталіна пры брацкай дапамозе пролетарыята ўсяго Совецкага саюза.

Гэтыя перамогі былі заваяваны няўтомнай барацьбой КП(б)Б і яе Цэнтральнага Камітэта на чале аднаго з лепшых сталінцаў—т. Гікало супроць класавага ворага і яго агентуры, супроць «левага» і правага апартунізма, супроць контррэволюцыйнай зіноўеўска-трацкісцкай групы і ўсякіх іншых груповак, супроць буржуазных нацыяналістаў усіх масцей. У гэтай барацьбе выраслі новыя кадры большэвікоў з працоўных Беларусі, многія тысячы знатных людзей у гарадах, на прадпрыемствах, у калгасах і соўгасах, для якіх праца стала справай гонару, славы, доблесці і геройства. Працоўныя масы Беларусі дабіліся ў геройчнай барацьбе пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі нябачаных поспехаў у галіне будаўніцтва соцыялізма. За выдатныя поспехі ў галіне сельскай гаспадаркі і прамысловасці працоўныя Беларусі заслужылі вышэйшую ўзнагароду—ордэн Леніна.

* * *

Антанта пачынае свой першы паход на краіну Советаў. Калчак, Дзенікін і Юдзеніч жалезным кальцом сціскаюць нашу пролетарскую бацькаўшчыну. Выкарыстаўшы тое, што асноўныя сілы Чырвонай арміі ў гэты час былі сканцэнтраваны супроць Калчака і Дзенікіна, белапалякі ўвесну 1919 г. пачынаюць наступленне на Совецкую Беларусь. Карыстаючыся колькаснай перавагай сваіх сіл на Заходнім фронце, белапалякі ўжо ў красавіку займаюць рад гарадоў Беларусі: Гродна, Ваўкавыск, Слонім і інш. 19—20 красавіка белапалякі захвацілі Вільню.

З дня захвату белапалякамі Вільні, сталіцы Літоўска-Беларускай Совецкай Рэспублікі, да падзення Менска прашоў 81 дзень, на працягу якіх Чырвоная армія пад кіраўніцтвам нашай партыі, пры дапамозе слаўных партызан і ўсіх працоўных, геройчна абараняла Менск. «Толькі чырвоны Царыцын бачыў такую геройчную абарону ад белых банд Дзенікіна, як наш чырвоны Менск» *).

На абарону Менска ад белапалякаў партыя, комсамол, рабочы клас і працоўнае сялянства Літвы і Беларусі аддалі свае лепшыя сілы. Менская арганізацыя КПЛ і Б у гэты перыяд мабілізавала 400 комуністаў для пасылкі на фронт, слуцкая павятовая арганізацыя—130 комуністаў. Бабруйская, барысаўская, ігуменская арганізацыі КПЛ і Б мабілізавалі па 50 проц. свайго складу, 20 проц. свайго складу паслаў комсамол Літвы і Беларусі. Совет абароны рэспублікі, заслухаўшы на сваім паседжанні ад 19 мая 1919 г. даклад аб абароне г. Менска, пастанавіў мабілізаваць членаў ЦВК і Менскага совета для работы на фронце. На фронт быў пасланы Першы менскі рабочы полк, арганізаваны партыяй з менскіх рабочых. У чэрвені-ліпені на ваеннае становішча былі пераведзены ўсе комуністы і комсамольцы гор. Менска.

Упорныя баі Чырвонай арміі з белапалякамі за Менск адбываліся 12 дзён. Жалезным кальцом сціскае подступы да горада праціўнік, які ва многа раз колькасна перавышае сілы Чырвонай арміі на Заходнім фронце.

Упорныя баі адбываюцца зусім недалёка ад Менска за вёскі Пыльніца, Паперня, якія многа раз пераходзяць з рук у рукі. Стомленыя, змучаныя безупыннымі баямі, адчуваючы востры недахват патронаў і знарадаў, часці Чырвонай арміі пад ударамі значна перавышаючага колькасна праціўніка вымушаны былі адступіць.

8 жніўня 1919 г. белапалякі, атрымаўшы сільнае падтрыманне, пад прыкрыццём артылерыйскага агня павялі наступленне на горад. Зацятыя баі адбываліся за кожны квартал.

З геройчнай самаадданасцю, з беззаветнай храбрасцю біліся комунары Менска, грудзьмі адстойваючы кожную пядзь совецкай зямлі. З баямі адыходзіла 52 стралковая дывізія. Мужна змагаліся чырвоныя курсанты польскай школы комскладу пад камандай т. Корфельда.

К 6 гадзіне вечара часці Чырвонай арміі пакінулі Менск. Апошнія паязды чырвоных адыходзілі ўжо пад абстрэлам белапалякаў.

Уступіўшы ў горад, белапалякі адразу паказалі сябе. Польскія ўлады міласціва дазволілі сваёй «доблеснай» арміі «пагуляць». І «гулялі» акупанты, грабячы грамадскія склады, магазіны, кватэры ні ў чым не павінных жыхароў, гвалцячы жанчын, здзекваю-

*) Кнорын, Восем месяцаў совецкай улады ў Беларусі.

чыся над старымі і дзецьмі. Без суда на вуліцы расстрэльвалі ўсіх западазроных у прыналежнасці да комуністычнай партыі і проста кожнага, хто адважыўся выйсці з кватэры на вуліцу.

Яўрэйскія пагромы пачаліся з першых-жа гадзін захвату белапалякамі горада. За першыя 5 дзён былі зверскі забіты і расстраляны 29 чалавек з яўрэйскай беднаты, сярод іх 7 жанчын і 5 дзяцей. Каля 100 чалавек было замучана і расстраляна белаакупантамі, больш тысячы працоўных кінута ў турмы толькі за першыя пяць дзён. Белапольскія акупанты стараліся перашчыгаляць сваім зверствам дзікія жахі сярэдневяковай інквізіцыі.

Так уступілі белапалякі, называўшыя сябе вызваліцелямі беларускага народу, у сталіцу Беларусі.

* * *

Настаў жудасны перыяд белапольскай акупацыі. Дзень за днём адбіралі белапалякі ў рабочых і працоўных сялян усё тое, што імі было заваёвана ў слаўныя Окцябрскія дні. Разам з акупантамі вярнуліся на Беларусь памешчыкі і капіталісты. У жніўні 1919 г. польскія ўлады выдаюць загад № 16 аб звароце ўсёй прыватнай уласнасці ранейшым уладальнікам. Зямлю—памешчыкам, фабрыкі—капіталістам: гэта было асновай асноў палітыкі акупантаў.

І зноў застагнала сялянства пад ярмом князёў Радзівілаў і графоў Чапскіх, зноў загуляў панскі бізун па мужыцкіх спінах. Зноў трапілі менскія рабочыя ў кабалу да фабрыкантаў—Якабсанаў, Ліўшыцаў і Сальманаў. Зверская эксплаатацыя капіталістаў і памешчыкаў, непамерныя паборы, беспрацоўе і беззямелле кастлявай рукою голаду сціснулі працоўных Меншчыны.

Аб тым, у якім цяжкім становішчы апынуліся рабочыя Менска, надзвычай ярка гаворыць наступны ліст рабочага, змешчны ў «Звездзе» ад 20 лістапада 1919 года.

> «... Работы няма ніякай. Працуе 5 проц., астатнія беспрацоўныя церпяць страшэнную нужду. Прадпрыемствы прымаюць на работу толькі самых забітых і адсталых рабочых, больш-жа свядомых і членаў профсаюзаў наогул не прымаюць.
>
> На самых вялікіх гарбарных заводах працуе ўсяго 20—30 чалавек, а ў маленькіх майстэрнях прадпрыемцы ў большасці выпадкаў здавольваюцца 1—2 рабочымі. Многія майстэрні зусім закрыты. Для забяспечання беспрацоўных нічога не робіцца.
>
> Тым часам цэны на хлеб павялічваюцца. Фунт хлеба, які раней каштаваў 2 р. 50 кап., цяпер ужо каштуе 5 р., а зарабіць гэтых 5 р. нідзе немагчыма.
>
> Спекулянты грашыма аб'ядаюцца шакаладам, а рабочым не хапае нават бульбы.
>
> Дровы таксама даступны толькі для багачоў. Іншыя мерзнуць ад холаду...»

Адначасова з гнётам эканамічным пачаўся і гнёт нацыянальны. Загадам № 3 ад 20 жніўня польская мова была абвешчана мовай дзяржаўнай. Закрываліся беларускія школы, звальняліся настаўнікі

беларусы, выкладанне пераводзілася на польскую мову. Амаль усе чыгуначнікі і паштова-тэлеграфныя служачыя непалякі былі звольнены.

У тыя дні, калі ў Менску ішлі павальныя вобыскі і арышты, калі дзесяткамі расстрэльвалі ні ў чым не вінаватых людзей, калі па Совецкай вуліцы ў польскай дэфензіве генералы катавалі комуністаў, калі рабочыя і працоўныя сяляне стагналі пад пятой акупантаў, беларускія нацдэмы, называўшыя сябе прадстаўнікамі беларускага народу, разам з бундаўцамі, эсэрамі і сіяністамі з захапленнем сустракалі акупантаў, вітаючы ўезд маршала Пілсудскага ў Менск. Гэта яны прыкрывалі зверствы белапалякаў, укладаючы ім хвалебныя гімны, як верныя прыслужнікі польскага імперыялізма.

Вось як вітаў прадстаўнік Беларускага нацыянальнага камітэта, контррэволюцыянер Аляксюк, Пілсудскага ў Менску:

«Ужо шосты дзень як мы жывем спакойным жыццём. Развеяўся чырвоны туман, развеялася відмо галоднай смерці. Гэты цуд ёсць справа гераічнага польскага войска, якога вы ёсць начальнік. Вітаю вас ад імя беларускіх дэлегацый, якія прадстаўляюць тут беларускае насельніцтва, выслаўляю гарачую падзяку за вызваленне Менска і Меншчыны...

Але плачуць яшчэ маткі ў Віцебску, стогнуць людзі ў Магілеве, маўчыць безабаронны хаўтурны голас абімшэлых званіц Смаленска».

Нацдэмы не абмежаваліся славеснымі дэкларацыямі, яны з усіх сіл стараліся даказаць сваю адданасць белапольскім акупантам.

У дапамогу белапалякам яны прабавалі стварыць беларускую народную армію. Яны прыкладалі ўсе намаганні, каб ашукаць працоўных Беларусі, адцягнуць іх ад рэволюцыйнай барацьбы, аддаць іх на разграбленне белапольскім панам.

* * *

Большэвіцкія арганізацыі Менска, вымушаныя з першых-жа дзён белапольскай акупацыі пайсці ў падполле, разгарнулі велізарную работу па мабілізацыі працоўных на барацьбу з акупантамі. Быў створан падпольны камітэт, які працаваў пад непасрэдным кіраўніцтвам Бюро па нелегальнай рабоце ЦК КПЛ і Б у складзе Гедрыса Валодзі—старшыні, Кулешынскага, Матусевіча і Пеці Вараб'ёва, апошні стаяў на чале падпольнай комсамольскай арганізацыі. Устаноўлена была сувязь з Барысавам, Слуцкам і Смалявічамі. Наладжан транспарт літаратуры, мелі друкарню, запас паперы і 2 наборшчыкаў і 4 склады з польскай літаратурай. Яшчэ да адыходу белапалякаў тт. Вараб'ёў і Вольпаў, пакінутыя для падпольнай работы ў Менску, атрымалі заданне ад тт. Кнорына і Багуцкага арганізаваць друкарню. Па Мала-Татарскай вул. у поўразбураным доміку памясцілася адзіная ў Менску большэвіцкая падпольная друкарня, абсталяванне якой складалася з 2-х поўкас з польскім і рускім шрыфтам і 1 друкарскай машыны «бастонкі». Друкарня была строга законспіравана, толькі на явачных кватэрах адбывалася перадача арыгіналаў для друкавання. Кожная прокламацыя друкавалася не менш як у 5000 экземплярах. Работу па распаўсюджванню праклaмацый праводзілі комсамольцы пад кіраўніцтвам геройскі загінуўшага т. Максімовіча. Былі выпушчаны лістоўкі к гадавіне Окцябрскай рэволюцыі, к дню Парыжскай

комуны, аб падзеях на фронце, адозва, якая выкрывала контррэвалюцыйную дзейнасць беларускага ваеннага цэнтра, і многія іншыя. Выпуск кожнай такой лістоўкі быў радаснай падзеяй для шырокіх мас рабочага класа і бяднейшага сялянства, стагнаўшага пад ярмом белага арла.

Лістоўкі цесна звязвалі Менскую падпольную арганізацыю з найшырэйшымі масамі працоўных. Гэтыя большэвіцкія лістоўкі гаварылі, што яшчэ не ўсё скончана, што недзе глыбока ў падполлі жыве і змагаецца комуністычная партыя, дзейнічаюць партызанскія атрады. Яны заклікалі к барацьбе і давалі надзею на новае шчаслівае жыццё.



**Група менскіх падпольных работнікаў у час белапольскай акупацыі.**

Пад кіраўніцтвам партыі разгортваў сваю работу ленінскі комсамол. Менскія комсамольцы, як і ўвесь героічны комсамол, былі вернымі памочнікамі партыі, вярбуючы новыя кадры для барацьбы з белапалякамі.

У пракламацыі да рабоча-сялянскай моладзі прыгнечанай Беларусі яны пісалі:

> «Рабочая моладзь горада! Твая задача—разбурыць тыл белагвардзейцаў. Ты павінна перашкаджаць руху паяздоў, псаваць масты, дарогі, рваць тэлефонныя правады, весці агітацыю сярод польскіх легіянераў, распаўсюджваць комуністычную літаратуру.
>
> Сялянская моладзь! Твой шлях—у чырвоныя партызанскія атрады, якіх ужо многа ў Беларусі. Геройскімі налётамі мы павінны сеяць паніку сярод белых».

Велізарную работу правялі комсамольцы па распаўсюджванню комуністычнай літаратуры. Ва ўмовах падполля, калі горад кішэў шпіёнамі, калі ўсюды ішлі павальныя вобыскі, распаўсюджванне

бальшэвіцкіх лістовак сярод рабочых, гарадскога насельніцтва і польскіх салдат было важнай і небяспечнай справай. Слаўную старонку ўпісаў ленінскі комсамол у барацьбе з белапольскімі акупантамі. Многія з іх гераічна загінулі пад Барысавым, Слуцкам, Менскам. Многія былі расстраляны «цывілізаванымі» варварамі і пакалечаны ў польскай дэфензіве.

Непрымірымую барацьбу вялі большэвікі ў профсаюзах, выкрываючы здрадніцкую ролю Бунда і меншавікоў, ставячы перад сабою задачу—вырваць з-пад уплыву дробнабуржуазных партый адсталыя слаі рабочых Менска, якія знаходзіліся яшчэ ў некаторых саюзах пад уплывам Бунда і меншавікоў.

Адной з яскравых ілюстрацый гэтай барацьбы былі выбары старшыні ЦБ профсаюзаў. Выстаўляючы сваю кандыдатуру ў старшыні, бундаўцы матывавалі гэта тым, што выбары старшынёю комуніста прывядуць да закрыцця польскаю ўладай профсаюзаў, бо палітыка комуністаў і белапалякаў непрымірыма. На гэта прадстаўнік фракцыі комуністаў заявіў, што яны не збіраюцца працаваць па ўказцы польскіх грабежнікаў, а будуць праз профсаюзы мабілізоўваць рабочых на барацьбу з душыцелямі працоўных Беларусі і іх прыслужнікамі.

У рэзультаце ўпорнай барацьбы перамаглі комуністы і правялі сваю кандыдатуру ў Старшыні ЦБ профсаюзаў.

26 верасня 1919 г. Менскі камітэт паведамляў у ЦК КПЛ і Б: «11 профсаюзаў пад нашым уплывам. Хацелі нас праваліць Бунд, паалей-цыяністы, але абарваліся.—Думаем, што і астатнія 7 профсаюзаў будуць нашымі».

Пад уплывам большэвікоў працавалі профсаюзы металістаў, будаўнікоў, дрэваапрацоўшчыкаў, прачак, хатніх работніц, цырульнікаў, частка пераплётчыкаў і гарбароў.

У процівагу рэволюцыйным профсаюзам польская дэфензіва прабавала стварыць свае жоўтыя профсаюзы. Каб уцягнуць масы ў свае профсаюзы, белапалякамі абяцаліся ўсялякія выгады: танны хлеб, матар'яльная дапамога і іншыя ільготы. Але рабочыя не пашлі на вудачку акупантаў. Рабочыя ішлі за большэвікамі.

* * *

Гераічная работа менскіх большэвікоў, кіраваўшых дзеяннямі слаўных партызанскіх атрадаў, была бяльмом на воку польскай ахранкі. Белапалякі прымалі ўсе магчымыя меры з тым, каб вырваць большэвіцкую «заразу», наняўшы для гэтага цэлую армію шпіёнаў і правакатараў. Пяцітысячная армія жандараў збілася з ног, вышукваючы большэвікоў. Аднойчы дэфензіве стала вядома, што кіраўніком «бунтароў» з'яўляецца нейкі «Хаім» (клічка т. Капылова). На гэтай падставе па Менску былі арыштаваны амаль усе члены профсаюзаў, якія мелі імя Хаім. Допытамі і катаваннямі жандармерыя пачала высняць, хто з іх мае дачыненне да распаўсюджвання лістовак сярод польскіх салдат, хто звязан з падпольным менскім камітэтам большэвікоў. А «сапраўдны» Хаім (большэвік Капылоў) у гэтыя дні актыўна вёў сваю работу ў профсаюзах.

Але дэфензіве ўсё-такі ўдалося нанесці ўдар менскай партыйнай арганізацыі. Падасланыя жандармерыяй правакатары Плоткін, Шэльмук і іншыя здолелі прабрацца ў рады партыйнай і комсамольскай

арганізацыі. З верасня пачаліся павальныя арышты падпольных работнікаў. З дапамогай правакатараў жандары кінулі ў турму і ўдушылі члена менскага падпольнага камітэта тав. Кулешынскага.

Быў зроблены вобыск у менскім рабочым каапературыве (на плошчы Свабоды), які быў явачным месцам падпольшчыкаў. Арыштавалі ўсё праўленне і 8 служачых, апячаталі касу і грошы. Таксама арыштавалі тт. Вараб'ёва і Фішэра. Але абодвум удалося ўцячы. Пасля гэтага правалу вымушан быў выехаць з Менска кіраўнік камітэта «Владзімір». Але не спынілася работа Менскага камітэта. Арышты і зверскія катаванні над арыштаванымі таварышамі выклікалі новую хвалю абурэння працоўных. Парадзелыя рады вельмі быстра запаўняюцца новымі большэвікамі. На чале Менскага камітэта становіцца Ян Дземба, арыштаваны і замучаны белапалякамі ў канцы 1920 г.

К вясне 1920 г. у вёсках Менскага павету большэвікі ўзмацнілі сваю работу па арганізацыі партызанскіх атрадаў.

Працоўнае сялянства, змучанае незлічонымі грабяжамі, здзекамі і рэпрэсіямі, бачыла ў партыі большэвікоў адзінага правадыра і абаронца, пад кіраўніцтвам якога яно здолее вызваліцца ад ярма акупантаў. Магутны партызанскі рух ахапіў акупаваную Беларусь. У раёнах Менска, у Козыраве, Гатаве, Пярэжары, Дукорах, Забалоцці арганізаваліся атрады партызан. Кіраўніком іх быў Васіль Шаранговіч. Штаб змяшчаўся ў Козыраве ў доме Пагірэйчык.

Партызаны руйнавалі тыл акупантаў, рэзалі тэлеграфныя правады, нарыхтоўвалі зброю, знімалі вартавых, адбівалі абозы, рыхтуючыся разам з часцямі Чырвонай арміі нанесці рашучы ўдар белапалякам. Гераічна змагаліся чырвоныя партызаны Меншчыны з акупантамі, аддаючы жыццё сваё за справу вызвалення прыгнечанай Беларусі.

Люта распраўляліся белагвардзейцы з менскімі комуністамі і партызанамі. З дапамогаю правакатараў у канцы красавіка 1920 г. польская ахранка вырвала з радоў партызан лепшых таварышоў. З Козырава, Гатава, Серабранкі, Забалоцця і Калядзічаў збітых і акрываўленых прывезлі іх у Менск. Зверскія катаванні і пабоі прадаўжаліся і пры допытах. Білі да страты прытомнасці, аблівалі вадой і зноў білі, ламалі пальцы, ставілі да сценкі і стралялі. Не было канца здзекам. Плашчынскага прывезлі з засценка счарнелага ад пабояў, з роту яго цякла кроў і ён не мог вымавіць ні слова.

58 партызан сталі перад польскім палявым судом 3 мая 1920 г. Яны не прасілі літасці ў польскіх катаў. Смела і горда адказаў Андрэй Кеппе польскім суддзям: «Няхай мы памром, але на нашых магілах вырастуць сотні маладых і закончаць пачатую намі справу». За гэта жандары люта яго збілі. Да кары смерцю праз расстрэл асуджаны былі 8 партызан: Васілеўскі Вячаслаў, Кеппе Андрэй, Пагірэйчык Васіль, Путырскі Лявон, Процкі Меленці, Плашчынскі Сяргей, Шумскі Владзімір і Плашчынскі Сямён. 6 чалавек атрымалі па 10 год катаргі, а астатнія 20 былі асуджаны ад 1 да 3 год турмы кожны.

7 мая па вуліцах Менска на Камароўку вялі жандары на расстрэл скаваных ланцугамі па-двое партызан.

8 маладых амаль хлопчыкаў партызан, акружаных жандарамі, мужна і спакойна, спяваючы рэволюцыйныя песні, ішлі да месца

кары, праважаемыя спачувальнымі поглядамі натоўпу, горкім плачам сваякоў і грозным маўчаннем баявых таварышоў.

На вачах сваякоў у росквіце жыцця былі расстраляны 8 лепшых таварышоў. Яны памерлі слаўнай смерцю герояў з заклікам адпомсціць акупантам за сваю пагібель.

Адначасова адбыліся арышты многіх партыйных і комсамольскіх работнікаў у Менску. Арыштаваны былі: т.т. Танхілевіч, Соня Зак, Зайдэнвар, Маўшанзон і дзесяткі іншых. Прымушан быў скрыцца і Ян Дземба. Разгромлена было Цэнтральнае бюро профсаюзаў.

Не гледзячы на вялікія страты, менская партыйная і комсамольская арганізацыя, самкнуўшы свае рады, прадаўжалі яшчэ з большай энергіяй арганізоўваць масы працоўных на барацьбу з белаакупантамі. Пад кіраўніцтвам Менскага камітэта было адноўлена ЦБ профсаюзаў, на чале якога зноў стаў комуніст. Менскай падпольнай друкарняй была выпушчана лістоўка тыражом у 8 тыс. экземпляраў з заклікам арганізоўваць партызанскія атрады. Горача адгукнуліся працоўныя Менска на заклік партыі, папаўняючы сотнямі сваіх лепшых сыноў рады слаўных партызанскіх атрадаў, наносячы ўдар за ўдарам у тыл белапольскіх банд, дапамагаючы гераічнай Чырвонай арміі, якая перашла ў наступленне.

* * *

Разграміўшы ў канцы 1919 г. стаўленікаў Антанты—Калчака і Дзенікіна, партыя і савецкі ўрад атрымалі магчымасць перакінуць з іншых франтоў на барацьбу з белапалякамі значныя сілы Чырвонай арміі. На Паўднёва-Заходні фронт была перакінута слаўная 1 Конармія Будзённага і легендарная Чапаеўская дывізія. Адначасова партыя праводзіць спецыяльную мабілізацыю комуністаў на белапольскі фронт у якасці байцоў і палітработнікаў Чырвонай арміі. З Ленінграда, Масквы, Тулы прыбываюць пралетарыі на дапамогу Заходняму фронту. На працягу мая і чэрвеня на Заходні фронт было адпраўлена да 12 тыс. большэвікоў. У Рэвваенсовет Паўднёва-Заходняга фронту партыя паслала лепшага вучня Леніна, выдатнейшага пролетарскага стратэга—тав. Сталіна.

У пачатку чэрвеня часці гераічнай Чырвонай арміі здолелі перайсці ў паспяховае наступленне. Выконваючы геніяльны стратэгічны план тав. Сталіна, 1 Конная армія Будзённага нанесла рашаючы ўдар польскім легіёнам, прарваўшыся на Паўднёва-Заходнім фронце ў кіеўскім напрамку ў глыбокі тыл белапалякаў.

Гэта стварыла спрыяючыя ўмовы для пераходу ў наступленне Чырвонай арміі на Заходнім фронце. 4 ліпеня 1920 г. Чырвоная армія на Заходнім фронце, згодна загаду свайго глаўкома т. Тухачэўскага, перашла ў агульнае наступленне. Перамагаючы ўпорнае супраціўленне, нашы часці магутнымі і дружнымі ўдарамі прарвалі ўмацаваныя пазіцыі праціўніка, і к вечару 4 ліпеня адкінулі яго на ўсім фронце на 10 вёрст к захаду. Конны корпус т. Гая прарваў фронт праціўніка, зайшоўшы яму ў тыл, громячы панічна адступаючыя польскія часці.

6 ліпеня 16 армія, фарсіраваўшы раку Бярэзіну, прасоўваючыся ўперад у напрамку Менска, праследуе адыходзячыя часці белых.

Слаўная 27 стралковая дывізія, перакінутая з калчакоўскага фронту ў складзе 80 і 81 брыгад пад камандваннем т. Путна, з упор-

ными баямі падступала к Менску. У сваіх радах яна налічвала да 3.500 комуністаў і мела велізарны вопыт барацьбы з контррэволюцыяй.

Зрабіўшы начны пераход, 27 дывізія к вечару 10 ліпеня ўступіла ў раён Озерышча-Сцеклева, падышоўшы непасрэдна да Менска.

З 4 ліпеня белапалякі пачалі эвакуацыю з Менска. Нечуванымі зверствамі адзначыліся гэтыя дні. З новаю сілай пачаліся грабяжы і забойствы.

9/VII белапалякі пачалі падпальваць горад. Да тла выгарала абутковая фабрыка «Орол», дрывяныя склады, вялікі млын, вінны склад, менскі ваенны госпіталь, Бабруйская вуліца, дамы на Троіцкай плошчы. Горад гарэў з усіх бакоў.

У ноч на 11 ліпеня ішлі ўпорныя баі 17 і 27 стралковых дывізій за аўладанне Менскам. Горад быў апаясан паўкальцом загадзя зробленых акопаў з дротавай агарожай. Флангі пазіцый на поўначы ўпіраліся ў трудна прахадзімыя балоты, на поўдні ў р. Свіслач.

У ноч на 11 ліпеня 80 брыгада з паўночнага ўсходу і 81 з паўднёвага ўсходу павялі атаку на Менск. 941 полк, зніштожыўшы батальён праціўніка, прарваў умацаваныя лініі. Белапалякі былі выбіты з акопаў і ў беспарадку адступілі. Адступаць польскаму ар'ергарду прышлося праз горад. Усе іншыя шляхі былі ўжо адрэзаны чырвонымі. Але і тут перадавыя часці Чырвонай арміі праследвалі адступаючых па пятах.

Аб 11 гадзіне 30 мінут каманда разведчыкаў 238 Бранскага і 936 Курскага палкоў уварваліся ў горад, уносячы паніку ва ўцякаўшыя польскія часці.

К 12 гадзіне 24 сялянскі і 241 Волжскі палкі, разбіўшы белапалякаў у раёне ст. Менск, уступілі ў горад з поўдня. Без памяці ўцякалі белапалякі пад ударам тераічнай 27 стралковай дывізіі, праследуемыя чырвонай конніцай. Багатыя трафеі дасталіся чырвоным часцям у рэзультаце гэтага бою. Звыш 300 палонных, 32 кулямёты, 7 гармат, знарады, вінтоўкі, патроны страцілі акупанты пакідаючы Менск. Выходзячы, яны ўзарвалі чыгуначныя масты і падпалілі вакзалы.

На дапамогу авангардным часцям Чырвонай арміі прышлі рабочыя і працоўная моладзь Менска. Узброіўшыся захаванымі вінтоўкамі, яны далучаліся да чырвонаармейскіх часцей, арганізоўваліся ў баявыя атрады самаабароны, раззбройвалі і дабівалі адступаючыя белапольскія банды. Ачысціўшы Менск ад апошніх рэштак белаакупантаў, пролетарскія баявыя атрады разам з чырвонаармейцамі, пад кіраўніцтвам партыйнага камітэта, узяліся за аднаўленне рэволюцыйнага парадку і ўлады ў Менску. Перш за ўсё быў арыштован Камітэт грамадскай безапаснасці, які складаўся з буйных прамыслоўцаў і купцоў. Гэты камітэт, згодна загаду генерала Шэптыцкага, павінен быў узяць у свае рукі ўладу ў Менску пасля адступлення польскай арміі. Вінтоўкі і кулямёты, якія знаходзіліся ў распараджэнні «Камітэта грамадскай безапаснасці», былі разданы рабочым. Узброены атрад накіраваўся да турмы, раззброіў турэмную ахову і вызваліў палітзняволеных. Менскім партыйным камітэтам разам з паліторганамі Чырвонай арміі быў утворан Часовы рэволюцыйны камітэт.

К 2-й гадзіне дня асноўныя сілы XVI арміі ўвашлі ў Менск, праследуючы адступаючага ворага па Койданаўскаму тракту.

Усё працоўнае насельніцтва Менска высыпала на вуліцу. З радаснымі прывітаннямі і захапленнем сустракалі жыхары Менска сваіх вызваліцеляў. На вуліцах былі расклеены большэвіцкія лістоўкі, вітаючыя ўступленне ў Менск Чырвонай арміі. Гэтыя лістоўкі былі надрукаваны яшчэ ў цяжкія дні падполля. Рабочыя Менска пад грукат рваўшыхся яшчэ за горадам знарадаў разам з Чырвонай арміяй святкавалі вялікае ўсенароднае свята свайго вызвалення. Улада перашла ў рукі рэўкома, назначанага Рэвваенсоветам Заходняга фронту.

У склад рэўкома ўвашлі тт. Кнорын, Чарвякоў і іншыя. Пад канец дня 11 ліпеня свабодныя грамадзяне г. Менска чыталі загад № 1 свайго Рэўкома:



Уступленне чырвоных войск у Менск 11 ліпеня 1920 г.

«Рабоча-сялянская Чырвоная армія ачысціла горад Менск ад польскай шляхты і яе абаронцаў белагвардзейскіх банд. На ўсёй вызваленай з-пад гнёту банд тэрыторыі Менскай губерніі з гэтага чысла ўстанаўляецца ўлада рабочых і сялян—улада Советаў. На падставе пастановы Рэволюцыйнага веаннага совета Заходняга фронту вышэйшая грамадзянская і ваенная ўлада ў губерніі да склікання з'езда Советаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў перадаецца **Менскаму губернскаму ваенна-рэволюцыйнаму камітэту».**

Менск зноў стаў сталіцай Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі. Працоўныя Беларусі ў саюзе і пры брацкай дапамозе ўсіх народаў СССР пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і яе правадыра тав. Сталіна прыступілі да социялістычнай будоўлі.

Мінула пятнаццаць год. Беларусь, як неразрыўная частка СССР,

ператварылася ў квітнеючую ордэнаносную рэспубліку, у магутны фарпост Совецкага саюза на яго заходнім рубяжы.

Толькі совецкі ўрад вядзе паслядоўную барацьбу за мір. Наша соцыялістычная краіна супроць вайны. Але порах усё мы павінны трымаць сухім, бо нямецкія і польскія фашысты адкрыта гавораць аб новым паходзе на Совецкую Украіну і Беларусь, на Совецкі саюз. Аб гэтым крычыць фашысцкі друк, аб гэтым пішуць паны Радзівілы і Міцкевічы і іх прыхвасні—украінскія і беларускія нацыяналісты, Канавальцы, Левіцкія, Луцкевічы, Станкевічы і інш.

У адказ правакацыйным падпальшчыкам новай вайны рабочыя і калгаснікі Совецкай Беларусі яшчэ сільней будуць умацоўваць брацкі саюз народаў, яшчэ вышэй падымуць сваю рэволюцыйную пільнасць, яшчэ большай любоўю і клопатам будуць акружаць нашу гераічную Чырвоную армію, яшчэ больш умацоўваць яе магутнасць.

> «Ваяваць мы не збіраемся, **але ніколі і нікому не дазволім пасягнуць на цэласнасць нашых меж.** Нашы граніцы свяшчэнны і непарушны. Яны паліты рабоча-сялянскай крывёю і іх нікому, ніколі ні пры якіх акалічнасцях перайсці не дазволім» **(Варашылаў).**

---

І. Гершон

Б. Гельфанд

# Барацьба з акупантамі на Бабруйшчыне

*(Успаміны)*

1919 год. Наша маладая рэспубліка—плацдарм класавай вайны. Менск заняты белапалякамі. Белапалякі падыходзяць да Асіпавіч. Пачалася эвакуацыя ў Бабруйску. У гэты час адбываецца нарада, на якой размяркоўваюцца абавязкі сярод партыйных работнікаў.

Барацьба абвастраецца. Мяняецца толькі абстаноўка. Кожны гатоў яшчэ з большай упартасцю змагацца з акупантамі.

А 3-й гадзіне ўночы паведамляюць, што палякі ўжо на станцыі Ясень. Трэба падрыхтаваць падпольныя друкарні. Пад трэскам кулямётаў працуем усю ноч і абсталявалі нядрэнную друкарню. У руках падпольнай арганізацыі яна будзе самай вострай зброяй супроць белых акупантаў, супроць класавых ворагаў. На досвітку развітваемся з нашымі чырвонаармейцамі і камандзірамі, развітваемся з імі з упэўненасцю ў хуткім пабачанні. Байцы займаюць свае пазіцыі. Хто ў падполлі, хто ў радах арміі, кожны гатоў да сустрэчы класавага ворага.

А 6 гадзіне раніцы з розных канцоў горада ўваходзяць акупанты. Гэта яны нясуць «культуру» супроць большэвікоў «варвараў». І ўжо а 7 гадзіне раніцы «цывілізатары» прыступілі да работы: пачаліся грабяжы, расстрэлы. Польскі бізун пачаў гуляць па спінах рабочых і працоўных сялян. У горадзе—арышты, прычым арыштоўваюць па малейшаму падазрэнню.

Палякі паставілі сабе задачу вырваць большэвіцкую «заразу» з коранем. Давялося вельмі многа папрацаваць паліцэйскім. Ім прышлося хоць зубамі зрываць большэвіцкія лістоўкі, расклееныя па гораду. Арышты актывістаў рабочых і сялян набылі масавы характар. Няма ўжо куды памяшчаць арыштаваных. Школы, кіно, тэатры—усё ператварылася ў турмы. У горадзе нават арганізавалася дапамагаўшая польскай дэфензіве цэлая банда з падонкаў грамадства—зладзеяў, машэннікаў, былых царскіх гарадавых, папоў і рабінаў, якія дапамагалі белапалякам адшукваць большэвікоў.

Зверствы белапалякаў не мелі граніц. Гэтыя зверствы асабліва праявіліся ў нечалавечых адносінах да нашых палонных чырвонаармейцаў, якіх белапалякі расстрэльвалі пачкамі. І колькі ўжо бязвіннай крыві рабочых і сялян праліта на нашай радзіме.



Тав. Калінін у Менску перад адпраўкаю войск на фронт супроць белапалякаў у 1919 г.

У дадатак да гэтага неўзабаве з прычыны голаду пачалася эпідэмія тыфу (сыпняку). Хворыя чырвонаармейцы ў турмах знаходзіліся ў жудасным стане. На падлозе, як бярвенні, валяліся нашы байцы, нашы браты. Тут і ў прадсмяротнай агоніі, тут і поўжывыя, тут і астыўшыя трупы, тут-жа і выздараўліваючыя.

Падпольны камітэт прыняў максімальныя меры, каб паставіць на ногі іх, каб дабіцца ад белапалякаў дазволу хоць чым-небудзь палегчыць цяжкі лёс нашых байцоў. Мясцовыя ўрачы згадзіліся добраахвотна і бясплатна дапамагчы ліквідаваць эпідэмію.

Але штаб польскай арміі адказаў каротка: «Іх трэба не лячыць, а расстрэльваць». Тым часам эпідэмія ўсё больш і больш пашыралася і перакінулася ў часці польскай арміі.

Але польскі штаб непахісны. Ён не дазволіў лячыць чырвонаармейцаў. Ён не шкадаваў і сваіх салдат: хіба польскаму генеральнаму штабу шкада было апранутых у шынелі рабочых і сялян. Ён баяўся іх, гэтых хворых, апранутых у лахманы.

Тады партыйны камітэт разгарнуў агітацыю па ўсяму гораду: лістоўкі, пратэсты, забастоўкі. І толькі тады, калі пратэсты набылі для іх пагражаючы характар, калі аб гэтым стала вядома ўсім рабочым і сялянам Польшчы, у Варшаве, Беластоку, толькі тады польскія генералы выклікалі чырвоны крыж і дазволілі прыступіць к лячэнню.

Аднак камісіі прышлося працаваць галоўным чынам над складаннем актаў аб грудах трупаў, што засталіся ад нашых чырвонаармейцаў.

Не менш «літасціва» арудвалі белапалякі і ў вёсцы. Вось адзін з прыкладаў іх грабяжу і здзекаў над сялянамі нашых беларускіх вёсак на Бабруйшчыне:

Група белапалякаў, а разам з імі зграя сынкоў мясцовых памешчыкаў, з'явіліся ў вёску Карчэвічы шукаць большэвікоў. Шукалі галоўным чынам у сялянскіх клецях. Не знаходзячы, забіралі масла, сала, яйкі. Усё гэта было «ходкім таварам» для яснавяльможных паноў. Потым з'явіўся загад, каб неслі малако панам. Памешчыцкія сынкі дубцамі падсцёбвалі сялян з лаянкай «пся крэў». Сяляне вёскі Карчэвічы, убачыўшы, што ў іх забіраюць апошнія прадукты, пакінутыя для дзяцей, сабраліся, выгналі пілсудчыкаў з вёскі і вярнулі сабе адабранае.

Неўзабаве белапольскія «носьбіты культуры» акружылі вёску Карчэвічы, падпалілі яе на вачах усіх сялян і, каб не ўцёк ні адзін «большэвік», адкрылі па ёй кулямётны агонь.

Палякі «перамаглі», і польскі штаб упісаў яшчэ адну ганебную крывавую старонку ў сваю «баявую» гісторыю. Так ён паказаў тут сваё «геройства».

Пад кіраўніцтвам падпольнай большэвіцкай арганізацыі працоўныя масы вёскі ўсё больш і больш рэволюцыянізаваліся. У адказ на тэрор і здзекі акупантаў яна адказала магутным разгортваннем партызанскага руху.

Працоўнае сялянства, у якога забіралі апошнія крохі, гвалтавалі жонак і дзяцей, ператварылася ў грозную сілу.

Хіба дзіўна пасля гэтага, што партызанскі рух з кожным днём мацнеў, што ўся Беларусь пакрылася партызанскімі атрадамі, якія змагаліся з акупантамі так, як і належыць змагацца сынам Вялікай соцыялістычнай радзімы.

У адказ на шматлікія геройскія выступленні партызанскіх атрадаў у Бабруйшчыне было абвешчана асаднае становішча. Гэта значыла, што пасля 6 гадзіны ўвечары польскія легіёны маглі зусім распаясвацца.

І аднак, не гледзячы на арышты, пагромы, здзекі, работа партыйных арганізацый не спынялася. Разам з ёю шырыўся і мацнеў рэволюцыйны рух рабочых і сялян.

У казармах чыталі брашуры і лістоўкі, што распаўсюджваліся большэвікамі. У польскай арміі арганізаваны былі партыйныя ячэйкі. І можна сабе ўявіць самаадчуванне польскіх генералаў, запэўніваўшых міжнародную буржуазію ў тым, што іх армія самая надзейная, калі раптам Варшаўскі полк адмовіўся ісці на фронт супроць большэвікоў. Гэта было першае магутнае выступленне польскіх салдат супроць сваіх генералаў.

Каб падняць дух арміі, супакоіць міжнародную буржуазію—фактычнага гаспадара польскай арміі, і абы якой цаною заваяваць перамогу, польскі генеральны штаб з уласцівым яму авантурызмам кінуў на фронт супроць большэвікоў п'яных салдат у акружэнні пазнанцаў.

Так пачалося наступленне на Жлобінскім участку. Але магутным ударам чырвонаармейскіх часцей яно было разгромлена. Бабруйск ператварыўся ў суцэльны лазарэт польскіх афіцэраў.

На гэтым скончылася адна з авантур польскага штаба, за якую заплацілі жыццём тысячы рабочых і сялян Польшчы.

Хоць усім і кожнаму было добра вядома, які руйнуючы адпор атрымалі белапалякі ў гэтым наступленні, польскі штаб выпусціў паведамленне: «Наша доблесная армія... і т. д. перашла ў наступленне. Большэвікі адышлі к Дняпру».

У гонар «перамогі» польскі штаб арганізаваў нават святочную гулянку, на якую зышлася польская знаць і мясцовая буржуазія.

І вось, у самы разгул танцаў і бразгатання шпор загудзеў аэраплан... Пасыпаліся большэвіцкія лістоўкі, якія заклікалі: «Таварышы і грамадзяне, пад магутным ударам Чырвонай арміі польская армія адступае. Не давайце ім разбураць фабрык і заводаў, арганізуйце самаабаронныя атрады!» У канцы—палкі лозунг: «Няхай жыве рэволюцыя ў Польшчы!»

Польская армія, што далей, то больш дэмаралізавалася, грознаю хваляй рос пратэст супроць акупантаў.

Агромную работу правялі ў той час і комсамольцы. Колькі байцоў, камандзіраў, рабочых-ударнікаў, інжынераў, лётчыкаў, пісьменнікаў, кіраўнікоў прамысловасці і сельскай гаспадаркі вырасціў і выхаваў ленінскі комсамол. Смела і горда пад кіраўніцтвам падпольнай партыйнай арганізацыі ўзнялі комсамольцы сцяг барацьбы супроць польскіх акупантаў. Яны арганізоўвалі баявыя атрады, яны штодня раскідвалі і расклейвалі па вуліцах і казармах тысячы лістовак; здзекваючыся над шпікамі і паліцэйскімі, закладалі ім у кішэні большэвіцкія адозвы. Пад спевы «Інтэрнацыянала» яны ішлі на расстрэл, на шыбеніцы. Не мала слаўных старонак упісалі комсамольцы ў выдатнейшую гісторыю барацьбы за соцыялістычную бацькаўшчыну.

Ужываючы ўсялякія рэпрэсіі, белапалякі ліквідавалі ўсе саюзы. Бунда не чапалі, бо для гаспадароў і польскай арміі ён быў даска-

налым памочнікам. З сабачай адданасцю выконвалі бундаўцы сваю здрадніцкую ролю. Яны былі сапраўднымі правакатарамі. Яны стаялі за «спакой і парадак» і страшылі нашых таварышоў арыштам, не дапускаючы забастовак. У перыяд белапольскай акупацыі беларускія наццэмакраты і Бунд ўпісалі яшчэ адну ганебную старонку ў сваю здрадніцкую гісторыю. Але супроць іх волі пад кіраўніцтвам падпольнай арганізацыі рос і мацнеў рабочы рух.

Аднойчы сабраўся падпольны камітэт, які пастанавіў прад'явіць ультыматум гаспадарам: 8 гадзін работы, 1 гадзіна абедзенага перапынку без зніжэння заработнай платы. У выпадку незадавалення—абвясціць забастоўку. На падставе гэтага рашэння быў скліканы нелегальны дэлегацкі сход прадстаўнікоў усіх прадпрыемстваў для абмеркавання і выпрацоўкі канкрэтных мер барацьбы з нечуванай эксплаатацыяй.

Тымчасам на вуліцы жандар напаў на след сходу. Ён заўважыў двух дзяўчын, якія ўваходзілі ў той двор, дзе адбываўся сход, і пашоў за імі. Комсамолец Пінька, начальнік баявога атрада, заўважыў, што жандар накіроўваецца к дому. Была яўная пагроза правалу сходу і, безумоўна, масавага арышту. Піня падышоў да гэтых дзяўчын і сказаў ім:—«Ідзіце за мной». Ён вывеў дзяўчын з двара і накіраваўся з імі вандраваць па гораду. Жандар—за імі. Але сход тым часам скончыўся, і ўсе спакойна разышліся па хатах.

Успамінаецца першае паседжанне ЦБ профсаюзаў. Яно было прызначана на 6 гадзіну раніцы, калі ўсе шпікі і жандары яшчэ спалі. Прысутнічала 15 прадстаўнікоў саюзаў. Тав. Каменскі рабіў нам першы даклад аб бягучым момантце. Другім было пастаўлена пытанне аб забастоўцы швейнікаў. Парашылі правесці забастоўку.

Каб палегчыць цяжкое становішча бастуючых і падтрымаць іх маральна і матар'яльна, пастаноўлена было арганізаваць некалькі дапаможных майстэрань, дзе бастуючыя маглі-б адшукаць сабе працу. Тут мы яшчэ раз сустрэліся са здрадніцкай работай бундаўцаў. Яны, вядома, сталі на бок польскага генеральнага штаба. Як жа так,—пыталіся яны,—фронт так блізка, а вы бастуеце? Пачнецца кровепраліцце!

Але забастоўка пачалася. Праз некалькі дзён да яе далучыліся папіросныя фабрыкі. Пасля двухтыднёвай барацьбы забастоўка была выйграна, рабочыя перамаглі.

Неўзабаве падпольны камітэт рашыў склікаць павятовую канферэнцыю, каб выпрацаваць агульны план дзейнасці. Канферэнцыя была прызначана на 28 красавіка ў кватэры Бабровай і Пятрова.

А 12 гадзіне ўночы тав. Каменскі—кіраўнік падпольнай арганізацыі большэвікоў—адкрыў канферэнцыю. Як толькі закончыў ён уступную прамову і вызначыў галоўныя задачы канферэнцыі, у кватэру ўварваўся агент паліцыі. На яго запытанне, што тут робіцца, прысутныя адказалі—іграем у карты. Паліцэйскі, крыкнуўшы—«Ведаем мы вашы карты»,—вышаў з кватэры. Тав. Каменскі заявіў, што канферэнцыя сарвана і трэба разыходзіцца. Прысутныя пачалі разбягацца праз сад, які быў пры доме, просячы Каменскага паследваць за імі. Але ён адмовіўся тым, што павінен знішчыць матар'ялы, якія былі на канферэнцыі. Пятроў таксама не мог пакінуць кватэры, бо яго суседка Баброва тады хварэла тыфам.

Уварваліся палякі. Каменскі, Баброва і Пятроў былі арыштаваны.

Наглай рукою белапольскіх катаў былі расстраляны потым усе трое. Хворую Баброву застрэлілі ў насілках, бо не магла стаяць на нагах.

Было ясна, што канферэнцыя правалілася таму, што тут працавала рука правакатара. Было склікана экстранае паседжанне камітэта і падвергнута аналізу кожная падзея апошніх дзён. Падазрэнне апраўдалася. Родаў, ён-жа Рабіновіч, аказаўся правакатарам і выдаў канферэнцыю. Праз некалькі дзён пазней ён у форме жандара ездзіў паказваць кватэры нашых таварышоў. Але арганізацыя была ўжо моцная. Партызанскі рух разросся. Чырвоная армія паступова і ўпэўнена пачала наступленне на Бабруйск. Настрой усё больш і больш узнімаўся. На месцы аднаго арыштаванага з'яўлялася некалькі новых актывістаў, якія прадаўжалі справу таварышоў.

Чырвоныя наступаюць. Кожны выбух іх знарада—сігнал к паўстанню. У горадзе арганізаваны самаабарончыя атрады. Рашылі не даваць вывозіць з горада машыны электрастанцыі. У паасобных пунктах нават адбівалі польскія абозы. Удзень палякі баяліся з'явіцца на вуліцы.

Наступае апошняя жудасная ноч. Белапалякі і іх афіцэры рашылі «развітацца». На ўспамін аб сабе арганізавалі грабяжы, бралі людзей пад выглядам заложнікаў і тут-жа на вуліцах расстрэльвалі. Адступаючыя белапалякі страшылі: «Адыходзім толькі на два тыдні, вернемся і тады яшчэ пакажам». Горад у агні. Калі хто адмаўляецца даваць грошы,—падпальваюць дом. Палаюць крэпасць, казармы, электрастанцыя. На кожнай вуліцы пажар. З усіх дамоў чуваць безупынныя крыкі: «Ратуйце! Пажар!»

Гэтая ноч не паддаецца апісанню. Шалеў і лютаваў азвярэлы класавы вораг. П'яныя белапалякі цэлымі натоўпамі хадзілі з нагайкамі па вуліцах, гвалтавалі, забівалі. Працоўныя Беларусі ніколі не забудуць гэтай жудаснай ночы!

А 5 гадзіне раніцы працоўныя Бабруйска цалаваліся з героямі чырвонаармейскіх часцей, з чырвонымі камандзірамі. На вуліцах упершыню з'явіліся святочныя натоўпы. Людзі з вялікім задавальненнем збіраліся на мітынгі. Усё больш узрастаў аўтарытэт нашай партыі і Чырвонай арміі. Бабруйск разам з усім пралетарыятам БССР прыступіў к будаўніцтву новага, светлага жыцця.

П. Бурачэўскі
Удзельнік грамадзянскай вайны

# Старонка з мінулага

З'яўляючыся ўдзельнікам барацьбы за пролетарскую дыктатуру на Беларусі, я хачу адзначыць некаторыя моманты, якія адносяцца к перыяду стварэння совецкай улады ў Беларусі і вызвалення яе ад белапалякаў.

У 1917 г. Беларусь прадстаўляла паласу фронту імперыялістычнай вайны і частка яе была занята нямецкімі акупантамі.

Рэволюцыйны рух на Беларусі пад кіраўніцтвам большэвікоў узрастаў і пашыраўся, ператвараючыся ў магутную сілу, якая ахапіла не толькі рабочых, батракоў і бяднейшае сялянства акупаванай Беларусі, але і шырокія масы нямецкіх салдат.

У перыяд нямецкай акупацыі працоўнае насельніцтва знаходзілася ў надзвычайна цяжкіх умовах. Акупантамі-імперыялістамі яно пазбаўлена было магчымасці задаволіць нават мінімальныя патрэбы больш-менш чалавечага жыцця. На плечы працоўных былі ўскладзены ўсякія дадатковыя павіннасці.

Жаданні і імкненні працоўных мас Беларусі былі накіраваны к таму, каб заваяваць і пабудаваць уладу рабочых і сялян, каб у корані знішчыць сістэму капіталізма і пачаць будаўніцтва новага соцыялістычнага грамадства. Гэтыя жаданні і імкненні выяўляліся ў рэволюцыйнай барацьбе супроць акупантаў, супроць капіталістычнай сістэмы і яе старроннікаў.

Большэвікі, знаходзіліся ў глыбокім падполлі і вялі агромную работу пры строгай канспірацыі. У многіх гарадах, мястэчках і сельскіх пунктах існавалі падпольныя партыйныя камітэты, якія яднаді рэволюцыйных рабочых, батракоў, сялян-беднякоў, служачых і саматужнікаў і кіравалі рэволюцыйнаю барацьбой працоўных мас. Для прыкладу возьмем Рагачоўскі падпольны камітэт, які ў 1917 годзе, пад кіраўніцтвам т. Рыскіна А. Б., прымаў актыўны ўдзел у барацьбе супроць белагвардзейшчыны з астаткаў былой магілеўскай стаўкі і іншай царскай знаці, а таксама ў 1918 годзе супроць нямецкіх імперыялістычных акупантаў. Гэты камітэт аб'яднаў у барацьбе не толькі мясцовых рабочых, батракоў, беднякоў, але ўцягнуў у яе і нямецкіх салдат, якія дапамагалі набываць неабходнае для партызанскіх атрадаў узбраенне.

Партызанскія атрады ўзнікалі адначасова з арганізацыяй рабочых і вясковых ячэек комуністычнай партыі. Яны былі магутнаю сілай у барацьбе супроць акупантаў.

Рэволюцыйная барацьба працоўных мас акупаванай Беларусі была вялікаю пагрозай для акупантаў, а разам з тым і для ўсёй капіталістычнай сістэмы. Вось чаму ўлада акупантаў і ваеншчыны праследвалі не толькі непасрэдных удзельнікаў рэволюцыйнага руху, але і ўсіх, хто на погляд акупантаў мог такімі з'яўляцца. У паасобных, найбольш буйных пунктах, акрамя перапоўненых былых турмаў, былі пабудаваны спецыяльныя баракі, абведзеныя непралазнай агарожай з калючага дроту ў некалькі радоў і ахоўваліся ўзмоцненымі ваеннымі карауламі. Гэтыя баракі, якія называліся «карантынам», а ў сапраўднасці—звычайныя турмы, перапоўнены былі рабочымі і сялянамі Беларусі.

У 1918 годзе мне асабіста давялося пабываць у такім «карантыне» пад строгай аховай з сістэматычнымі допытамі. Адтуль з вялікімі труднасцямі, пры дапамозе рэволюцыйных нямецкіх салдат, удалося ўцячы.

Пасля адыходу нямецкіх акупацыйных войск, у лістападзе 1918 года, пачалі ствараюца советы і рэўкомы, якія ва многіх месцах падрыхтаваны былі ў час падполля. Працоўныя Беларусі сустрэлі ўстанаўленне совецкай улады з вялікім энтузіязмам і праяўлялі надзвычайную актыўнасць у справе стварэння яе органаў.

Мне выпадала быць у паасобных паселішчах першым прадстаўніком совецкай улады і сведкай вялікай радасці, энтузіязма і актыўнасці, з якімі працоўнае насельніцтва выбірала мясцовыя органы ўлады.

Там, дзе праходзіў фронт, дзе адбываліся баі, на месцы населеных пунктаў заставаліся акопы, бліндажы, агромныя ямы, вырытыя знарадамі. Працоўнае насельніцтва жыло ў зямлянках, харчавалася ўсякімі сурагатамі. У зімовы час у некаторых пунктах цяжка было знайсці месца, дзе можна было-б правесці сход. Аднак і пры такіх умовах працоўнае насельніцтва з вялікай радасцю сустракала совецкую ўладу і ўсямерна дапамагала яе ўтварэнню. Падлеткі і старыя прыносілі і здавалі рэвальверы, вінтоўкі і іншую зброю, рознымі спосабамі набытую ў час акупацыі. Аднойчы позняй ноччу пасля сходу, на якім выбралі сельскі совет, адна бабулька прынесла і перадала мне закручаны ў анучу цяжкі пакунак. У гэтым пакунку былі добры браўнінг і бінокль.

Моладзь прагна слухала тлумачэнні аб задачах комуністычнай партыі і аб тым, хто з'яўляецца і можа быць яе членам і прасіла запісаць яе ў партыю, заяўляючы аб сваёй адданасці і гатоўнасці выконваць усе яе даручэнні для абароны заваёў рабочых і сялян. Адначасова з першымі советамі арганізоўваліся комуністычныя ячэйкі, а існаваўшыя папаўняліся новымі членамі.

У пачатку 1919 года белапольскія паны з дапамогаю Антанты рыхтавалі ўзброенае наступленне на краіну дыктатуры пролетарыята. Рэўкомы і советы стварылі атрады, каб дапамагчы часцям Чырвонай арміі адбіць белагвардзейскія наскокі і разам з ёю абараніць заваёвы Окцябра.

Пасля стварэння рэўкомаў і советаў з лютага месяца я быў арганізатарам-агітатарам палітаддзела Беларуска-літоўскай арміі. У красавіку 1919 года мне прышлося пераехаць на фронт пад Вільню, куды былі падцягнуты і сканцэнтраваны добра ўзброеныя значныя сілы белапалякаў. Не гледзячы на перавагу сіл і шалёнае імкненне ворага

разбіць наш фронт, чырвонаармейскія часці абаранялі кожны свой участак з такой упартасцю, што ворагу толькі пасля доўгіх баёў і з велізарнейшымі стратамі ўдавалася займаць некаторыя нашы пазіцыі і акружыць паасобныя часці. Яны не толькі не здаваліся ў палон, але з поспехам і без асаблівых страт байцоў выходзілі з цяжкага становішча, а часам нават забіралі ў палон белапалякаў.

Адзін з такіх выпадкаў быў з № стралковым палком. Акружаны ворагам, полк арганізавана рушыў у тыл ворага. Разбіваючы раз'езды, заставы і вартавыя аховы, полк прабіўся праз фланг ворага і заняў новыя пазіцыі, затрымаўшы такім чынам наступленне.

Узорную вытрыманасць, ініцыятыўнасць у кіраўніцтве гэтай аперацыяй праявіў камандзір першага батальёна т. Рубо, пасля прызначаны камандзірам палка і за баявыя заслугі ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага сцягу.



Экзекуцыя белапалякамі старшыні валаснога выканкома Мазырскага павету. 1920 год.

На паасобных участках нашы часці папаўняліся і ўзмацняліся рабочымі дружынамі, групамі рабочых з Менска, Гомеля і атрадамі асобага прызначэння, якія прыбывалі з арганізацый Дзісненскага, Вілейскага, Слуцкага і інш. паветаў.

Не гледзячы на тое, што белапалякам усямерна дапамагалі ўзбраеннем капіталістычныя краіны, часці нашай Чырвонай арміі адважна адбівалі ворага і самі пераходзілі ў контрнаступленне.

К восені 1919 года белапалякам удалося прайсці да Бярэзіны і Заходняй Дзвіны.

Значная частка БССР захоплена была белапалякамі.

Белапольскія акупанты амаль цалкам успрынялі метады кіраўніцтва захопленай тэрыторыяй ад царскіх верхаводаў. Чыноўнікі «Жэчы паспалітай» патрабавалі ад насельніцтва паслушэнства і падначалення, ужываючы пры гэтым допыты і здзекі, якія нагадвалі сярэдневякоўе.

Асабліва праявілі сябе акупанты ў вышуканні, вылоўліванні і знішчэнні комуністаў, чырвоных партызан, рэволюцыйна настроеных рабочых і сялян. Працавала жандармерыя і дэфензіва па традыцыях правакацыі і тэрору былой царскай ахранкі. У гэтай справе яна праявіла нават больш здольнасці. У дэфензіве працавалі не толькі чыны былой царскай ахранкі, але і новыя польскія «героі», і здольныя аўстрыйскія жандары з Галіцыі і нямецкія з Пазнані.

Захапіўшы ў свае рукі горад ці мястэчка, польская ваеншчына і жандары пачалі перш за ўсё з гвалтаў і здзекаў над працоўным насельніцтвам. Кожнага, хто не гаварыў па-польску, хоць і не ўмеў, падазравалі ў «большэвізме» і ўчынялі над ім усялякія здзекі.

Рэволюцыйны рух пад кіраўніцтвам большэвікоў на акупаванай белапалякамі тэрыторыі Беларусі пашыраўся і ўзмацняўся. Пачалі арганізоўвацца партызанскія атрады.

Чырвоным партызанам прыходзілася змагацца ў надзвычайна цяжкіх умовах. Хвойныя лясы Беларусі, перасечаныя рэчкамі, палянкамі, лугамі і балотамі, былі для іх жыллём і штаб-кватэрай.

Чырвоных партызан яднала класавая свядомасць, ідэя вызвалення. Кіраваліся яны баявой праграмай комуністычнай партыі большэвікоў, якая ўказвала сапраўдныя шляхі і сродкі палітычнага і эканамічнага вызвалення рабочых і ўсіх працоўных горада і вёскі ад акупантаў і эксплаататараў.

Атрады чырвоных партызан, не гледзячы на праследванні і люты тэрор, на забойствы і здраду, не спынялі барацьбы, вырастаючы ў магутную баявую сілу праз штодзенныя моцныя папаўненні. Чырвоны партызан знаходзіў прытулак і абарону ў горадзе, вёсцы, мястэчку, паселішчы не толькі тады, калі яго ведалі асабіста, як суседа ці знаёмага, але і тады, калі яго ўпершыню сустракалі.

Сярод чырвоных партызан знаходзіліся жыхары не толькі блізкіх к Менску (Ігуменскага, Бабруйскага, Слуцкага) паветаў, але і з больш далёкіх (Вілейскага, Дзісненскага, Новагрудскага і інш.). Кожнага партызана, незалежна ад таго, адкуль ён з'яўляўся, працоўнае насельніцтва ў аднолькавай меры акружала ўвагай, сімпатыяй і абаронай.

У раёнах суседніх з Менскам вёсак і лясоў партызанскімі атрадамі кіраваў ураджэнец Вілейскага павета з раёна Мядзіольскіх азёр тав. Шаранговіч. За кароткі час ён набыў папулярнасць сярод мясцовага насельніцтва і з'явіўся аргаінзатарам і кіраўніком партызанскага руху на акупаваным белапалякамі ўчастку Барысаў—Баранавічы.

На Бабруйшчыне партызанскім атрадам кіраваў т. Ляўкоў Максім, у Дукоры—т. Блажко і т. д.

З вясны 1920 г. белапалякі па ўсяму фронту павялі ўзмоцненае наступленне супроць Чырвонай арміі. На Барысаў і Бабруйск накіраваліся паязды, гружаныя танкамі, артылерыяй, знарадамі, кавалерыяй, новымі пяхотнымі часцямі і інш. На паасобных участках белапалякі пачалі прарываць фронт і ісці ў наступленне.

Узрастаў рэволюцыйны рух, расла нездаволенасць сярод рабочых, і сялян. Паасобныя чырвоныя партызаны ў гарадах, мястэчках, вёсках, маёнтках і паселішчах былі напагатове і чакалі загаду кіраўніцтва. Хутка пачалі канцэнтравацца па асобных участках баявыя атрады чырвоных партызан, кожны з якіх атрымаў самастойнае заданне. Велаючы намеры акупантаў, чырвоныя партызаны рабілі ўсё, каб перашкодзіць, прыпыніць і паралізаваць іх дзеянні: абстрэльвалі і спускалі паязды пад адкос, разрывалі тэлефонную і тэлеграфную сувязь, спынялі ўсякі рух з аднаго пункту ў другі і т. п.

Аперацыі чырвоных партызан выклікалі новую хвалю тэрору з боку мясцовай улады акупантаў і ваеншчыны. Пачалі ўзмоцнена дзейнічаць карныя экспедыцыі. Карныя атрады распраўляліся з вёскамі, наладжвалі вялікія аблавы па лясах. Але не так ужо лёгка было

ўлавіць чырвоных партызан. Каб напасці на іх сляды, азвярэлыя акупанты ўчынялі здзекі і катаванні нават над нявіннымі жыхарамі. Займаючы вёску, карныя атрады выстрайвалі ў рад мясцовых жыхароў і, пагражаючы расстрэлам кожнаму пятаму або дзесятаму, патрабавалі выдаць партызан. Бацькоў і сыноў партызан карныя атрады прымушалі разбіраць свае хаты да апошняга бервяна, пляваць адзін аднаму ў твар і біцца. Звярыныя, нечалавечыя здзекі даводзілі афяры акупантаў да інваліднасці і смерці. Так замучан быў селянін вёскі Кайкава Чумак Цімох—бацька чырвонага партызана Чумака Кузьмы.

У рэзультаце вышукаў і масавых аблаў некаторыя з партызан пападалі ў палон. Але яны лічылі за лепшае загінуць смерцю герояў, чым трапіць у рукі катаў дэфензівы. Чырвоны партызан Маслыка, не бачачы паратунку, не здаўся, а застрэліўся.

Загартаваныя вопытам, знаёмыя з контрдзеяннямі акупантаў, чырвоныя партызаны прадаўжалі ўпартую барацьбу.

Чырвоная армія перашла ў контрнаступленне на белапалякаў. Прарваўшы фронт, яна зашла кілометраў на 90—100 у тыл ворага ў кірунку ад Полацка на Вілейку і кілометраў на 60 у кірунку ад мястэчак Бярэзіна і Пагоста на Ігумен. Чырвонае войска павяло безупыннае наступленне па ўсяму фронту.

Чырвоныя партызаны праяўляюць яшчэ большую актыўнасць. Яны наносяць удары па адстаючых часцях праціўніка, захватваюць інвентар і абозы, вызваляюць палонных чырвонаармейцаў, яны ўключаюцца ў рады праходзячых часцей рабоча-сялянскай Чырвонай арміі і як лепшыя яе байцы прадаўжаюць барацьбу з ворагам.

Партызанскі рух на Беларусі адыграў агромнейшую ролю ў барацьбе рабочага класа за краіну пролетарскай дыктатуры, за вызваленне Беларусі ад белапалякаў.

Але ён з'яўляўся толькі часткаю той несакрушымай сілы, якая ў грамадзянскай вайне змагалася пад выпрабаваным кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі.

На ўсім працягу рэволюцыйнай барацьбы на Беларусі, у час імперыялістычнай вайны, нямецкай і белапольскай акупацый раслі арганізацыі компартыі і рэволюцыйныя профсаюзы. Буржуазія прымала надзвычайныя меры, каб толькі задушыць рэволюцыйны рух, вылавіць і знішчыць яго зачыншчыкаў і кіраўнікоў-комуністаў. Белапалякі ў сваім шаленстве даходзілі да масавага фізічнага знішчэння рэволюцыйных барацьбітоў. Турмы, памяшканні дэфензівы і паліцыі перапаўняліся спачуваючымі рэволюцыянерамі і нават проста западозранымі. Амаль штодня, асабліва ўвесну 1920 года, выносіліся смяротныя прысуды, аб якіх шырока паведамлялася насельніцтва праз друкаваныя пастановы, у асноўным такога зместу:

«Салдаты (указвалася прозвішча і імя), цывільныя (таксама пералічваліся), пастановай палявога суда камандзіра акруговага этапа Менска-літоўскага, дня (указвалася дата) 1920 г. за здраду і змову супроць войска польскага, прысуджаны да кары смерцю праз расстрэл (указвалася месца і час выканання прысуду). ...Пастановаю таго-ж суда за гэту самую віну прысуджаны да зняволення ў суровай турме на 10 год салдаты (пералічваліся), цывільныя (пералічваліся), за тое, што ведалі аб гэтай змове і здрадзе і не паведамілі свайго начальніка».

У апошнім пункце такой пастановы звычайна гаварылася:

«За тое, што схавалі салдацкія карабіны без дазволу ўлады, прысуджаны тым-жа судом» (указвалася хто і на які тэрмін).

Падпісваў абвесткі ў большасці выпадкаў камандзір акруговага этапа Шэмет.

Лютыя кары і прысуды не спынялі рэволюцыйны рух. У рады сапраўдных барацьбітоў за пролетарскую перамогу ўключаліся ўсё новыя і новыя ўдзельнікі. Не гледзячы на хлусню, якую буржуазія і соцыял-лакеі распаўсюджвалі пра комуністаў, шырокія пролетарскія масы не толькі не адыходзілі, а наадварот—зближаліся з комуністычнай партыяй, ішлі за ёю, як за сапраўдным паслядоўным выпрабаваным кіраўніком рабочага класа ў яго барацьбе за вызваленне працоўных ад ярма капіталізма, за пролетарскую перамогу, за ўладу рабочых і сялян.

Пасля вызвалення БССР аб белапалякаў і сканчэння грамадзянскай вайны контррэволюцыя не супакойвалася. Імкнучыся знішчыць уладу советаў, яна арганізоўвае ў канцы 1920 г. і пачатку 1921 г. узброеныя банды. Асабліва праявілі сябе банды Булак-Балаховіча, Паўлоўскага, Маніча і інш. Бандытызм на Беларусі трымаў цесную сувязь з белагвардзейшчынай, яе прыхільнікамі і абаронцамі—капіталістычнымі краінамі і карыстаўся іх усямернай дапамогай.

Паасобныя бандыты рознымі шляхамі імкнуліся пралезці ў органы совецкай улады і нават у рады компартыі, каб здрадай дасягнуць максімальных вынікаў у сваёй шкодніцкай бандыцкай рабоце, разлічваючы на знішчэнне ўлады советаў.

Нашы атрады асобага прызначэння і вайсковыя часці пры актыўнай дапамозе мясцовага працоўнага насельніцтва пакончылі з бандытызмам, вылавіўшы яго дзеячоў і ўдзельнікаў.

Вызваленая ад белапалякаў і белагвардзейскіх банд Совецкая Беларусь —неадлучная частка СССР—у рэзультаце ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і дапамогі брацкіх саюзных рэспублік мае агромнейшыя поспехі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Слаўныя перамогі за мінулы перыяд адзначаны пастановай Саюзнага ўрада аб узнагароджанні ордэнам Леніна БССР і яе бальшэвіцкіх кіраўнікоў—тт. Гікало і Галадзеда.

Пролетарыят і шырокія масы працоўных, перамогшы пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ва ўзброенай барацьбе капіталізм, утрымаўшы і замацаваўшы заваёвы Окцябра, паказалі нязмерную сваю сілу і здольнасць на фронце гераічнага соцыялістычнага наступлення.

> «Цяпер ужо ўсе прызнаюць, што мы дабіліся на гэтым шляху агромных поспехаў. Цяпер усе прызнаюць, што мы маем магутную і першакласную прамысловасць, магутную і механізаваную сельскую гаспадарку, транспарт, які разгортваецца і ідзе ў гару, арганізаваную і дасканала аснашчоную Чырвоную армію» **(Сталін).**

Аднак класавы вораг і яго контррэволюцыйная агентура на паасобных участках да апошняга часу ўсямерна нам шкодзіць, даходзячы да такіх наглых учынкаў, як забойства С. М. Кірава.

> «Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх астаткаў паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў... Няма такой брыдоты

і паклёпу, якіх-бы гэтыя былыя людзі не ўзвялі на Совецукю ўладу... Гэта, вядома, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі быстра і без асобых афяр.

Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

У БССР, як рэспубліцы, якая знаходзіцца на рубяжы двух светаў, пільнасць, абаронная работа, ахова социялістычнай маемасці павінны забяспечвацца так, каб кожнае прадпрыемства, кожны калгас стаў неприступнай крэпасцю социялізма.

Нам неабходна ўлічыць, кіравацца і ажыццяўляць на справе словы тав. Гікало:

«Рэволюцыйная большэвіцкая пільнасць павінна быць ва многа раз узмоцнена ў КП(б)Б, асабліва ўлічваючы, што азвярэлыя рэшткі класавага ворага і яго агентуры, канчаткова трацячы ўсякую глебу пад нагамі, старанна маскуюцца і прыбягаюць да самых гнусных і зверскіх сродкаў барацьбы з пераможна наступаючым социялізмам. КП(б)Б улічвае, што ў БССР—многанацыянальнай і пагранічнай рэспубліцы—уся гэта двурушніцкая і неаднакроць абманваўшая партыю шваль з былых трацкістаў, зіноўеўцаў, бундаўцаў, эсэраў і меншавікоў, прышоўшых у партыю з каменем за пазухай, змыкаецца з контррэволюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і выступае ў саюзе з фашыстамі капіталістычных краін супроць совецкай улады і большэвіцкай партыі.

Мы павінны рашуча і да канца дабіць усе рэшткі нацыянал-дэмакратызма ў нашай рэспубліцы, усе праявы нацыянал-апартунізма ў КП(б)Б, у якой-бы замаскаванай форме нацыянал-апартунізм ні выступаў. А для гэтага трэба ўсямерна паглыбіць ідэйную ўзброенасць кожнага члена беларускай партыйнай арганізацыі, павысіць якасць арганізатарскай работы кожнага кіраўніка-большэвіка і іменна на гэтай аснове развіць ворага сапраўды бязлітасна і без промаху» *).

---

* Гікало „Большэвікі Беларусі ў барацьбе за социялізм", часоп. „Большевик" № 4 за 1935 год.

С. Данілаў

(удзельнік совецка-польскай вайны)

# Баявыя эпізоды

Вясна 1920 года. Чорныя хмары згусціліся на заходняй граніцы Совецкай Расіі і навіслі над Совецкай Беларуссю. Антанта арганізавала трэці контррэволюцыйны паход супроць дыктатуры пролетарыята. Пачаўшы наступленне супроць Чырвонай арміі з вялікай перавагай у сілах (50 тысяч польскіх салдат супроць 15 тысяч чырвонаармейцаў), Пілсудскі на працягу двух тыдняў прасунуўся да Кіева, заняў яго і пачаў замацоўвацца на левым беразе Дняпра. Рашучае прасоўванне польскіх войск яшчэ раз падкрэслівала, што гэтае выступленне—пачатак новага вялікага паходу Антанты супроць дыктатуры пролетарыята.

> «Не падлягае сумненню,—пісаў т. Сталін неўзабаве пасля пачатку вайны,—што паход панскай Польшчы супроць Рабоча-сялянскай Расіі ёсць, па сутнасці, паход Антанты. Справа не толькі ў тым, што Ліга нацый, кіраўніком якой з'яўляецца Антанта і членам якой з'яўляецца Польшча, ухваліла, відавочна, паход Польшчы на Расію. Справа, перш за ўсё, у тым, што без падтрымання Антанты Польшча не магла-б арганізаваць свайго нападу на Расію, што Францыя, перш за ўсё, а потым і Англія з Амерыкай, усяляк падтрымліваюць наступленне Польшчы зброяй, абмундзіраваннем, грашыма і інструментамі» *).
>
> «Тое наша правіла,—гаварыў т. Ленін,—якога мы трымаліся ва ўсе папярэднія гады, павінна нязменна ўзрадзіцца і цяпер... Гэтае правіла заключаецца ў тым, што раз справа дайшла да вайны, то ўсё павінна быць падпарадквана інтарэсам вайны, і ўсё ўнутранае жыццё краіны павінна быць падпарадквана вайне, ні малейшае хістанне наконт гэтага недапушчальна» **).

На польскі фронт накіроўваюцца буйныя падмацаванні. Мабілізуюцца комуністы. На працягу мая—чэрвеня на фронт пасылаюцца каля 12 тысяч комуністаў. Значная колькасць комуністаў перакідваецца на захад і з тылавых чырвонаармейскіх часцей. Разгортваецца агромная работа па снабжэнню часцей Чырвонай арміі, дзеючых супроць Польшчы, абмундзіраваннем, снабжэннем і харчаваннем. Вядзецца растлумачальная работа сярод чырвонаармейцаў аб асаблівасцях польска-совецкай вайны, нашых мэтах і задачах у ёй.

---

*) Сталін. Новы паход Антанты на Расію.

**) Ленін, т. XXV, стар. 261.



Наша 6-я стр. дывізія з Ленінградскага фронту, пасля ліквідацыі войск генерала Юдзеніча, перакідваецца на Заходні фронт—у склад XV арміі і распалагаецца на захад ад Віцебска. Лепшыя байцы і камандзіры-комуністы пад кіраўніцтвам партарганізацыі і палітапарата праводзяць вялікую растлумачальную работу, дабіваючыся яснага разумення палітычнай сутнасці задач вайны з белапалякамі. Асноўнай палітычнай мэтай вайны з нашага боку было: адстаяць ад ворага Совецкую дзяржаву, як аплот і базу сусветнай пролетарскай рэволюцыі, дабіцца міру, каб цалкам і поўнасцю аддацца справе пабудовы соцыялістычнага грамадства.

* * *

У першай палове мая часці дывізіі сканцэнтраваліся на поўдзень ад г. Полацка для прарыву ўмацаванай паласы, якую белапалякі займалі на працягу ўсёй зімы, і для выхаду ў раён Докшыцы—Даўгінаў—Глыбокае.

Успамінаецца гарачы бой 15 мая ў раёне пагоста Туроўля і вёскі Гарадзішча. Раніцою паведамленні пешай разведкі, у якой галоўнае ядро складалі рабочыя, прадставілі план распалажэння польскіх акопаў, сістэму агня і ўмацаванняў абароны па паўночнаму берагу ракі. 52 стр. полк падрыхтаваўся да наступлення. Нястрымны рэволюцыйны энтузіязм байцоў, бадзёрае і ўпэўненае наступленне на ўмацаваную абарончую паласу праціўніка хутка наблізілі часці да берагу ракі з акопамі. 2-і батальён на чале з маладым камбатам—рабочым-комуністам т. Тіхвінавым—трапіў на адкрытую паляну, пад агонь праціўніка. Белапалякі надумаліся абмануць, аслабілі агонь, чым і паскорылі тэмп наступлення батальёна т. Тіхвінава. Падпусціўшы батальён да самага берагу ракі, палякі адкрылі заграджальны агонь па ўзлеску, адкуль наступаў батальён, адрэзаўшы гэтым шлях адыходу. Па шляху руху ўперад яны таксама адкрылі заграджальны агонь. Прыпыніўшы рух батальёна і прымусіўшы яго на месцы акопвацца, польскія войскі пачалі на выбар расстрэльваць байцоў і камандзіраў, бо мясцовасць, наседжаная імі на працягу зімы, была дасканала вывучана, вымерана і добра вядома ў агнявых адносінах. На працягу 20 мінут чырвоны батальён страціў забітымі і раненымі 45 чалавек, у тым ліку амаль усіх камандзіраў рот і палову палітрукаў. Двойчы ранены камандзір батальёна (санітар, які аказваў яму дапамогу, быў забіты), здолеў сам, падтрымліваючы ўнутранасці, што вываліліся з разарванага куляй жывата, скамандваць: «Батальёну—акапацца. Кулямётнай роце—агонь!»

Белапалякі ашукаліся, батальён не дрогнуў, а, прадаўжаючы акопвацца, вёў бой, упэўнены ў дапамозе сваіх часцей і нашай перамозе.

Абстаноўка стварылася напружаная і нямнога часу патрабавалася на тое, каб сцягнуць на ўскраіну гая ўсе кулямёты 2-х батальёнаў і рэзерва палка, адкуль аб'яднаная кулямётная батарэя з 24-х станковых кулямётаў «Максіма» па камандзе адкрыла аўтаматычны агонь з рассейваннем па акопах, брустверу і шчылінах праціўніка. Агонь з боку польскіх войск быў падаўлены і зусім спыніўся... Гэта дало нам магчымасць адвесці батальён на адпраўнае палажэнне, у гай, з новаю сілай ударыць ва фланг праціўніка і, перашоўшы праз раку ўброд, атакаваць і з поспехам выбіць яго з занятых пазіцый.

Вось на водшыбе акопа адзін баец 6-й роты поіць вадой з кансервнай бляшанкі раненага польскага салдата і гаворыць яму: «Навошта бароніш польскіх паноў, яны-ж тваю кроў п'юць»...

Але спыняцца на поўдарозе няма калі... Трэба хутка, з боем ачышчаць ад польскага памешчыка маёнтак Тураўля. Атрымліваем радасныя паведамленні, што суседнія палкі нашай брыгады таксама прарвалі ўмацаваную паласу і з поспехам прасоўваюцца ўперад. Сустрэча нашых часцей бядняцка-серадняцкімі масамі беларускага насельніцтва вызваляемых раёнаў прадстаўляла незабыўны малюнак радаснай сардэчнасці і захаплення. Мужчыны, жанчыны, старыя і малыя беглі да нас насустрач, неслі ў вёдрах малако, хлеб і апошнюю курыцу, частавалі, называючы нас збавіцелямі, выратавальнікамі сваімі і т. д.

Праваднікі па балоцістых і лясістых сцежках і падводчыкі ў абоз, які папаўняўся з сродкаў мясцовага насельніцтва, заўсёды ахвотна ішлі на дапамогу нам, і толькі кулацкая частка насельніцтва выганяла коней у лес, а вазы хавала ў салому, у гной, абы толькі не папасці ў нарад Чырвонай арміі.

Многа баявога геройства, прыкладаў адвагі і беззаветнай адданасці справе абароны дыктатуры пролетарыята праявілі за гэтыя дні байцы і начсклад нашай 6-й стр. дывізіі, якая паспяхова прасоўвалася з баямі на захад.

* * *

Начальнік нашай 6-й дывізіі т. Старажэнка адмовіўся ад прапановы накіраваць дывізію на адпачынак у рэзерв, заявіўшы: «Мы ўжо прывыклі з поспехам біць паноў, дазвольце дывізіі застацца ў складзе войск, дзеючых у першай лініі». Просьба была задаволена. Камандарм XV т. Корк у загадзе па арміі даў вельмі высокую ацэнку стану войск і баявым якасцям дывізіі, а за рэзультаты баявых дзеянняў абвясціў падзяку.

Успамінаецца эпізод бою, які адбываўся ў канцы мая ў раёне станцыі Паставы. Польскія войскі адыходзілі пад націскам часцей Чырвонай арміі і рашылі затрымацца на натуральным рубяжы ракі Дрысвята, куды сцягваліся іх часці для пераправы. Абарончыя дзеянні праціўніка набылі асабліва заядлы характар. Дзень і ноч белапалякі, не шкадуючы знарадаў, вялі артылерыйскі агонь па нашаму распалажэнню і ў напрамку руху нашых наступаючых часцей. Шырока прымяняліся запальныя артылерыйскія знарады, якія знішталі цэлыя сёлы і вёскі. Азвярэлыя і стомленыя польскія паны знішчалі па шляху свайго адыходу ўсё, што пападалася... уводзілі з сабою жывёлу, забіралі коней і абоз, разбуралі масты, дарогі і станцыйныя чыгуначныя пабудовы, палілі жыллё і склады і ўчынялі лютыя здзекі над беднейшым насельніцтвам. Праходзіць наш полк праз вёску Чарэмухі, бачым—вісіць на дрэве труп маладога пастуха, падвешанага на сук за ногі, уніз галавой. Цела аголена і спаласавана рубцамі крывавых пабояў. Даведваемся ад жыхароў, што білі і павесілі за тое, што польскім дазорам ён быў злоўлены ў лесе і западазроны ў спробе перабегчы да нашых са звесткамі аб распалажэнні польскіх войск. Павесілі яго збітага, поўжывога і не дазволілі здымаць—«хто дакранецца—будзе расстраляны»... Так і правісеў да нашага прыходу. У засценку Копцыха адзін польскі салдат

за тое, што адмовіліся даць яму малака, ударыў старуху прыкладам у бок. Яна цэлы дзень корчылася і стагнала, а вечарам таго-ж дня памерла, пакінуўшы без прыгляду двух сірат-унукаў... Многа яшчэ прыкладаў зверства і гвалтаў прышлося ўбачыць.

Раніцою на досвітку 53 стр. полк нашай брыгады атакаваў праціўніка, які распалажыўся на начлег, у раёне вёсак Андроны, Рабейкі і кароткім, але рашучым ударам адкінуў яго з занятага раёну. Аўладаўшы раёнам, полк стаў весці разведку ў напрамку ўмацаванага пункту Дзевятнікі, прасоўваючыся паступова за разведчымі часцямі. Азвярэлы праціўнік не мог дараваць сабе памылку—як ён празяваў раптоўную атаку—і, сканцэнтраваўшы агонь па занятаму палком раёну, перашоў у контратаку, ахапляючы абодва флангі наступаючага 53 стр. палка. Памочнік камандзіра палка т. Жыгаеў, якога байцы і камандзіры прazвалі «бацькам» за яго клопаты і пастаянную блізасць да байцоў, бачачы пагрозу праціўніка і небяспеку ахвату, але ўлічваючы шкодныя вынікі адыходу палка, парашыў адказаць ударам на ўдар і павёў энергічнае наступленне, увязаўшыся ў няроўны бой з перавышаўшым колькасна праціўнікам. Байцы ніколі не праяўлялі з ім пачуцця замяшанасці і трусасці, адважна і смела ішлі ў бой, знішчаючы агнём праціўніка. Біліся гранатай і штыком. Многа праяўлена было адвагі і намаганняў, многа прынесена афяр. Але вораг перасіліў колькасцю. Прышлося адмовіцца ад далейшага прасоўвання і адыйсці да падыходу іншых часцей нашай брыгады. Ззаду ўжо падыходзілі 2 палкі: правей ішоў 52 стр. полк, які зараз-жа пасля атрымання паведамленняў аб цяжкім становішчы 53 стр. палка разгарнуўся для быстрага і энергічнага ўдару ў флаг праціўніка. Завязаўся новы ўпарты бой. Адчувае праціўнік свежыя нашы сілы і іх наступальную моц, але доўга і ўпарта супраціўляецца, нясе вялікія страты і не здае захвачанай мясцовасці.

Бой пераходзіць у свой апошні і рашаючы этап—атаку. Тут мы ўбачылі, як у час атакі афіцэр польскай арміі з ашалелымі вачыма (ён быў забіты ў гэтым баі) дзікім голасам камандваў сваім кулямётам—адкрыць агонь па сваіх уцякаючых часцях, якія не маглі вытрымліваць нашай атакі і панічна кінуліся бегчы, пакідаючы нам кулямёты, патроны, абоз і інш. ваенную маемасць. Не знашлося такой сілы ў белапалякаў, каб спыніць атаку нашых часцей, носьбітаў лепшых традыцый Чырвонай арміі, якая змагаецца за справу пралетарскай рэволюцыі. Мы разбілі часці праціўніка і павярнулі яго рэшткі ў бегства, захапіўшы многа палонных і трафеяў. Калі пачалі збіраць раненых і забітых, то нашлі труп любімага «бацькі». Ён быў раздзеты і скатаваны белапалякамі... Будучы раненым у баі, адбіўшым польскую контратаку, ён адпоўз пад хлеў і лёг у цяню, а калі раён Андроны і Рабейкі быў заняты другі раз польскімі часцямі, то да падыходу нашай брыгады, яму па зверску і люта адпомсцілі за яго мужнасць і адвагу, якую ён праяўляў заўсёды і захаваў да самай сваей пагібелі.

* * *

І яшчэ адзін эпізод гэтага перыяда хочацца абрысаваць, як яркі ўзор упартасці і стойкасці часцей нашай доблеснай Чырвонай арміі.

Абарона напрамку Далгінаў—Докшыцы 18 брыгадай вялася ў раёне вёскі Бубны (8 клм на паўдн. усх. ад м. Будслаў), правей абараняліся часці 11 стр. дывізіі.

Акрамя густога слою кулямётнага агня, невялікай колькасці артылерыі і акопаў з дротавай агарожай, мы мелі асноўную перавагу—гатоўнасць войск нашых часцей біцца да апошняга патрона, да апошняй гранаты і да апошняга байца. Усе былі поўны самай цвёрдай рашучасці—зламаць упартасць наступаючага праціўніка і разбіць яго на подступах да нашай абарончай паласы, каб пасля перайсці ізноў да наступальных дзеянняў.

У перыяд з 31 мая па 2 чэрвеня неаднакратныя атакі праціўніка мужна адбіваліся часцямі 18 стр. брыгады; найбольшы цяжар гэтых удараў прышлося прыняць на сябе 52 і 53 і стр. палкам.

Неўзабаве часці праціўніка атрымалі свежае падмацаванне з пазнанскіх войск, падкінутых з тылу або знятых з іншых напрамкаў. Такім чынам кулак ударнай групоўкі ўзмацніўся і новыя лютыя атакі на нашу абарону аднавіліся. Камандванне польскіх часцей пачало прабаваць усе спосабы і сродкі нападу.

Вось што адбылося ў трывожную ноч на 2 чэрвеня. Не спіцца байцам і камандзірам, адчуваюць, што паны нешта задумалі... Цёмна і ціха. Пільна ахоўваюць свае пасты і ўчасткі ў абароне нашы геройскія часці... Што гэта?... пачулася гутарка на польскай мове... Услухоўваемся напружана, стрымліваючы дыханне і чуючы біццё ўласнага сэрца... бліжэй, гучней... яшчэ гучней і ясней. Выразна чуем гутарку, даволі свабодную і нястрыманую. У чым справа—хіба заблудзіліся ўночы ці што? Дазорцы ўеліся вачыма ў цемру, кулямётчыкі прыгатаваліся і чакаюць. Усё бліжэй, усё гучней і нарэшце бачым агеньчыкі... многа агеньчыкаў ад сігарэт, якія тарчаць у зубах пазнанскіх салдат. Пазнацы ідуць самкнутым строем проста на наш дрот. Момант цішыні, потым рэзкі бразг метала—і застракаталі дзяжурныя кулямёты «Максіма». Сярод цемры пачуліся спачатку крыкі каманд з абодвух бакоў, потым трэск кулямётаў, выбухі гранат, стогны, успышкі агнёў і ўсё злілося ў гул бою, разарваўшага цішыню цёмнай воблачнай ночы. Пазнанцы кінуліся ў атаку, але нашы часці стойка і адважна сустрэлі яе агнём і штыком. Быў такі выпадак, калі аднаго кулямётчыка 1-й кулькаманды ранілі каля кулямёта штыком у ляжку нагі, дык ён, учапіўшыся за горла свайго праціўніка, рукамі пачаў душыць яго, а калі не асілілі рукі—зубамі адкусіў яму пальцы рукі, але не аддаў свайго кулямёта. У выніку гэтага начнога бою—вялікія страты з абодвух бакоў, але перамога за намі. Абарончага ўчастка не здалі, праціўнік адышоў. Раніцою, пры аказанні дапамогі раненым, высвеілася, што наступаўшыя ўночы белапалякі былі напоены віном да поўнага ап'янення, толькі гэтым і можна было растлумачыць ненармальныя паводзіны і шалёную «адвагу» войск, якія атакавалі дрот самкнутымі калонамі. Раніцою на досвітку праціўнік зноў правёў атаку—пусціў кавалерыю на дротавую агарожу ў конным строі. Бой быў кароткім, і атака была зноў адбіта агнём нашай абароны.

* * *

У адказ на майскае прасоўванне часцей Чырвонай арміі польскае камандванне сканцэнтравала вялікую колькасць войск для аднаўлення становішча на лініі Полацк—Лепель і, ствары́ўшы часовую колькасную перавагу, павяло наступальныя баі. Нашы часці, ведучы манеўраныя баі (рухомую абарону спалучалі з контратакамі), адыходзілі. Адначасова праводзілася канцэнтрацыя войск і падрыхтоўвалася ліпеньскае наступленне часцей Заходняга фронту, бо камандванне Чыр-

вонай арміі, па ўказанню т. Леніна, яшчэ з пачатку вясны 1920 года стала ўмацоўваць нашы сілы на польскім фронце.

Успамінаюцца баі за ауладанне адпраўнымі пазіцыямі для далейшага буйнейшага сражэння трэцяй арміі, якое адбылося 5 ліпеня 1920 года. Гэтыя баі адбываліся на захад ад Кубліч, у раёне возера Сшо і ракі Соша, і насілі характар пераменнага поспеху. Польскія пазіцыі, умацаваныя дротавай агарожай, праходзілі па лініі ракі Соша. Часці нашай 6-й дывізіі распалажаны былі на ўсход ад гэтай лініі і мелі задачу—аўладаць умацаванай паласой, занятай праціўнікам. Мы неаднакраць аваlодвалі ўмацаванай паласой праціўніка і столькі-ж раз былі вымушаны з боем адыйсці і аддаць назад узятыя ўмацаванні. Умовы былі няроўныя... Мы вялі артылерыйскую падрыхтоўку, слабую з прычыны малой колькасці артылерыі і знарадаў, затым наступалі, забяспечваючы свой рух агнём кулямётаў і стралкоў; падыходзілі амаль да самага дроту. Нашчупаўшы найбольш слабое звяно ў сістэме ўмацаванай паласы, мы кідаліся ў атаку, прарывалі лінію і авалодвалі абаронай. Гэта давалася, вядома, не без афяр. І толькі вялікі рэволюцыйны энтузіязм, беззаветная адданасць і класавае разуменне сваіх задач, выключная мужнасць і самаафярнасць байцоў і начскладу забяспечылі поспех і перамогу ў баі.

Белапалякі, не жадаючы ўступаць надоўга гэтых пазіцый, хутка арганізавалі контратаку. Іх спосаб быў іншым... Сярод поўнай цішыні, калі нам прыходзіла мысль хоць крыху падсілкавацца, раптам раздаваўся безупынны грукат артылерыйскіх знарадаў на лініі нашых акопаў. Уся ўмацаваная паласа пакрывалася чорным едкім дымам, артылерыйскі агонь прымушаў усё жывое хавацца ў акопы і чакаць сканчэння «урагану». Гэтай артылерыйскай падрыхтоўкай кіравалі французскія афіцэры, камандваўшыя артылерыяй у польскай арміі. Яна раптоўна спынялася і наступала мёртвая цішыня. Але не паспяваў яшчэ рассеяцца чорны дым, як з крыкам «ура» польскія легіянеры кідаліся на нашы акопы і ў штыкавой сутычцы авалодвалі імі, закалваючы ў першую чаргу камандзіраў і кулямётчыкаў, каб не даць ім забраць з сабою нашых кулямётаў. Карыстаючыся прыкрыццём магутнага артылерыйскага агня і маскуючага дыму, яны безбалезна праводзілі збліжэнне для атакі. Праз некалькі гадзін, прывёўшы ў парадак часці, мы зноў наступаем. Зноў намаганні, афяры, выключнае геройства. Штыком і гранатай адбіваем у белапольскіх часцей акопы, займаем іх і быстра прыстасоўваем к абароне з заходняга боку. Затым праз некалькі гадзін паўтараецца артылерыйскі ўраган, чорны дым і штыкавы бой... Белапалякі зноў адбілі нас. Так некалькі раз на працягу двух сутак. Гэта адбывалася ў чэрвені месяцы, мы чакалі перагрупоўкі войск і пераходу ў рашучае наступленне па ўсяму фронту, якое рыхтавалася камандваннем Заходняга фронту.

Пад канец дня другіх сутак тэлефонаграма са штаба 18 брыгады паведаміла, што на ўчастку правага фланга ў раёне возера Сшо польскія часці прарваліся ў наш тыл, захапілі многа палонных 53 стр. палка, аўладалі акопамі і раёнам воз. Белае. Звярталася ўвага на ахову правага фланга і прапанавалася ўстрымацца ад прасоўвання ўперад да больш дакладнага выяснення абстаноўкі. Ноч застала нас у лесе. Правы фланг палка быў адкрыты, белапалякі прарваліся ў тыл і могуць абыйсці нас, захапіць нашу артылерыю, абозы з боепрыпасамі і іншыя тылы. Абстаноўка няясная, напружаная. Байцы стаміліся, даўно без гарачай стравы, пасушыцца няма дзе, бо кастры



*Прарыў 1-ай коннай арміяй белапольскага фронту (з мал. Авілава—Музей рэвалюцыі БССР)*

нельга раскладаць. Прыязджае ўночы ад'ютант са штабу з загадам: «А 6 гадзіне раніцы аднавіць становішча і аўладаць умацаванай паласой па р. Соша»... Паўтараць раніцою стары спосаб атакі, вывучаны нашым праціўнікам,—бяссэнсна, не дае поспеху. Што рабіць?... Людзі знясілены, мокрыя і галодныя, боепрыпасаў малавата; уперадзе яшчэ паўночы. Ад'ютант просіць дазволу застацца пры мне. Дазваляю. А яго ардынарац вязе ў штаб кароткае данясенне: «Загад атрыман, к 6 гадзіне раніцы будзе выканана».

Вецер шуміць, шорах дрэваў павялічвае трывогу. Кожны куст, які калыхаецца ў цемры, здаецца падыходзячым праціўнікам. Дзве бяссоныя ночы і бой напружылі нервы. Хочацца курыць, але небяспечна, праціўнік можа заўважыць... Справа вецер даносіць глухія крыкі, падобныя на стогны. Высылаем разведку ўправа, павялічваем колькасць сакрэтаў і дазорцаў. Начсклад азнаёмлен з задачай і планам дзеянняў і быстра разыходзіцца знаёміць байцоў. Пачынаем рух у бок праціўніка, трэба паспець да досвітку.

План быў просты і кароткі: падпаўзці без малейшага шораху і без адзінага выстралу, зніштожыць супраціўляючыхся штыком, а астатніх захапіць у палон, раззброіўшы. Наступаць усім разам, камандванне—аб'яднанае, «ура» не крычаць...

Рухаемся. Усё шчыльна падцягнута, каб не шумець і не бразгаць ні лапатай, ні кацялком. Кожны глядзіць на бліжэйшых суседзяў, бо далей нічога не відаць і робіць тое, што і яны, а тыя глядзяць на камандзіраў і кіраўнікоў бою. Цішыня, толькі вецер шуміць лісцямі дрэў, страсаючы каплі дажджу на зямлю. Набліжаемся да месца бою. Вось знаёмая палянка, па якой неаднакроць наступалі—здаецца на ёй яшчэ не паспела высахнуць кроў нашых загінуўшых барацьбітоў... А вось і ўзгорак з соснамі. Зараз падыдзем да акопаў праціўніка, ужо блізка... Дыханне стрымліваем, пульс часты, свядомасць і пачуцці ахоплены класавым гневам, хочацца хутчэй пакончыць з праціўнікам, разграміць яго. Па меры набліжэння, расце ўпэўненасць у перамозе... Пачынае світаць... Яшчэ не бачым, але адчуваем нейкім пачуццём блізасць дротавай сеткі і акопаў. Затрымліваемся на момант, правяраем, ці ўсё гатова і зноў рухаемся—паўзком... угледаемся і бачым акопы. Часавых і дазорцаў не відаць, значыць спяць. Раптам грукнуў выстрал—польскі сакрэт заўважыў нас. Выстрал з'явіўся для нас сігналам, мы падняліся і кінуліся на акопы... На правым флангу другі батальён часткова ўжо ўварваўся ў акопы, а першы батальён на левым флангу быў затрыманы групай кулямётаў, адкрыўшых агонь і паразіўшых дзесятка паўтара нашых байцоў... Трапілі ў сноп агня. Момант стварыўся крытычны. Першы батальён затрымаўся, рух другога батальёна прыняў няўпэўнены характар і стварылася пагроза зрыву атакі. Тады помкампалка выбег уперад і пад кулямётным агнём сам павёў у атаку 1 і 2 батальёны, захапляючы іх асабістым прыкладам і энергічнай камандай. Заняцце ўмацаванай паласы і поспех атакі былі забяспечаны. Большасць польскіх салдат у акопах спала, накрыўшыся коўдрамі; удзельнікі агнявой абароны былі быстра ліквідаваны штыком. Кароткае супраціўленне было быстра падаўлена.

У выніку гэтага бою захоплены трафеі, многа кулямётаў, патронны абоз, маемасць сувязі, інжынерная маемасць, сотні палонных і толькі што падвезенае снеданне. Яно было асабліва ў пару, бо мы

згаладаліся. А захапілі мы тут пудоў 18 белага хлеба. кофе, павідла фруктовае, сала і добра падсілкаваліся... Ардынарац ляцеў на кані ў штаб з данясеннем: «Загад выканан, умацаваная паласа па р. Соша занята намі 4.45»... За гэты бой былі прадстаўлены да ўзнагароды ордэнам Чырвонага Сцягу: Данілаў, Гладуноў, Смірноў-Ястрэбаў і камісар Афанасьеў.

* * *

Ліпеньскае наступленне часцей Заходняга фронту пачалося 5 чысла а 6 г. 30 м. раніцы. 54 стр. полк, якім я камандваў, распалажыўся на адпраўнае палажэнне ў раёне м. Бярэзіна з задачай—нанесці галоўны ўдар на Вял. Чарніцы. Напярэдадні агульнага наступлення камандарм III тав. Лазарэвіч з членам РВС тав. Міханошыным аб'язджалі фронт арміі і правяралі гатоўнасць і становішча часцей к рашучаму сражэнню, а раніцою а 5 г. 30 м. па ўсяму фронту пачалася артылерыйская падрыхтоўка... Гэта была магутная кананада, якая разбурыла сістэму польскай абароны.

Ясная раніца... Часці бадзёрыя, боездольнасць войск—высокая. «Не здабраваць сёння панам, здорава дамо»—гавораць кулямётчыкі, якіх учора пахваліў камандарм. Любоўна і клапатліва яшчэ раз аглядаюць яны свае кулямёты, ленты і запасныя часткі. Вось і пяхота ўжо рухаецца ўперад, рыхтуецца да атакі. Ужо агонь з боку праціўніка. Трэба адшукаць цэлі і падавіць іх агонь, паражэнне павінна быць хуткім і рашучым. Але як добра замаскаваліся прахвосты—не відаць. Кулямётчыкі ідуць на хітры манеўр: некалькі чалавек у баку ад кулямёта падняліся ва ўвесь рост і пачалі хадзіць, другія каля кулямётаў глядзяць у бінокль і заўважаюць рух паасобных кропак у праціўніка. Белапалякі па ідучых адкрываюць агонь, а наглядчык засякае месцы распалажэння замаскаваных агнявых сродкаў праціўніка. Кулямётчыкі зараз-жа адкрываюць агонь... Пяхота прасоўваецца далей і набліжаецца да рубяжа атакі. Яшчэ 3—5 мінут і артпадрыхтоўка спынілася... пашлі ў атаку. Дружна і магутна раскатваецца па фронту працяглае «ура». Белапалякі не ў сілах, відаць, стрымаць магутную лаву нашых атакуючых войск і, аказваючы нясмелае супраціўленне, адкатваюцца. Нашы часці праследуюць і ўкліняюцца ў глыбіню абароны... «Глядзі пільна за флангамі»—перадаюць камандзіры атрыманы загад. І сапраўды, трэба глядзець пільна, бо люты і хітры праціўнік можа адплаціць за недагляд і нядбайнасць.

Чуем злева на суседнім участку—17 брыгады ажыўленне, узмацненне агнявога бою, крыкі «ўра» і артстральбу. Прыглядаемся—нешта падазронае... бягуць назад. «Праверыць—у чым справа і зараз-жа далажыць». Паскакалі коннікі і, вярнуўшыся праз некалькі мінут, далажылі, што сільная польская засада атакавала з тылу 50 стр. полк, захапіла ў палон шмат чырвонаармейцаў разам з камісарам палка. Некаторыя роты прышлі ў замяшанне і бягуць назад, могуць нас падвесці, агаляючы наш левы фланг... Аддаецца загад: «Зараз-жа дапамагчы за кошт рэзерва і аднавіць становішча на левым флангу»... Едзем з камісарам на месца няўстойкі ў суседа, затрымліваем і варочаем бягучых людзей назад. Арганізуем на месцы дапамогу за кошт нашых левафланговых часцей і рэзерваў... Пералом створан, і зноў хваля людзей пакацілася ўперад... Але трэба-ж палонных адбіць назад. Паскараем тэмпы наступлення свайго палка, вылучаем абыходную групу з задачай—адрэзаць шлях ад уваходу, апярэдзіўшы абыходам праціўніка.

Захвацілі адданую суседам паласу і, падбіраючы раненых, знашлі камісара 50 стр. палка, тав. Тіхамірава, ледзь жывога. Яго зусім скалечылі белапалякі, а калі пачалі адступаць пад нашым націскам, то выкалалі яму вочы. Звярыныя пачуцці да комуністаў выклікалі зверскія адносіны і да нашых палонных.

Бой прадаўжаецца. Полк з поспехам прасоўваецца ўперад. Ад абыходнай групы атрымана данясенне. што яна дасягнула воз. Мядзіол, з якога бярэ свой пачатак рака Бярэзіна, і ідзе на пераправу, дзе павінна перахваціць адступаючага праціўніка з палоннымі.

Час падыходзіў ужо к поўдню, стаяла гарачыня... Мы з ваенкомам на спацеўшых конях нагналі 2 батальён тав. Качава, а затым і высланую з яго батальёна абыходную групу і былі ўдзельнікамі таго бою, які вяла рота, узмоцненая станковымі кулямётамі.

Вузкая дарога і пераправа праз раку Бярэзіну ляжыць сярод ляснога масіва; каля пераправы—палянка і мокрыя лугі. З лесу па ўсходняму берагу чакаем з'яўлення адступаючых белапольскіх часцей. Нашы кулямёты і стралкі замаскаваліся і гатовы адкрыць агонь. Але як-жа правесці абстрэл белапольскай калоны, каб не перабіць сваіх палонных, узятых палякамі?.. Рашэнне прынята. Высылаецца група палітбайцоў з такой задачай: распалажыўшыся ў засадзе на ўзлеску, высачыць калону і даць залпавы стрэл—сігнал для адкрыцця агня па праціўніку, або запаліць кучу яловых лапак і дымам сігналізаваць рух калоны нашых раззброеных палонных пад канвоем праціўніка, які будзе прапушчан праз пераправу, а затым узят у палон, або знішчан на нашым заходнім беразе без адкрыцця агня. Засада палітбайцоў заняла сваё месца. Цягнуцца ў чаканні доўгія мінуты, погляды накіраваны ў бок чакаемага сігналу... А вось і дым... Пачуліся два групавыя залпы. Значыць тое і другое: канваіры вядуць нашых палонных, а за імі рухаюцца адступаючыя польскія войскі, абозы і коннікі.

Мінута размышлення... Што рабіць? Падпусціць бліжэй? Ініцыятыва камандзіра і байцоў Чырвонай арміі заўсёды ідзе на выручку ў трудных і нечаканых выпадках. Начальнік заставы быстра ацаніў становішча і па ўласнай ініцыятыве падпускае да пераправы калону з палоннымі, а затым адкрывае ў тыл адступаючых войск агонь з узлеску. Палонныя ўжо на пераправе, паскараюць рух, бягуць з канвоем на наш бок ракі—прапускаем без агня. Тым часам калона праціўніка, узятая пад абстрэл нашай засадай, залягла, адстала і пачала адстрэльвацца; адначасова к месцу засады вылучана ўзмоцненая разведка. Разведка набліжаецца. Яшчэ мінута і калона палонных падышла шчыльна да нас. Канвой невялікі і лёгка ліквідуецца нашымі байцамі, якія крычаць: «канвой—к назе, палонным—у зброю»...

Адначасова на процілеглым беразе адкрыт кулямётны агонь па праціўніку, затрыманаму засадай. Праціўнік замітусіўся, збянтэжыўся, не ведае, адкуль абараняцца... З тылу і фронту—агонь... Абозы ў паніцы кінуліся назад да лесу. Стыхійна пацягнуліся туды-ж і польскія «ваякі».

Наступленне часцей нашай дывізіі тым часам упэўнена і паспяхова развівалася. Часці прасоўваліся ў глыбіню абароны, праследуючы праціўніка. 17 брыгада праследвала ў межах сваіх граніц і вышла да месца апісанага эпізода; убачыўшы бягучыя польскія войскі, яна ўдарыла іх агнём і манеўрам з усходу... Белапалякі зноў кінуліся к Бярэзіне на пераправу, але магутны сноп кулямётнага агня зава-

рачвае бягучых ў бок або кладзе на зямлю, утвараючы груду трупаў каля пераправы... Людзі кідаюцца ў ваду: хто плавае, хто тоне. Перавернутыя павозкі, крыкі «ура», стогны раненых і ахопленых панікай людзей, узятых ў ціскі з двух бакоў часцямі Чырвонай арміі... Праціўнік разгромлен, ўзят ў палон разам з баявой маёмасцю. Байцы 50 стр. палка вызвалены з палону. Манеўр удаўся. Але баявая задача дня яшчэ не скончана. Трэба безадкладна прадаўжаць праследванне праціўніка да поўнай яго ліквідацыі.

Так пачаўся дзень 5-га ліпеня 1920 года, першы дзень паходу на Варшаву 54 стр. Чырвонасцяжнага палка.

* * *

Далёка засталіся ззаду граніцы радзімы—Совецкай Беларусі... Наступаем па тэрыторыі Польшчы.

Тры дні 17 брыгада фарсіруе раку Нёман ля м. Масты, і кожны раз, пакідаючы многа афяр, адбітая польскімі часцямі, адыходзіць на адпраўнае палажэнне. Белапалякі выключна стойка і ўпарта абаранялі прыродны рубеж—раку. Камандваннем 6 дывізіі ўскладзена задача фарсіравання на 18 брыгаду ў раёне ўпадання ракі Шчары ў раку Нёман з мэтай глыбокага абыходу м. Масты. 54 стр. палку загадана на досвітку фарсіраваць раку, скаваць праціўніка боем на тым беразе і забяспечыць пераправу дывізіі. Уночы ўважлівая разведка і пошукі бродаў... На досвітку конныя пераправляюцца, ставячы вехі зігзагападобнага броду... Полк, прайшоўшы раку па горла ў вадзе, ужо на тым беразе. Без намаганняў зняты польскія вартавыя заставы, разведаны ўмацаванні раёна Новасёлкі.

Праціўнік, упарта супраціўляючыся, пакінуў умацаваны раён Новасёлкі і пачаў адыход, калі 53 стр. полк пераправіўся ўжо на заходні бераг. Бой быў гарачы, але не доўгі. Мокрыя людзі збіралі кулямёты, рыхтавалі ленты і прыводзілі сябе ў парадак, пакуль разведка пачала бой з абаронай праціўніка. Вялікія сілы праціўніка і агнявая перавага пагражала поўным знішчэннем нашай разведкі. Марудзіць было-б злачынна. Начальнік першай разведкі тав. Цветкоў геройскі ўварваўся з групай разведчыкаў у раён абароны, захапіў вышыню з кулямётамі і ўтрымліваў яе да падыходу свайго палка, стойка адбіваючы польскія контр-атакі. Байцы ўжо былі засталіся без патрон, а кальцо акружэння ўсё сціскалася...

Выхаду іншага не было, як прабівацца штыком; інакш палон і поўнае знішчэнне... Яшчэ апошнія 2—3 залпы, і трэба вырывацца з кальца. Але ў гэты час сільны і рытмічны агонь кулямётаў нашага палка, які пераправіўся праз раку, уліў бадзёрую ўпэўненасць і адчуванне забяспечанай перамогі. Энергічная і магутная атака адбылася адразу-ж пасля агнявой падрыхтоўкі. Часці пераправіліся, і рушылі поўным ходам у абход. Але праціўнік адчуваў свой лёс і пачаў адыходзіць, пакінуўшы м. Масты, ахопленае полымем. 17 брыгадзе і ўсёй дывізіі пераправа была забяспечана.

Пачынаецца восень. Сады польскіх памешчыкаў поўны пераспелымі пладамі—убраць не паспелі да нашага хуткага і нечаканага прыходу. Чырвоная армія ў сваім магутным, непераможным руху падышла ўжо да сцен Варшавы. Мы фарсіравалі раку Нораў ля месца зліцця яе з Бугам і занялі, пасля напружанага бою, гор. Сіроцк. Увечары бачым ўжо залітую морам агнёў Варшаву. Заўтра

яшчэ адзін рашучы бой, аўладанне крэпасцю Зегрж і пад вечар павінны быць у Варшаве. Там—брацкі пролетарыят.

А колькі слаўных учынкаў засталося ззаду, якіх герояў страцілі. Многія з іх заслужылі рэволюцыйную ўзнагароду—ордэн Чырвонага Сцягу. Засталіся байцы не ў вялікім ліку (тройчы палкі перафармоўваліся), але затое самыя загартаваныя, выпрабаваныя, стойкія і вопытныя. Адчуванне стомленасці пагашаецца воляй к перамозе ворага і ўпэўненасцю ў перамозе социялізма.

...Тры дні і тры ночы цяжкай барацьбы за далейшае прасоўванне да Варшавы, потым барацьба за ўтрыманне гор. Сіроцка і нарэшце адыход часцей за р. Нораў—на Гродна.

Безупынныя дажджы... усе наскрозь прамоклі, ні ў кога нават сухіх запалак няма. Праціўнік асцервянеў, абнаглеў і праследуе. Яму значна дапамагаюць кулацкія слаі насельніцтва арганізуючы атрады і засады. Ад тылоў мы адрэзаны. Забяспечанне огнепрыпасамі і харчаваннем—з перабоямі. Сувязь паміж дывізіямі перарвана, адыход арміі праходзіць у выключна цяжкіх умовах.

* * *

Гараць масты праз раку Нёман ля Гродна, часці арміі адыходзяць на гор. Ліду. Марудны цяжкі рух з ар'ергарднымі баямі... Прывал пад мястэчкам Лебеда. Шлях нашага прасоўвання на ўсход перахвачан польскімі часцямі. Справа—балота, злева—чыгунка з адкрытымі подступамі, але добра ўмацаваная. Наша брыгада знялася з прывалу і ў калоне на маршы трапляе пад агонь праціўніка. Выбіраць няма чаго... Трэба прабівацца. Усе спешваюцца і пераходзяць густым ланцугом у наступленне, і камандзіры і байцы ўсе разам. Няма месца для разгортвання, доўга, напружана з вялікай упартасцю цягнецца бой. Многа страт з абодвух бакоў... Агонь то паслабляецца, то зноў узмацняецца. Гінуць найлепшыя байцы, беззаветна адданыя справе абароны рэволюцыі. Праціўнік не здаецца і моцна трымае нас. Брыгада цалкам пераходзіць ў атаку... яшчэ больш страчана блізкіх і дарагіх байцоў, загартаваных ў баях...

Зломлен і адкінут праціўнік, выхад на ўсход адкрыты. Брыгада вырвалася з акружэння і збавілася ад палону. К ночы праціўнік зноў перарэзаў шлях і чакае падыходу нашых дывізій, якія ідуць ззаду—там яшчэ амаль уся трэцяя армія засталася.

Загадана брыгадзе трымаць ноч і дзень заняты рубеж і пры падыходзе часцей арміі ўдарам з тылу садзейнічаць прарыву нашых часцей з акружэння. Трымаемся вечар, ноч і чакаем падыходу сваіх часцей. У тыле нешта не зусім добра. Зноў бой—і мы бярэм у палон польскіх салдат і афіцэраў. Праходзіць ноч, потым дзень... стаім на месцы... зноў трывожная ноч... Прыслухоўваемся, пільна і настарожана... А 3-й гадзіне з захаду чуем гукі далёкага бою, нашы прабіваюцца... На дапамогу арганізуем некалькі ўдарных груп з разведкай уперадзе і наносім удары праціўніку з тылу. На досвітку пачалі падыходзіць часці III арміі з прарванага кальца. І калі пад вечар скончыўся рух калон на ўсход, наша дывізія, завяршаючы рух арміі, пашла ў ар'ергардзе, стрымліваючы безупыннымі баямі праследуючага праціўніка.

* * *

Даджлівая восень... Дывізія распаложана паблізу граніц Беларусі. Наша брыгада абараняецца ў раёне Маладзечна, стрымліваючы не ў меру зарваўшыхся польскіх паноў. Полк—на абароне лініі р Уша—в. Мясота і м. Краснае. Абнаглелі польскія часці, кожны дзень вядуць нахальныя разведчыя вылазкі і налёты на абарону нашых часцей...

Адбіваем наскокі, многа раненых і забітых пакінулі польскія войскі па багністых далінах рэк Лоша і Уша... У адну цёмную ноч абыходам з тылу на ўчастку 53 суседняга палка ўрываюцца белапольскія войскі ў вёску Рэдзіца, дзе распаложан штаб брыгады.



**Штаб 1-ай коннай.**

Паспеў па тэлефону з комбрыгам т. Сурковым выясніць тылавы рубеж абароны палка—па рацэ Вязаўка, што на поўнач ад м. Радашковічы, а далей сувязь спынілася... Праз 10 мінут чую ў адчыненае акно стральбу па вёсцы Лашковічы, ў якой знаходзіўся штаб майго палка, а потым крыкі «ура»... У вёску з тылу ўварваліся польскія войскі... Трэба прабівацца па лясістай дарозе да сваёй брыгады ва ўмовах цёмнай ночы, пры расцягнутасці палка ў абароне на шырокім фронце; спяшацца заняць тылавы рубеж абароны. Прабрацца туды можна або прама праз распалажэнне польскіх войск—13 вёрст, або лепш у абыход — 24 вярсты. Прасоўваемся ў бок фронту, на распалажэнне польскіх тылоў—гэты рух вырашае задачу збору палка. Уночы праходзім м. Краснае, занятае палякамі, і накіроўваемся на Радашковічы к лініі тылавога рубяжу нашай абароны. Раніцою дасягнулі тылавога рубяжу, але сваіх войск не знайшлі, мясцовага насельніцтва амаль няма, звесткі няясныя і блыта-

ныя... Знаходзім разведку 53 стр. палка і даведваемся, што раніцою ў раёне ракі Вязоўка адбываўся бой нашых часцей з польскай кавдывізіяй. Бой скончыўся ў карысць праціўніка з вялікімі стратамі для нашых часцей. Становішча дрэннае... Дзе шукаць сваe войскі, дзе праціўнік—невядома. Бярэм маршрут на м. Крайск і па дарозе сустракаемся з польскай кавалерыяй, з якою полк уступае ў бой.

Перасякаючы скрыжаванне дарог на ст. Хаценчыцы, справа выкрылі кавалерыю, якая калонай выходзіла з лесу... Даем загад начальніку коннай разведкі: «праверыць, чыя кавалерыя і далажыць». Паскакаў разведчык, але не вярнуўся—на вачах быў узят у палон. Кавалерыя—польская. Яна хутка разгортваецца, вылучае 3 эскадроны ў абыход, каб перасячы нам шлях прасоўвання. Часці спешваюцца і ўжо адкрылі агонь з кулямётаў. Нас раздзяляе каля кіламетра. З намі ў складзе калоны палка артылерыя, якая мае загад—адкрыць агонь па калоне польскай кавалерыі на карцеч. Батальён тав. Камарова ўжо разгарнуўся, страляе на-хаду і быстра наступае ў бок праціўніка. Бой прашоў хутка. Пасля двух спроб атакаваць нас у конным страі, праціўніку прышлося пад агнём нашай артылерыі і 2 батальёнаў, пакінуўшы некалькі чалавек забітымі і раненымі, адыйсці ў лес назад... Коні і людзі скрыліся, а мы пашлі далей. Бачым, некалькі парных груп вышлі з лесу на поле, дзе засталіся іх раненыя... ну няхай убіраюць, гэта напэўна санітары. Праз некалькі мінут гэтыя «санітары» адкрылі па нашай калоне кулямётны агонь, а неўзабаве за імі мы ўбачылі 6 ліній разгорнутай кавалерыйскай лавы, якая кінулася ў наш бок... Замітусіліся кулямётчыкі на павозках, бягом разгортваецца пяхота, на галопе артылерыя падымае перадкі, гучныя і кароткія каманды спешыўшыхся камандзіраў і... полк вядзе гарачы бой, адбіваючы другую атаку польскай кавдывізіі. Рвуцца знарады, вішчыць шрапнель і з гукам кулямётаў пераклікаюцца залпы стралкоў.

Першая і другая лавы адбіты і павярнулі назад. Наступныя тры ідуць побач. Ужо дастаюць пяхоту... Ужо пачынаецца рубка... Але не вытрымалі. Пакідаючы трупы коней і людзей, таксама паварачваюць... Яшчэ адна нясецца хутка і ліха, дасягнула правага фланга нашай пяхоты і арт. пазіцыі, артылерыя змоўкла. Тады наша конная разведка разам з артылерыйскімі коннікамі пад прыкрыццём кулямётнага агня, кінулася ў атаку і пад камандай тав. Гуляева адбіла аруддзе назад. Другая атака кавалерыі была адбіта, і полк пашоў далей—на м. Крайск для злучэння з часцямі сваёй дывізіі. Гэта быў апошні бой 54 стр. Чырвонасцяжнага палка з польскімі часцямі на Заходнім фронце.

А потым—перамір'е з Польшчай, вывад часцей дывізіі за дэмаркацыйную лінію, барацьба з бандытызмам ў раёнах: Плешчаніцы, Гайна і Лагойск.

Чырвоная армія пад кіраўніцтвам партыі Леніна адстаяла краіну Советаў—бацькаўшчыну працоўных усяго свету—ад акружэння сусветнага імперыялізма. Працоўныя совецкай дзяржавы дабіліся міру, атрымалі магчымасць разгарнуць будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі. Мірны дагавор з Польшчай быў падпісан на ўмовах, якія ўрэшце аказаліся менш выгаднымі для Польшчы, чым прапанаваныя ёй да пачатку вайны. Польскія імперыялісты прымушаны былі ачысціць

значную частку Беларусі са сталіцай яе—Менскам і радам іншых гарадоў. Вось чаму Владзімір Ільіч заўсёды падкрэсліваў, што «вайна скончылася ў нашу карысць», што «Совецкая рэспубліка аказалася пераможцай».

Мінула 15 год. З дробна-сялянскай поўразбуранай і некультурнай краіны Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка ператварылася ў культурную індустрыяльную краіну, краіну буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, арганізаванай на базе калектыўнай працы і навейшай тэхнікі. Беларуская рэспубліка і яе лепшыя кіраўнікі—большэвікі тт. Гікало і Галадзед—узнагароджаны ордэнам Леніна. Гэтыя перамогі і поспехі забяспечаны цвёрдым і няўхільным правядзеннем генеральнай лініі Комуністычнай Партыі большэвікоў пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта на чале з геніяльным правадыром тав. Сталіным.

Я. Шнэйдэр

# Заходняя Беларусь пад ярмом польскага імперыялізма

Працоўныя масы Совецкай Беларусі і ўсяго Совецкага саюза святкуюць 15-годдзе вызвалення Беларусі ад белапалякаў ва ўмовах агромнейшых дасягненняў на ўсіх участках будаўніцтва соцыялізма. Совецкая Беларусь з адсталай аграрнай краіны ператварылася ў перадавую індустрыяльную, калгасную рэспубліку.

15 год мінула, як Совецкая і Заходняя Беларусь сталі на розных шляхах, развіваліся ў двух процілеглых напрамках. Совецкая Беларусь з адсталай калоніі царскай імперыі стала ў рады перадавых ордэнаносных рэспублік Советаў, у той-жа час Заходняя Беларусь як была, так і засталася забітай, адсталай, прыгнечанай, усё больш дэградуючай краінай у сістэме капіталістычнай Польшчы.

Тав. Сталін на XII з'ездзе партыі ў красавіку 1923 г., указваючы на культурную і эканамічную адсталасць акраін былой царскай імперыі, паставіў перад партыяй задачу падцягнуць да ўзроўню перадавых раней прыгнечаныя рэспублікі.

> «Неабходна—сказаў т. Сталін,—каб акрамя школ і мовы, расійскі пролетарыят прыняў усе меры к таму, каб на акраінах і ў адстаўшых у культурных адносінах рэспубліках, а адсталі яны не па сваёй віне, а таму што іх разглядалі раней як крыніцы сыравіны, неабходна дабіцца таго, каб у гэтых рэспубліках былі створаны ачагі прамысловасці» *).

Красамоўным довадам ажыццяўлення гэтай сталінскай праграмы ў нашай рэспубліцы могуць служыць наступныя лічбы: калі па Совецкаму саюзу рост прамысловай прадукцыі ў першае пяцігоддзе складаў 219 проц., то гэты рост у Совецкай Беларусі складаў 418,8 проц.

Размах эканамічнага і культурнага развіцця БССР як нельга лепш сведчыць аб трыумфе сталінскай нацыянальнай палітыкі. Тым часам у Заходняй Беларусі, калоніі польскага імперыялізма, пануе неймавернае нацыянальнае прыгнечанне, глыбокі заняпад усяго эканамічнага, гаспадарчага і культурнага жыцця. Больш таго—глыбіня эканамічнага крызіса, дэградацыі культуры ў Заходняй Беларусі непараўнальна большая, чым у самой Польшчы.

Эканамічны крызіс у Заходняй Беларусі значна больш глыбокі, чым у Польшчы. У Польшчы ў снежні 1934 г. на 412 тыс. занятых рабочых апрацоўваючай цэнзавай прамысловасці было 414 тыс. афі-

*) Сталін, „Марксізм і нац.-каланіяльнае пытанне", стар. 117.

цыяльна зарэгістраваных беспрацоўных. Гэта значыць, што на кожнага занятага рабочага прыпадае ў сярэднім адзін зарэгістраваны беспрацоўны. Затое ў цэнзавай прамысловасці Заходняй Беларусі на 15.600 занятых рабочых у снежні 1934 г. было 28.600 зарэгістраваных беспрацоўных, або на кожнага рабочага прыпадала амаль 2 зарэгістраваных беспрацоўных. Розніца была-б яшчэ больш рэзкай, калі-б мы параўналі не афіцыяльна зарэгістраваных беспрацоўных, а фактычную колькасць беспрацоўных у горадзе і вёсцы.

Асабліва вялікае беспрацоўе сярод моладзі, сярод так званых «народжаных беспрацоўных». Аб гэтай катэгорыі беспрацоўных «Кур'ер Віленскі» (II/IV—1935 г.) піша наступнае: «Вырастае новае пакаленне моладзі, якое ніколі не працавала і не ведае, што значыць выконваць штодзённую сістэматычную работу. Гэта народжаныя беспрацоўныя. Канчаючы школу, яны загадзя ведалі, што работы не атрымаюць і не маюць надзей дастаць яе, ведаюць, што нічога іх у жыцці не чакае».

Заработная плата рабочых Зах. Беларусі значна ніжэй, чым заработная плата рабочых Польшчы, займаючых, як вядома, адно з апошніх месц у свеце па ўзроўню заработнай платы. Сярэдняя тыднёвая зарплата рабочых у Зах. Беларусі складае 10—15 злотых у той час, як у Польшчы—25—30 злотых. Расходы рабочых на прадукты першай неабходнасці значна скараціліся. Згодна даным інстытута кан'юнктуры ў Польшчы, спажыванне рабочых у 1933 г. складала 58 проц. у параўнанні з 1929 г. Пакупная здольнасць усіх рабочых у горадзе ўпала да 52 проц. у параўнанні з 1929 г. Спажыванне дробнага сялянства ўпала ў параўнанні з 1929 г. на 46,1 проц.

Фашысцкая газета «Ілюстраваны Кур'ер», параўноўваючы Заходнюю Беларусь з Пазнанскай обласцю, падкрэслівае, што «Пазнанскае ваяводства (Польшча) і Палессе (Зах. Беларусь)—гэта проста зусім іншыя гістарычныя фармацыі, іншыя грамадска-гаспадарчыя структуры, іншыя тыпы гаспадарання. Палессе—гэта XIII або XIV стагоддзе, Пазнанскае ваяводства—гэта XX век».

У той час, як гадовае спажыванне жалеза складае ў Польшчы ў сярэднім 3,56 кгр на 1 чал., у Зах. Беларусі яно складае ўсяго толькі 0,8 кгр; вугалю ў Зах. Беларусі спажываецца ў сярэднім 23 кгр на аднаго жыхара, у Польшчы—1.282 кгр; цэменту ў Зах. Беларусі—3,19 кгр, у Польшчы—1621 кгр; цукру ў Зах. Беларусі спажываецца 3,96 кгр, і ў Польшчы—да 25,72 кгр; штучных угнаенняў у Заходняй Беларусі прыпадае 0,3 кгр на аднаго жыхара ў той час як у Польшчы ў сярэднім—14,12 кгр. Сярэдняя ўраджайнасць з 1 га ў Зах. Беларусі складае 11 квінталаў пшаніцы, а ў заходніх ваяводствах Польшчы (Пазнанскае, Паморскае, Сілезіі)—20 квінталаў.

На фоне дэградацыі культуры ў Польшчы асабліва вызначаецца заняпад культурнага жыцця ў Зах. Беларусі. У Зах. Беларусі цэнтр школы знаходзіцца ў радыусе 29 клм у той час, як у Сілезіі ў сярэднім—у радыусе 3 клм. Няграматныя ў Зах. Беларусі складаюць 70 проц. насельніцтва, а ў паасобных вясковых паветах 80—90 проц. У заходніх ваяводствах Польшчы—няграматных 10—20 проц. насельніцтва.

Совецкая і Заходняя Беларусь маюць аднолькавыя прыродныя багацці: торф, лес, лён. Прыгледзімся бегла к таму, што кожная з іх здолела за 15 год стварыць на базе аднолькавых прыродных багаццяў.

У Совецкай Беларусі на базе тарфяных багаццяў выраслі буйныя тарфяныя заводы. Энергія торфу ператвараецца ў электрычную. Торф скарыстоўваецца і ў прамысловасці, і ў сельскай гаспадарцы, і ў лекавай справе.

У Зах. Беларусі ёсць агромнейшыя тарфяныя багацці, да якіх не датыкалася яшчэ чалавечая рука. Так, напрыклад, на Віленшчыне ёсць тарфяныя залежы, глыбіня якіх дасягае 9 і больш метраў. 21 проц. усёй паверхні Віленшчыны займаюць тарфяныя залежы. Аднак, тарфяныя багацці Віленшчыны не скарыстоўваюцца.

Лясныя багацці Зах. Беларусі драпежніцкім чынам знішчаюцца. Уся лясная прамысловаць Зах. Беларусі займаецца амаль выключна загатоўкай пярвічна апрацаваных лесаматар'ялаў для экспарта. Вывозіцца цэлюлознае і запалкавае дзерава. Але затое закрытымі стаяць фабрыкі паперы, ліквідаваны ўсе запалкавыя фабрыкі, за выключэннем адной у Пінску. У сувязі з крызісам на лясным рынку, лесапрамысловасць Зах. Беларусі перажывала глыбокі крызіс. Аднак, у 1933 г. у Заходняй Беларусі наглядаецца некаторае ажыўленне ў лясной прамысловасці. Аналіз вывазу лясных матар'ялаў ускрывае сутнасць гэтага ажыўлення.

За апошні час значна ўзрос экспарт неапрацаванага дзерава ў параўнанні з апрацаваным. Адначасова, аднак, змяншаецца вываз апрацаванага дзерава. Прычына ажыўлення, наглядаемага ў лясной прамысловасці Зах. Беларусі, крыецца ў экспарце неапрацаванага дзерава. Справаздача Віленскай прамыслова-гандлёвай палаты за 1933 г. прама піша: што «некаторае палепшанне гаспадарчага становішча ў акрузе палаты мела месца перш за ўсё ў некаторых экспартных галінах» (справаздача палаты за 1933 г. стар. 13). У гэтай-жа справаздачы падкрэсліваецца, што «палепшанне становішча не адносіцца амаль зусім да ўнутранага рынку».

Пад часовым палепшаннем становішча лясной прамысловасці Заходняй Беларусі крыецца ні што іншае, як паглыбленне каланіяльнага характару эканамічнай палітыкі польскага імперыялізма, які ўсякімі спосабамі імкнецца ўзмацніць экспарт лесу з Зах. Беларусі.

Прамысловасць Зах. Беларусі была ў даваенны час больш развіта, чым на тэрыторыі цяперашняй БССР.

У адным Віленскім ваяводстве было перад вайною 3 прадпрыемствы з колькасцю звыш 1.000 рабочых на кожным. Цяпер у Совецкай Беларусі колькасць рабочых аднаго гіганта большая, чым колькасць занятых рабочых у цэлым ваяводстве. Адна віцебская фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» мае звыш 4 тыс. занятых рабочых, у той час, як па ўсяму Віленскаму ваяводству занята ў цэнзавай прамысловасці каля 3 тыс. рабочых. Адна электрастанцыя ў Совецкай Беларусі «Белгрэс» мае такую магутнасць, як усе электрычныя станцыі ў Заходняй Беларусі разам узятыя.

Падобных параўнанняў можна прывесці вельмі многа па ўсіх галінах прамысловасці і па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі. Адзначым коратка для прыкладу, што ў Совецкай Беларусі пабудаваны такія гіганты, як магілёўскі цэлюлозны завод, як буйнейшая ў Саюзе фабрыка паперы ў Добрушы, як менскі завод імя Молатава, бабруйскі камбінат і іншыя. У Зах. Беларусі за гэты час ліквідавана адзіная мэблявая фабрыка ў Вільні. У той час, як прадукцыя паперы ў Зах. Беларусі складала ў апошнія гады ад 1 да 2 тысяч тон, у Совецкай Беларусі яна дасягнула ў 1935 г. прыблізна 50 тыс. тон.

У БССР пабудаваны такія металічныя заводы, як «Гомсельмаш», імя Варашылава, Кірава і іншыя. У Зах. Беларусі ў 1929 г. усяго было занята ў цэнзавай прамысловасці каля 500 металістаў, у апошні год у сярэднім каля 200. Больш буйныя металічныя фабрыкі, якія былі ў Зах. Беларусі, або поўнасцю ліквідаваны, або скарацілі сваю прадукцыю да мінімума з-за немагчымасці канкураваць з польскімі прамысловымі вырабамі. Чыгуначныя майстэрні перавозяцца па стратэгічных меркаваннях у цэнтральную Польшчу. Ліквідацыя мізэрных рэштак металічнай прамысловасці праводзіцца пры дапамозе адпаведнай тарыфнай палітыкі, якая падаражае транспарт сыравіны і прывілегіруе прывоз у Заходнюю Беларусь металічных вырабаў. У рэзультаце гэтай палітыкі з 1928 па 1933 год прывоз гатовых металічных вырабаў у г. Вільню амаль не змяніўся, затое прывоз сыравіны для металічных фабрык зменшыўся ў 10 раз. Каланіяльны характар палітыкі польскага імперыялізма ў Зах. Беларусі праяўляўся, як у драпежніцкай эксплаатацыі Зах. Беларусі, як рынку сыравіны, так і ў згортванні некаторых галін мясцовай апрацоўваючай прамысловасці.

Да вайны ў Савецкай Беларусі было занята 15 тыс. прамысловых рабочых, а ў 1933 г.—звыш 115 тыс., у Зах. Беларусі колькасць занятых рабочых у 1934 г. упала да 20 тыс., прычым няма ні аднаго прадпрыемства, на якім было-б занята звыш 1 тыс. рабочых.

Польскі імперыялізм імкнецца забяспечыць рынак збыту ў Зах. Беларусі для апрацоўваючай прамысловасці Польшчы. З гэтай мэтай некаторыя картэлі ўстанавілі на Зах. Беларусі спецыяльныя, так званыя, «крэсавыя цэны», якія павінны падарваць канкурэнтную здольнасць мясцовай прамысловасці.

Папяровая прамысловасць Зах. Беларусі амаль поўнасцю ліквідавана. Справаздача Віленскай палаты за 1933 г. заяўляе, што акруга палаты не ўдзельнічала ў вытворчасці паперы. З двух фабрык паперы, існаваўшых у 1932 г., фабрыка ў Новаверках бяздзейнічае ўжо многа год, не маючы ніякай магчымасці процістаўіцца картэлю «Цэнтрапапера». Фабрыка ў Новай Вілейцы абанкроцілася ў 1932 г. Тое-ж самае маем у запалкавай прамысловасці. Запалкавая манаполія прывяла ў апошнія гады да ліквідацыі двух фабрык запалкавых саломак у Мерах і Новасвенцянах, апрача яшчэ раней ліквідаваных запалкавых фабрык у Гродна і Вільні.

* * *

Окцябрская рэволюцыя паклала канец памешчыцкай і кулацкай кабале ў вёсцы, канфіскавала памешчыцкую зямлю, перадала яе працоўнаму сялянству. У наступныя гады рэволюцыі, у перыядзе разгорнутага наступлення па ўсяму фронту на базе суцэльнай калектывізацыі, кулацтва было ліквідавана як клас. Сялянскія масы пайшлі па шляху, указанаму Леніным—Сталіным, па шляху калектывізацыі—к заможнаму жыццю. Сельская гаспадарка БССР, як і ўсяго Савецкага саюза, з'яўляецца самай буйнай і найбольш перадавой у свеце.

Аграрная палітыка польскага фашызма ў Заходняй Беларусі з'яўляецца прадаўжэннем палітыкі Сталыпіна царскіх часоў. Кіруючыя класы ў Польшчы імкнуцца стварыць у вёсцы моцную кулацкую праслойку, на якую яны змаглі-б апірацца ў барацьбе з рэволюцый-

ным рухам працоўных сялянскіх мас. Палітыка гэта праяўляецца ў складанай сістэме землеўпарадкавання, ліквідацыі церазпалосіцы, ліквідацыі сервітутаў, крэдытных, падатковых, у штрафах і іншых мерапрыемствах, у хлуслівай разбэшчанай дэмагогіі аб дапамозе сялянству, сутнасцю якой з'яўляецца дапамога кулаку-жывадзёру і, нарэшце, у самым агалцелым, зверскім крывавым тэроры, які знаходзіць сваё яскравейшае выражэнне ў праслаўленай на ўвесь свет і вядомай таксама працоўным БССР з часоў белапольскай акупацыі—карнай экспедыцыі, так званай пацыфікацыі.

У сялян Зах. Беларусі сістэматычна адбіраюць землі. Грабіць памешчык, кулак, ліхвяр, грабіць секвестратар. Дыферэнцыяцыя ў вёсцы прасоўваецца быстрымі крокамі ўперад. У Зах. Беларусі невялікая кучка памешчыкаў, якая складае каля 0,8% агульнай колькасці гаспадарак, захапіла ў свае рукі больш паловы ўсёй зямлі. Наадварот, беднае сялянства і поўпролетарыят, якія разам складаюць 60% усіх сялянскіх гаспадарак, маюць усяго толькі 12% зямлі.

Лепшая сервітутная зямля забіраецца ў сялян і перадаецца ў рукі ваенным каланістам, кулакам, тым, якія павінны забяспечыць «спакойны» тыл на выпадак вайны з Совецкім саюзам. Акрамя вялікага цяжару падаткаў, на плечы сялянства кладзецца яшчэ таксама цяжар штрафаў, якім сялянскія масы падвяргаюцца па любому поваду. Выключна вялікі і шматлікі перажыткі прыгонніцкіх форм кабалы, з іх найбольш цяжкай для сялянства з'яўляецца прымусовая бясплатная работа пры будаўніцтве дарог для ваенных і іншых мэт.

Калі раней селянін меў прыработкі на рознага роду дзяржаўных работах (меліярацыя), то цяпер усе гэтыя работы выконваюцца прымусовым чынам, бясплатнай сялянскай працай. Прыработкаў селянін не знаходзіць таксама і ў горадзе, бо і там ёсць дастатковая колькасць беспрацоўных.

Аб паглыбленні аграрнага крызіса і дэградацыі земляробства ў апошнія гады сведчыць усё большае зніжэнне пазямельнага даходу.

З гэтых падаючых даходаў сялянства ўсё большую і большую долю забірае ўрад, памешчыкі і кулакі за падаткі, за штрафы, за процанты ад даўгоў і т. п. Нічога дзіўнага, што жыццёвы ўзровень селяніна значна знізіўся. Згодна даным інстытута сельскагаспадарчай эканомікі, расходы на аднаго чалавека ў вёсцы складалі ў злотых:

| | 1928—29 г. | 1933—34 г. |
|---|---|---|
| Мяса . . . . . . . . . | 12,92 | 4,25 |
| Тлушчы . . . . . . . . | 11,9 | 3,94 |
| Абутак . . . . . . . . | 32,18 | 12,52 |
| На навучанне дзяцей . . | 25,62 | 6,69 *) |

Але трэба ўлічыць, што ў гэтых сярэдніх даных сцёрліся граніцы паміж рознымі класавымі праслойкамі ў вёсцы і не адлюстроўваюць сапраўднага спажывання працоўнага сялянства.

*) „Хлопска правда", за 35 г.

ілюстрацыяй становішча сялян Зах. Беларусі могуць служыць даныя аб бюджэце селяніна Гродненскага павету, вёскі Ялаўка, які мае 4 га ворнай зямлі, 2 га пашы, 2,5 га сенажаці. Сям'я яго складаецца з 2 працаздольных членаў і 3 дзяцей. Гаспадарка гэта, як відаць, адносіцца да тыпу серадняцкай гаспадаркі, бо значная частка даходу складае штогадовы продаж цёлкі, малака, парасяці, яек і т. д Але нават і такая гаспадарка знаходзіцца ў цяжкім становішчы. Каля 40% бюджэта гэтай сялянскай гаспадаркі ідзе на пагашэнне выплаты падаткаў, камасацыі і т. д. У 1934 г. выраслі ў гэтага селяніна проценты за даўгі і агульная запазычанасць. Агульны даход у 1934 г. у параўнанні з 1933 г. значна зменшыўся, у сувязі з катастрафічным падзеннем цэн на сельскагаспадарчыя тавары, прычым пабочныя заработкі зусім спыніліся. Зразумела, што ў такім становішчы селянін скарачае расходы на прадукты першай неабходнасці. Так, напрыклад, за цэлы год ва ўсёй сям'і было спажыта каля 1,5 кгр мыла і 1,5 кгр цукру.

Трэба адзначыць, што нацыянал-фашысцкая газета «Беларуская крыніца» (17/III-1935 г.), прыводзячы гэтыя даныя, адзначае, што такіх гаспадарак на Зах. Беларусі мала, што яна належыць да больш прывілеяваных гаспадарак, спажываючых цукар, мыла і соль. Можна сабе ўявіць, як выглядае бюджэт большасці сялянскіх гаспадарак, якія жывуць поўгалодным жыццём, не ўжываюць ні цукру, ні газы, ні запалак. Апошняе пацвярджаецца шматлікімі карэспандэнцыямі буржуазных газет аб становішчы сялян у Зах. Беларусі.

«. . . Мала хто з нас можа дазволіць сабе купіць газы, мы варочаемся да лучыны»...—такімі словамі пачынаецца мемарыял у міністэрства земляробства насельнікаў, якія жывуць блізка возера Нарач (Віленшчына). У гэтым мемарыяле чытаем далей: «Мыла з'яўляецца ў нас прадметам раскошы. Цукру амаль не бачым, ужываем замест яго бураковую патаку. Запалак мы не ўжываем, агонь пазычае адна хата ў другой. Адзення і абутку мы не можам дазволіць сабе купіць. Соль з'яўляецца для нас вельмі дарагой рэччу. Сельская гаспадарка не дае нам дастатковай колькасці ўраджаю, і большасць нас ужо з паловы зімы вымушана купляць хлеб».

Можна з поўнай упэўненасцю сказаць, што большасць бядняцка-серадняцкіх гаспадарак знаходзяцца ў такім-жа крытычным становішчы, як нарачанскія сяляне.

У Зах. Беларусі на 4,5 млн. насельніцтва жыве ў акругленых лічбах 2,5 млн. беларусаў, 0,5 млн. яўрэяў, 100 тыс. літоўцаў, астатнія—палякі, украінцы і інш. За кароткі час знаходжання Чырвонай арміі на землях Зах. Беларусі было адкрыта звыш 400 беларускіх школ. У сучасны момант ва ўсёй Зах. Беларусі і ў Польшчы няма ні адной дзяржаўнай школы на беларускай мове. Праследуюцца нават прыватныя школы. Масава закрываюцца прыватныя літоўскія і яўрэйскія школы. Беларускія і яўрэйскія рабочыя не прымаюцца на работу ў дзяржаўныя прадпрыемствы і на чыгунку, затое з Польшчы прысылаюцца чыноўнікі, ваяводы і старосты, ксяндзы, шпікі і асаднікі.

У нацыянальным гнёце актыўны ўдзел прымаюць беларускія нацыянал-фашысты (Луцкевіч, Астроўскі, Акінчыц і інш.).

> «Прымяняючы дзікі акупанцкі тэрор у адносінах да шырокіх мас і нацвызваленчых арганізацый, узмацняючы сваю непасрэдную апору (польскіх памешчыкаў і ваенных асаднікаў), урад

адначасова імкнецца абаперціся на беларускую буржуазію і кулацтва, ведучы палітыку, якая мае на мэце таксама эканамічна ўмацаваць беларускага кулака.

Не гледзячы на трэнні паміж беларускай і польскай буржуазіяй (за большы ўдзел беларускай буржуазіі ў эксплаатацыі працоўных мас, за ўзмацненне яе гаспадарчых і палітычных пазіцый, за больш выгадную крэдытную і падатковую палітыку, за ўласныя школы, за месца ў дзяржаўным і самакіраўнічым апараце і т. п.), адбываецца ўсё больш цеснае аб'яднанне беларускага нац. лагера з польскай акупацыяй на аснове агульных класавых інтарэсаў, агульнай падрыхтоўкі вайны супроць СССР і барацьбы з рэвалюцыйным рухам» (З ліста ЦК КПЗБ да ўсіх партыйных і комсамольскіх арганізацый перад VII кангрэсам Комінтэрна).

Як 15 год назад беларускія нацдэмы віталі захват Менска і ўсёй Беларусі польскімі легіянерамі, сустракаючы іх з хлебам і соллю, так цяпер яны дапамагаюць польскім акупантам распраўляцца з беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам. У сваёй дзейнасці беларускія нацыянал-фашысты, пад **якімі-б клічкамі яны** ні выступалі (Белсанацыя, Белхадэцыя, нацыянал-соцыялісты і інш.), пранікнуты класавай ненавісцю да рэволюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, палкай ненавісцю да Совецкага саюза.

Вайна супроць СССР —вось што натхняе ўсю нікчэмную нац-фашысцкую прэсу ў Зах. Беларусі («Беларуская крыніца», «Родны край», «Новы шлях» і інш.),—усе яны выключна захудалыя штотыднёвікі, якія друкуюцца на 4 старонках; штодзенных газет няма зусім).

20-й гадавіне імперыялістычнай вайны «Беларуская крыніца» прысвяціла спецыяльны артыкул, у якім адкрыта заклікае да новай імперыялістычнай вайны супроць СССР. «Беларуская крыніца» піша:

«Для атрымання спакою і для еўрапейскага эканамічнага поспеху патрэбна незалежная краіна і група незалежных дзяржаў і інш. на ўсходзе Еўропы, якія-б стварылі з Украінай палітычную федэрацыю, аддзяляючую Расію ад Захаду. Нарэшце, гэтую групу дзяржаў на ўсходзе Еўропы настаў час стварыць.

Калі пачнецца вайна на Далёкім Усходзе і трэба будзе совецкай уладзе туды паслаць войска, тады лёгка могуць адарвацца ад Советаў Украіна і Беларусь».

У такім-жа духу выступіла другая групоўка беларускіх нацфашыстаў у органе «Родны край». У адным з нумароў адкрыта вітаецца польска-нямецкае збліжэнне, як сродак, накіраваны супроць Совецкага саюза. «Родны край» піша: «Трэба адзначыць, што для нас беларусаў, як і украінцаў, польска-нямецкае паразуменне мае выключнае значэнне».

Калі беларуская буржазія з вялікай радасцю вітала польска-германскую згоду, то з нескрываемай злосцю рэагавала яна на франка-совецкі дагавор, ацэньваючы яго не як акт, накіраваны на ўмацаванне міру і супроць вайны, а як заключэнне кааліцыі супроць Германіі. «Новы шлях» у перадавым артыкуле (10/V) адкрыта заяўляе, што «франка-совецкі дагавор—гэта цяперашняя проціямецкая кааліцыя, якая рыхтуецца да вайны».

Беларускія нацфашысты, ставячы стаўку на вайну, узмоцнена яе прапагандуюць. Ва ўказаным вышэй артыкуле яны заяўляюць: «Мы верым, што дойдзе да такой вайны».

«Новы шлях» і «Беларуская крыніца» ўсімі сіламі стараюцца апраўдаць шалёныя ваенныя падрыхтаванні Германіі, як і фашысцкай Польшчы.

За апошні час польскі фашызм прымае цэлы рад мер па ператварэнню Заходняй Беларусі ў плацдарм вайны супроць СССР. Значна ўзмацнілася, пачынаючы з 1933 г., будаўніцтва шасэйных і іншых дарог. Цяжар гэтага будаўніцтва кладзецца вялікім ярмом на плечы працоўнага сялянства, якое да 85% кошту будаўнічых работ праводзіць дарма. Дарожнае будаўніцтва ў 1933 г. павялічылася на 63% у параўнанні з 1932 г. Пачынаючы з 1934 г. дарожнае будаўніцтва яшчэ больш узмацнілася. Згодна даным «Пшэглёнда господарчэго» № 2 за 1935 г. агульны кошт работ складаў 2 млн. 227 тыс. злотых. У 1934 г. пабудавана ў адным Віленскім ваяводстве 192 кілометры шасэйных дарог —у 4 разы больш, чым у 1932 г.

Праектуецца цэлы рад чыгунак. Праект порта ў Друі, меліярацыйныя работы ў пагранічнай паласе, пабудова цэлага раду аэрадромаў, механічных пякарняў, кансервных фабрык і некалькіх бойняў,—усё гэта гаворыць аб параўнаўча значных інвестыцыях для ваенных патрэб.

Адным з мерапрыемстваў польскага фашызма ў падрыхтоўцы да вайны супроць СССР з'яўляецца высылка рэволюцыйных элементаў з пагранічнай паласы. Вышаўшы з турмы, комуніст не мае права жыць і ў г. Вільні і ў пагранічных паветах. Апрача таго міністэрствам ваенных спраў выдан загад, які забараняе правядзенне без яго ведама на ўсёй тэрыторыі Віленскага ваяводства такіх катэгорый работ, як пабудова склепаў, студняў, пракладка новых вуліц, тэлефонаў, тэлеграфаў, каналізацыі; забаронена засяваць лес, а таксама забаронена іншакраінцам і судзімым набываць якую-небудзь уласнасць ці браць у арэнду без ведама міністэрства ваенных спраў *).

Польскімі ваеннымі коламі ўзмоцнена і ўсебакова вывучаецца СССР, у асаблівасці БССР. Для гэтай мэты ёсць у Польшчы 5 інстытутаў, якія спецыяльна займаюцца вывучэннем СССР. Адзін з іх знаходзіцца ў Вільні. Інстытут гэты праводзіць сваю работу пад нявінным загалоўкам «Інстытут для даследвання ўсходняй Еўропы». Сярод тэматыкі гэтага інстытута мы сустракаем такія прадметы, як аграрная палітыка СССР, замежная палітыка СССР і Комінтэрна, беларускія і украінскія пытанні, як «міжнародныя пытанні».

Адзінства дзеянняў польскага і нямецкага фашызма ў падрыхтоўцы вайны супроць СССР праяўляецца ў Заходняй Беларусі ва ўсіх урадавых мерапрыемствах.

Ва ўмовах цяжкага становішча працоўных мас, ва ўмовах лютага нацыянальнага гнёту, ва ўмовах ліхаманкавай гонкі ў падрыхтоўцы вайны супроць СССР, разгортваецца рэволюцыйная барацьба рабочага класа і сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Комуністычная партыя з'яўляецца адзінай партыяй, якая мабілізуе працоўныя масы для барацьбы супроць фашызма і вайны, за рэволюцыйны выхад з крызіса, за нацыянальна-вызваленчую барацьбу, за пролетарскую рэволюцыю.

*) Паводле данных „Кур'ера Віленскага" ад 19/IV—35 г.



ПАРТЫЗАНЫ Ў ЛЕСЕ (*з мал. Волкава—Музей рэвалюцыі БССР*)

Рэволюцыйная барацьба суправаджаецца вялікімі стратамі лепшых сыноў рабочага класа. Польскі фашызм з ростам рэволюцыйнага руху ўзмацняе тэрор, прымяняючы гітлераўскія метады—«расстрэлы пры спробе к бегству». Звыш 12 тыс. комуністаў томяцца ў фашысцкіх засценках Беластока, Вільні, Лодзі і інш., але, не гледзячы на фашысцкі тэрор, разгортваецца рэволюцыйная барацьба. Нават афіцыяльная статыстыка не можа скрыць бурны рост стачачнай барацьбы за апошнія гады.

**Забастовачная барацьба ў Польшчы.**

| Г а д ы | Колькасць забастовак | Колькасць бастуючых |
|---|---|---|
| 1931 . . . . . . . . . | 359 | 106 885 |
| 1932 . . . . . . . . | 509 | 313 374 |
| 1933 . . . . . . . . . | 641 | 344 946 |
| 1934 . . . . . . . . . | 1 003 | 400 564 |

Як бачым, за апошнія 4 гады колькасць забастовак павялічылася амаль у 3 разы, а колькасць бастуючых амаль у 4 разы. Асабліва характэрна, што рабочыя прымяняюць такія формы забастовак, якія звязаны з акупацыяй фабрыкі. Бастуючыя на працягу усёй забастоўкі не выходзяць з тэрыторыі фабрыкі, каб такім чынам не дапускаць да штрэйкбрэхерства і прымусіць фабрыканта здаволіць іх патрабаванні. Такія забастоўкі за апошнія месяцы адбываліся ў Вільні, Беластоку (фабрыка «Электрыка», «Бялоль» і інш.).

Характэрнаю рысай сучаснай забастовачнай хвалі з'яўляецца тое, што павялічылася ўдзельная вага палітзабастовак супроць мерапрыемстваў урада, асабліва супроць новай фашысцкай канстытуцыі і выбарчага права. Усеагульная забастоўка супроць новай канстытуцыі ў Беластоку 19/VI 1935 г. ахапіла ўсіх рабочых горада.

Рост рэволюцыйнага руху Зах. Беларусі і ўплыў КПЗБ паказваюць першамайскія дэманстрацыі ў гэтым годзе. КПЗБ, не гледзячы на сабатаж кіраўнікоў ППС і Бунда, у цэлым радзе гарадоў удалося арганізаваць адзінафронтавыя рэволюцыйныя дэманстрацыі. Адзінафронтавая дэманстрацыя ў Беластоку налічвала 8 тыс. чалавек. Як прызнаюць нават буржуазныя газеты, такой вялікай дэманстрацыі ўжо не было, пачынаючы з 1920 г.

Рэволюцыйныя выступленні ў розных формах мелі месца ў многіх вёсках Зах. Беларусі. Адной з форм рэволюцыйнай барацьбы сялян супроць фашысцкага ўрада з'яўляецца масавае адмаўленне сялян плаціць падаткі і арганізаваны адпор урадавым зборшчыкам падаткаў (секвестратарам). Для барацьбы з падатковым гнётам выбіраюцца сярод сялян антыпадатковыя камітэты. Антыпадатковыя камітэты ў Беластоцкай акрузе правялі масавую работу сярод сялян (з ахопам звыш 2 тысяч чалавек). Многім такім камітэтам удалося згуртаваць сялян вакол сябе. Калі ў вёску Райск (Бельскага раёна) прышлі паліцэйскі і секвестратар, спрабуючы забраць рэчы ў аднаго селяніна за падаткі, сяляне выгналі іх адтуль. На другі дзень секвестратар прышоў разам з паліцыяй. Яны склікалі сход сялян і

заявілі, што сяляне павінны плаціць падаткі. Сяляне адмовіліся і зноў прагналі секвестратара. Барацьба з секвестратарам ператварылася ў масавую барацьбу з паліцыяй. Праз 3 дні з'явілася 35 чал. паліцыі і акружылі вёску. За гэты час «чырвоныя ганцы» арганізавалі дапамогу суседніх вёсак. Пачалася барацьба з паліцыяй. Масы адбілі арыштаваных. На другі дзень прыбыла 300 чал. паліцыі і 2 грузавыя машыны. Пачаліся масавыя арышты, але пад націскам сялянскіх мас большасць арыштаваных была выпушчана. У барацьбе супроць паліцыі і экзекутараў салідарна выступілі польскія і беларускія сяляне адзіным інтэрнацыянальным фронтам.

Паказчыкам палітычнай спеласці сялянскіх выступленняў можа служыць такі факт, як масавы ўдзел сялян у барацьбе за вызваленне т. Тэльмана. У Косаўскім павеце сяляне наладжвалі масоўкі і на фатаграфіях т. Тэльмана пісалі рэзалюцыі з патрабаваннем вызваліць яго (копіі фатаграфій з рэзалюцыямі пасылалі ў нямецкае консульства ў Варшаве) і ўсіх палітзняволеных і знесці канцэнтрацыйныя лагеры.

Кіруючы рэвалюцыйнай барацьбой працоўных мас Зах. Беларусі, КПЗБ, як састаўная частка КПП, асаблівую ўвагу ўдзяляе пытанню барацьбы супроць ваеннай небяспекі і мабілізацыі мас у абарону СССР. У перадавым артыкуле спецыяльнай армейскай газеты «Голас салдата» усе працоўныя заклікаюцца да абароны Савецкага саюза. «Фашысцкая Польшча,—чытаем у гэтай перадавіцы,—заключыла з гітлерызмам ваенны дагавор, накіраваны супроць СССР. Дзве дзяржавы дыктатуры фашызма заключылі саюз, каб разам душыць рэвалюцыйны рух, уводзіць канцэнтрацыйныя лагеры, рыхтаваць вайну супроць СССР... Мы павінны арганізавацца супроць нашых ворагаў... Нашы сілы, нашу кроў мы аддамо ў дапамогу нашым братам і сялянам, каб разам з імі змагацца за рэвалюцыйны выхад з крызіса, шляхам узброенага паўстання рабочых, сялян і салдат».

Працоўныя масы Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі з дня на дзень рыхтуюцца для рашучага бою са сваімі прыгнятальнікамі. А поспехі БССР, росквіт яе эканомікі і культуры, безупынны рост матар'яльнага дабрабыту працоўных мас Беларусі ўсё больш і больш натхняюць іх на барацьбу супроць польскіх акупантаў, супроць сваёй буржуазіі, супроць усёй памешчыцка-капіталістычнай сістэмы.

---

# ХРОНІКА
## вызвалення Беларусі ад белапалякаў

*(Чэрвень—ліпень 1920 года)*

Чырвоная армія, кіруемая партыяй Леніна, пры падтрыманні пролетарыята Заходняй Еўропы, к пачатку 1920 года ліквідавала другі паход Антанты на Совецкую Расію. Перамогі Чырвонай арміі стварылі магчымасць пераходу да аднаўлення разбуранай вайною народнай гаспадаркі. IX з'езд партыі канцэнтраваў увагу ўсёй партыі, усяго рабочага класа і працоўных мас Совецкай Расіі на пытаннях соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэтыя пастаўленыя партыяй задачы не былі ў той час ажыццёўлены. Яны былі сарваны вайною, навязанай нам польскім імперыялізмам, які выконваў грабежніцкія планы Антанты.

25 красавіка 1920 года, па загаду маршала Пілсудскага, польская армія на паўднёва-заходнім фронце перашла ў наступленне, захапіўшы 26 Житомір і Бердзічаў, 28 Карасцень і 6 мая Кіеў.

Для абароны краіны Советаў партыя кінула на фронт свае лепшыя сілы. На Паўднёва-Заходні фронт яна паслала геніяльнага стратэга і кіраўніка барацьбой працоўных за іх вызваленне, бліжэйшага саратніка Леніна— т. Сталіна. На працягу мая-чэрвеня месяцаў ЦК РКП(б) мабілізаваў на польскі фронт 12.000 комуністаў. ЦК РКСМ пасылае на фронт 3.012 комсамольцаў.

Па ўказанню партыі на Паўднёва-Заходні фронт пасылаецца 25 Чапаеўская дывізія і 1-ая Конная армія Будзённага. На Заходні фронт Рэвваенсоветам Рэспублікі накіроўваюцца значныя ваенныя падмацаванні. К пачатку чэрвеня месяца на Паўднёва-Заходнім фронце былі размеркаваны: на правым флангу XII Чырвоная армія, у цэнтры 1-ая Конная армія і на левым флангу XIV Чырвоная армія. Камандваў фронтам т. Егораў, членам Рэвваенсовета быў т. Сталін. На Заходнім фронце к гэтаму часу былі сканцэнтраваны: паўночная група т. Сергеева, XV Чырвоная армія на правым флангу, на левым Мазырская група і паміж імі XVI Чырвоная армія. Камандаваў фронтам т. Тухачэўскі, членам Рэвваенсовета быў т.Уншліхт.

На працягу ўсяго мая месяца на абодвух фронтах ідуць упартыя баі часцей Чырвонай арміі з белапалякамі. 25 мая Чырвонай арміяй быў узят г. Барысаў. Але пералом на фронце быў дасягнуты дзякуючы прарыву польскага фронту 1-ай Коннай арміяй Папельня-Казацін 5-VI. Пасля прарыву польскага фронту на Паўднёва-Заходнім фронце Чырвоная армія хутка цясніла праціўніка. На Заходнім фронце пераходзяць у наступленне Мазырская група і левафлангавыя часці XVI Чырвонай арміі,—29 стралковая брыгада для падтрымання паспяховага наступлен-

ня часцей на Паўднёва-Заходнім фронце. У астатніх раёнах Заходняга фронту адбываюцца баі мясцовага значэння, сканцэнтраванне і арганізацыя сіл к ліпеньскаму наступленню.

Поўны разгром белапольскай арміі на ўсім фронце быў дасягнуты ў рэзультаце паспяховага ліпеньскага наступлення Чырвонай арміі на Заходнім фронце. К гэтаму часу на Заходнім фронце былі сканцэнтраваны IV армія, якая перафармавалася з паўночнай групы т. Сергеева, XV армія, III армія, якія сфармаваліся з паўднёвай групы XV арміі, XVI армія і Мазырская група. Асноўная стратэгічная ідэя ліпеньскага наступлення зводзілася к падвойнаму абходу значных сіл праціўніка, распаложаных у раёне Германовічы—Лужкі—Глыбокае. Для выканання гэтага плану камандарм т. Тухачэўскі перад арміямі Заходняга фронту паставіў наступныя задачы: IV армія, распаложаная на правым флангу, павінна была правесці абходны рух для глыбокага ахвату левага фланга праціўніка, нацэльваючыся сваёй пяхотай на раён Германовічы, Шаркаўшчызна і кавалерыяй,—корпус т. Гая—уздоўж левага берагу ракі Заходняй Дзвіны ў напрамку на г. Свенцяны.

XV армія, распаложаная лявей IV арміі, павінна была прарваць умацаваную паласу праціўніка з фронту, дзеючы ўздоўж чыгункі Полацк—Маладзечна і выйсці на фронт Глыбокае, Докшыцы. III армія, распаложаная злева XV арміі, павінна была перарэзаць тую-ж чыгунку ў раёне ст. Парафіянава. XVI армія, распаложаная лявей III арміі, павінна была наступаць на Ігумен і Менск, звязваючы цэнтральную групу праціўніка, і Мазырская група, якая знаходзілася на левым флангу Заходняга фронту, павінна была садзейнічаць наступленню XVI арміі, наступаючы ў напрамку Глуска.

На досвітку 4 ліпеня IV, XV і III арміі перашлі ў рашучае наступленне. Мазырская група развівала сваё далейшае наступленне на раку Іппу. У гэты-ж дзень праціўнік быў збіты і пад пагрозай поўнага знішчэння вымушан быў быстра адступаць.

У ноч з 6 на 7 перашла ў наступленне XVI Чырвоная армія, фарсаваўшы раку Бярэзіну, адразу-ж заняла вялікі раён на заходнім беразе. Так пачалося вялікае наступленне Чырвонай арміі на Заходнім фронце, у выніку якога Беларусь на працягу двух тыдняў была вызвалена ад акупантаў.

ЦК КПЛ і Б, які ў той перыяд знаходзіўся ў Смаленску, правёў вялікую работу па падрыхтоўцы бліжэйшага тылу нашага фронту. Быў ужыты рад мер к аднаўленню і ўмацаванню партыйных арганізацый і савецкай улады ў вызваляемых ад белапалякаў раёнах Беларусі. З 8 чэрвеня пачынае зноў рэгулярна выходзіць «Звезда»—орган ЦК КПЛ і Б і Рэвваенсовета Заходняга фронту.

Падпольныя партыйныя арганізацыі, кіруючы партызанскім і паўстанцкім рухам у акупаванай Беларусі, падымаюць на барацьбу з белапалякамі найшырэйшыя масы працоўных. Партызанскія атрады, разбураючы тыл праціўніка, садзейнічаюць паспяховаму наступленню Чырвонай арміі.

---

**25-V.**

У рэзультаце ўпартых баёў часці XVI арміі занялі г. Барысаў.

**28-V.**

Белапалякі адкрылі ўраганны артылерыйскі агонь па Барысаву, выпусціўшы каля 800 6—8-дзюймовых знарадаў. У выніку абстрэлу палова горада была спалена. Частка горада ўцалела дзякуючы самаадданасці

комуністаў і энергічнай дзейнасці рэўкома. Звыш 500 мірных грамадзян мужчын, жанчын і дзяцей забіта. Больш 100 чалавек цяжка паранена і згарэла ў агні.

**29-V.**

Неспыняўшымся артылерыйскім абстрэлам белапалякі знішчылі астатнюю частку горада. Ад Барысава засталіся толькі дымныя развалiны і некалькі халупак. Да 10.000 жыхароў, ратуючыся ад агня, разбегліся па лясах, застаўшыся голымі і галоднымі.

**1-VI.**

З 1 чэрвеня ў Пермі абвешчан тыдзень дапамогі Заходняму фронту.

*

На рабочым мітынгу ў Глазго (Англія) прынята рэзалюцыя, у якой гаворыцца:

«Мы пратэстуем супроць фальшывай палітыкі англійскага ўрада, які снабжае польскую армію зброяй і знараджэннем. Мы заклікаем англійскіх рабочых да актыўнага пратэста супроць польскага наступлення на Совецкую Расію. Мы вітаем ірландскіх рабочых—чыгуначнікаў і грузчыкаў, якія адмовіліся грузіць і перавозіць паязды з ваенным знараджэннем».

*

4 і 14 дывізіі Коннай арміі т. Будзённага пры падтрыманні бронемашын у конным страі пераходзяць у атаку, нанёсшы праціўніку значныя страты, гоняць яго на поўнач у напрамку г. Сквіра.

К вечару ўся лінія р. Беразна ад в. Беразанка да в. Такароўка была ў руках чырвонай конніцы.

У рэзультаце бою правафланговая група коннай арміі набыла выгаднае адпраўнае палажэнне для далейшых аперацый.

**2-VI.**

Рабочыя і служачыя ст. Тула на выступленне панскай Польшчы адказалі ўзмацненнем барацьбы на працоўным фронце. Яны парашылі адмовіцца ад нядзельнага адпачынку і працаваць кожную нядзелю на працягу месяца па 6 гадзін.

**3-VI.**

Палякі ў Докшыцах перад наступленнем учынілі крывавы яўрэйскі пагром.

**4-VI.**

Беларуская нацыяналістычная контррэволюцыя, якая была на службе ў польскага імперыялізма, напружвае ўсе свае сілы для аказання дапамогі польскаму імперыялізму ў барацьбе супроць працоўных Беларусі, паўстаўшых супроць белапольскіх акупантаў. Беларускі контррэволюцыйны ваенны цэнтр (Беларуская ваенная камісія) звярнуўся да насельніцтва Беларусі з адозвай уступаць у беларускія войскі, ствараемыя пры падтрыманні польскага імперыялізма для барацьбы супроць Чырвонай арміі. На гэты заклік контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў працоўныя масы Беларусі адказалі яшчэ больш магутным паўстанцкім і партызанскім рухам.

**5-VI.**

У выніку сямідзённага бою на фронце працягласцю ў 40 кілометраў 1-ая Конная армія пад камандваннем тт. Варашылава і Будзённага нашчупала слабое месца ў польскім распалажэнні. Выкарыстаўшы дрэннае надвор'е і лясістую мясцовасць, конная армія, не заўважаная авіяцыяй, хутка зляцелася да вызначанага пункта ўдару.

«У гэты дзень нашы конныя часці, згарнуўшыся ў кулак і сцягнуўшы абозы ў цэнтр кулака, прарывалі распалажэнне праціўніка ў раёне Папельня—Казацін» (*Сталін*).

*

На барацьбу з наступаючымі белапалякамі на Заходні фронт па Саратаўскай губ. запісалася 650 дабравольцаў і па гораду Саратаву 350 чалавек.

*

У «дні Заходняга фронту» ў Екацерынбургу сабрана 200 тысяч руб. і многа падарункаў. Паступіла 413 заяў аб дабраахвотным жаданні пайсці на фронт для барацьбы з белапалякамі.

*

«Роста» паведамляе: сяляне Беларусі сустракаюць паўсямесна з нязмернай радасцю нашы войскі, якія прасоўваюцца ўглыб Беларусі. Як толькі нашыя перадавыя часці займаюць вёску—сяляне, старыкі і моладзь, прапануюць свае паслугі чырвонаармейцам і выносяць цэлы рынак харчовых прыпасаў—яек, мяса, масла, малака, хлеба і іншых прадуктаў, схаваных ад палякаў.

*

Каля станцыі Жодзіна, Барысаўскага павету, партызаны ўзарвалі два эшалоны з баявымі прыпасамі. Уся мясцовасць на правым беразе Бярэзіны гарыць у агні сялянскіх паўстанняў.

*

Магілёў. Агульны сход чырвонаармейцаў і супрацоўнікаў Н-скай дывізіі пастанавіла адлічыць у знак падзякі за ўвагу, аказваемую фронту, аднадзённы паёк і заработак у карысць рабочых Петраграда і Масквы.

*

Екацерынбург. Сярод кіргізаў моцны дабраахвотніцкі рух. Запісалася многа дабравольцаў. Створан камітэт дапамогі Заходняму фронту.

**6-VI.**

У рэзультаце ўпартых баёў часці 1-ай Коннай арміі т. Будзённага паспяхова закончылі другі этап аперацыі па аўладанню Бердзічаў—Казацін.

**7-VI.**

Часці Першай коннай занялі Жытомір.

«З прычыны адчайнага супраціўлення палякаў, нашай конніцы прышлося літаральна прабіваць сабе дарогу, у выніку чаго палякі пакінулі на месцы раненымі, забітымі ад куль і зарубленымі, па сведчанню рэвсовета коннай арміі, не менш васьмі тысяч байцоў.

... Прарыў нашай конніцы ў раёне Жытоміра адыграў рашучую ролю ў пераломе на фронце» (*Сталін*).

*

Дзевяць чырвонаармейцаў і камандзір бранявога атрада ў баі на Магілеўскім шасэ, акружаныя белапалякамі, расстраляўшы ўсе патроны і расходваўшы ўсе гранаты, папсавалі бранявік і, сабраўшыся разам, узарвалі апошнюю гранату, ад якой і загінулі.

*

Атрадам партызан адбіты вялікі польскі абоз, які адступаў ад Барысава на Менск.

*

Газета «Беларуская праўда», орган партызан комуністаў Беларусі, вышла з загалоўкам:

> «Даволі маўчаць, цярпець зверствы і здзекі паноў і жандараў! Даволі мучыцца і цярпець!
>
> Усе ў ружжо! Няхай уся злая зграя забойц сваёй паганай крывёю заплаціць за бясконцыя мучэнні і жахі забітых, згвалтаваных і замардаваных афяр польскай няволі».

*

У Крымоне (Італія) чыгуначнікі спынілі работу, патрабуючы спынення адпраўкі ваенных матар'ялаў у Польшчу.

*

Пленум Ніжне-Наўгародскага губкома РКСМ пастанавіў абвясціць мабілізацыю прысутных на пленуме членаў для барацьбы з польскімі панамі. Адразу-ж запісалася 30 чалавек дабравольцаў.

**8-VI.**

Апублікавана палажэнне аб парттройках, прызначаных ЦК КПЛ і Б для вызваленых ад польскай акупацыі мясцовасцей. Парттройкі прызначаюцца ў кожны павет, праводзяць перарэгістрацыю членаў партыі, кіруюць савецкай работай і вядуць партработу да склікання павятовай партканферэнцыі.

*

Вышаў першы нумар газеты «Звязда» за 1920 год—орган ЦК КПЛ і Б і Рэвваенсовета Заходняга фронту з загалоўкам: «Польскія памешчыкі, генералы, фабрыканты, ксяндзы і абманшчыкі рабочых напалі на расійскіх рабочых і сялян. Рабочыя і сяляне, не паддавайцеся націску сваіх душыцеляў. Уперад супроць міраедаў і дармаедаў з Захада».

*

На Крымскім фронце ў барацьбе з баронам Врангелем пад Перакопам нашы часці перашлі ў контратаку і звярнулі вялікую частку страчаных пазіцый.

*

Партызанскім атрадам, дзеючым у Ігуменскім павеце, была акружана група белапалякаў у 400 чалавек. Белапалякі былі раззброены і перабіты.

*

На ст. Віцебск адбыўся вялікі мітынг вызваленых ад белапалякаў сялян, дабраахвотна ўступіўшых у рады Чырвонай арміі. У прынятай рэзалюцыі сяляне заклікаюць усіх аднасяльчан уступіць у Чырвоную армію і прагнаць абнаглелых паноў.

*

У Саратаве рабочыя ўрачыста праваджалі на Заходні фронт 400 добравольцаў... Добравольцы далі ўрачыстае абяцанне памерці або перамагчы.

**9-VI.**

Тав. Кнорын у арт. «Сялянства і армія», змешчаным у «Звяздзе», піша:

«Уся Расія напружвае ўсе свае намаганні, каб перамагчы паноў. Перамога патрэбна ўсім рабочым і сялянам. Але больш за ўсё яна дасць, больш за ўсё яна патрэбна селяніну і рабочаму Беларусі. Таму і ён павінен зрабіць усё, каб яна была канчатковай і поўнаю.

Хто ненавідзіць паноў—у рады Чырвонай арміі!

Хто за поўную перамогу—у рады добравольцаў!».

*

Адбыўся надзвычайны кангрэс профсаюзаў Англіі. На кангрэсе абгаварвалася пытанне аб мерапрыемствах барацьбы за спыненне вайны з Расіяй.

**10-VI.**

«Звязда» вышла пад загалоўкам:

«Польская шляхта ідзе разрушыць Савецкую краіну. Бандыты барона Врангеля на Крымскім фронце перашлі ў наступленне, каб дапамагчы панам. Неабходна напружыць усе сілы, каб зламіць ворага.

Таварышы рабочыя і сяляне! Падвойце свае намаганні, дапамажыце фронту разбіць вашых ворагаў.

Рыхтуйце новыя запасы!

Вайна патрабуе многа афяр.

Чырвонаармейцы, праявіце ўсю сваю свядомасць і вытрымку».

*

У сувязі з узросшым масавым партызанскім рухам у акупаванай белапалякамі Беларусі генерал Шэптыцкі аб'явіў горад Менск на асадным становішчы.

*

Самаадданая барацьба чырвоных партызан у акупаванай Беларусі прывяла да спынення пасажырскага руху па лініі Менск—Вільня, Менск—Баранавічы. Чырвонымі партызанамі ўзарваны чыгуначныя масты і разбурана палатно чыгункі.

*

У Н-скай вёсцы наша батарэя, акружаная белагвардзейцамі, завязла ў балоце. Батарэйцы з крыкам «Памрэм, але батарэю выручым і не аддамо яе белагвардзейцам» на сваіх руках пад скрыжаваным агнём праціўніка выцягнулі батарэю на дарогу.

*

У Пермі тыдзень дапамогі Заходняму фронту прашоў удала. Для правядзення тыдня ў губерніі мабілізавана больш тысячы комуністаў. У Пермі праведзена звыш 60 мітынгаў, спектакляў, канцэртаў. Сабрана многа рэчаў, бялізны, табаку і т. д. Добраахвотна на Заходні фронт запісалася ў Пермі 357 чалавек.

**11-VI.**

«Правда» вышла з аншлагам:

«Войскі польскай шляхты прасоўваюцца к Полацку. Барон Врангель выступіў на падтрыманне пану Пілсудскаму і мае намер захапіць Данецкі вугальны раён. Поспех ворагаў пагражае нам нечуваным голадам і холадам. Таварышы! Кожная гадзіна дарагая! Усе сілы на падтрыманне чырвонага фронту».

*

Камандзір узводу палкавой школы Н-скага кав. палка ў коннай атацы ля вёскі Куціца асабістым прыкладам, уцягваючы за сабой таварышоў, ліхім налётам кінуўся са сваім узводам у белагвардзейскі ланцуг кольнасцю каля двух рот і, не гледзячы на сільны агонь, прымусіў праціўніка кінуцца наўцёкі. У выніку намі вёска занята, захоплена многа палонных, вінтовак і іншых трафеяў.

**12-VI.**

У прамове на нарадзе па рабоце ў вёсцы Ленін гаварыў:

«Раз вайна аказалася немінучай—усё для вайны, і малейшая распушчанасць, недахоп энергіі павінны быць караемы па закону ваеннага часу. Вайна ёсць вайна, і ніхто ў тылу або на якіх угодна мірных занятках не смее ўхіляцца ад гэтага абавязку.

Павінен быць лозунг—усё для вайны! Без гэтага мы не справімся з польскаю шляхтай і буржуазіяй, як неабходна, каб пакончыць з вайной, правучыць раз і назаўсёды апошнюю з суседніх дзяржаў, якая смее яшчэ іграць з гэтым. Мы павінны адвучыць іх так, каб яны дзецям, унукам і праўнукам сваім заказалі гэтай штукі не рабіць».

*

Часці 58 стр. дывізіі занялі г. Кіеў. Галоўныя сілы 45 стр. дывізіі групы т. Якіра занялі раён г. Васількоў—Матавілаўка.

*

Камандзіраваны Маскоўскім камітэтам РКСМ на фронт т. Тіханаў з тэрытарыяльнага палка ў бai пад жорсткім агнём з крыкам «ура» адзін кінуўся на непрыяцельскі кулямёт, захапіў яго і павёў увесь ланцуг. Юны герой прадстаўлен к ордэну Чырвонага Сцягу.

*

Прыбыўшыя раней 52 стр. дывізія і 160 брыгада пачалі сканцэнтроўвацца ў раёне Полацка.

*

Галоўныя эшалоны 2 стр. дывізіі, прыбыўшыя ў распараджэнне Камандзапа, адпраўлены ў раён Крупкі, Слаўнае.

*

У раёне Полацка пачала сканцэнтроўвацца 16 стр. дывізія.

*

На Заходні фронт прыбыла англійская рабочая дэлегацыя. Тав. Мяснікоў у гутарцы з дэлегацыяй азнаёміў яе са становішчам і барацьбой чырвонаармейскіх часцей на фронце.

**13-VI.**

Часці зводнай дывізіі ў раёне XIV Чырвонай арміі занялі г. Гайсін.

*

Канферэнцыя сялян Бродскай воласці прыняла рэзалюцыю, у якой сяляне клянуцца выканаць свой доўг у адносінах да Чырвонай арміі. Канферэнцыя абяцае абвясціць самую рашучую барацьбу са шпіянажам і контррэвалюцыяй.

*

З Тамбова на Заходні фронт адпраўлена новая партыя дабравольцаў. З іх 44 комуністы, астатнія беспартыйныя.

*

У Англіі прадаўжаецца забастовачны рух, накіраваны супроць дастаўкі Англіяй ваеннага знараджэння Польшчы.

**14-VI.**

У Табольску Тыдзень дапамогі Заходняму фронту прашоў з вялікім уздымам.

Сабрана многа бялізны, рэчаў, табаку, прадуктаў і каля 500 тысяч грошай.

*

«Правда» вышла з аншлагам:

> «Польская белая гвардыя ўзарвала Кіеў, пазбавіўшы яго святла, вады, чыгункі і мастоў, помнікаў яго культуры і крыніц яго жыцця. Белагвардзейскія душагубы нядаўна знішчылі Барысаў, цяпер яны разбурылі сталіцу Украіны. Паны яшчэ жывы, смерць палачам!»

**15-VI.**

На працягу 24 гадзін Віцебскі губком РКП(б) пастанавіў мабілізаваць 15 проц. арганізацыі для адпраўкі на Заходні фронт.

*

Смаленск (Роста). Губком РКП пастанавіў мабілізаваць на Заходні фронт 200 адказных работнікаў комуністаў.

*

У раёне Н-скай дывізіі ўцёк з палону ваенком Н-скага ўчастка. Палякі адрэзалі ў яго вушы. Ён расказвае аб зверскіх расправах паноў над палоннымі.

*

У раёне вярхоўя Бярэзіны нашы часці энергічным наступленнем занялі рад паселішч на поўнач і поўдзень ад м-ка Бярэзіны.

Запфронтроста паведамляе аб росце партызанскага руху ў акупаванай Беларусі. У Віленскай воласці дзейнічае атрад у колькасці больш 600 штыкоў.

**16-VI.**

«Правда» вышла з аншлагам:

«Трэба разбіць як мага хутчэй белагвардзейскую Польшчу. Трэба разбіць яе да наступлення зімы. Калі буржуазныя разбойнікі змогуць зацягнуць вайну на зіму, нам зноў прыдзецца цярпець зімой ад голаду і холаду.

Рабочыя! Сяляне! Накіруем усе свае сілы, каб дабіцца перамогі да наступлення зімы».

*

У Саратаве адбыліся ўрачыстыя провады на Заходні фронт новай партыі дабравольцаў. Адпраўлена 416 чалавек, у тым ліку 75 комуністаў.

*

Адбылася дэманстрацыя пратэста тульскіх рабочых супроць зверства польскіх паноў, спаліўшых Барысаў і разбурыўшых Кіеў. Рабочыя заявілі, піша «Правда», што «на зверствы Польшчы яны адкажуць тым, што ўсю сваю волю і сілу яны пакладуць на ўздым прадукцыйнасці працы, каб даць больш зброі барацьбітам чырвонаармейцам».

*

У Лондане перад памяшканнем польскага пасольства была наладжана дэманстрацыя з патрабаваннем спынення вайны з Расіяй.

*

2-я брыгада 10 кав. дывізіі прыбыла ў раён Полацка. У Полацкі раён з каўказскага фронту накіравалася 33 стр. дывізія. У Кустанаі для адпраўкі на Заходні фронт пагружана 14 стр. брыгада 5 стр. дывізіі.

**17-VI.**

Апублікавана адозва Совецкага ўрада за подпісамі Леніна, Калініна і інш. к польскім рабочым, сялянам і легіянерам з заклікам пераходзіць на бок Чырвонай арміі і змагацца супроць сваіх капіталістаў і памешчыкаў за незалежную рабоча-сялянскую Польшчу.

*

Заходні фронт. У раёне верх. Бярэзіны наша наступленне паспяхова разгортваецца, прычым нашы войскі збілі ўпарта абараняўшагася праціўніка і вышлі на лінію ручая Чэрніца, што ў 15—17 вярстах на поўнач ад мястэчка Бярэзіны і р. Бярэзіны да вусця ракі Сергуч. У Барысаўскім раёне на рацэ Бярэзіне ідуць баі мясцовага значэння. У Рэчыцкім напрамку намі адбіта наступленне праціўніка.

**18-VI.**

Паўночная група т. Сергеева перафармавалася ў IV армію, штаб гэтай групыператворан у штаб IV арміі.

**20-VI.**

25 стр. дывізія на ўчастку XII арміі з боем заняла г. Оўруч, захапіўшы ў праціўніка цяжкую батарэю і бронепоезд.

*

На ўчастку XIV Чырвонай арміі правафланговыя часці 60 стр. дывізіі авалодалі чыгуначнай ст. Жмерынка.

*

Для падтрымання наступлення Мазырскай групы перашлі ў наступленне левафланговыя часці XVI Чырвонай арміі—29 стр. брыгада 10 стр. дывізіі. Часці апошняй занялі м-ка Гараваль на правым беразе р. Бярэзіны.

*

*Паўднёва-Заходні фронт.* У Карасценскім напрамку, нашы часці прадаўжаюць цясніць праціўніка, ведучы бой у 15 вярстах на ўсход ад Карасценя. Намі захоплены палонныя і трафеі. У Праскураўскім напрамку намі заняты горад Вінніца і рад паселішчаў у 15 вярстах на паўночны захад ад гэтага горада.

*

Віцебскі пролетарыят учора і сёння праводзіць агульна-пролетарскі суботнік-нядзельнік дапамогі Чырвонаму фронту. Акрамя таго, пролетарыят аддае ў дапамогу раненым героям аднадзённы заработак.

*

Працоўныя Царыцына ўрачыста праважалі на Зах. фронт дабраахвотны атрад у 240 чалавек.

**21-VI.**

Часці Чырвонай арміі выбілі праціўніка з Карасценя, захапіўшы шматлікую ваенную і чыгуначную маемасць.

*

Другая кавбрыгада Мазырскай групы заняла м-ка Хойнікі.

*

Белапалякі, адступаючы з Рэчыцы, узарвалі мост, разрушылі многа дамоў, абстралялі мірнае насельніцтва артылерыйскім агнём. Мясцовыя фабрыкі спустошаны. Палякі вывезлі машыны і тэхнічнае абсталяванне.

*

Мазырская група, развіваючы праследванне праціўніка, вышла галоўнымі сіламі на фронт Елізаравічы—Васілевічы, Макановічы—Вялікі Бор.

*

У Волагдзе сабрана ў карысць пацярпеўшых жыхароў горада Барысава 15.630 руб.

**23-VI.**

На захад ад Рэчыцы, у раёне ст. Васілевічы пачаліся ўпартыя бaі часцей Чырвонай арміі з праціўнікам.

*

Для барацьбы супроць белапалякаў Маскоўскі камітэт мабілізаваў на фронт 100 комуністаў.

*

У Італіі абвешчана ўсеагульная забастоўка чыгуначнікаў у сувязі з адпраўкай ваенных матар'ялаў у Польшчу і Венгрыю.

**24 VI.**

Маскоўскі камітэт РКП пастанавіў мабілізаваць на фронт 291 камуністаў («Правда» друкуе спіс).

У Сакольніцкім раёне абвешчан запіс дабравольцаў на Заходні фронт— комуністаў і беспартыйных.

*

Да забаставаўшых тэлеграфістаў у Англіі далучыліся саюзы: матросаў, качагараў, кухароў, пекароў і булачнікаў. Адным з патрабаванняў бастуючых з'яўляецца высвятленне пытання аб дастаўцы Англіяй ваеннага знараджэння для Польшчы і Румыніі.

*

Рабочыя Амерыкі вядуць жорсткую кампанію супроць Польшчы і патрабуюць ад прэзідэнта Вільсона забароны выпрацоўкі трэстамі амуніцыі і знараджэння для Польшчы.

Масква, Рагожска-Сіманаўскі раённы камітэт РКП(б) звярнуўся да рабочых і работніц з наступнаю адозвай:

> «Дарагія таварышы! Бюро суботнікаў пры раённым камітэце РКП наладжвае 26 чэрвеня суботнік садзейнасці чырвонага тылу Заходняму фронту. У гэты суботнік усякі, каму дарагі заваёвы рэволюцыі, каму дарага пралітая кроў нашых лепшых таварышоў, хто не хоча быць пад гнётам паразітаў і прыгнятальнікаў рабочага класа, капіталістаў і памешчыкаў, павінны з пачуццём пролетарыя і доўга грамадзяніна Совецкай Расіі адгукнуцца на гэты заклік і прыйсці на работу ў суботнік».

**25-VI.**

Прасоўваючыся наперад, часці Н-скага палка ўвайшлі ў дачыненне з праціўнікам. Не гледзячы на ўраганны агонь, чырвонаармейцы рухаліся наперад. Адзін таварыш зашоў у тыл праціўніка, забраў з сабой кулямёт і адтуль адкрыў агонь па непрыяцельскай батарэі. Адначасова нашы часці кінуліся ў атаку. Непрыяцель быў збіты і кінуўся наўцёкі, пакідаючы нам зброю, коней і інш. ваенную маемасць.

**27-VI.**

На поўдзень ад Мазыра наступленне часцей Чырвонай арміі паспяхова прадаўжаецца. Часці першай коннай арміі з боем занялі г. Новаград-Валынск.

**29-VI.**

Пасля ўпартых баёў часці Чырвонай арміі занялі г. Мазыр і ст. Калінкавічы.

*

(Роста). На канферэнцыі суднавых рабочых у Плімуце (Англія) лонданскім дэлегатам былі прынесены віншаванні з поваду адмаўлення лонданскіх докераў нагружаць судны для Польшчы. Канферэнцыя прыняла наступную рэзалюцыю:

> «Канферэнцыя энергічна пратэстуе супроць дастаўкі зброі Польшчы або іншым акраінным дзяржавам. Канферэнцыя вітае лонданскіх рабочых і патрабуе, каб увесь англійскі пролетарыят не дапушчаў выкарыстання сваёй працы для злачынных авантур»...

*

У Бірмінгаме адбылася велізарная рабочая дэманстрацыя, на якой была вынесена рэзалюцыя, патрабуючая склікання спецыяльнага кангрэса трэд'юніёнаў для разгляду пытанняў усеагульнай забастоўкі, маючай на мэце прымусіць англійскі ўрад спыніць дапамогу Польшчы ў яе вайне супроць Расіі.

**30-VI.**

«Звезда» паведамляе аб дэманстрацыях у Вене рабочых—членаў профсаюзаў супроць адпраўкі ў Польшчу амуніцыі і зброі.

*

«Правда» паведамляе, што ўсеаўстрыйскі Совет рабочых дэпутатаў прыняў рэзалюцыю, якая патрабуе **спынення вайны** белапалякаў супроць Расіі.

*Ліпень 1920 года.*

«Ліпень адкрывае малюнак рашучага пералому на фронце ў карысць Расіі з яўнаю перавагай на баку совецкіх войск» *(Сталін).*

**1-VII.**

Рэвваенсовет Заходняга фронту выдаў загад аб арганізацыі совецкай улады на тэрыторыі был. Менскай губ.

У загадзе гаворыцца аб стварэнні арганізацыйнага бюро Менскай губ. з прысваеннем яму праў губрэўкома. Па меры вызвалення тэрыторыі Менскай губ. усе ствараемыя рэўкомы падпарадкваюцца оргбюро.

**2-VII.**

Рэвваенсовет Зах. фронту выдаў загад № 81 423. У загадзе гаворыцца:

«На абарону совецкай улады сабраліся байцы з усходу, поўдню, захаду, паўночы. Жалезная пяхота, ліхая конніца, грозная артылерыя нястрымнаю лавінай павінны змесці белую нечысць... Чырвоная армія да пакрые сябе неўвядаемай славай; погляды ўсёй Расіі звернуты на Заходні фронт. Змучаная, разбураная краіна аддала ўсё для арганізацыі перамогі над ворагам. Рабоча-сялянскі тыл наш з трэпетам чакае перамогі і міру. Апраўдаем-жа надзеі нашай соцыялістычнай бацькаўшчыны. Пакажам на справе, што намаганні краіны не прапалі дарма. Стройцеся ў баявыя калоны, прабіла гадзіна наступлення на Вільню, Менск, Варшаву. Марш!»

*

«Правда» вышла з аншлагам:

«Чырвоная армія адагнала войскі польскіх паноў на 250 вёрст ад Кіева. Але шляхта не складвае зброі і рыхтуе новы ўдар. Рабочыя! Сяляне! Усе сілы аддайце чырвоным байцам. Трэба даканаць разбойнае панаўё, трэба пакончыць да зімы з буржуазнаю Польшчай».

*

«Звезда» паведамляе, што партызанскімі атрадамі ўзарваны следваўшыя з Менска 3 эшалоны 5 дывізіі белапалякаў. У трох вярстах ад Жодзіна партызаны разабралі пуць. Сільна пашкоджан паравоз, які следваў па гэтым пуці.

*

Саратаў, 2 ліпеня (Роста). Моладзь, на фронт! Саюз моладзі сяла Альхоўка, Камышынскага павету, выказаў пажаданне поўнасцю ісці на фронт.

**3-VII**

Камандарм XV т. Корк загадаў усім дывізіям 4-га, а 5 гадзіне перайсці ў рашучае наступленне з задачай разгрому і знішчэння сіл праціўніка, распаложаных у раёне м-ка Лужкі, Глыбокае, ст. Парафіянава, ст. Сош.

*

Мазырская група Чырвонай арміі ва ўпартых баях з белапалякамі вышла на фронт Сасноўка—Вялікі Бор—Еўтушковічы—р. Іпа да яе вусця, Касцюковічы—Мажалёўка—Раманоўка.

*

3 ліпеня пасля абвяшчэння загаду аб наступленні, чырвоныя войскі з песнямі і музыкай рушылі на перадавыя пазіцыі, змянілі таварышоў у акопах і а 5 гадз. раніцы ўдарылі на ворага ў раёне чыгункі Полацк—Маладзечна. Праз надзвычай моцныя прыродныя пазіцыі, дасканала ўмацаваныя палякамі, прашлі нашы танкі, руйнуючы акопы і расстрэльваючы ва ўпор абараняўшагася праціўніка. Белапалякі, асыпаючы на адлегласці некалькіх сажняў градам гранат і ружэйных куль нашыя танкі, літаральна палівыючы з кулямётаў, вытрымалі на двух лініях сваіх умацаванняў, на трэцяй дрогнулі і ў паніцы кінуліся наўцёкі. А 7 гадзіне 15 мінут раніцы праследуемыя чырвонымі слаўнымі палкамі, белапалякі кідаюць па дарозе зброю, вопратку, амуніцыю, забітых і раненых і, пакідаючы ў руках нашай дывізіі вялікую колькасць палонных,—адступаюць. Далейшае наступленне прадаўжаецца.

**4-VII.**

З раніцы IV, XV, III арміі перашлі ў рашучае наступленне і атакавалі распалажэнне першай польскай арміі.

*

А 23 гадзіне г. Роўна ўзяты доблеснымі вайскамі коннай арміі. Вораг пакінуў многа забітых і палонных, а таксама і трафеі. Пад ударам нашых часцей палякі адступілі ў паніцы ў паўночна-заходнім і заходнім напрамку... Рэвваенсовет Варашылаў і Будзённы, г. Роўна 5 ліпеня.

*

У ноч з 4 на 5 сабралася Слуцкая падпольная павятовая партыйная канферэнцыя. У сувязі з няяўкай некаторых прадстаўнікоў воласці, яна была названа нарадай. Асноўным пытаннем нарады было—барацьба з белапалякамі ў сувязі з наступленнем Чырвонай арміі, аб дзеяннях баявых атрадаў, арганізаваных партыйнымі падпольнымі арганізацыямі.

*

Орол, 4 ліпеня (Роста). Агульны сход чырвонаармейцаў і комскладу аўта-роты адлічылі трохдзённы заработак на дапамогу французскім рабочым і пацярпеўшым барысаўцам.

*

Першая польская армія ў выніку наступлення часцей заходняга фронту, была настолькі расстроена, што павінна была адступіць пад пагрозай поўнага разгрому і знішчэння.

У сувязі з адступленнем першай польскай арміі пачала адступаць 4 польская армія ў напрамку Баранавіч.

**6—7-VII.**

У ноч з 6 на 7 ліпеня XVI армія фарсіравала р. Бярэзіну і адразу-ж выйграла значную прастору на яе заходнім беразе.

**7-VII.**

Забалоцкі партызанскі атрад у тыле белапалякаў разабраў мост на тракце, разрушыў тэлеграфную сувязь і зрабіў засаду ў балоце непадалёк ад тракту. Абстрэльваючы прахадзіўшыя польскія часці, партызанскі атрад зрабіў налёт на белапалякаў, якія распалажыліся ў вёсцы Куліках. Ахопленыя панікай, белапалякі кінуліся наўцёкі.

*

11 кавдывізія першай коннай арміі з боем заняла г. Дубно.

**8-VII.**

Маскоўскі камітэт РКП апублікаваў спіс 55 таварышоў, мабілізаваных на фронт.

*

Часці 3 кав. корпуса занялі г. Свенцяны.

**9-VII.**

Жорсткія бai ў м. Смалявічы часцей 27 дывізіі з белапалякамі. У выніку бою белапалякі адступілі ў напрамку г. Менска.

*

У «Известиях» змешчана наступная адозва за подпісам т. Калініна.

«На дапамогу фронту!

Рабочыя, батракі, працоўнае сялянства Захаду і Ўсходу, прыгнечаныя ўсіх краін свету з заміраннем духа сочаць за жорсткай барацьбою на палях Украіны і Беларусі, упаўне разумеючы, што там вырашаюцца інтарэсы не толькі рускіх, але і працоўных усёй зямлі. Уся рабоча-сялянская Расія прыкавана да гэтай барацьбы. Зараз на Зах. фронце нашы браты, бацькі, сыны адстойваюць права, інтарэсы і жыццё рабочага ад капіталістаў. Там Чырвоныя львы конніцы і пяхоты абараняюць гонар рэволюцыйнага народу, забіваюць сваім геройствам у пустыя галавы прадаўшыхся сусветнай буржуазіі шляхціч'аў павагу да савецкай арміі. Увага ўсяго свету звернута на Заходні фронт, дзе ў смяротных сутычках двух станаў вырашаецца пытанне: быць ці не быць. Будзе існаваць савецкая рэспубліка, рабоча-сялянская ўлада, або яна загіне пад ударамі сусветнай буржуазіі ў асобе польскай шляхты. Прыгнятальнікі ўсіх лагераў—англійскія лорды, французскія банкіры, амерыканскія фабрыканты і інш. і інш. наперабой адзін перад адным дапамагаюць польскай шляхце і польскім памешчыкам. Прыгнечаныя ўсяго свету забастоўкамі, прыпыненнем руху, адмаўленнем грузіць зброю і прадметы снабжэння для белых палачоў дапамагаюць чырвонаму лагеру рэволюцыі. Наш уласны тыл

павінен быць на першым месцы ў справе ўмацавання чырвонага фронту. Зараз у нас па ўсёй рэспубліцы Тыдзень Заходняга фронту. Усе як адзін на дапамогу гэтаму фронту. Хлебам, сухаром, голкаю, ніткай, доглядам за раненымі, парцянкай, кашуляй, словам бадзёрасці раненаму барацьбіту і ўласным жыццём—на дапамогу фронту, за лепшую будучыню чалавецтва.

Прыложым, таварышы рабочыя, сяляне і ўсе сумленныя грамадзяне, усю энергію для таго, каб любая вёска, любы хутар, кожная фабрыка, кожная совецкая ўстанова маглі ўпэўнена сказаць: мы зрабілі ўсё для таго, каб дапамогу сусветных драпежнікаў белай шляхце пакрыць патройнай дапамогай прыгнечаных для Чырвонай арміі.

Старшыня Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта М. Калінін».

**9-10-VII.**

«Следам за разрушэннем Барысава і Кіева паследваў разгром Бабруйска белапалякамі. У ноч з 9 на 10 ліпеня перад сваім адыходам яны правялі арганізаванае грабежніцтва ўсяго горада. Усе крамы, магазіны разгромлены, тавары раскрадзены. Пад пагрозай смерці вымагалі ўзяткі. Польскім камандваннем расстраляна 10 партыйных падпольных работнікаў. Спалены ўсе склады, свірны, таварная станцыя і прыстань. Усе масты і будынкі Бабруйскай крэпасці абліты мазутам і нафтай і гарацъ чацверты дзень. Усе фабрыкі і заводы ўзарваны або спалены. Спалены цэнтральны рынак і рэальнае вучылішча. Пагнана ўся жывёла і падводы з мясцовых вёсак. Няма ні адной вёскі ў Бабруйскім павеце, дзе-б палякі не расстралялі некалькіх сялян. Неабходзен пратэст перад працоўнымі ўсяго свету. Неабходзен заклік к рабочым арганізацыям усіх краін для байкоту белагвардзейскай Польшчы.

Камандарм 16 Салагуб. Член Рэвваенсовета Пятакоў».

**10-VII.**

Часцямі Чырвонай арміі ўзят г. Бабруйск.

Падпольная партыйная арганізацыя стварыла часовы рэўком і атрад для аховы горада.

*

Перадавыя часці 27 стр. дывізіі з боем прасунуліся ў раён Озерышча-Сціклеў (10—12 клм. на ўсход ад Менска).

*

Падпольная Менская арганізацыя КПЛ і Б выпусціла лістоўку к рабочым аб арганізацыі вытворчых профсаюзаў. Лістоўка распаўсюджана сярод рабочых у колькасці 4 тыс. экземпляраў.

*

Часцямі першай коннай арміі атакай з трох бакоў быў зноў узят г. Роўна.

**11-VII.**

У «Правде» змешчана заметка:

«*Ад чырвонай конніцы т. Сталіну.*

Конная армія, якая б'ецца пад кіраўніцтвам т. Варашылава і Будзённага супроць польскай шляхты, уручыла т. Сталіну саблю з наступным надпісам: «Конная армія—свайму аснавальніку, чырвонаму кавалерысту 1-га эскадрона 19 палка 4 кав. дывізіі І. В. Сталіну».

*

Упартыя баі часцей 27 дывізіі з другой польскай дывізіяй ля г. Менска.

*

Да досвітку на ўчастку 81 брыгады 241 сялянскі полк прарваў умацаваную лінію палякаў.

Пасля прарыву ўмацаванай лініі палкі 80 брыгады з боем інтэнсіўна развівалі свой поспех у напрамку Менск—Лошыца. 27 полк праскочыў у прарыў. Не гледзячы на адчайнае супраціўленне, белапалякі былі выбіты з акопаў і ў іншых раёнах фронту, панеслі вялікія страты і пачалі паспешны і беспарадкавы адыход.

*

К 11 гадз. 30 мін. аб'яднаныя каманды разведак 238 Бранскага і 239 Курскага палкоў уварваліся ў г. Менск. К 12 гадз. 241 сялянскі і 242 Волжскі палкі, разбіўшы палякаў у раёне ст. Менск, уступілі ў горад з паўднёвага боку.

К 14 гадзіне горад быў канчаткова ачышчаны ад белапалякаў.

*

Белапалякі перад адыходам з Менска разграмілі горад, спалілі казармы, узарвалі вакзалы, узрывалі дамы, ва ўсім горадзе разбураны і аграблены магазіны; усе масты і чыгуначныя пабудовы узарваны і спалены.

*

У Менску арганізаваныя падпольным камітэтам партызанскія атрады барацьбой у тыле белапалякаў дэзарганізавалі адступаючыя часці і захапілі многа трафеяў, зброі, знарадаў і інш. маемасці.

*

Менская падпольная арганізацыя КПЛ і Б выпусціла лістоўку і распаўсюдзіла яе сярод працоўнага насельніцтва горада ў момант уступлення ў Менск першай разведкі з прывітаннем Чырвонай арміі.

11-га ліпеня менскі падпольны камітэт арганізаваў часовы рэўком. Рэўком арыштаваў контррэволюцыйны «Камітэт грамадскай безапаснасці», арганізаваў органы совецкай улады, вылучыў раённых камісараў і выдаў загад № 1, у якім аб'яўлялася аб арганізацыі совецкай улады.

Часці XV і III арміі аўладалі Маладзечанскім раёнам.

**Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б.**

# КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ

## к 15 гадавіне вызвалення Беларусі ад белапалякаў і ўручэнню БССР ордэна Леніна.

### Таржаство ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

### БССР ордэнаносная

**Ленин, В. И.** Национально-колониальный вопрос. М. Партиздат, 1933 С. 180, ц. 1 р. 65 к. (Ин-т Маркса—Энгельса—Ленина при ЦК ВКП(б).

Зборнік складзен з артыкулаў і прамоў Владзіміра Ільіча па нацыянальнаму пытанню і згрупован у наступныя 4 раздзелы: 1) «Национальная рознь и борьба с ней рабічих»; 2) «Раздел мира империалистическими державами, колониальный гнет и право наций на самоопределение»; 3) «Советская власть и национальный вопріс»; 4) Революционная борьба угнетенных народов против империализма и роль в ней СССР и Коминтерна».

Зборнік мае ўступны артыкул Н. Крупскай **«Ленин** о национально-колониальном вопросе».

У дадатку змешчан спіс рэкамендуемай літаратуры па нацыянальна-каланіяльнаму пытанню.

**Ленин, В. И.** Критические заметки по национальному вопросу. Собр. соч. Изд. 2 и 3. Т. XVII, стр. 129—159.

**Ленин, В. И.** Социалистическая революция и право наций на самоопределение. Собр. сочинений. Изд. 2 и 3. Т. XIX, стр. 37—48.

**Ленин, В. И.** Письмо к рабочим и крестьянам Украины по поводу побед над Деникиным. Собр. соч. Т. XXIV, стр. 655—660.

**Сталін, І. В.** Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне. Зборнік выбраных артыкулаў і прамоў. Перакл. з руск. выд. Ін-та Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК ВКП(б). 1924 г. Менск, Партвыдавецтва. 1934 г. С. 236, ц. 1 р. 25 к. Пер. 75 к. Ёсць рускае выданне 1935 г.

**Сталін, І. В.** Аб чарговых задачах партыі ў нацыянальным пытанні. Даклад на X з'ездзе РКП(б) (8—16 сакавіка 1921 г.). Менск, Партвыдавецтва. 1933 г. С. 46, ц. 20 к.

**Сталін, І. В.** Аб нацыянальных момантах у партыйным і дзяржаўным будаўніцтве. Даклад на XII з'ездзе РКП(б) 17—25 красавіка 1923 г. Менск, ДВБ. 1933. С. 88, ц. 80 к.

**Сталін, І. В.** Справаздачны даклад XVII з'езду партыі аб рабоце ЦК ВКП(б). Партвыдат, 1934 г. Гл. таксама «Большэвік Беларусі» № 1—2, 1934 года.

**Сталін, І. В.** Прамова на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі. Менск, Белпартвыдавецтва ЦК КП(б)Б. 1935. С. 23. Гл. таксама «Большэвік Беларусі» № 7, 1935 г.

**Молатаў, В. М.** Справаздачны даклад аб рабоце ўрада VII з'езду Саветаў СССР. Менск, Партвыдавецтва. 1935. С. 62, ц. 50 к.

**Молатаў, В. М.** Аб зменах у савецкай канстытуцыі.

Даклад на VII з'ездзе Саветаў СССР. 6 лютага 1935 г. Менск, Партвыдавецтва. 1935. С. 30, ц. 25 к.

**Жданов, А. А.** Речь на заседании президиума ЦИК'а Союза ССР при вручении орденов руководителям краев, областей и республик, награжденных партией и правительством за выдающееся руководство социалистическим строительством. Гл. газ. «Правда» № 157, 9 чэрвеня 1935 г. Таксама газ. «Рабочий» № 127, 10 черveня, або «Звязда» №131, 10 чэрвеня 1935 г.

**Жданов, А. А.** Итоги июньского пленума ЦК ВКП(б) и задачи ленинградской партийной организации. Доклад на собрании партактива Ленинграда 13 июня 1935 г. См. «Правда» от 19 июня 1935 г.

Журн. **«Большевик»** № 11 за 1935 г. См. передовую «За новое качество работы, за революционную бдительность».

**Гікало, Н.** Вынікі чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і задачы большэвікоў Беларусі. Даклад на менскім партыйным актыве 17—18 чэрвеня 1935 г. «Звязда» № 141, 22 чэрвеня 1935 г.

**Гикало, Н.** Большевики Белоруссии в борьбе за социализм. Журн. «Большевик» № 4 за 1935 г. **Гл. таксама газ. «Звязда» і «Рабочий»** ад 23/III 1935 г.

**Гікало, Н. Ф.** Справаздачны даклад к XV з'езду аб рабоце ЦК КП(б)Б. Менск, Партвыдавецтва, 1934. С. 17, ц. 50 к. Таксама «Большэвік Беларусі» № 3—4, 1934 г.

**Галадзед, Н.** Ад адсталай прыгнечанай да індустрыяльна-калгаснай. (Справаздача ўрада БССР XI усебеларускаму з'езду Саветаў 15/1 1935 г.). Менск, Партвыдавецтва. 1935. С. 99, ц. 75 к.

**Валковіч, Д.** Совецкая Беларусь к XI з'езду Саветаў. Менск, Партвыдавецтва ЦК КП(б)Б, 1935. С. 112, ц. 1 руб.

**Рэзалюцыі Пленума ЦК ВКП(б)** 5—7 чэрвеня 1935 г. Аб уборцы і загатоўках сельскагаспадарчых прадуктаў, аб службовым апараце сакратарыята ЦВК СССР і т. Енукідзе.

**Пастановы** чэрвеньскага пленума ЦК КП(б)Б. «Звязда» ад 28 чэрвеня 1935 г.

Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза ССР аб узнагароджанні ордэнам **Леніна** раду рэспублік, краёў і абласцей. «Больш. Беларусі» № 3—4 за 1935 г.

**Пастанова** пленума ЦК КП(б)Б па паведамленню т. Галадзеда аб мерапрыемствах у сувязі з узнагароджаннем БССР ордэнам **Леніна.**

«Больш. Беларусі» № 5—6 за 1935 г. Таксама газ. «Звязда» ад 17/IV 1935 года.

**«Правда»** ад 12/VI 1935 г.

У артыкулах тт. Касіора, Любчэнка, Хвыля, прысвечаных 15-годдзю вызвалення Украіны ад акупацыі польскіх войск, даецца яркі малюнак паспяховага будаўніцтва соцыялістычнай Украіны.

**Баявыя будні.** Менск, Партвыдавецтва 1935 г.

Кніга прысвечана прабыванню наркома абароны т. Варашылава ў Беларусі на тактычных занятках у 1934 годзе. Кніга багата ілюстравана.

БССР **ордэнаносная**. (К дню 15-годдзя вызвалення Беларусі ад белапалякаў і ўручэння БССР ордэна **Леніна).** Аддзел культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б. Менск, 1935 г.

**Конік, Д.** Перамагае соцыялістычная культура. Менск, Партвыдавецтва. 1935 г. С. 82, ц. 45 к.

Выступленне на сходзе менскага партыйна-комсамольскага актыва.

**Спутник агитатора** (для города) № 11, июнь 1935 г.

## З гісторыі барацьбы і перамог над белапольскімі акупантамі

**Ленин, В. И.** Собрание сочинений. Изд. 2 и 3, т. XXV. «Речь на заседании Московского Совета Рабочих и Красноармейских депутатов 6 марта 1920 г.» Гл. ст. 65—67.; Доклад Центрального Комитета на IX с'езде РКП(б) (ст. 96—103); Речь на всероссийском с'езде рабочих стекло-фарфорового производства 29 апреля 1920 г. (ст. 251—254). Таксама гл. ст. 257—261, 294—303, 377—387, 398—408, 411—424, 425—428, 480—496.

**Сталин И. В.** Новый поход Антанты на Россию. (Опубликован впервые в «Правде» 26 мая 1920 г.). Гл. газ. «Правда» от 12/VI 1935 г.

**Беседа с товарищем Сталиным,** опубликованная в газ. «Коммунист» 24 июня, 1920 г. Гл. «Правду» ад 6/VI 1935 г.

**Кнорын.** Заметкі к гісторыі дыктатуры пролетарыята ў Беларусі. Менск, Партвыдавецтва. 1934. С. 32, ц. 20 к.

У сваёй брашуры т. Кнорын робіць аналіз стратэгіі і тактыкі КП(б)Б, барацьбы за ўмацаванне дыктатуры пролетарыята ў Совецкай Беларусі за перыяд 1917—20 гг. У кнізе ўскрываецца контррэволюцыйная сутнасць дробнабуржуазных нацыяналістычных партый (Бунд, Паалей-Цыён, Бел. грамада).

**Мицкевич-Капсукас.** Революция в Литве и создание временного революционного рабоче-крестьянского правительства Гл. «Историк-марксист» № 2—3, 1935 г. ст. 44—52.

У артыкуле даецца нарыс барацьбы за совецкую ўладу ў 1918 годзе. Паказана ўтварэнне і першыя крокі комуністычнай партыі Літвы і Беларусі.

**Контррэволюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм на службе інтэрвенцыі.** Гл. «Большэвік Беларусі» № 1—2 за 1935 г.

## Заходняя Беларусь пад гнётам польскага фашызма.

**Заходняя Беларусь.** Інфармацыйны бюлетэнь № 9. Менск, выд. Бел. Акад. Навук. 1935. С. 141, ц. 2 р. 50 к. Пер. 50 к.

**Тадэўш, П.** Рост добрабыту калгаснікаў СССР і збядненне працоўных сялян Польшчы. Гл. «Звязда» 15/VI 1935 г. № 135, ст. 2.

**Мірскі,** Фашысцкія «культуртрэгеры» на Заходняй Беларусі. «Звязда» № 112 18 мая 1935 г.

**Корчык, П.** Нацыянал-апартунізм у КПЗБ і ідэалагічная спадчына «Беларускай рэволюцыйнай арганізацыі».

Час. «Большэвік Беларусі» 1934, № 7, ст. 35—43.

**Зарецкий, М.** О новой польской конституции. Гл. «Большевик», № 9, 1935.

**Пясецкі, Я.** Луцкі працэс. Выд. ЦК МОПР БССР 1934. С. 22, ц. 30 к.

**Дзяржаўная бібліятэка і Бібліяграфічны інстытут БССР імя Леніна.**

выд.
ацоў-
Звяз-
дчына
евик»,
. 30 к.
чны
на,

рэдактар

# ЗМЕСТ

*Стар.*


**І. Сталін**—Новы паход Антанты на Расію . . . . . . . . . . . . 3

**Гутарка з таварышом Сталіным,** апублікаваная ў газеце „Коммунист" 24/VI-20 г. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 7

**15 год барацьбы пад сцягам Леніна—Сталіна** . . . . . . . 11

**Х. Каррадаў**—Рост ваеннай небяспекі і мірная палітыка СССР . 27

**Ш. Ґольдберг**—Да пытання совецка-польскай вайны . . . . . 41

**Б. Гарбачоў**—У барацьбе за Совецкую Беларусь . . . . . . . . 57

**Е. Сергееў**—4-ая чырвоная армія ў баях за вызваленне Совецкай Беларусі ў 1920 г. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 69

**І. Немец**—Беларусь пад гнётам белапольскіх акупантаў . . . . . 85

**А. Залескі**—Замір'еўская партыйная арганізацыя ў барацьбе з нямецкімі і белапольскімі акупантамі . . . . . . . . . . . . . 95

**Д. Дудноў**—Контррэволюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм на службе ў белапольскіх акупантаў . . . . . . . . . . . . . 113

**В. Александровіч і Х. Шулякоўскі**—Вызваленне Менска ад белапольскай акупацыі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 131

**І. Гершон і Б. Гельфанд**—Барацьба з акупантамі на Бабруйшчыне 142

**П. Бурачэўскі**—Старонка з мінулага . . . . . . . . . . . . . . 148

**С. Данілаў**—Баявыя эпізоды . . . . . . . . . . . . . . . . . . 155

**Я. Шнэйдэр**—Заходняя Беларусь пад гнётам польскага імперыялізма 169

**Хроніка** вызвалення Беларусі ад белапалякаў . . . . . . . . . . 179

**Кніжная паліца** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 195

## СПІС ІЛЮСТРАЦЫЙ

(трохкаляровых)

**В. І. Ленін** на пляцы Свердлова трымае прамову да войск, якія накіроўваюцца на польскі фронт 5-га мая 1920 г. (з мал. Кругера—Музей рэволюцыі БССР)

**І. В. Сталін** у перыяд грамадзянскай вайны 1919—1920 гг. (з мал. Цвірко—Музей рэволюцыі БССР)

**К. Е. Варашылаў**—нарком абароны СССР (з мал. Герасімава)

**Прарыў 1-ай коннай арміяй белапольскага фронту** (з мал. Авілава—Музей рэволюцыі БССР)

**Партызаны ў лесе** (з мал. Волкава—Музей рэволюцыі БССР)

(аднакаляровых)

**Тав. Гікало**—сакратар ЦК КП(б)Б

**Тав. Галадзед**—старшыня Соўнаркома БССР

**Тав. Чарвякоў**—старшыня ЦВК БССР

**Тав. Будзённы**—інспектар кавалерыі РСЧА

**Тав. Тухачэўскі**—камандуючы Заходнім фронтам у перыяд совецка-польскай вайны.

## СПІС ІЛЮСТРАЦЫЙ У ТЭКСЦЕ:

Стар.

1. Тав. Мяснікоў на пазіцыі пад Барысавым у 1920 г. . . . . . . 59
2. Зруйнаваны вакзал станцыі Койданава ў час белапольскай акупацыі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 97
3. Партызанскі атрад на Беларусі пры польскай акупацыі . . . . 111
4. Група менскіх падпольных работнікаў у час белапольскай акупацыі 135
5. Уступленне чырвоных войск у Менск 11-га ліпеня 1920 г. . . . 140
6. Тав. Калінін у Менску перад адпраўкай войск на фронт супроць белапалякаў у 1919 г. . . . . . . . . . . . . . . . . . . 148
7. Экзекуцыя белапалякамі старшыні волвыканкома Мазырскага павету ў 1920 г. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 150
8. Штаб 1-ай Коннай . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 188

---

*У мастацкім афармленні прымалі ўдзел*
*тт. ГУТКОЎСКІ, ДАШКЕВІЧ, ШЛІОНАЎ.*
*Друкарскія работы выконваліся пад кіраўніцтвам*
*тт. ХОРУЦА, ЧЫПЧЫНА, ІЗАКАВА, СЛЕПЯНА і ГРЫНШПУНА.*
*Адказныя карэктары*
*тт. МАЦКЕВІЧ і ЖУК.*
*Усе ілюстрацыі ў тэксце і трохкаляровыя ўзяты з Музея рэволюцыі БССР.*

*Уп. Галоўлітбел № 3309.*
*Тыраж часопіса 12.000, зборніка—5.000.*
*668.800 друк. зн. (12½ арк.)*
*Здана ў набор 8|VI-35 г.*
*Падпісана да друку 4|VII—35 г.*

*Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 568.*



